# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫЇ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ

## КАСТРЫЧНІК
## 1929



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1929

# БАЛАХОВЕЦ

*Апавяданьне*

**Тарас Гушча**

*(Якуб Колас)*

## I

Па траве між гасьцінцам і алешнікам, што зялёным вянком раскінуўся наабапал рачулкі, прабрылі чалавечыя ногі. Няроўная, як-бы няўпэўненая дарожка-сьлед вельмі добра відаць у выбеленай росамі травяной руні.

Хто-б гэта мог прайсьці тут? Напэўна які-небудзь уцякач або контрабандысты ці проста бандыт, бо за рачулкаю пачынаецца Польшча, праўдзівей нават і ня Польшча, а Заходняя Беларусь, заграбастаная панскаю лапаю.

Стары гасьцінец, злучаючы дзьве родныя, але зусім непадобныя ў палітычнай будове краіны, захоўваў урачыстую цішыню. Журботныя постаці бабулек-бяроз пакорна пахіліўшыся над долам пад цяжарам старасьці, паапускалі сваё гнуткае, як лён веццє і не варушыліся, як-бы акамянеўшы ў нейкім сваім адвечным нязбыўным жалю. Было ўжо сьветла. Лёгкія ранішныя хмаркі, ахварбованыя ў агністыя шаўкі яшчэ нявідомым сонцам, дадавалі асаблівую лагоднасьць і гэтай раніцы і ўсяму краявіду.

Пры гасьцінцы, на зацішным акрайку маладога хвойніка, стаяў роўненькі сіняваты слупок дыму, завіваючыся ўгары ў кучаравыя клубочкі. Чалавек яшчэ маладога веку сядзеў каля агню, падкурчыўшы ногі і прыжмурыўшы маленькія рыжаваценькія вочкі. Відаць, ён абсушваўся, грэўся і нешта думаў. Загарэлы, абветраны твар і ўсё аблічча невядомага чалавека і адзежа яго насілі на сябе сьляды доўгага бадзяньня ў дарогах. Адзет-жа быў ён так, што трудна было прызнаць, да якой соцыяльнай катэгорыі аднесьці яго. З шапкі ён змахваў крыху на даўнейшага чыноўніка акцызнага ведамства. Па гімнасьцёрцы яго можна было прыняць за салдата царскай арміі. Паверх гімнасьцёркі на шырокіх плячах сядзела ўнакідку бравэрка мешчаніна сярэдняй рукі, а падпяразана была гімнась-

цёрка выцертаю афіцэрскаю папругаю. Па галіфэ ён быў савецкі чалавек. Сядзеў ён босы, а збоку стаялі апоркі, мокрыя ад расы.

Некалькі часу сядзеў ён нярухома, а з губ яго ўвесь час ня сходзіла ўсьмешка, хоць ён ня сьмяяўся і прычыны для сьмеху ня было: губы яго былі зложаны так, што нагадвалі ўсьмешку. Навокала вогнішча ляжалі абгарэлыя канцы палак і гальля. Агонь дагарваў, і толькі ад вугольчыкаў з-пад мяккага белага попелу яшчэ патыхала цяплом. Але гэты дзіўны незнаёмы чалавек, здавалася, не заўважаў нічога і заставаўся ўсё ў той-жа постаці чалавека ў глыбокім задуменьні. Дзесь далёка на гасьцінцы затухкалі колы, а над маладым жытам радасным парывам шырокай волі пранёсься першы ранічны ветрык. Незнаёмы раптам падняў галаву, буркнуў нешта сам сабе пад нос і азірнуўся.

— Ну, пара!—сказаў сам сабе.

Адхіліўшы бравэрку, дастаў з-за пояса наган і пільна паўзіраўся ў яго як-бы разважаючы, што з ім рабіць. Павярцеў наган у рукох і так і гэтак, зірнуў у чорную рульку і колькі моманту ня спускаў з яе вачэй. Маленькія вочкі яго жмурыліся, а на губах заставалася ўсё тая-ж усьмешка. І трудна сказаць, што ён думаў і што адчуваў у гэты час. Нарэшце павярнуў спружыну і падаставаў патроны. Яшчэ раз агледзіў наган, а потым, вынуўшы з торбачкі сала, стаў мазаць, заядла і не шкадуючы, рульку, барабан і ўсе мэталічныя часьці. Вымазаўшы зьверху і з сярэдзіны, загарнуў яго спачатку ў газэту, а потым паверх газэты закруціў анучкаю і перавязаў аборачкаю. Калі ўся гэтая процэдура з наганам была праароблена, не сьпяшаючыся стаў абувацца. І абуўся ён на загранічны лад: пацягнуў шкарпеткі да са самых кален і прымацаваў іх да галіфэ.

Хоць гэтыя шкарпеткі і галіфэ і ня надта стасаваліся са зьбітымі атопкамі, але незнаёмы, як відаць зусім быў задаволены сваім адзеньнем і фарсістым выглядам сваіх ног. Павольна падняўшыся і азірнуўшыся навокал, пасунуўся ў хвойнік, а адтуль падаўся ў лес. З паўгадзіны швэрыўся па лесе, прыглядаючыся на дрэвы і на вывараты, штось мяркуючы і разважаючы. Спыніўся перад каржакаватаю старою бярэзінаю. Яго ўвагу запынілі яе шырокія разьвіліны. Падазрэнна прыслухаўшыся і азірнуўшыся, напляваў ён на рукі, абняў бярэзіну сваімі доўгімі рукамі. Узмахнуўшы некалькі разоў, ён борзда апыніўся на бярозе. У разьвілках была даволі прасторная ямка. Ачысьціўшы яе ад гнілога лісьця і струхлелай кары, незнаёмы памеркаваў трохі. Ямка яму спадабалася: яна прыхована ад дажджоў і пастароньняга вока. Палажыў наган у ямку— добра! Як-бы хто спэцыяльна загатаваў яму тут схованку.

— Ляжы тут!—ціха сказаў незнаёмы і прыкрыў наган зьверху бяростаю.

— Можа згодзіцца калі,—дадаў ён, зьлезшы на дол. Агледзеўшыся яшчэ раз, ён павольна пасунуўся на гасьцінец, а адтуль накіраваўся ў бок Менску, як чалавек, на нешта цьвёрда наважыўшыся.

II

— Вам што трэба, таварыш?—запытаў незнаёмага малады вайсковец у форме пагранічніка і сурова акінуў яго вачамі.

Незнаёмы з тою-ж нявыразнаю ўсьмешкаю паглядзеў вайскоўцу ў вочы і спакойна адказаў:

— Я ад бацькі Балаховіча!

Супрацоўнік ДПУ аж падскочыў на крэсьле і мімавольна палажыў руку на крывульку рэвальвэра. Незнаёмы ўсё так-жа спакойна пазіраў на вайскоўца. У яго маленькіх рыжаваценькіх вочках сьвяціўся вясёлы агоньчык, як-бы ён быў вельмі задаволены, што зрабіў такое ўражаньне.

— Бандыт?!—вырвалася ў вайскоўца.

— Так, я з банды Балаховіча. Перайшоў граніцу і вось, як бачыце, сам аддаюся вам у рукі.

Вайсковец апамятаўся ад нечаканасьці і ўзяў сябе ў рукі.

— Што-ж гэта здрадзіў ты свайму бацьку?—насьмешліва запытаў ён бандыта.

— Ня век-жа і верным яму быць,—адказаў бандыт. Памаўчаўшы і памяўшыся, дадаў.

— Я маю сказаць вам сёе-тое. Для гэтага я і прышоў сюды.

Вайсковец, усё яшчэ зьдзіўлены, пазіраў на бандыта вострым поглядам, як-бы ўзважваючы яго самога і яго словы. Здавалася, бандытава заява не зрабіла на вайскоўца належнага эфэкту. Але ўсё-ж такі ён пазваніў. Увашлі два чырвонаармейцы.

— Што маеш пры сабе?—запытваў вайсковец.

— Нічога такога няма,—і бандыт сам пачаў выварочваць з кішэні.

— А зброя твая дзе?

— Быў наган, ды я выкінуў яго, пераходзячы граніцу.

Вайсковец падазрэнна зірнуў на бандыта.

— А сам ты хто такі?

— Балаховец.

— А як твоё прозьвішча і адкуль ты ўзяўся?

— Прозьвішча маё Бадзейка, а завуся Іванам. Прышоў з-за граніцы, з Польшчы.

— А адкуль ты родам?

— Тутэйшы, з-пад Старых Яроў.

— А дзе жыў і чым займаўся?

— Жыў на зямлі, на гаспадарцы. Якая ўжо там гаспадарка, але гаспадарка. Займацца-ж чым-небудзь, дык сказаць, і часу ня было.

— Чаму ня было часу?

— Ну, малы быў, хадзіў пастушком, потым трохі сякераю з бацькам стукаў—бацька мой цясьлярствам крыху займаецца. А потым забралі на вайну. Пачалася рэволюцыя, прышоў дамоў і тут-жа я і закруціўся.

— Як закруціўся?

Бандыт пачухаў патыліцу.

— Закруціўся, як трэска ў правале і не к таму берагу прыстаў.

Відаць, яму не хацелася, ня ёмка ці сорамна было прызнавацца на чыстую, і ён хітрыў, выкручваўся, як уюн, гаварыў замысловатымі сказамі, жарцікамі, а рыжаватыя вочкі глядзелі востра і насьмешліва.

— Дык ты бандыт?

— А каго называюць бандытам?—нявінна пацікавіўся Бадзейка.

Вайсковец паглядзеў на яго з калючаю ўсьмешкаю.

— Таго, хто грабіць, забівае, туляецца па лясох, хаваецца ад закону.

Бадзейка слухаў уважна.

— Ну, тады я—бандыт,—прызнаецца.

— І ты ня ведаў да гэтага часу, хто такі ты?—гіронічна запытаў вайсковец.

— Ведаць то я ведаў, але ня зусім быў упэўнены.

— Як-жа гэта так?

— Да так, не разьбіраўся.

— Ах, які ты бедны і няшчасны!—насьмешліва паспагадаў вайсковец:— а як-жа ты бандытам стаў?

— Да проста, гледзячы на другіх... Сказаць, разбасячыўся, і кроў мая нейкая шалёная. А тут яшчэ самагон, да гэта самая вайна—нагледзеўся ўсяго... Проста да крыві і рызыкі пацягнула.

Вайсковец і чырвонаармейцы, увесь час маўчаўшыя, прыглядаліся да бандыта—нормальны гэта чалавек ці хворы? шчыры ці проста абманшчык і закаранелы машэньнік? Бадзейка-ж спакойна, як-бы справа ішла аб самых звычайных рэчах, апавядаў аб сваіх учынках: аб грабяжох і разбоях, называючы асоб і месцы, дзе гэтыя ўчынкі адбываліся, і сваіх хаўрусьнікаў. Вайсковец слухаў, і ўвага яго ўсё расла, бо расказ Бадзейкі супадаў з некаторымі фактамі, што былі вядомы вайскоўцу.

— І многа ты выпусьціў крыві?

Маленькія бандытавы вочкі забегалі неспакойна, як спалоханыя павучкі.

— Грабіць то я грабіў здорава—таіцца ня буду, біць таксама біў, але насьмерць забіваць... проста нейк не даводзілася. Ну, але гэта ня значыць, што я ня мог-бы забіць! Што значыць забіць чалавека? Плюнуць!

Утупіўшыся і момант памаўчаўшы, як-бы набіраючыся духу, бандыт апавядаў далей:

— І было адно здарэньне, што прышлося стукнуць. Вы можа і не паверыце мне: з жаласьці загубіў адну душу, адну адненькую! У мінулым годзе, у пачатку лета... Я і яшчэ тры галаварэзы: Халяўка Мікіта, Рудан Максім і Галяшка Нічыпар—іх палавілі і пастралялі—зрабілі налёт на Чырвоны Брадок. Жыў там Гэсаль. Трымаў крамку. Ну, раз крамнік, гандляр, то і грошы павінны быць, золата, думалі мы. Прышлі ўночы і давай арудаваць. Як ні пыталіся, як ні біліся—няма грошай! Забілі Гэсаля і жонку яго—я не забіваў, у бэбахах капаўся. Аж бачу—пады-

маецца з бэбахаў хлапчучок, гадоў пяць, а можа трохі і болей. Глядзіць, зьнямелы ад страху, і калоціцца ўвесь. Сам такі худзенькі, шчупленькі, толькі вочы гараць, як чорныя сьлівіны... „Эх, думаю, горкі сірата! Дзе ты цяпер дзенешся?“ На камодзе ляжаў медны таўкачык. Дзюбануў яго таўкачыкам раз—і голасу не падаў!

III

Расказаўшы аб забойстве хлопчыка, Бадзейка змоўк, а вочкі яго борзьдзенька па тварах слухачоў сьлізганулі. Вайсковец сурова маўчаў. Маўчалі і чырвонаармейцы, толькі бровы іх сярдзіта ссунуліся ды ў вачох агоньчыкі паблісквалі злосна.

— Скажы—голас вайскоўца разануў халоднаю стальлю—што прывяло цябе сюды?

Бадзейка апусьціў вочы.

— Як вам сказаць? А відаць проста тое, што мой тэрмін зышоў.

— Як гэта разумець? Растлумач, скажы ясьней.

— І тлумачыць тут няма чаго. Пара ўжо мне зямлю гнаіць, а я жыву яшчэ... Хочацца да якога-небудзь берагу прыстаць,—памаўчаўшы, журботна дадаў Бадзейка:—так ці іначай. І нарэшце, як я і казаў, хачу расказаць аб злачынстве, на якое паслалі мяне і яшчэ аднаго са мною.

Бадзейку павялі ў другі пакойчык, за ёмкім пісьменным сталом сядзеў сур'ёзнага віду мужчына, малады з падбрытымі вусікамі, і таксама ў форме вайсковага. Палажыўшы на стол рукі і нахіліўшы шырокія плечы, ён пераглядаў паперы ў тоўстым сшытку, маўклівы і нахмураны. Цёмнасінімі халоднымі вачамі акінуў увайшоўшых, даўжэй затрымаўшыся на бандыту.

— Да вас, т. Ракіта,—сказаў вайсковец і падышоў да стала. З мінуту гаварылі ціха, шэпатам. Потым вайскавец сеў поруч з т. Ракітаю, прысунуў бліжэй чарнільніцу і ўзяў ручку і паперы. Чырвонаармейцы вышлі за дзьверы па знаку т. Ракіты.

— Ну, падыдзі сюды бліжай,—досыць мякка паклікаў тав. Ракіта Бадзейку.

Шырокі і няскладны Бадзейка, як мядзьведзь, у пераvalку рушыў да стала, гучна стукаючы сваімі атопкамі. Т. Ракіта ўставіў у яго пранікलівыя халодныя вочы. Бандыт спакойна вытрымаў гэты погляд і ў сваю чаргу глядзеў у халодныя вочы, як у забаўцы: „Глаз у глаз, хто дурак будзе з нас?“

Пачаўся дапрос, наўперад чыста фармальны, а потым па істоце справы.

Высьвятлілася:

Бадзейка Іван Трахімаў, селянін з вёскі Малы Ставок, дваццаць сем гадоў. Рамяство—цясьляр, жыў на гаспадарцы, зямлі—чатыры дзесяціны, пад судом і сьледзтвам ня быў. У часе разрухі, калі адна ўлада зьмяняла другую, ён з дуру і з распусты, але па сваёй волі прыстаў да

шайкі грабежнікаў—гэтая шайка была тут-жа названа і пералічана. Былі аграблены такія-та і такія, там-та і там. Побач з грабежствам былі выпадкі забойства і гвалтоўніцтва (падробна зазначана, якія). Сам Бадзейка ў гэтых забойствах нявінен, апроч забойства хлопчыка ў Чырвоным Брадку. Забойства адбылося з мотываў жаласьці да сіраты. Політычнае падставы ў дзеяньні Бадзейкі ня было. Награбленае прапівалася і прагульвалася. Туляліся па лясох і па глухіх хутарох. Калі савецкая ўлада рашуча павяла змаганьне з бандытамі, былі забіты два міліцыянэры і адзін комуністы. Гэтае забойства было вынікам самаабароны. Шайку пералавілі і паступілі з ёю па закону. Ён-жа, Бадзейка, выкруціўся, хаваўся цэлы месяц адзін. У гэты час ён пазнаёміўся і ўвайшоў у сувязь з агэнтамі Балаховіча. Яму памаглі перабрацца за граніцу ў Польшчу. У Польшчы быў тыдняў шэсьць. Там ён прыкінуўся заклятым ворагам комуністых. Яго выпрабоўвалі рознымі спосабамі, прыстаўлялі да яго сваіх агэнтаў, сачылі за ім, але падлавіць не маглі, бо ён ведаў іх хітрыкі. У яго даўно зьявілася думка вярнуцца назад. А калі ён пабачыў панскія маёнткі, дзе паны распараджаюцца нашым братам, як хочуць, то яму стала так агідна, што ён цьвёрда пастанавіў вярнуцца і аддацца ў рукі савецкай уладзе, якую лічыць лепшай на сьвеце. Літасьці ён не спадзяецца, бо ён—цяжкі праступнік, і спакойна чакае кары. Ён хацеў ужо ўцячы два тыдні таму назад, але даведаўся, што яго пашлюць сюды самі з сэкрэтным даручэньнем. І вось якое далі яму даручэньне: ён павінен тут зьбіраць зьвесткі аб Чырвонай арміі, аб яе камандным складзе, аб узбраеньні, аб мясцох расквартараваньня, а разам з гэтым формаваць банды для забойства агэнтаў савецкае ўлады. На гэтую-ж „работу“ з ім пасланы і рускі белагвардзеец Мікіта Махроў, якому, ён, Бадзейка, павінен дапамагаць і выконваць яго інструкцыі. На граніцы яны разышліся. Махроў падаўся на Слуцак. Месца і час іх першага спатканьня—Менск, дваццаць сёмага чэрвеня, роўна праз месяц, з сёньняшняга дня. Бадзейка падробна ўказаў адрас гэтага спатканьня і апісаў прыметы свайго хаўрусьніка.

## IV

Калі Бадзейку пасьля дапросу павялі ў падвал, то першае, што ён адчуў тады, было пачуцьце нейкай лёгкасьці і заспакаеньня, як-бы з яго плеч зваліўся прыкры цяжар. Ды гэта быў адзін толькі момант, момант пераходу новага рубяжа, адкуль пачыналася шмат чаго невядомага і няпэўнага. Але спыніцца належным парадкам на гэтых адчуваньнях ён адразу ня мог: новая абстаноўка, куды ён трапляў, расьсейвала яго мысьлі.

Апынуўшыся па другі бок „волі“, за замкнёнымі дзьвярамі, Іван Бадзейка храбра ступіў некалькі крокаў, сьмела акінуў вачамі цёмны і цесны падвал, бо трэба было зьявіцца так, каб ня зьнізіць свае годнасьці і не паказаць зьбянтэжанасьці перад новымі кампанійцамі, а было іх там

пяць чалавек. У гэтым выпадку яму дапамагла яго ўсьмешка, што ніколі не пакідала яго. Дайшоўшы да сярэдзіны каморкі і яшчэ раз падняўшы вочы, ён спыніўся і сказаў:

— Ну, вот.

Паяўленьне новае асобы, „з волі“ заўсёды выклікае зацікаўленасьць сярод жыхароў арыштанскіх апартамэнтаў. І на Івана Бадзейку таксама ўставілася пяць пар вачэй. У гэтых вачох сьвяціліся пытаньні: хто? як і за што?

Няёмка было ў першыя хвіліны, пакі не асвойтаўся крыху з новаю абстаноўкаю і з гэтым таварыствам. Хоць кампанія была і ня дужа вялікая, але досыць паважная: контрабандыстыя, спэкулянты і нешта сярэдняе паміж шпегамі і бандытамі. І асабліва кідаўся ў вочы з усяе гэтае кампаніі стары шляхціц з пранізьлівымі зеленкаватымі вачамі, кручкаватым носам і з цэлым поплавам на шчаках жорсткага сіўца-шчэці. Трымаўся ён з усімі незалежна і з боку ад таварыства, гаварыў больш самому сабе, называючы сябе, „панам Вінцэнтам“. Часта ўпінаў нейкага „прадсадаталя“, аднаўляў гутарку з невядомымі асобамі, што „паспрыялі“ яму ў яго цяжкім лёсе і дапамаглі папасьці „ў гэтае пекла“. Гутарка яго падмацоўвалася аднымі і тымі-ж словамі ў такім вымаўленьні, што набліжаліся да песьні:

„Эх, Беларусія!
Вошай набяруся я!“

Каля Бадзейкі патрэшку зьбілася ўся кампанія, Бадзейка і тут адрэкомэндаваўся балахоўцам і бандытам і вельмі зьдзівіў усіх, калі сказаў, што прышоў сюды сам. Далейшыя-ж адказы яго былі такія агульныя і ўхільлівыя, што кампанія выяўна засталася нездаволенаю і халадзела ў сваіх жаданьнях дабіцца больш поўных і падробных зьвестак аб асобе свайго новага кампанейца. Адзін толькі шляхціц, прыціхшы на гэты час, прыглядаўся і прыслухоўваўся здалёк, зрабіўшы нарэшце сваё даволі дзіўнае заключэньне:

— Бог шэльму мяціць.

— Глядзі, крумкач стары, каб я не памеціў тваю морду,—адказаў Бадзейка і грозна зірнуў у бок шляхціца.

— Абатры малако на губах, а тады ўжо рабі меткі... Камісар які знайшоўся,—агрызся шляхціц, але тону ўсё-ж такі збавіў.

Вечарам, калі падыходзіла першая ноч няволі, Бадзейка ляжаў на голых дошках, апёршы галаву на руку. Розныя думкі мітусіліся ў яго галаве, усялякія праявы і вобразы выплывалі ў яго памяці. А на сэрцы было пагана. У яго душу заглядала чорная і помсьлівая ноч, на кожным кроку растаўляючы сваіх вартаўнікоў. З некаторага часу ён пачаў баяцца ночы, бо яна з нетраў свайго зацятага мроку выводзіла страшныя прывіды, ад якіх ня мог ён нідзе схавацца або адагнаць іх. Набліжэньне ночы відочна меняла настрой і яго кампанейцаў. Маўклівыя і панурыя, снавалі яны ўзад і ўперад. Відаць, іх апаноўвалі свае думкі, свае тры-

вогі і пачуцьці. Стары шляхціц, адвярнуўшыся ў кут, набожна гаварыў пацеры і заядла біў сябе кулаком у грудзі.—Старое барахло, а сьмерці баіцца,—падумаў Бадзейка. Яму хацелася пагаманіць з гэтым шляхціцам, проста, пачалавечы, каб не адчуваць так моцна адзіноты ў гэтай цёмнай яме. І чаму ён сказаў аб ім Бадзейку: „бог шэльму меціць?“ Што хацеў ён гэтым сказаць? І хто ён такі сам, гэты шляхціц? Як ён сюды папаў? Гэтыя пытаньні так і засталіся без адказу, і Бадзейка заставаўся ў той-жа постаці на голых дошках.

А вечар глыбеў, няпрыметна пераходзячы ў ноч. Праз вузкія шчыліны з усіх бакоў націкаліся прыглушаныя гукі і шолахі, нясьмелыя і няясныя, але поўныя нейкага патаемнага значэньня.

„І чым-жа ўсё гэта скончыцца?“ думаў Бадзейка, перабіраючы сваё жыцьцё і свой паступак. І ён адчуў вострую сумоту аб новым спакойным жыцьці. У гэтых думках ён і заснуў глыбокім і трывожным сном.

Праходзілі дні, міналіся ночы, цягучыя і нудныя, цёмныя і жудасныя. Прайшоў тыдзень, доўгі, як год. Пра Бадзейку, здавалася, зусім забыліся, а сам ён ні словам не заікнуўся аб сабе, аб сваім далейшым лёсе. Але на дзесяты дзень яго павялі на верх. Зноў быў дапрос. Выясьняліся некаторыя драбніцы ў яго першых паказаньнях і з асабліваю ўвагаю запыняліся на яго паведамленьні аб Махрове. Дапрасіўшы, яго зноў адвялі ў тую-ж клятушку. Зноў пацягнуліся дні і ночы, аднастайныя і трывожныя. Іван Бадзейка жыў дваццаць сёмым чэрвенем: гэты дзень павінен, па думцы Бадзейкі, прынесьці яму тую ці іншую зьмену. Але чым бліжай надыходзіў гэты дзень, тым больш непакой агортваў Івана, бо набліжаўся нейкі новы рубеж у яго жыцьці. Яго забірала сумненьне: а што калі Махроў ня прыдзе ў назначаны час? Мог ён так ці іначай і пранюхаць што-небудзь аб ім. Мог проста засыпацца, згінуць, нарэшце адмовіцца ад свае „работы“, і тады яму, Бадзейку, не дадуць веры, палічуць яго яшчэ і жулікам. Вось чаму сэрца яго застукала вельмі моцна, калі раніцаю дваццаць сёмага чэрвеня яго зноў павялі на верх. Спатканьне з Махровым павінна было мець месца ўночы гэтага-ж дня.

Са страхам і хваляваньнем ступіў Бадзейка ў габінэт т. Ракіты. Ракіта сядзеў за тым-жа сталом, не адводзячы вачэй ад паперы і, здавалася не зважаў Бадзейкі. Мінуты дзьве не падымаў ён галавы. Бадзейка стаяў, сачыў за кожным рухам яго твару.

— Помніш месца, дзе ты павінен спаткацца з Махровым?—раптам запытаў т. Ракіта.

— Помню,—цьвёрда адказаў Бадзейка.

— Ну, скажы!

Бадзейка зірнуў у твар т. Ракіты, як-бы пытаючы, ці няма тут якога падступу, і назваў умоўленае месца.

— А ты ведаеш яго?

— Ня быў там, ня ведаю.

Т. Ракіта памаўчаў, а потым тонам загаду, зусім неспадзявана для Бадзейкі, сказаў:

— Ты пойдзеш туды, знойдзеш гэты дом, а вечарам будзь там.

Зьдзіўлены і зьбіты з тропу Бадзейка недаўменна пазіраў на т. Ракіту.

— Адзін пайду?

— Адзін... Але памятай, што мы будзем бачыць кожны твой крок, кожны твой рух і чуць кожнае тваё слова.

— А калі ён ня прыдзе?—з трывогаю запытаў Бадзейка.

— Рабі тое, што кажуць табе,—халодна і строга заўважыў т. Ракіта.

Бадзейку далі інструкцыю і цёмнымі карыдорчыкамі вывелі на двор і пусьцілі.

## V

Ашаломлены нечаканасьцю, Бадзейка ў першыя хвіліны страціў здольнасьць разважаць. Цэлы патоп сьвятла, шуму і руху, ад якіх ён адвык, хлынулі на яго з усіх бакоў, закружылі, як стружку ў бурным патоку і панесьлі невядома куды. Першае, што адчуў цяпер Бадзейка, была радасьць прастору і шырыні, як-бы ён растаў, расьпусьціўся ў гэтым прасторы і страціў адчуваньне самога сябе. Прайшоўшы вуліцаю крокаў сто, ён трохі апамятаўся, тайком азірнуўся па бакох. Яму паказалася дзіўным, што на яго ніхто не зварачае ўвагі, ніхто ад яго не староніцца, нічога падазроннага ня кідаецца яму ў вочы. Ён ішоў, прагавіта ўдыхаў гэты пах волі і прастору. А што, калі-б ён пайшоў і пайшоў, далей ад гораду, у поле, у лес, дзе гэты прастор болей шырокі і вольны?

Яркі малюнак вясковага прастору сам сабою вынік у яго вачох са ўсімі драбніцамі і глыбока ўскалыхнуў яго. І так моцна-моцна пацягнула яго туды, дзе хадзілі яго ногі, калі ён быў яшчэ малым хлапчуком! Але ён тут-жа пачуў, што воля яго аднята, што ён крэпка прывязан за павадок і адвязацца няма ў яго сілы. Чыясь нявідомая, але моцная рука вяла яго на тое месца, дзе ён умовіўся спаткацца з Махровым. І вось-жа давядзецца там быць, хоць ён яшчэ ўчора думаў іначай.

З гадзіну сланяўся ён па вуліцах, шумных і глухіх, упіваючыся асалодаю волі, а час такі дарагі, і яго вельмі мала, каб жыць, і многа, каб знайсьці дом пад нумарам сорок дзевяць. Займала пытаньне, чаму яго пусьцілі аднаго. Выпрабоўваюць яго, ці гэта проста трэба ім для нейкіх сваіх меркаваньняў. І ня ўжо яны так упэўнены, што ён іменна пойдзе туды ў назначаны час. А што, калі-б і сапраўды ўзяць ды задаць драпака? зноў верціцца спакусная думка, але ў адказ ёй гучаць словы т. Ракіты, словы перасьцярогі, і ён гоніць прэч гэтую думку, як нястанную і нават шкодную.

Так думаючы і так разважаючы, пераходзіў ён з вуліцы ў вуліцу. Углядаўся ў напісы на іх скрыжаваньнях, нясучы на губах, усё тую-ж дзіўную ўсьмешку... „Вось яна!“ сказаў ён сам сабе, замарудзіў крок і акінуў вачамі тую вуліцу, што павінна была адыграць нейкую ролю ў яго жыцьці.

Разоў тры прайшоўся каля дому нумар сорак дзевяць. Як злодзей прыглядаўся на вароты і двор. Звычайны двор і хата на акрайку горада набывалі цяпер новае значэньне ў Іванавых вачох, выдзяляліся з раду другіх двароў і хат. Іван пазіраў і кружыўся каля іх, як начны матыль каля агню. І нямаведама чаму, успомнілася хата ў Чырвоным Брадку і малюнак забойства Гэсалевай сям'і. Чорныя вочы перапалоханага на сьмерць хлопчыка зірнулі на яго з нейкай бяздоннай пустэчы. Яму стала няпрыемна. Павярнуў назад, у глыб горада, каб у яго многаязыкім гомане правесьці рэшту дня.

Зьвечарэла. Шэрая сутана летняй ночы паволі ахінала мурзатыя і халодныя сьцены камяніц, і горад яшчэ гусьцей закішэў людзкімі постацямі, расплываючыся стракатымі людзкімі патокамі.

Ужо два разы прашнураваў Бадзейка каля дому нумар сорак дзевяць. Потым крута павярнуў і накіраваўся ў двор—што будзе, то будзе. З процілеглага канца вуліцы выплыла фігура чалавека. Іван зірнуў і зьлёгка здрыгануўся: постаць чалавека паказалася знаёмай. Зірнуў яшчэ— ён, Махроў, прыземісты і сутулаваты! Заўважыў яго. Старыя прыяцелі, не пазіраючы адзін на другога, прасунуліся ў двор. У цёмных і цесных сенцах Махроў прыпыніўся.

— Здароў!—ціха сказаў прыземісты чалавек.

— Здароў!—адказаў Бадзейка.

Маладая і даволі прыгожая кабета з густымі чорнымі брывямі сустрэла іх у пакойчыку. У першы момант вочы яе бліснулі неспакойна. Відаць, баялася. Але гэты неспакой зараз-жа прайшоў, толькі на Бадзейку зірнула падазрэнна.

— Свой!—заспакоіў яе Махроў.

Перакінуліся звычайнымі малазначнымі словамі, аб сім, аб тым. Бадзейка маўчаў. Ён загадзя падрыхтаваўся да гэтага спатканьня, але адчуваў сябе няёмка, фальшыва.

— Ну, што новага?—пачаў Махроў, зірнуўшы кабеце ў вочы.

Голас яго быў хрыпаваты, а шэрыя вочы пазіралі жорстка і калюча.

— Ёсьць лісты,—адказала жанчына, і зноў трывога адбілася на яе твары.

— Давай іх!—груба прыказаў Махроў.

Жанчына вышла ў другі пакойчык.

— А ў цябе што чуваць?

Бадзейка падняў свае маленькія хітрыя вочы.

— Справа ідзе. Дзевяць малайцоў пастаўлены на ногі. Спалілі два саўхозы. Рыхтуем напад...

Махроў слухаў і раптам спыніў Бадзейку.

— Чаго ты такі... не пазнаць цябе?

— Як гэта не пазнаць?

— Зьмяніўся ты...

Яны абодва павярнулі галавы ў бок другога пакойчыка. Жанчына несла ў руцэ пакецік.

— Наўперад іх разглядзецца... Гурбанок даставіў? пацікавіўся Махроў, бяручы паперы.

Адказу ён не пачуў: дзьверы ў іх пакойчык пад напорам чыйгось магутнага пляча затрашчалі рэзка і каротка, расчыніліся насьцеж.

— Ні з месца! Рукі ўгору!

Чатыры чалавекі, пераадзетыя ў штацкае, бураю варваліся ў пакойчык, а на парозе з наганам стаяў т. Ракіта.

Бадзейка выхапіў з рук Махрова пакецік і з гэтым пакецікам падняў рукі ўгору.

## VI

Бадзейка зноў у дарозе.

Цяпер ён—вольны чалавек. Радасна і ветла разгортваецца перад ім пахучая зямля, гасьцінна расьцілае свае нязьлічоныя дарогі—выбірай любую, ідзі па якой хочаш, куды хочаш. Ён запыняецца, глядзіць назад—горад чуць відзен, няясна вырысоўваецца праз сіняватую смугу высокімі будынкамі, фабрычнымі трубамі з прыгожымі хвастамі дыму. Пераводзіць вочы на дарогу, што перад ім. Ляжыць яна, пакручастая, з вычварнымі загібамі-вывітушкамі, то спадаючы ў лагчынкі, то зноў узьбягаючы на горкі, а потым зьліваецца з гладзьдзю зямлі, дзе разгортваюцца павабныя далечы. Бадзейка паддаецца іх непераможным чарам і ідзе.

Дзіўна яму самому, што ён—вольны чалавек і можа ісьці сьмела, не аглядаючыся, нечакаючы небясьпекі з-за кожнага куста. Перабірае ў памяці сваё жыцьцё, бязладнае і цёмнае. Але-ж ён сам асудзіў сябе за сваё праступленьне, ня зьнёс цяжару яго. Судзілі яго і людзі, прызналі цяжкую віну. Засудзілі, але, узважыўшы ўсё і прыняўшы пад увагу тысячы акалічнасьцяй, з якіх спляталася яго жыцьцё, даравалі яму волю. Многа памагло і тое, што ён выказаў Махрова і тым самым дапамог вылавіць цэлую складаную шпіёнскую організацыю. Ды ён тут-жа ловіць сябе на думцы, што ня ўсё расказаў ён там. Была яшчэ справа на млыне, ды аб ёй ніхто ня ведае і ведаць ня будзе. Чаму аб ёй не сказаў? Да проста ўспамінаць жудасна. Гэта ён павёў туды шайку. Хацелі толькі аграбіць, а прышлося пяць душ загубіць. Бадзейка чуе, што гэтага цяжару ня зьніме ніхто. Вольны ён, ды чым купіў волю? Успамінаецца Махроў. Утапіў чалавека, і не аднаго яго. Прыпамінаецца і тая жанчына—прыгожая і бровы такія чорныя. Ён нават ня ведае, хто яна такая. Ня ведае і лёсу яе. Ітак падазрэнна зірнула яна на яго. Івана! Відаць, разгадала яго... Ну, да чорт з імі! Бадзейка стараецца ня думаць аб гэтым, і чым далей застаецца ззаду горад, тым цьмяней робяцца і ўспаміны аб ім і аб тым, што было там.

У дарозе ёсьць нейкая граніца, адкуль у падарожнага пачынаюцца другія думкі, думкі, зьвязаныя з пунктам набліжэньня падарожнага. Бадзейка вышай падняў галаву: няхай ня думаюць там, дома, пабачыўшы яго пасьля доўгай адлучкі, што ён бяспутны сьвістун. Не, брат: мала

яшчэ елі кашы, каб стаць з ім поплеч! Іван пазіраў цяпер на сваё жыцьцё з другога боку і падвышаў цану сабе, параўноўваючы сябе з тымі сялянскімі хлопцамі, з якімі сустрэнецца ён там дома. Але галаве яго, відаць, няёмка было на такой вышыні, і яна наперакор Іванавай волі незаметна хілілася ўніз.

Падыходзячы да таго месца, дзе сядзеў колісь каля агню, перайшоўшы граніцу, Бадзейка замарудзіў сваю шпаркую хаду. Як быць яму з рэвольвэрам? І цікава пабачыць, што з ім стала? Можа забраў хто, а можа зусім папсаваўся. Як і тады, ён азірнуўся па бакох, адчуваючы некаторае хваляваньне. Прыпыніўся, памеркаваў. Як-ні-як—наган! Дзе яго возьмеш? Аб ім думаў і раней і часта думаў. Але ён хацеў тады прыйсьці па наган другім разам... Ня ўстояў супроць спакусы, павярнуў у лясок. Знайшоў вілаватую бярозу. Палез. Мацнуў рукою—ёсьць! Борзьдзенька схапіў пачарнелы скрутак, зьлез. Ануча трохі падгніла, пратлела аборачка ў некалькіх мясьцінах. Але наган быў цэлы і захаваўся добра. На скорую руку віцер яго, пахаваў у кішэню пятнаццаць патронаў, шчаўкануў разоў два—пружына спраўная, сабачка стукае акуратна.

Над вячоркам падыходзіў Іван да свае вёскі. Аставалася яшчэ вярсты тры. Іван зьвярнуў з дарогі, прылёг на траве за кустом. Яму хацелася, як мага цішэй і незаметней зьявіцца ў сваёй вёсцы, бо-ж людзі будуць пазіраць на яго, як на нейкае дзіва. Тое, што думаў ён аб сабе трохі раней, цяпер прадставілася яму ў іншым сьвятле, і яму было няпрыемна. З гадзіну праляжаў тут Іван. Ад зямлі панясло холадам і сырасьцю. Сонца схавалася за лесам, а па небе з заходу на ўсход разьлегліся бліскучыя дарожкі. Іван падняўся, глухімі сьцежкамі і межамі пасунуўся дамоў, мяркуючы папасьці ў свой двор з боку клуні. Ранейшы настрой яго зьмяніўся. Вёска і дом, павабныя ў думках, калі ён быў далёка ад іх, пазіралі цяпер на яго панура і няветла. Некалькі сустрэчаных вяскоўцаў узіраліся ў яго з цікавасьцю. Некаторыя пазнавалі яго, хоць і не паказвалі гэтага. Івану здавалася, што людзі пазіралі на яго са страхам або насьмешліва і староніліся. Вестка аб звароце Трахімавага Івана перадавалася з хаты ў хату раней, чым Іван зайшоў у свой двор.

Няясная постаць у белым, як прывід, матнулася перад Іванам на цёмным дворыку і паімчалася ў хату. Каля дзьвярэй яно запынілася і, ня выпускаючы клямкі, пазірала на Івана.

— Хто там?—пачуў Іван.

— Гэта я, брат Піліп!—пазнаў Іван меншага брата.

Піліп бразнуў дзьвярыма і шмаргануў у хату.

— Іван прышоў!—закрычаў ён там такім голасам, як-бы ішоў ня Іван, а нейкі страшны зьвер, і перапалохаў усіх.

Іван пераступіў парог і запыніўся. Яго паяўленьне і гэты дзікі піліпаў крык былі так неспадзяваны, што ў хаце на некаторы момант запанавала зьнямелая цішыня і аслупяненьне.

На акенцы насупроць печы цьмяна курэла газоўка. Малодшая Іванава сястра Марыля, мыючы пасуду, зьнячэўку выпусьціла з рук міску і разьбіла. Бацька нярухома стаяў каля ашэстку. Пілiп з маткаю прысланіліся да печы, і ўсе, шырока раскрыўшы вочы, пазіралі на Івана.

— Што вы глядзіце на мяне, як авечкі на воўка?—першы парушыў цішыню Іван.

— Дык ты жывы?—зьдзіўся бацька.

Івану пачулася ў яго голасе расчараваньне, што ён Іван, жывы.

— Скуль-жа ты ўзяўся і з чым прышоў, сукін ты сын?—запытаў бацька.

— Сынок!—залемантавала маці і кінулася да Івана.

— А я ўжо вочачкі свае праплакала: сказалі-ж бо, што цябе і на сьвеце няма жывенькага!

— А што мне зробіцца?—горда адказаў Іван.

— Але ты чаго нарабіў, гіцаль ты?!—рынуўся да яго з кулакамі стары Трахім.

— Біць хочаш ці што?—запытаў бацьку Іван і дабрадушна даў на гэта сваю згоду:

— Ну, што-ж? бі! Хоць і няма цяпер такога права.

— Валацуга ты!—бушаваў бацька:—з-за цябе тут трэсьлі мяне, каб цябе трасца трэсла!

— Ну, годзі ты ўжо!—накінулася на Трахіма маці і стала паміж сынам і мужам.

— Ня бойся, бацька, ня будуць больш трэсьці: судзілі мяне і апраўдалі.

Парыў бацькавай злосьці прайшоў, напружанасьць згладзілася. Іван сядзеў за сталом і сёрбаў малако, а Пілiп расказваў, як ён заўважыў на двары Івана.

## VII

Няёмка было Івану дома.

І сярод родных і сваякоў і так па людзях паміж вяскоўцаў заўважаў Іван, ці яму толькі здавалася так, што ён стаіць па іншы бок ад людзей, вось як-бы нейкі парог вырас між ім і людзьмі. Яму здавалася, што людзі староняцца ад яго, і ён ня можа знайсьці агульнага грунту з імі. І кожны дзень у самых нязначных драбніцах заўважаў Іван, што ён тут лішні. Прабаваў схаўрусавацца з хлопцамі, прыстаць да іх кампаніі. Ня выходзіла нічога, бракавала чагось. І ніхто ня мае тут патрэбы ў ім, усе ролі разьмяркованы, а для яго не знаходзіцца. Ён толькі паступаецца сваім гонарам, спаганяючы таварыскасьць. А на вёсцы яму і мянушку далі—Балаховец. Гэтае слова стала гучаць для яго зусім іначай. Прыкра стала Івану. Хацелася да чаго-небудзь прыстаць, так ці іначай зьліцца з грамадою, каб не адчуваць свае адзіноты і закінутасьці сярод людзей.

Чаму гэта так сталася? Іван прышоў да такога заключэньня: адарваўся ён ад вясковага жыцьця за восем гадоў бадзяньня па сьвеце, вайна,

туляньне па лясох, балахоўшчына і ўсё іншае. Але такое тлумачэньне не здаволіла самога Івана. Ці няма тут іншае прычыны? Ён стаў прыпамінаць, праўдзівей сказаць, само лезла ў памяць яго мінулае, і, усе яго ўчынкі. Ці няма і на ім Каінавага знаку, па якому людзі пазнавалі забойцу і старaнiлiся ад яго? Але ці мала ёсьць такіх на сьвеце, што забівалі? І цікава-б Івану ведаць, што адчуваюць яны?.. Не, тут, рідаць, справа ня ў гэтым. Проста яму тут няма да чаго прыткнуцца, і ад гэтага і думкі ўсялякія апаноўваюць яго.

Трэба куды-небудзь падацца адгэтуль, пашукаць работы на старане. Але не сьпяшаўся Іван: была адна прычына.

Чаму Іван зьвярнуў увагу на Аўдольку Шаронь? Чаму з шумлівай дзявочай грамады яна адна, толькі яна адна кідалася яму ў вочы і засланяла сабою ўсіх іншых? Чаму яго сэрца білася ў парыўлівай радасьці кожны раз, калі хоць здалёку мільгнецца яе постаць? Але Іван такімі пытаньнямі не займаўся і адказу на іх ня шукаў. Наўперад ён толькі зьвярнуў увагу на яе густыя чорныя бровы, а як пабачыў і вочы пад гэтымі чорнымі дугамі, то яму ўспомнілася тая невядомая жанчына ў горадзе, што так падазрэнна акінула яго сваімі цёмнымі вачамі. Дзе-б ні быў Іван, што-б ён не рабіў, з галавы яго ня выходзіла Аўдолька Шаронь, а поруч з ёю і вобраз невядомай жанчыны.

Іван пачаў стараньней мыцца, выкалупваць гразь, прыводзіць у парадак адзежу і надаваць хараство і свайму твару, і ўсьмешцы, і старчакаватай страсе на галаве, запушчанай і занядбанай. Паглядаючы ў люстэрку, ён прыходзіў да заключэньня, што ня горшы за другіх, хоць гэтае заключэньне і было чыста суб'ектыўнае.

Спачатку Іван падыходзіў здалёку. Некалькі разоў, сустрачаючыся з Аўдоляй, дарыў ёй самыя прыязныя погляды, і тады яго маленькія хітраваценькія вочкі набывалі асаблівы блеск, а ўсьмешка рабілася больш выразнаю. Аўдоля таксама падымала на яго свае цёмныя вочы, але ў гэтых вачох ня было ні ласкі, ні прыхільнасьці. Яны пазіралі халаднавата і нават са страхам. Іван, астаючыся сам з сабою, прыпамінаў гэты погляд, аналізаваў яго, як профэсар, і рабіў тыя ці іншыя высноўкі і стараўся пры гэтым не пакрыўдзіць сваю хлапцоўскасьць. Але гэтыя заключэньні трэба было падмацаваць на практыцы: вынікала патрэба пагаварыць з дзяўчынаю. Разоў некалькі Іван зачапляў яе. Але гэта было на людзях. На жарты Аўдоля таксама адказвала жартам, часамі задзёрыста, каб верх пакінуць за сабою.

Падкараўуліў раз Іван Аўдолю адну, недалёка ад гумнішч. Несла зельле ў посьцілцы, закінуўшы за плечы ёмкі вузел. Убачыла Івана, замарудзіла крок, азірнулася. Можа ёй страшна стала, зірнула, ці ёсьць людзі. А можа яна баялася, што тут могуць быць сьведкі. Павярнуць у другі бок, каб ня сустрэцца з Іванам, ня было куды. Вольнаю рукою абцягнула кароткаватую спадніцу і валасы пад хусткаю папpавіла—з Іванам ёй не разьмінуцца. Іван стаяў, расшырыўшы ўсьмешку, і матаў

сабе на вус—прыхарошваецца перад ім, а потым пайшоў насустрач. Аўдоля, апусьціўшы вочы, саступае з дарогі, каб разьмінуцца з Іванам.

— Чаму-ж ты ня хочаш вачэй падняць?—запытаў Іван, ушчаміўшы вузел рукою.

— А што-ж мае вочы, куплёныя ці што?—пявучым галаском адказала Аўдоля.

— Пусьці!

— Наўперад глянь на мяне, тады пушчу.

— І не падумаю нават глядзець,—сказала дзяўчына, але зірнула на Івана. Жарам абдало Івана ад пагляду чорных вачэй, але ён прыкінуўся, што ня бачыў іх.

— Чаму-ж ты ня хочаш глядзець на мяне?

— Пусьці—часу няма!

— Ці ты ні на кога не глядзіш, ці толькі на мяне?

— Хто мне да спадобы, на таго і гляджу.

— Дык ты-ж і на мяне глядзела, значыцца і я табе спадабаўся

— Не глядзела я на цябе!

— А вось-жа і цяпер глядзіш!

— Гэта толькі табе здаецца так!

— І на што табе такія прыгожыя вочы?

— Ну, годзі! пусьці!—засаромілася Аўдоля і адварочвае твар ад Івана. А Іван не выпускае з рук вузла і стараецца ёй у вочы зазірнуць, бо ведае дзявочую натуру: часамі да дзяўчыны падсядзе хлопец на прызьбе. Яна гоніць яго, адпіхае, а сама бліжэй туліцца.

— Дай я паднясу табе зельле,—гаворыць Іван і вырывае вузел. Тузаюцца на мяжы. У Івана сілы многа—адабраў вузел, зельле з посьцілкі па мяжы раскідалася. Іван хватае Аўдолю, пробуе абняць яе, ды яна не даецца. Штурханула яго зьнянацку, вырвалася і бяжыць на свой двор, пакінуўшы зельле і посьцілку. Не чакаў гэтага Іван. Стаіць ня гоніцца за ёю. І брыдка яму: зьбегла дзяўчына. Значыць ня любы ён ёй. Разаслаў Іван посьцілку, пазьбіраў зельле, зноў у вузел завязаў, ды туга, туга, бо рукі яго, як клешчы, а сілы дзяваць няма куды. Занёс вузёл пад гумно і шпурнуў яго цераз плот на аўдолін прыгумень, а сам у поле пайшоў.

## VIII

І трудна было разабраць гэтую Аўдольку, як ні ўзважваў Іван яе кожнае слова, кожны рух чорных броваў і вачэй. Часамі і пацешыць яго так, што Івану ўвесь дзень на сэрцы было весела, але кожны раз, як ўюн, высьлізгаецца з рук. Проста падражніваецца з ім і водзіць дурня за нос. Бо Іван яе любіць, як ніхто на сьвеце, і яна гэта ведае, а сама халодная да яго, як рыба. Вось і тады, калі ўцякла ад яго. Запытаў Іван, чаму яна так зрабіла. Засьмяялася.

— Я-ж думала, што ты даганяць мяне будзеш.

І была гутарка з ёю паважная, калі Іван рубам паставіў пытаньне аб ЗАГС‘е. Аўдолька нахмурылася, стала сур‘ёзнаю.

— Баюся я цябе...—сказала і ўтупіла вочы.

— Ды ты-ж з мяне вяроўкі віць будзеш,—заўважыў Іван. Аўдолька раптам перамянілася, засьмяялася яму ў вочы:

— Дык як-жа мне замуж ісьці за пяньку?

Пакрыўдзіўся Іван, моцна пакрыўдзіўся. Нічога ёй не сказаў. Падняўся і пайшоў ад яе моўчкі. Пакляўся самому сабе кінуць усю гэтую музыку. Тры дні хадзіў невясёлы, з Аўдоляю не сустрачаўся. Чорныя мысьлі тамілі Івана, хоць ён і затойваў іх у сабе. Але ня вытрываў. Зноў пайшоў да Аўдолькі. Згода зьмянялася сваркаю, гневаньнем, разлукаю, новым спатканьнем. І так увесь час. А пад восень Іван казаў ёй—урачысты быў момант.

— Пайду я адгэтуль.

І чакаў, як прыме Аўдоля яго словы.

— І табе будзе лепш і мне, калі пойдзеш,—памаўчаўшы, падумаўшы сказала Аўдоля.

Івану стала крыўдна і горка—ня любіць яго, навошта зманваць самога сябе? Злосьць пашыбла яго. Устрымаўся. Запытаў ціха:

І ты нічога лепшага ня скажаш мне?

— Ну, што мне сказаць?—уздыхнула дзяўчына:—няшчасны ты чалавек!

Іван усьміхнуўся, горка і злосна і кінуў абразьліва:

— Пляваць я хачу на вас усіх! А спогадзь твая патрэбна мне, як дзірка ў мосьце.

І вочы яго бліснулі дзікаю злосьцю, губы задрыжалі.

— Рэзаў я вас, але мала!

Потым, калі з сякераю і з торбаю ішоў у горад, каяўся, што сказаў такое глупства.

Дарога яго запакоіла. І думаў ён, што і сапраўды няшчасны ён чалавек. Пра Аўдольку ўсю дарогу думаў, і тая жанчына ўспаміналася і яшчэ многа такога, аб чым успамінаць не хацелася, што само лезла яму ў галаву.

У горадзе работа знайшлася па спэцыяльнасьці. Натрапіўся майстар, што ўзяўся пабудаваць хату. Набіраў рабочых, напаткаў Івана і ўзяў на работу за тры з палавінаю рублі ў дзень. Восем гадзін работы ды яшчэ ў профсаюз абяцаў правесьці. Апроч Івана было яшчэ пяць цесьляроў, усе гарадзкія. Іван стаў на работу з Нічыпарам Глыкам. За першы дзень пазнаёміўся з усімі. Людзі ўсе былі дружныя, ня так да работы, як у справе абароны сваіх інтарэсаў. А Іван узяўся заложна. І работнік з яго быў ня кепскі. Нічыпар Глык прыглядаецца да Івана, дзівіцца яго маўклівасьці, сур‘ёзнасьці і зацяжнасьці ў рабоце.

— Аб чым ты ўсё думаеш, Іван?—пытае яго Нічыпар Глык.

Іван падазрэнна падымае маленькія піўныя вочкі з-пад рыжаватых брывей, углядаецца ў Нічыпараў твар.

— Што гэта прышло дзядзьку запытаць так?—пытае і ён.

Нічыпар заскарузлым пальцам праводзіць па жорсткай шчэці пасівелых вусоў і кажа:

— Бо чалавек заўсёды што-небудзь сам сабе думае.

— На тае-ж і галава яму, каб думаць,—заўважае Іван і плюе на руку каб спрытней хадзіла сякера.

— Да спыніся ты хоць трохі!—стрымлівае Івана Глык. Пазірае на шарачковыя іванавы нагавіцы, на яго лапцяватыя босыя ногі і закочваецца сьмехам.

— Чаго, дзядзька, іржэш, як стаенны жарабец?

— Бо ты нейкі дзіўны і сьмешны.

— Чаму я дзіўны і сьмешны?—натаропліваецца Іван.

— А хто цябе ведае. Маўчыш, усё нешта думаеш, і сьмех у цябе з губ ня сходзіць.

— Гэта толькі так здаецца, што я сьмяюся і міна мая такая!

— Міна?

Глык у сваю чаргу углядаецца ў Іванаў твар.

— Губы мне такія пакінуў у спадчыну бацька,—паясьняе Іван.

— Цяслою ці што прасякаў ён табе іх?

— Можа і цяслою,—лагодна адзываецца Іван, а ў маленькіх вочках успыхваюць вясёлыя іскрачкі.

— Тэхніка дваццаць восем гадоў таму назад была куды слабейшая.

— Га-га-га!—рагоча Глык:—тэхніка, кажаш? Гэта ты добра сказаў... Закурым!

— Давайце закурым.

Моўчкі садзяцца на бервяно і кураць.

— Ня зьдзельна-ж работу ўзялі: выстукаем памаленьку па тры з палавінаю рублі,—заўважае Глык.

Іван дасмоктвае сваю папяросу, з форсам плюе на рыштаваньне і бярэцца за сякеру.

— Ангельцы і французы дык тыя, падлы, заядлыя ў рабоце,—кажа ён.

— А дзе ты іх бачыў?

— У Нямеччыне.

— Дык ты быў у Нямеччыне?

— Год цэлы быў там, у палоне... Пагоняць немцы на работу, бывала. І наш брат быў там, і гэтыя самыя ангельцы і французы. І калі ўжо ангелец стаў на работу, дык робіць, гад, увесь час і ў бок ня зірне. А наш брат стукнуў два разы ды і аглядаецца або цыгарку круціць.

— Ну, і што-ж?

— Нічога. Французаў і ангельцаў немец лепей карміў і даваў гадзіну адпачыць па абедзе, а нам адпачываць не давалі і кармілі буракамі.

— Бо ўсе яны—буржуі,—заўважае Глык і пытае:

— Ну, і хто-ж больш выйграваў?

— Паважалі іх болей, вот і ўсё.

— Дак ты, значыцца, пабачыў сьвету?

— Чаму не? Дзе толькі ні быў, чаго ні рабіў! У войску Балаховіча быў!

Глык пазірае на Івана: брэша ён ці праўду гаворыць.

— Што-ж ты рабіў там?

— Усё, што палагаецца бандыту.

— Дык-жа цябе-б расстралялі за гэта?

— Дык і я гэтак думаў, а вось-ж бачыце сякераю стукаю.

— Заліваеш ты, брат, трохі.

— А вы-ж думалі, што калі ў шарачковых портках, дык чалавек ужо—пячура?

Глык налягае на бервяно, сячэ і штосьці думае. Іван таксама змаўкае, а потым гаворыць:

— А ці бачылі вы чалавека, што лішні час на сьвеце жыве?

Глык углядаецца ў Івана.

— Плявузгаеш ты нямаведама што.

А Іван ня то пасьміхаецца, ня то думае, ці можа чалавек жыць на сьвеце лішні час.

## IX

У пяць гадзін вечара, як толькі рознагалосы хор гудкоў, нібы патрывожаныя чмялі, адзін за другім, а то і разам прагудзе рабочым адпускную, Іван заставаўся адзін. Зьбітая з дошчак і на скорую руку хібарка-барачок з вузкаю дзіркаю замест акна і з дзесяткамі шчылін, дзе шворыўся вецер і сьвяцілася неба, была Іванаваю кватэраю. У хібарцы было многа стружак, бо ў ёй і каля яе майстравалі сталяры. У гэтых стружках і была Іванава пасьцель. Тут праводзіў ён ужо даўгаватыя ночы, бо надыходзіла восень. Часамі выходзіў у горад купіць сёе-тое, бо Іван жыў тут на сваім хлебе. А то часам проста зойдзе з дзядзькам Нічыпарам Глыкам у піўнушку пасядзець гадзінку-другую. Там народу ўсялякага многа, і час весялей пройдзе. А калі пры гэтым ды ўвальлеш у сябе літры са тры піва, дык на некаторы час яшчэ весялей стане. Але гэтая вясёласьць зараз-жа і пакідае яго. Іван панура зьвешвае галаву. Яму ўспамінаецца барачок, куды ён скора пойдзе, і ноч наперадзе. Ён ведае, што там чакаюць яго пакуты. Праціўны гэты барачок, і ў той-жа час ён цягне яго, мае нейкую ўладу над Іванам.

— Ну, трэба ісьці,—гаворыць ён, падае шырокую лапу дзядзьку Нічыпару і сунецца ў свой бярлог.

Ляжыць ён у сваім барачку на смалістых стружках. Ляжыць, думае і доўга ня можа заснуць. Ён выпрабоўвае сябе, хоча штось перамагчы ў сабе, а для гэтага трэба знайсьці нейкі цьвёрды грунт. Думае Іван аб тым, што сьвет вялікі і прасторны, а яму цесна, месца няма—

адзін толькі барачок гэты, стружкі ды палоскі бліскучага неба, што сьвецяцца праз шчылінкі. І ўперадзе няма ніякае прасьветліны, цікавага нічога няма, што-б вабіла яго і хоць-бы абяцала яму якую-небудзь маленькую радасьць. Вось ён думае ў профсаюз прайсьці. Ну, пройдзе, а далей што... „Эх, Аўдолька, Аўдолька!“ у мысьлях гаворыць Іван. Каб-жа прызнала яна ў ім чалавека і мужа! Думае аб Аўдольцы. Вось каб яна была тут каля яго! Дык ён-бы зусім другім чалавекам быў. Стаіць Аўдолька ў вачах, блізкая і далёкая. А дзе цяпер тая жанчына з такімі-ж чорнымі вачамі? Ці жывая яна?.. Нізка яго думак абрываецца. Стараецца прыпомніць, аб чым-жа гэта ён думаў? Мысьлі разьлятаюцца, як-бы чагось спалохаўшыся. Іван дрыжыць, на яго штось навальваецца, душыць, гняце. І горш за ўсё, што яно ня мае ні вобразу, ні формы. Іван прахопліваецца, да болю жмурыць вочы, таўчэ ў паветра кулакамі. Тое, што ня мела ні вобразу, ні формы, цяпер вырысоўваецца ясна. І няма для яго ні дарог, ні часу, ні дзьвярэй: усюды пройдзе і пралезе гэтая слабенькая, кволенькая дзіцячая постаць. Яго апаляюць гэтыя поўныя сьмяртэльнага страху дзіцячыя вочы, і кучаравая цёмная галоўка. Іван расплюшчвае вочы, узіраецца ў пустую цьму. Ён ведае, што гэта толькі здань, продукт яго ўласнага хворага мозгу, ім-жа разьбітай яго псыхікі, і нязьменна пры гэтым вярціцца ў галаве думка: забіць чалавека гэта значыць забіць самога сябе. З гэтаю думкаю Іван доўга змагаўся, стараўся давесьці ўсю нястаннасьць яе. Часамі гэта і ўдавалася яму, але заглушыць яе голасу не ўдавалася ніколі. Развага казала адно, а пачуцьце стаяла на сваім. І чым далей, тым больш пераконваецца Іван, што ён хоць і жыве яшчэ, але час яго ўжо зышоў.

Іван праводзіць шурпатаю рукою па твары і абціраае халодны пот на лбе.

— Тфу!—злосна плюе і лаецца, не даючы сабе адказу, на што, на каго накірована яго лаянка. У зацятай цемрадзі топіцца самотная пакута яго і глыбокая чалавечая трагедыя.

Накідае на плечы бравэрку, выходзіць на двор. Пачуцьце адзіноты, закінутасьці ахоплівае Івана. Падымае вочы на неба, пазірае на зоры Знайшоў бліскучую плямку, сузор'е стажары. Ня раз яшчэ ў лесе пазіраў ён на гэтыя зоры, каб прачытаць па іх час ночы і кіравацца імі ў сваім бадзяньні. Стажары падняліся высока, параўняліся з стромкаю антэнаю на белай камяніцы, але да сьвету астаецца яшчэ многа часу.

Іван услухоўваецца ў прыглушаны шум гораду, углядаецца ў цемру двароў. Сям-там сьвецяцца агоньчыкі вулічных ліхтароў, спакойныя, занямелыя. Вострымі бліскучымі пучкамі, як іголкі ад вожыка, ад іх расходзяцца праменьні і зараз-жа зьнікаюць у шэрай цемрадзі. Дзесь на пустой вуліцы звонка чокаюць падковы па бруку, кароткім сьмехам рассыпаюцца па дварох і завулках. Чыесь ногі борзьдзенька тухкаюць па дошках тратуару і боязна заціхаюць на паваротцы. Івану здаецца, што гэта прайшла жанчына. Прыслухоўваецца—крокі замерлі і болей іх

ня чуваць. Несканчоную аднатонную песьню вядзе электрычная станцыя, нібы дрот звоніць на тэлеграфных слупох у лесе перад нягодаю, а маўклівая, прытоеная і поўная падступства ноч прагавіта ловіць і глытае гэтыя гукі і шолахі. І толькі паравоз дзесь на вакзале гучна і заліхвацка разрывае зацятую цішыню і напамінае Івану аб прасторах дарог. Але ўсё гэта праходзіць міма яго. Ён чуе сваю адарванасьць ад сьвету, ад людзей, ад жыцьця і поўную сваю адзіноту, як-бы нехта паабрываў усе яго ніці, што злучалі яго з гэтым сьветам, людзьмі і жыцьцём, і выкінуў яго аднаго за іх межы. І пуста ў яго сэрцы і ў яго мысьлях.

X

Кончыліся работы ў горадзе. Разьвітаўся Іван з сваім барачком і стружкамі, дзе праваляўся ён тыдняў шэсьць. З тыдзень яшчэ пабыў у горадзе—была сякая-такая работа. А калі сэзон работ зусім замёр, пайшоў Іван на станцыю, купіў білет і паехаў дамоў. Разьмеркаваў Іван свой заработак: сорак рублёў для бацькі, у хатні скарб, рублёў пятнаццаць пакінуў на свой абыходак—мала якая-там патрэба можа здарыцца. І сам крыху адзеўся і абуўся, бо-ж і з Аўдолькаю справа ў яго ня скончаная. Іван думаў аб ёй увесь час і ня траціў надзеі заваяваць яе сэрца. У парыве свайго замілаваньня да яе купіў ёй бутэлечку духоў за семдзесят восем капеек—у цэрабкопе купіў іх.

Сорак рублёў улагодзілі бацькава сэрца, хоць ён нічым ня выказаў свайго задаваленьня. І думаў стары Трахім, што яго Іван прышоў да розуму, пасталеў, што з яго будзе чалавек і не папікаў сына нядбайнасьцю і яго мінулым, але ўсё-ж спадцішка прыглядаўся да яго і адносіўся даволі крытычна. Гэтыя сорак рублёў надавалі трохі гонару і самому Івану, бо на сяле аб іх скора стала вядома ўсім. Напэўна-ж дачуецца і Аўдолька аб іх. Думаў Іван, як лятвей спаткацца з ёю. Вось ужо тры дні, як жыве ён дома, тым-жа часам ён яшчэ і ня бачыўся з ёю. І гэта нават добра: добра, што ён адразу не пабег да яе. Можа быць і памылка яго вялікая была ў тым, што ён так напорыста бегаў за ёю і раняў дух па ёй, а дзяўчына стала забіраць многа ў сваю голаву. Ці ня лепей зьмяніць сваю тактыку, паказаць Аўдольцы, што яна для яго асаблівай цаны, і ня мае, даць ёй адчуць, што ён толькі падражніваўся з ёю? Можа нават не пашкодзіла-б перанесьці сваю ўвагу на другую дзяўчыну?

Такія думкі праходзілі ў Іванавай галаве, і розныя падходы абмяркоўваў ён. На справе-ж вышла зусім іначай. Не дадзяржаў Іван сваіх падступных замыслаў: усе яны разьляцеліся прахам, як толькі пабачыў Аўдольку. Іван адразу адчуў тады, што ён тут бязвольны, што Аўдолька можа зрабіць з ім усё, што захоча.

На паплаўцы за сялом каля старога дуба пасьцілала Аўдолька лён. Гібкая, спрытная постаць яе варушылася рухава, і роўнымі радочкамі

клаўся лён на пажоўклы дол. Іван з сякерaю ішоў у лес: загадаў яму бацька пару жэрдак прынесьці і падрапараваць плот. Зьвярнуў з дарогі Іван, мяжою пайшоў, накіроўваючыся на стары дуб. Замяшалася Аўдолька, пабачыўшы Івана, і яшчэ шпарчэй завінулася каля лёну.

— Здарова, Аўдолька!—і голас Іванаў асекся.

Падняла Аўдоля чорныя вочы. Ні сьледу радасьці не прачытаў Іван на яе твары, а вочы пазіралі пужліва і халодна, як і ў тае жанчыны. Іван хоча пачаць гутарку, сказаць што-небудзь вясёлае, жартлівае, ды слоў такіх няма ў яго цяпер.

— Ці не на пасаг сабе палотны зьбіраешся ткаць?—пытае.

Усьміхнулася Аўдолька.

— Усё можа быць,—адказала.

Іван чуе, што нятрапна пачаў, мяняе гутарку.

— А я вот у горадзе ўсё пра цябе думаў.

— Маніш! у горадзе многа ўсякіх дзяўчат.

— Да вось я і купіў для цябе сёе-тое.

Зусім ня так мысьліў раней Іван падараваць Аўдольцы духі. Ён стукае рукою па леваму боку грудзіны, дзе была ў кішэні пакупка. Аўдолька яшчэ больш узрушылася: цікава-ж даведацца, што купіў ёй Іван у горадзе. Іван важна вымае з кішэні пляшачку, загорнутую ў паперку, разгортвае, рукі яго трохі трасуцца ад хваляваньня, ад блізасьці да Аўдолькі. Разгортвае і падае, а сам пазірае на дзяўчыну.

— Што гэта, рыцына?—пытае Аўдолька, і абразьлівы сьмех блукае на яе губах. Як-бы вядро халоднай вады выліла на Івана. З нагі зьбіўся Іван. Хацелася жартам адказаць, ды язык ня ў той бок павярнуўся.

— А я-ж думаў, ты ласкавей сустрэнеш мяне... Нягодная і злая ты, Аўдолька. Замест сэрца кусок цэгліны ў цябе.

— Што-ж зрабіць, калі такою радзілася?.. І дарма ты на мяне траціўся—не вазьму я гэтага.

— Чаму?

— Так... не вазьму.

І зусім не да рэчы пытае Іван.

— А куды-ж я дзену іх?

Аўдолька паціскае плячамі.

— Падаруй каму-небудзь другому.

Крыўда і злосьць забірае Івана.

— Ты можа сярдуеш, гневаешся на мяне за тыя словы, што сказаў табе, адыходзячы ў горад?

Аўдолька апускае вочы.

— Не, я ня гневаюся на цябе.

— А чаму-ж ты такая неласкавая да мяне?

— Ну, што-ж я зраблю, калі ласкавасьці няма?—І зірнула на Івана так, як-бы ў адчай прышла, што няма да яго ласкавасьці.

— А вось-жа напэўна ёсьць у цябе ласкавасьць да кого-небудзь другога,—гаворыць Іван, і зайдрасьць падымаецца ў яго сэрцы да гэтага другога.

Аўдолька апускае вочы і маўчыць.

Іван падыходзіць усутыч, кладзе на яе плячо руку. Аўдолька стаіць нярухліва, ня скідае з пляча рукі яго. Хіба можа пазволіць яму абняць яе? Іван туліць яе да сябе і як клешч упіваецца губамі ў яе шчаку. Аўдолька вырываецца, рукі яе робяцца, як жалеза, адпіхае Івана. Іван лічыць, што і так дабіўся ён вялікай асалоды, выпускае Аўдольку.

— На гэтым, Іван, і канец,—узрушана гаворыць дзяўчына.

— Чаму?.. а я думаю, што гэта—толькі пачатак.

— Не, Іван: дарма так думаеш—я скора запісваюся.

— З кім?—апаўшым голасам пытае Іван.

Аўдолька сярдзіта ўскідае чорныя бровы.

— Хіба ты поп, што я буду спавядацца табе? або мне дазволу прасіць у каго?

Іван чуе, што сьвет вакол калыхнуўся ў яго вачох. Але ён бярэ сябе ў рукі і гаворыць:

— Гэтага ня будзе: ты будзеш або мая, або нічыя!

Маленькія вочкі яго робяцца злоснымі і рашучымі.

## XI

Чорныя думкі шаволяцца ў Іванавай галаве. І ясна яму, што зусім дарэмна чапляецца ён за гэтыя надзеі выбрацца на нейкі бераг. Шабаш, брат! Годзі!

Новы плян носіць ён у сваіх думках. Час яго надыходзіць. Падкараўльвае яго нешта цёмнае і страшнае і неадступна ходзіць за ім, як-бы спаганяючы з яго нейкі доўг. Трэба расплачвацца, канец рабіць.

Ужо некалькі разоў наведваўся Іван цішком да свайго нагана. Глядзеў на яго, чысьціў, паціскаў за дужку пружыны, аглядаў патроны. Потым зноў хаваў яго, як-бы баючыся сваіх думак. Але ў яго ня ўсё яшчэ было падрыхтавана.

Вечарам, ужо на зьмярканьні, выходзіць Іван на вуліцу. Падсьлепавата пазіраюць нізенькія вокны, а хаты зьліваюцца з густою цемрадзьдзю. Сунецца Іван па мяккай вуліцы і вось ужо мінае Аўдольчыну хату. Насустрэч яму з мроку выплываюць ня то дзьве, ня то тры постаці. Узіраюцца ў Івана.

— Ты, балаховец, асьцярожней хадзі каля гэтае хаты!—чуе Іван хрыплы ад выпіўкі голас Андрэя Жычкі. Тры хлопцы загарадзілі Івану дарогу. А, Андрэй Жычка!.. за Аўдольку злуецца. Івана таксама забірае злосьць. Але-ж ён зусім не да Аўдолькі ідзе, не: у яго сваё меркаваньне. Іван запыняецца. Кулакі яго згортваюцца.

— Ідзі наўперад вырыгай самагон, тады прыходзь задзірацца.

— Бі бандыта!—рушыў наперад Андрэй.

Іван адступіў крок назад.

— Не чапаю, дык ня лезь! А то жавалы паб'ю!

— Балаховец! Бі яго, Андрэй!—крыкнуў Андрэяў таварыш, Міколка Былевіч.

Рынуўся Андрэй, махнуў кулаком. Стукнуў яго Іван пад цяглі нагою і штурхануў у грудзіну. Андрэй, як сноп, шлёпнуўся ў гразь. Разьярыўся Іван, на Андрэевых прыяцеляў наляцеў, зваліў іх у адну кучу, а сам вырваўся і пусьціўся наўцекі. Адбегся, выламаў з плоту кол і крыкнуў:

— Гніды вы! з кім займаецеся?

Пагналіся за ім хлопцы таксама з каламі, але Іван махнуў на агароды і схаваўся, ня то, што-б іх баяўся, а проста не хацеў з імі займацца. Усё-ж такі ён іх памяў і ў гразі выкачаў. Нават падбітае Іванава вока ня клала цені на яго перамогу.

Вярнуўся дамоў Іван позна, прывалокшы тры шасьціаршыновыя дошкі. Пытаўся ў яго назаўтра бацька, дзе ўзяў ён гэтыя дошкі і на што яны? Дошкі дастаў Іван у Мар'янчыка, а рабіць будзе з іх шафік—каморнік просіць.

Туляючыся і таячыся, прыступіў Іван да работы. Папілаваў дошкі, зьняўшы наперад мерку з сябе, пагабляваў іх, урэзаў, дзе трэба, а потым стаў зьбіваць іх цьвікамі. І тая-ж занямелая ўсьмешка аставалася на яго губах, калі аглядаў ужо зусім гатовую труну. Ён доўга пазіраў на яе і штось думаў. А потым выбраў найбольш зацішное месца ў клуні, занёс туды труну і накрыў саломаю. Прысеў на яе ды зноў задумаўся. Цяпер ён думаў аб Аўдольцы. Не хацела быць з ім жывою, няхай ляжа мёртваю. Так, гэта ён пастанавіў цьвёрда і не адступіцца ад свае пастановы. І дні праз два поруч з яго ўласнаю труною стаяла другая труна, крыху меншая і гладчэй зробленая. Усё гэта было зроблена патаемна, і ніхто з дамашніх, ніхто на сьвеце ня ведае яго замыслаў.

Іван некалькі разоў заходзіў тайком у клуню паглядзець на гэтыя труны. Адгорне салому, пазірае на іх, нешта мяркуе і думае. Некалькі разоў браўся за кантовы сталярскі карандаш, каб напісань на труне сваю апошнюю волю. Але ці заўважаць яго надпіс на дошках труны? Івана бярэ сумненьне, і ён адкідае гэтую думку. З Ціліпавага сшытку вырывае асьцярожна лісток паперы і выводзіць каракулі: „Пахавайце нас разам" і падпісваецца: „Бадзейка Іван Трахімавіч". Паперку гэтую кладзе ў сваю труну.

Вечарам, калі на дварох усё аціхла і стала зусім цёмна, Іван бярэ свайго старога прыяцеля—адзін толькі і астаўся ён—наган, закладае патроны. Разоў некалькі прайшоўся па дварэ, паслухаў. Цёмная, маўклівая ноч. Увесь сьвет захлынуўся цемрадзьдзю, і для Івана ня будзе ўжо сьвітаньня новага дня. Але гэтыя думкі адбіваюцца ў ім цьмяна. Ім завалодала адна мысьль—зрабіць апошнюю справу на сьвеце і папомсьціцца за ўсё.

Іван асьцярожна адчыняе клуню, выносіць на двор труны, ставіць іх у рад і борзда выходзіць на агароды, а адтуль, як злодзей, крадзецца да Аўдолінай хаты. Ён ведае ўсе Аўдольчыны ходы. Яму толькі трэба спаткацца з ёю. Ён загадзя выпрасіў у яе адну ласку для сябе: калі ён будзе адыходзіць з сяла, каб ужо ніколі не вярнуцца, ён прыдзе разьвітацца з ёю. І вось гэты час надышоў.

Стаіўся Іван каля варот і стаіць, падкаравульвае Аўдольку. Аконная рама з шыбамі цьмяна адлюстроўваецца на чорным і вільготным дворыку. Прыгожы рысунак яе, напісаны сьвятлом на зямлі, часамі заціраецца ценем. Чыясь постаць нячутна прасьлізгоча па хаце насупраць акна і парушае правільнасьць рысунку аконнае рамы. Іван пазірае на гэты рысунак і на акно. Ён уздрыгвае: Аўдолька ў белай хустачцы ў кветкі выплыла з цёмнага кутка хаты, глядзіцца ў люстэрачку, папраўляе валасы каля вуха. Іван успамінае Андрэя Жычку: для яго чапурыцца яна! Чорная зайздрасьць ахінае яму сэрца. Іванавы рукі зьлёгка трасуцца, а час цягнецца да болю марудна. Ці не зайсьці лепей ў хату? гадае Іван: Але скрыпнулі, а потым грукнулі дзьверы ў хаце, а затым і ў сенцах. Аўдолька! Іван адразу пазнае яе на парозе, хоць і цёмна. Ён дрыжыць, але падае голас кароткім, многазначным кашлем.

— Не палохайся: гэта я!—гаворыць ён ціха.

Аўдолька ўздрыгвае ад нечаканасьці і падаецца назад у сені.

— Я прышоў разьвітацца з табою. Больш мы ніколі ня ўбачымся.

Іванаў голас перарываецца, ён сьпяшаецца выказаць гэтыя словы, каб затрымаць яе тут. Падходзіць бліжай.

Аўдолька ня ведае, што сказаць яму. Ёй цяпер нават і шкода яго, але яна баіцца выказаць свайго спачуваньня, каб не перадумаў Іван свайго намеру, бо з ім ёй страшна і няпрыемна. Яна маўчыць. Хочацца, каб скарэй разьвітаўся ён з ёю. Тады спакайней будзе.

— Пацалуўся са мною!—гаворыць Іван. Дзіўна нейк прагучалі гэтыя словы ў Іванавых вушах.

— Ня трэба гэтага! На вуліцы потым паказацца нельга будзе!— узгрушана, прыцішаным голасам протэстуе Аўдолька і адпіхае Івана.

У тоне яе голасу Іван чуе шчырае нежаданьне пацалавацца з ім.

Дзесь на вуліцы чуюцца хлапцоўскія галасы і сьмех, а ў глыбі сяла заядлым і злосным брэхам надрываецца сабака.

— А з другімі дык ты ліжашся!..

І аблаяў яе Іван абразьлівым і брыдкім словам і, сьледам за гэтым выхапіў наган і ўпор выстраліў два разы. Няпрычыненыя дзьверы ў сенцы шырока расчыніліся і трупам асунулася Аўдолька на цьвёрдую зямлю ў сенцах.

— Гатова!

Апошняе, што чуў Іван, быў шум у хаце. Ён прыставіў наган да сваей галавы, зажмурыў вочы і моцна ціскануў пальцам дужку

пружыны. Пачуўся трэці стрэл. Упаў Іван галавою на двор. А калі зьбегліся людзі і запалілі агонь, то ўбачылі два трупы, разьдзеленыя парогам, з адкінутымі ў розныя бакі галовамі. Аўдолька была забіта напавал, а Івана адвезьлі ў няпрытомнасьці ў больніцу. На заўтра ён там памёр і там-жа яго і пахавалі.

І цікава яшчэ адна драбніца: стары Трахім ня даў труны, каб пахаваць Аўдольку.

14-х – 1929 г.

# НАРАДЖЭНЬНЕ ЧАЛАВЕКА[1])

*Роман*

**А. Александровіч.**

## Іскрой павінна быць...

XXXV

І ноч прайшла.
І прайшла
Імгла.
А была
Імгла,
Як брызгі шкла...

Марыля прачнулася. Ціха ў пакоі.
Ціха і душна,
        А ўсё-ткі і лягчэй
        І грудзі ўздыхаюць
        І кроў ужо тчэ
Румянцы вявёлых настрояў.

Цесна ў пакоі. Душна і брудна.
А лёгка на сэрцы,
        Вось быццам,
        Аб пройдзеным-згубленым
        Споведзі нуднай
Шчасьліва ўдалося пазбыцца.

З-пад коўдры нясьмела,
Вачыма пяшчоты
Зірнула на соннага Паўла.
І сэрце застукала
Роўна так, чотка...
— „Няўжо сапраўды пакахала?“

[1]) Гл. „Полымя“ № 1, 2, 4 і 6.

О, ты, кучаравы, раскрый свае вочы
Будзь чулым. Цябе я, мой мілы,
Хачу надарыць пацалункам дзявочым
Гарачым і моцным што-сілы...

Хвіліна мінае. Нячуецца водгук
Жаданьняў ажыўлена-палкіх.

Душна і крыўдна. Устала з бярлогі.
Зноў вокам сустрэлася з Паўлам.
З ветлай ухмылкай,
З дзявочаю рызыкай
(Кроў маладая муштруе...)
Стала ля Паўла так блізка-блізка,
Сьхілілася нізка,
Цалуе—
Дух затаіўшы аддана
І ў момант
Выбухам грудзі рвуцца.
Марыля адбегла і хутка й сорамна,
Сьпяшаецца апрануцца.
Душна ў пакоі...
        А сэрца на волі—
Ў завеях дзявочых мар.

Марыля ў ляжанцы зьбірае вугольле,
Распальвае самавар.

— „Здаецца, ўжо ўся павуціна садрана,
Шлях працярэблены, толькі
Шчыра, ад сэрца, будзь справе аддана
І выйдзеш у людзі паволі.
Дый не, павуціна ня ўся абарвана:
Людзей гэтых мушу пакінуць.
І не адна, буду з Паўлам каханым
Жыцьцёвую рваць павуціну“.
Выйшла на двор.
Зусім яшчэ рана.
Замараз... Нікога няма.
З неба далёка-далёка загнаны
Ветрам барашкі хмар...

Восень прачнулася раніцай яснаю,
Золатакволымі
        Лісьцямі шастае.

Лісьцямі шастае, раніца насьцеж—
Знойдзеным шляхам здалею прайсьці,—
Буду мець шчасьце,
Шчасьце мець буду,
Буду мець шчасьце
Ў нашым жыцьці.

Золаку раніцы ўклон мой ў пояс,
Як сонца з табою
жыцьцё маладое!

Жыцьцю маладому ня дай запрапасьці,
Прыгрэй, прытулі каб змагло расьцьвіці,—
Буду мець шчасьце,
Шчасьце мець буду,
Буду мець шчасьце
Ў нашым жыцьці.

Золак бадзёрыць, жыцьцё адмыкае
Ключамі праменьняў
На небакраі.

О, каб на крыўду мне больш не напасьці,
А ў сіле, гартована, з песьняй ісьці,—
Буду мець шчасьце,
Шчасьце мець буду,
Буду мець шчасьце
Ў нашым жыцьці.

. . . . . . .

...За шклянкай гарбаты Марыля і Павел
Крыляцца ў лятунках чаруючых так!..
Удумліва-шчыра
Пісалі заяву—
Просьбу прыняць на рабфак.
Разам, удвох, прытуліўшыся блізка,
Вяжуць вязанку нязвычных слоў.
Вочы, як золак,
Радасна бліскаюць
Будзячы палкую кроў.

Заява падпісана. Сэрцайка ў схватках,
Лятункі жаданьня ў трывозе шасьцяць.
Як многа ў заяве—
(нязграбнай, ня гладкай)
Юнацкага права жыцьця!

З-за прыпека глянула маці старая
Міргнула старому:—зірні,
Бачыш на шыю руку ён паклаў ей,
Хай сабе...
Цсс..
Не крані...

. . . . . . . . . . . .

Ажыўленым гулам свае абавязкі
Горад пачаў, як штодзенна.
— Буду прасіць, не адмоў, калі ласка,
Заяву аддай у Праўленьне.
Іначай гатова ў майстэрню спазьніцца
— Раз абяцаю—квіта.

. . . . . . . . . . . .

Погляд Марылі зарніцай іскрыцца,
І Паўла зарніцай авіты.

XXXVI

Рэжым, клеім і сшываем—
І пад прасам выпраўляем—
Так з старой падранай—мігам
Зробім новенькую кнігу.

Рукі спрытна сёньня ходзяць
І настрой румянцам бродзіць.

Песьняй гучнай, плаўнакрылай
Асьвяжаем свае сілы.

Кожны дзень адна работа:
Рэжым, клеім пераплёты.

Грамадою—разам, раз—
Мы заканчваем заказ!

Знак. Перапынак. Поўдзень.
Поўгадзіны. Адпачні.
І як быццам, так праходзяць
Па чарзе за днямі дні.

Але дзень інакшы сёньня,
Не падобны на другі:

Ён тугою не палоніць,
Ён ня ведае тугі.

І Марыля так ахвоча
Пра сабе, упяршыню,
Сказ вядзе сябром. А вочы
Поўны палкага агню...

— Першы дзень! Як грудзі лёгка дышуць!
Як мары ў казках, змрок тугі
Цепер праменьні закалышуць
На доўгі час, на шчасьце дзён другіх.

Шчасьлівы дзень! І ў гэты першы, слаўны
У іншых колерах перад вачыма сьвет.
І здань грахоў былых разьвеяна—прагнана;
Прыемна кліч пачуць—жыцьцё мяне заве!

Няма таго, няма—што так цярпела ўчора.
Учарайшы дзень зусім я ня жыла.
Я нарадзілася, як бляскам ткалі зоры
Мой ясны шлях, мой шлях сьвятла.

І тут за працаю і рукі як другія,
І аркушы папер зусім інакш шасьцяць.
І літары брошур, як зоры агнявыя,
Як зоры—літары ўздымаюць слаўны сьцяг!

Няхай ня полымем мне быць, а гэта знаю,
Але іскрой, браткі, я мушу быць!
І сёньня разам з вамі выступаю
Як роўны з роўнымі ў навалу барацьбы...

* * *

...Раней, бывала, кожны сказ Марылі
На вуснах быў акроплены сьлязой.
— „Я нарадзілася“—як словы паланілі
Жыцьцём здабытым жорсткаю цаной.

Але пад векамі таілася маршчына,
Узлазіў сум баязьліва на скронь.
Яна работніца, але яна й дзяўчына,
А розным колерам б‘е з полымя агонь.

Перарадзіцца можна, толькі не забыцца
У жыцьці пра свой жыцьцёвы шлях.
Каханьне першае ружовай бліскавіцай
Пад час зазьзяе крыўдаю ў вачах.

І прабягуць палотны эпізодаў,
І срэбрацціхі шэпт вазёр—
Абудзіць з больлю так... і прад табою горды
Як і калісь ля возера—Рыгор.

З табою, тут, ля возера, з табою,
І зной няма яго, адна яна, ён зьнік.
І ў сэрца крыўда б'е навостранай стралою:
— ... Я—ня я... Рыгорка—бальшавік...

І твар каробіцца, як ветрам плынь вазёраў.
Атручваць зноў пачнеш жыцьцё сваё.
Ты чуеш за табой шуршыцца цень Аўзора;
А ты ў ЧК, як здраднік, як шпіён.

Эх, думкі-думкі, думкі-успаміны!
Няхай астатні раз гараць.
Я больш ня хочу знаць,
Што кожная дзяўчына—
Магла-б такою быць, як Паўлава сястра.

О, Павал, Паўлік, дружа любы,
Ратуй мяне, ратуй ад гэтых дум.
Не хачу ведаць іх—гані ўспаміны-згубы,
Гані, мой брат, атрутніцу-нуду...

І векі зрушыліся, хутка так настала
Маршчыны смутку думак-успамін.
І вусны ткалі сказ:—„О, буду, любы Паўла,
Твая ў першы раз, ты любы мне адзін"...

* * *

Няхай у першы дзень прывольна грудзі дышуць!
Няхай, як мары, змрок тугі
Праменьні сонца закалышуць—
На доўгі час, на шчасьце дзён другіх!

Знак за працу—
За варстат.
Гул вітацца
З кожным рад.

І як песьню
Хараства,
Любіць песьціць
Потны твар.

Гулу ў сіле
Дружна жыць.
Толькі крыльля
Яго ўзьвіць,—

Хваляй пеннай
Паплыве
Па праменнай
Сіняве.

Голас кіне
На зямлю
Што ў краіне—
Вольны люд...

Прападае
Сум-журба.
Праца—тая-ж
Барацьба.

Дык за працу—
За варстат.
Гул вітацца
З кожным рад.

За варстаты—грамадой!
Ні хвіліны на прастой!
Злучым сілы разам, раз—
І раней здадзім заказ!

XXXVII

Якая дзіўная эпоха!
Якая дзіўная пара!..
Замоўк баёў надрыўны грохат,
Спыніў касіць сьвінцовы град.

Грудзі ўсходам уздыхнулі,
Думкі ў зьлёце, як страі.
Глянеш—горад на хадулях,
Плачуць вуліцы руін.

Абязброены машыны
Разьядаюцца іржой.

Знай! Савецкая краіна—
Вышла ў новы бой!

Што завод—атрады-сотні
— Пераможцы на суботнік!

Як і сэрца, так няспынна
Мусяць біцца, жыць машыны.

Гул разносіць рух рукі—
Мусяць так гудзець гудкі.

Здраднік—хто пачне цяпер выць:
Мяса мала—ёсьць кансэрвы!

Дрэнны будзе бальшавік,
Раз ня ўзбудзіць махавік!

Дні ішлі... ішлі упарта...
Расьцягнууўся дым канатам,

З труб фабрычных, і праз рамы
Чутна песьня—рух дынамо.

Як на ўсходзе золак ранкам—
Заіскрылася вагранка.

Проста ўгрунь ляцелі дні,
Сілай, рухам шасьцярні.

Рос за фабрыкай завод
Дзень за днём. За годам год!

Шпіёны, найміты, бандыты
Шлях наш мінамі ўсьцілалі.

Шмат было іх недабітых—
Дык цяпер перастралялі!

І пайшлі сыны ваякаў,
І пайшла заводаў моладзь

Гартавацца на рабфаках
Гартавацца ў прафтэхшколах!

* * *

Выраўняўся горад. Гул:
— „Цесна мне, я не магу,
Я жыцьцём сваім разьбежным
Пашыраю свае межы.

Камяніцамі расту я,
А жыве ў іх—хто працуе.
Цесна мне, хачу прастору:
Я савецкі новы горад“...

Гэты гул нажом сэнсацый
Змушан сьціхнуць быў сарвацца:

— Вораг клясавы ізноў
Пролетарскую п‘е кроў.
— Пяць капеек...
(Колькі шуму!..)

— Вось газэтка!
— Сьвежы нумар!
— Небывалы ўчынак гэткі!
— Пяць капеек!
— Вось газэткі!..

І газэтчык проста потны
Праляцеў ля пераплётнай.
Крык узьняў, што сіл хапае:
-- Зноў буржуі наступаюць!

На хвіліну змоўкла праца.
Інтрыгуецца цікавасьць.
— Што-ж такое магло стацца?
— Пэўна зноў пайшла расправа?

І агонь вачэй Марылі
Зьліўся з іншымі ў касьцёр
Ліст газэты, быццам крыльлі,
Хаім хутка распасьцёр.

**Клясавы враг падняў галаву.**
**Падкупленая агентура.**
**Новая вылазка. Скасіць як траву.**

**Паведамленьне прокуратуры.**

...Хэўра хуліганаў зьбіла члена КСМ Паўла Грубакрана. Пры абаронных нашых мерах—ранілі міліцыянэра. Выявілася на допыце ўскораным, што сальнікам Залтушкіным падгавораны.

Злачынцы Клемусь Чуб („Вырві вока“), браты Калштаны—арыштаваны.

У клюбе Цэнтрабуд 1-га будзе суд.

Галоўныя сьведкі на судзе—міліцыянэр Дудзец і Марыля Надвільліна...

**Рабочы! Клясавы вораг устае.**
**Пільна вартуй заваёвы свае!**

Хаім, пераплётчык, на Марылю глянуў
Поглядам зьдзіўленьня і ня ясна злым...
Як бы на процэсе шчыра і старанна
Таварышам разьвязвала вузлы.

— Сьляды хвілін спаганеных трываю,
Яшчэ й цяпер, паверце мне, браткі,
А выбрацца-ўцячы—кватэры я ня маю,
І шкода Паўла, дружны ён такі.

Адна надзея—на рабфак пайду я
Там знайду куток для нар сваіх.
Па гэты час зласьліва так пануюць
З больлю страшнаю праявы дзён былых.

— „Марылька, ведаеш, часамі мне зайздросна,—
Узьнятым голасам, ухмылкаю касой
Скарагаворкаю ублыталася Зоська,—
Такі багаты шлях жыцьцёвы твой.

Каб гэта мне!“
— Сьмяешся, што-ж я звыкла...
Марыля бокам вышла з грамады
І ў момант—твар яе пакорчыўся, як лыка,
А гэта можа быць ад крыўды ці бяды.

А праца па ранейшаму ў навале
Хто з песьняй голасна, а хто сабе пад нос.
А ўжо зьмяркалася. Так ціха, як вуальлю,
Імглісты змрок туман з сабой прынёс.

— А Паўла дзе? Казаў у дзьве гадзіны
Будзе вынік. Што-ж яго няма?
А, а... вось і ён, як лёгкі на ўспамінак!
А я злавалася. Заўсёды так дарма.

Што добрага, хутчэй кажы—прынята?
Маўчыш? Адмовілі рабфак?..

(Нахмурыў бровы, як перад цяжкай стратай)
— Чаму? Прычына? Як?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ня было камандыроўкі, а заяў багата.
Мэханічны падыход. Вось і ня прынята.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хлапчукі газэт астачу
Збыць мяркуюць, няіначай.
— Вось газэтка! Пяць капеек!
Ворга блізка... Вось!
Сьвежы нумар!.. Бунт зладзеяў!
Ёсьць газэткі!
Ёсьць!

*(Канец будзе).*

# МЕЖЫ

*Аповесьць.*

**Сымон Баранаў**

Частка першая

I

У бакоўцы, у каморы, стары Пракоп доўга шныпарыўся. Кукішкамі ўсьпёрся над расклееным куфэркам. Перабіраў, бразгаў зборным жалезам. З аднаго боку ў другі перакідаў абы-якое, мала на што патрэбнае ламачча. Шукаў нейкае нітэркі ды некалькі дробных цьвікоў-вухналікаў. Цвікі, як лягчэйшыя, былі параскіданы па дне куфэрка, былі змешаны разам з стар'ём. І ён лавіў іх па адным за іх тонкія дрынгалястыя сьпіны сваімі каструбаватымі, нязграбнымі пальцамі.

Некалькі нашчупаў вухналікаў, а нітэркі ніяк ня мог знайсьці.

А ў хаце Макрына кроіла кравецкімі ножнамі кужаль. Выкройвала пару адмысловых штаноў. Марматала нешта сама сабе, пела.

— Макрына... Макрынка! хадзі сюды,—пазваў стары Пракоп.—Вазьмі сярнічкі. Пасьвеціш мне. Ніяк не знайду... Каб яе на раду ня было... Ліха яго ведае, дзе тут што.

І Макрына ўзяла з зымса запалкі.

Макрына, от цяпер у мясаедзе—другі тыдзень ужо—як пераехала ў Пракопаву хату. Яна замуж зайшла. За Пракопавага сына Яўгеня. За спакойнага гаспадарскага хлапца. Стары Пракоп сказаў Яўгеню:

— Даволі ўжо табе з ёю валэндацца. Няхай і людзі чаго ня думаюць, не гавораць. Бяры ты ўжо яе дый годзе! Бо няма-ж каму і рабіць, чалавеча,—казаў бацька сыну.—А яна—працавітая дзяўчына. А гэта—галоўнае. Гультая возьмеш—ні табе спакою, ні табе атхланьня ня будзе. А яна, калі што якое,—за плугам зжожа пайсьці, за касою... Каб яшчэ калі, як Параска была дома—такое яно дзела: пачакаць можна-б... А так—жаніся, нябож.

Параска—Яўгенява сястра. Яна неяк па восені, перад пакравамі, пайшла замуж у Камары. У хаце двох мужчын пакінула. Самім трэба было і варыць і паліць. Яўгеню—во як падасьпела да жаніцьбы! Ды і сам Яўгень:—з год мусіць ня спускаў з вока Макрыны.

— От, нічагусенькі сабе дзяўчына,—разважаў,—бацькоў ня дрэнных... Вельмі-ж ужо бацька добры чалавек. У паблуд слова ня кіне. Зараней—калі што якое—абмяркуе, праверыць і тады скажа: „Я нічога ня знаю і ня ведаю! Я малапісьменны чалавек. Мо' яно і зусім ня вартае і зусім дурное, што я кажу. Але пакольні кожны чалавек мае права казаць...“ і так заўсёды. Заўсёды другога лічыць вышэй за сябе. І от, бадай што, за гэта я яго страшэнна паважаю. Каб, здаецца, усе такія былі, сьвет бы ўраз перайначыўся. Іменна, людзі няхай надаюць вартасьць чалавеку, а ня ён сам сабе. Ня тое што, як другі—каторы любіць выстаўляцца, што-та якаць: „Я! я!“—У яе бацькі, Цімоха, ніколі ня ўбачыш гэтага.

— Ды і Макрына...—далей разважаў Яўгень.—Чаго-ж там хацець ад яе: ня брыдкая з твару. Аднае вёскі: я яе, як пяць пальцаў, ведаю. Я, можна сказаць, прывыкаю да яе. Яна па бацьку пашла. Яна такая адкрытая. Калі што—яна ня будзе жмурыць вока. А з твару яна:—зубы ў яе такія, як часнок: вельмі-ж белыя. Голас такі звонкі, як сталь. Калі запяе „Сонца нізенька, вечар блізенька“—проста слухаў-бы... Аж пераліваецца ўсё, аж дрыжыць... Рухавая такая. Не патрэбна будзе катурхаць. Сама сябе дагледзіць, мяне дагледзіць. А жаніцца—час. Гады, тым часам... А брат мусіць ня вернецца...

Яўгеняў старэйшы брат, Гіляр, трэці год як з ламавіком-аўтомобілем працуе. Служыць за шофэра. У вайсковай службе навучыўся. Восьмы год, як жанаты. На вайсковай службе і ажаніўся. Узяў сабе нейкую бежанку родам з-пад Вілейкі. Калі скончылася вайна, заехаў дадому, як у госьці. Так і застаўся на чыгунцы. Нічагусенькі сабе жыве. А яно і дома можна было-б жыць, хоць і ня поўны надзел на іхнай гаспадарцы: Пракопава сястра, як ішла замуж, дык прыданым адняла чатыры дзесяціны...

Калі зайшла Макрына ў каморку, цемень кінуўся ў вочі. Ведама, як з хаты, дзе сьвятло цёнгле тышчыцца ў твар. А тут безваконная каморка. Дык пакуль асвойчыцца зірк...

— Пасьвяці-ж ты мне, нябож!—сказаў стары, калі ўвайшла Макрына.—От тут пасьвяці... Ліх яго ведае... Ніяк ня знойдзеш вобмацкам. Усё тут перавернута дагары нагамі...

І ён бразгаў, перакідаў старое іржавае жалеза: старыя цьвікі, сапсутыя замкі, зашчапкі, кручкі, завесы з адламанымі канцамі...

— От, каб яе немач...

А запалка дагарэла і—чуць не прыпякла пальцаў—стухла. Макрына пачала паліць другую. Мусіць адсырэлі запалкі, ці што: не загарэлася і другая. Раз шарганула—агонь толькі бліснуў у цемені каморкі, а не загарэлася. Другі раз, трэці...

— Такі-ж адсыралі...—сказала скрозь думку. Пачала даставаць трэцюю запалку.

А стары Пракоп чакаў, пакуль запаліць. Чуў, як сьпяшаецца яна, каб запаліць. Шоргае, шоргае па карабку... Сапе—дыхае тугімі ўзрывамі духу.

— Добрая жонка...—памысьліў стары.—Ня варты ён яе. Прахвост—ціхі-ж вельмі. Нюня.

Запалка загарэлася і асьвяціла каморку, асьвяціла яе поўны твар. Крамяны, млечны, ружовы, малады—твар. Валасы разблыталіся і абыяк зьвісалі на смуглявыя бровы. І гэта так добра падходзіла да яе!

— Пазьлятвалі галоўкі,—сказала Макрына, гледзячы на сапсутыя кінутыя запалкі.

— Яўгень браў з сабою, дык адсыралі недзе ў кішэні.

— Ага...—міжвольна адказаў Пракоп.—Вось і яна—знайшоў—нітэрка,—вярнуўся да сапраўднасьці.

Макрына не заўважыла міжвольнасьці старога. Яна была затакавана, каб як лепей пасьвяціць яму, каб знайшоў ён, не марудзячы, згубленую шрубу-нітэрку.

II

Яўгеня Бурцеліка выбралі ў члены сельсавету ад насельнага пункту вёскі Брод. І вось як.

Прыехаў той чалавек, што перавыбірае. Сабраліся ўсе ў Міхалкаву хату. Яго хата вельмі прасторная, вялікая. Пакуль галасаваць, ці за таго, ці за другога—ужо было вырашана.

— Ува што-б то ні стала—-Яўгеня!

— Няма там чаго адвільваць!

— У хаце ўтраіх!

Па вёсцы гаманілі, што ніхто з іх, з Бурцелікаў,—уга!—ці цеперся—ня служыў. Бацька як служыў некалі старастам, дык і ўсяго-ж. Так што гэта яшчэ аж перад вайною. І таму—ужо ці цеперся падыйшла чарга. І ніхто за іх, за Бурцелікавых, ня будзе выслужвацца.

А калі прыежджы для выбіраньня гаварыў цяпер нешта ў Міхалкавай хаце, а потым нешта перабіраў у стусу паперы, і тады сказаў: „будзем выбіраць“,—бродаўцы зразумелі. Яны зразумелі, што от іменна цяперака ім не патрэбна маўчаць. Бо калі будзеш маўчаць, ізноў будзе тое самае. Ізноў—адзін па дзесяць разоў будзе служыць, а другі—будзе хадзіць пазакладаўшы ў кішэню рукі, як якісь асэсар.

І яны ўсе ў адзін мах:

— Яўгеня!!!

— Ня трэба хітрыкаў строіць, віхлець.

— Ува што-б то ні стала...

Адзін канцавы Карпус засупярэчыў:

— Можна, калі на тое пайшло, каго-небудзь і другога...

Але шум галасоў скамячыў яго словы. Зьмяў іх у тугі каструбаваты камяк. Потым яшчэ і яшчэ зьмяў... сьцёр іх на дробны парашок і расьсеяў нябачным пылам па густа ўзагрэтым паветры, вымеджанай лямпачным сьвятлом.

Прыежджы перш быў зморшчыўся і, як салоны агурок:

— Як-жа гэта—адразу? Мо‘ падумаеце, памяркуеце?

Але бродаўцы ізноў:

— Абдумалі, абмеркавалі...

— Так што кожны няхай папабегвае...

— Няма чаго...

— То-ж, то...

— Але-ж, але...

Прыежджы хацеў вытлумачыць. Прыежджы казаў:

— Выбіраць трэба самага найсумленнага, самага найлепшага працаўніка. Так што глядзеце.

Бродаўцы таксама тлумачылі, казалі:

— Ён ня злодзей.

— Ні з кім ніколі не задзіраўся.

— На пабягушкі ніякага сумленьня такоўскага не патрэбна.

— То-то ж...

На гэтым і выбралі. Разыходзячыся з Міхалкавай прасторнай хаты, былі вельмі здаволены... Былі здаволены, што ў гэтым годзе „дапяклі" Бурцелікавым.

* * *

Калі з сходу прышоў Яўгень, у хаце ўжо спалі. Ён чуў, як сапе яго бацька. Ляжыць на палку і нібыта выдзімае нешта шкляное, вельмі-вельмі тонкае. Яўгень хацеў ня слухаць сапеньня, але ня мог. Калі ўжо чалавек накіраваў свой слух і ўлавіў першае—марудна перайначыць на другое:—не хацеў слухаць, а чуў. Падышоў да ложка і—усёроўна.

На ложку ляжала, адкінуўшы далоньню ўверх руку Макрына.

— Тады...—штурхануў сонную жонку,—разьляглася...

Яўгеня брала нейкая злосьць. Сам ня ведаў якая і чаму. От нешта мітусіла, блытала яго настрой. Мо' тое, што выбралі членам; мо', што моцна, выдзелена з цішыні, соп бацька?—І ён усё гэта неакрэсьленае, нестасаванае ў адну форму, спаганяў на соннай жанчыне.

Калі штурхануў Яўгень, Макрына нешта сьніла. Яна памыляла мяккімі санлівымі вуснамі, замарматала сама сабе, здала лёгкі ўздых і—ізноў намеркавалася заснуць. Але да Яўгеня падскочыла большая злосьць.

— Кажу, адсунься, от-бок...—мацней штурхануў, і яна прачнулася. Перш не разумела спрасонку—нібы зьлякнулася, а потым:

— А-ах, гэта ты... Яўгень... Ужо прыйшоў. Ну, дык кладзіся. А-ам... А я так моцна спала. Накрывайся... Дай я цябе накрыю.

І Яўгень усёроўна чуў, як соп-пыхкаў яго бацька.

Назаўтра Пракоп прачнуўся вельмі рана. Досьвіткам пераплятаў лыкавы лапаць. На двары гэтым часам радзеў змрок. Спадала—некуды дзявалася—фіранка ночы.

А калі на вокны блакітным вэлюмам навісла раньне, калі ўсё больш і больш гусьцеў яго блакіт, бацька сказаў сыну:

— Пойдзем у лес. Паробім з дзень, з два... Усё-ж нейкі рубель, хоць на соль ці на што будзе.

Пракоп меў, як ён казаў, рубель пра ўсякае здарэньне, пра запас. Ён быў чалавекам ашчэдным. Мала якія дні сустракаюць чалавека.

— Бывае—скарынцы будзеш рад,—казаў стары.—Мала якая патрэба выдарыцца. Глядзіш—ня сёе дык тое, ня сёньня, дык заўтра можа адчыніцца—знайсьціся якая прорва.

Канешна, калі Пракоп казаў „рубель", гэта ня значыць, што іменна рубель, капейка ў капейку. Чырвонец, другі—мог быць у Пракопа. Сотня рублёў магла быць. Гледзячы—як да году, як калі выпадзе які год. Ды ўтрымаць рубель, закінуць яго—умець трэба. Бо ён, „рубель"—сьлізкі-ж вельмі. От так і тышчыцца, от так і плыве з рук—нямаведама куды дзяецца—зьнікае.

— Шмат патрэбна сілы зарабіць „рубель",—казаў Пракоп,—больш, яшчэ больш патрэбны сілы, каб утрымаць, каб ня вышчаўкнуўся з рук гэты „рубель".

І бадай што: мусіць ні ў кога доўга так не здаралася „рублю" ня бачыць „божага сьвету", як у Пракопа. Марудна было вышчаўкнуцца яму з пракопавых рук—хоць і сьлізкі ён, як апараная апенька.

Яўгень ня ведаў, дзе кладзе бацька грошы, ня меў цікавасьці. А ён пашыў адмысловы джгурык[1]), прышыў цясёмкі і—прывязаў на паясьніцы па голым целе.

Перад выхадам у лес—сьнедаючы—нічога не гаварылі. Яўгень нейкім насупленым быў. Ні то злаваў, ні то што. А бацьку—усёроўна. Нават не зьвярнуў увагі, ня кінуў вокам. Чэрпаў нешта з міскі, як ні ў чым ня бывала. Вешаў кроплі гэтага „нешта" на доўгія свае рыжаватыя вусы на спрэс цёмную, як перамочаныя плоскуні, бараду.

Ужо ідучы ў лес, па дарозе (у лесе рабілі шныпры, шпалы, барылкі) бацька запытаўся:

— Што-ж Аніс: мо' ізноў дурыў табе галаву сваім каляктывам?

— Калі?

— Учора, што дзьве гадзіны прабалабосьціў каля варот?

— Ды не: каго выбіраць саймікаваліся. Аб членах гутарылі.

— А каго-ж выбралі?

Яўгень не адразу адказаў, а ступіў некалькі крокаў.

— Чаго гэта ты невашта,—сказаў Пракоп,—насупіўся, як мыш на крупы?

— Нічога...—І, памуляўшы словам язык, выказаў:

— Мяне выбралі.

— Цябе-э...—пераказаў, а не запытаўся бацька.—Хто-ж гэта наважыў, каб цябе? Што-ж гэта, гэнам, сьвет клінам сышоў, ліха іх матары. Сам от не пайшоў...

Ішоў за Яўгеням і бубніў.

---

[1]) Джгурык—мяшок, на падабенства, як для носкі цюцюну.

— Дзе не пайдзі сам—улезеш у бэту. Абязацельна, не каго другога, а цябе ўбэтаюць.

— Але-ж каму-небудзь ды трэба быць?—уставіў клінам Яўгень.

— Ня ўмееш здачы даваць,—казаў Пракоп сваё,—кіслы ты ў мяне, нябож. Слухаеш розных Анісеў.

І пападаючы сваім сьледам у сынаў сьлед—ідучы ззаду,—недзе далёка, аж на самым цьвёрдым дне сваіх думак, саўсім другое:

-- А мо' і лепей яно, што выбралі? Ліха яго бяры! Мала што якое бывае... Мо' і лепей яно н-тта-ак...

III

Вёска Брод з яе палоскамі-узрэхамі абкружана балотам. Доўгім імшарным цягучым, як сама смычайка на гэтым балоце. Для выезду ёсьць грэбля. Гнілая такая, з вечнымі—прадаўнейшымі патарчакамі-ражнамі. З вечна ўзмучанаю, бурбалістаю ад муты, вадою. Канцы грэблі, найбольш ад Броду, вымашчаны і чым ні папала: пілавіньнем, карою, стружкамі... З левага боку, ідучы ад Броду—кладкі. Не адмысловыя кладкі, а звычайна выпадковыя. Тут ляжыць жэрдка, прызначаная для плоту, ляжыць гнілое шуло—непатрэбнае, выкінутае гаспадаром, калі перасыпалася андрына альбо ток; тут ляжыць таксама і згніўшая, але для кладкі вартая—азяродная рашэціна... Па ёй вельмі добра ісьці: яна гладкая, абчасаная некалі. Толькі часамі на яе дзірках, дзе былі зацягнуты некалі азяродныя жэрдкі, часамі можна зачапіцца нагою, можна чуць спатыкнуцца.

Вуліца ў Бродзе цёнгле каравая. Ці пагода, ці дождж—усёроўна. Кажуць, што бродаўская зямля такая. Кажуць, што Брод на крынічным месцы, таму і гразь цёнгле.

Бродаўцы прывыклі да яе ліпкай, густой, вечна ўзьмешанай цяжкімі панарадамі, конскімі капытамі, чарадою вострых каровіных капытоў, авечых капыцікаў і сьвіных тупазавостраных лычоў. А яна, мяккая, чорная, калі праходзіў дождж,—блішчэла застыўшаю шавецкаю смалою. Нібы-то вылітая была вуліца растопленаю чорнаю лавінаю, суцэльнага тоўста-таўстога пласта—крыгі; і нібы-то баяліся гэтай лавіны бродаўцы, каб не папячы аб яе сваіх босых ног—абыходзілі каля платоў у адзін сьмелы сьлед.

Двароў у Бродзе трыццаць чатыры. Хаты густа-густа. І так усе будынкі: сьплецены, пераплецены, скілзаны-зьнізаны на адну доўгую тоўстую нізку. Таму і ня дзіва, што бродаўскія жанкі, сабраўшыся ў гурт, часамі кажуць:

— У нас у Бродзе, як у вяночку. Жыў-жыў-бы, здаецца і паміраць не хацелася: ото-ж бок хараство!

Так кажуць—лепш будзе—ня бродаўцы, а іх прывычка кажа. Спрадвечная прывычка іх, так моцная, так зьвязлая! Прывычка чалавека адно з мацнейшых сродкаў у сьвеце. І сапраўды—каб раптоўна зьнікла гразь з бродаўскай вуліцы, яны-б абалдзела сказалі:

— Як-жа гэта?

— Мо‘ яно і горш будзе?

— Без гразі-ы...

Адзін другому гледзячы ў вочы, казалі-пыталі-б.

Надзелы ў бродаўцаў ад „аслабаджэньня“. Па дванаццаць дзесянцін і без сенажаці. Сенажаць у іх—выган. Хочаш касі, хочаш пасі. А наўкол выгану была панская сенажаць. Некалі пры надзеле так выпала яно. Старшынёю тады быў Макась нейкі. Пан з ім вельмі жыў добра. Ён з панам за гэта ў адну дудку іграў. Дык бадай што, ці ня толькі падбухторыў яго пан нашчот надзелаў. Так што калі прышло „аслабаджэньне“, калі пачалі наразаць бродаўцам панскую зямлю, Макась і пачаў даказваць і пачаў.

— Сорак дзевяць гадоў выплачваньня,—даказваў Макась,—так што, мае міленькія, мае даражэнькія,—казаў ён,—не шалду-балду гэта. Так што глядзеце. Яно можна і больш нарэзаць і сенажаці і чаго душа захоча: на тое-ж воля прышла. Але-ж сорак дзевяць... Гэта-ж вам ня сорак дзевяць тыдняў, месяцаў, казаў. Гэта-ж вам гадоў сорак дзевяць. Глядзеце. Бо калі што якое тугое з грашыма—з вамі ня будуць, казаў, цацкацца. На чорта, на якую немач вам гэта балота-сенажаць? Шчот абы большы, хочаце? А от, то з поплава (з выгана), то канюшыны каторы, насееш... Пражывіцё, як той казаў. Аднак-жа дагэтуль, казаў, ніяк ня мелі, ані рубчыка, і жылі—уга!

І ўгаварыў. Не згадзіліся браць балота-сенажаці. Каб менш было выкупу. Так і адыйшло, асталося пану. На палавіну потым касілі. І гэтак цэлы век. Бо трэба было ўсё-ж такі жыць. І жылі. Цвэгалі-жылі без свайго сена.

І толькі ў тысяча дзевяцьсот дваццаць першым атрымалі прырэзку па паўтары дзесяцыны на гаспадарку. А гаспадарак цяпер ня столькі, як пры „аслабаджэньні“ было. Тады з дваццаці надзелаў складаўся Брод. Толькі чатыры надзелы не падзеленых у Бродзе цяпер. А так—то найбольш напалам, а то і на тры часткі разьдзелен той ці трэці надзел. Палоскі во-во якімі сталі вузкімі!

— Нічога не папішаш...—разважалі бродаўцы.—Наўкол—балота. Не павялічыш зямлі. Ня ўздымеш яе цьвёрдага грунту з-пад доўга-доўга балотнага кустастага імху.

— Трэба як-небудзь меркавацца.

Так і жылі: меркаваліся і жылі на падзеленых надзелах. Толькі Карпусь канцавы ды Ярэма з Аўласам—суседзі—ганарыліся шырокімі палосамі. Да іх любіў далучацца Пракоп.

— Няхай сабе ў мяне і ня поўны надзел,—пад п‘яную руку часамі казаў Пракоп,—але-ж я, гэнам, не пазычаю хлеба.

— Што, мо‘ скажаш пазычаю?

— Не, не...—упрашваў яго той, да каго ён прыставаў, на каго глядзеў ён вачыма недаверлівасьці.

* * *

Яўгень чалавек мяккай натуры. Вельмі-ж спакойны. Па ім—што хочаш, абы не зайшло за жывое. Абы не зачапілі яго чалавечага „я“. Яўгень у сваёй натуры роўны, як струна. Ён ня тое, што як у другога злосьць,—не пасьпееш запаліць запалку. Быстрая такая. Ён вельмі-ж з меркаваньнем і ва ўсякай справе. Хоць стары Пракоп і кажа на яго гэтае „меркаваньне“—„спрыту ў цябе, нябож, няма, вёрткасьці“—Яўгень ня крыўдуе на бацьку. На такіх роўнамерных людзей Пракоп кажа:

— Як мокрае гарыць: ні з павароту, ні з языка.

Яўгень нявысокага росту, але зьвязлы такі, карчукаваты, шырокаплечы. Блакітныя маленькія вочы. На губах—невялічкія, тупа завітыя, русыя востраканечныя вусікі. Ён іх накручвае, хоць і марудна ўзяць іх кончыкі ў два пальцы. Яўгень поўны з твару. На пераносьсі на самай седлавіне яго, рассыпаны кроплі, як на цецяруковым яйку, кроплі рабаціньня.

Любіць Яўгень прасторную вопратку. У яго—каб прымеў ён—кашуля не павінна нідзе датыкацца. Рукавы павінны быць без манкетаў. Каўнер—на штрыфлях.

Есьці любіць Яўгень, як і яго бацька, кіслую капусту, буракі. Рэдзьку з цёртым пер‘ем цыбулі. Хрэн. Картофлю ў „мундзярох“. Піць любіць бярозавы кіслы сок і хлебны квас. Мо‘ затым і дужы Яўгень, што любіць усё кіслае. Невядома. Яўгеняў бацька кажа:

— У кіслаце, у горачы—сіла і моц. Ня ўсякі любіць горач і кіслату, ня ўсякі мае моц—сілу.

Яўгень можа чытаць цэлымі словамі друкаванае і сьлібізуючы—пісанае. Сам як быў малы, ахвоту меў, „праз сябе“ наўчыўся. Неяк хадзіў быў каробачнік, дык здачы ня было ў каробачніка за куплены бацькам ножык-сьцізорык... Дык бацька сказаў:

— Дай хоць чым здачу. Мо‘ што для хлапца ёсьць такое?

І каробачнік даў „Рускую азбуку“. З яе і навучыўся. І, як знайшоў, усёроўна.

Пасьля вельмі-ж любіў чытаць дзесяцікапеечныя кніжкі. Абы на кірмаш,—што-б там ні было, а купіць. Прачытаў „Бову королевича“, „Конька-горбунька“, „Дедушкин колпак“. Прачытаў „Историю одного ребенка“,—пераклад з ангельскага Альфонса Додэ. А цяпер, калі вырас, калі „зьявіліся газэты“, найбольш газэту чытаў. Таксама з канца ў канец прачытваў, якія толькі былі, дадаткі да гэтай газэты. Цераз газэту першы раз і даведаўся аб калектыве, аб камуне, аб гэтым гуртавым жыцьці. А тут Аніська якраз навёрзься: прышоў з Чырвонай службы. Аніська сфармаваў, прывёў да парадку тое, аб чым даведаўся Яўгень праз газэту і чаго ня мог угрунтаваць сваім розумам.

Неяк перад Парашчыным вясельлем Яўгень бацьку свайму сказаў пра калектыў. Выказаў сваю думку; думаў, бацька сустрэне яе ахвотна „Усёроўна-ж старому,—разважаў.—Я-ж хутка буду такім самым гаспада-

ром. І нават на мне будзе лічыцца гаспадарка. Калі падатак ці сьпіскі якія з сельсавету, дык не на „Пракопа Бурцеліка“ будзе пісацца, а на „Яўгеня Бурцеліка“. Так што бацька стары“...

Але стары аж пачырванеў ад злосьці. З кулакамі, з пакамечанымі, кінуўся да Яўгеня:

— Пасьля маёй сьмерці, гэнам... хоць галаву зьвернеш з карку! Хоць у тры пагібелі, сабе, скруціш сваю галаву! Пасьля маёй сьмерці, сукін сын! Я цябе скалякціўлю, я цябе вон выганю! Есьці ня дам! Мая гаспадарка! Мая! Чуеш? Што хачу, тое і раблю над сваёю гаспадаркаю! Разумееш? А можа я перавярну дагары нагамі маю гаспадарку і нават нічога ня дам? Ня дам! Вот-жа ня дам! Басячыць ідзі.—Гад!

Яўген маўчаў. Ён ведаў бацькаву раптоўнасьць. „Лепей змаўчаць. А то—чым далей у лес, тым болей дроў“. Яўгень ведаў, што хутка пройдзе пыл бацькавай злосьці. І сапраўды: цераз гадзіну напружанай маўклівасьці Пракоп казаў. Стаяў каля стала, глядзеў на гурт выпушчаных Параскаю з падпечку курэй і казаў:

— Бачыш, як сьпяшаюцца. Кожная сама сабе. Так і ў каляктыву ў тваім—адзін цераз другога будзе хапаць... каб пад‘есьці. А рабіць, як бог даў. Есьці ўсякі зможа.

— Прычым-жа тут тое, што яны сьпяшаюцца,—абазваўся Яўгень на астываючы голас бацькі.—Гэта-ж, можна сказаць, птушка, жывёліна. Нашто-ж меркаваць яе неразумную да чалавека?

— Ты вельмі розуму, гэнам, набраўся. Анісь цябе давядзе, давучыць. Усе вы, ліха вашай матары, разумныя на бацькавай шыі!—сказаў і вышаў з хаты. Выходзячы, хацеў бразнуць дзьвярыма, але запаў сьлясак у дзьвярах; Пракоп, тармосячы яго, прытрымаў дзьверы. Так, што размах дзьвярэй адыйшоў дарэмна, звалтужыўся, расьціснуўся бяз груку.

Пасьля неаднойчай гутаркі пра каляктыў, пасьля таго, як Параска пайшла замуж, хутка пасьля Яўгенявай жаніцьбы, будучы ў кузьні каваля Атрахіма, казаў Пракоп:

— Мой Яўгень,—адыхтар уся матка. Але-ж усе кропелькі, гэнам, пазьбіраў. Таей-жа бывала хто што скажа—яна і згодна, яна і слухае. Верыць. Тут, гэнам, патрэбна людзей слухаць і патрэбна свой розум мець, а ня то што. А то мужчына, мужчына... Які з майго Яўгеня мужчына. Ажаніўся і тое, можна сказаць, цераз мяне. Каб ня я, дык слова ня мог-бы абярнуць. Цялё самалёўскае.

Калі Пракоп вінаваціць Яўгеня ў яго спакойнай натуры, дык не вінаваціць за жвавую натуру, за натуру—„сюд-туд“ свайго Гіляра. Таму і любіць Пракоп больш Гіляра. чымся Яўгеня. Так ужо мусіць спрадвеку яно: кожны любіць больш тое, чаго больш „свайго“ знаходзіць у гэтым „тым“. Гіляру зазлаваць—таксама, як і запаліць запалку. Але як запалка хутка згарвае, так хутка праходзіць і тухне яго гэтая злосьць. А што лепей—ці вострасьць характару, ці павольнасьць,—невядома. Мо‘ першае, а мо‘ і другое. Бадай што абодвы карысныя і адзін для другога. Бо:

— Пракопава рухавасьць была аднойчы вінавата. Затое Яўгенява павольнасьць цераз гэтае „вінавата“ дасягнула сваёй мэты. Бывае-ж так: дробязь, а вырашыць цэлую справу. Разблытае часамі ніколі не разблытванае, непадатлівае. Разьвяжа—зусім выпрастае канцы. Так што бяры толькі ў рукі гэтыя канцы, глядзі на іх і дзівіся.

## IV

Санная дарога яшчэ трымалася, але ледзь-ледзь. У лесе была нават дабраватая. Сьлізгавата толькі. Але на чатыры нагі кутыя коні не баяліся.

Яўгень траляваў шныпры.

Яго конь быў куты на перад, але дарма. Конь не востракапыты. Ды насякаючы перадам, ня так-то сьлізгаўся.

Быў нявыбеленага зрэб‘я дзень. Пражаным бобам на скаварадзе— было неба. Пахла вільгацьцю ў паветры. Пахла сырнягом хвоі ды елкі. Лес маўчаў. Здавалася, думаў нешта лес. Даўнейшае, глыбокае думаў. Так было з ранку.

А з паўдня:

Хмарная плянка, што засланяла блакітную глыбіню неба, то сям, то там разьдзіралася па цэламу, матлялася выбрызганымі абы якімі кавалкамі, зьяжджала на вастрыё кругавіду, чаплялася на верхавінах лесу, блыталася ў гальлі і—нікла... Ніклі адзін за другім, невядома дзе дзяваліся, яе смугалістыя кавалкі. Нават нейкі шум, адсюль-адтуль, пачаў зьбірацца, прабівацца скрозь зялёнае гальлё хвой: недзе цвыркаў верабей, барабаніў сук на гальлі,—падаючы далоў, зьбіў засеўшую па восені шышку. А над верхавінамі лесу закаркала адна, другая вароны.

І нeяк аж весела стала ў Яўгеня на сэрцы. Ён цёнгле маўклівы, абыякавы, седзячы цяпер на возе, на шныпрох, замармытаў-запеў:

> Дзе ты, хмелю, зімаваў,
> Што ні разьвіва-аўся?
> Дзе ты, хмелю, зімаваў,
> Што ні разьвіваўся...

Конь лопаў заднімі капытамі-кубкамі аб залядзянеўшы сьнег, ішоў лёгкім вольным крокам. Шына саней церла ледзяшы ў соты раз на дробны парашок і аж да таласьці, да вады.

Яўгень, от гэтак седзячы на возе, вывозячы на гасьцінец шныпры, перадумаў за цэлы дзень цэлую гару. Во колькі прамільгацела, прабегла думак ў яго галаве. І рознага калібру. Найбольш мерана адкладаліся думкі сартырованымі пластамі пра сваё жыцьцё, пра яго нядаўную жаніцьбу.

Толькі што Яўген разважаў:

— Яна такая добрая! Яна о-то ўжо мяне шкадуе! Калі дзе едзеш ці ідзеш,—„Яўгенька, бяры-ж ты хлеб з сабою. Глядзі-ж ты, каб ня быў галодны“.

— Хаця-ж, каб ня быў...—сморгаючы за лейчыну, адводзячы яе ў бок ды спушчаючы па конскіх скабах, бяз ноканьня, разважаў Яўгень.—Мая ты Макрынка...

Думаў далей, едучы, сам сабе:

— Мо' яна і не такая, думалася, як браў. А прывык—зусім другое ў галаву тышчыцца. От што яно значыць... прывычка. У прывычцы яно, чалавек толькі добрае знаходзіць. А дрэннае—губляецца. Сьціраецца добрым, як пыл сухою фанцінкаю. А яно-ж, як ні кажы сабе, у кожнага чалавека, а якая-небудзь ёсьцека вада.

— Правей!—крычаў насустрэчу яму Анісь.—А то ўчапіцца можна.

Яўгень разьмінуўся з Анісем.

І так кожны чалавек з сваімі думкамі: пакуль ня стрывожыць што іх, плывуць яны аднатонна, як асеньнія хмары. Плывуць, перабягаючы часам, забягаючы, выпярэджваючы адна другую. Датуль плывуць, пакуль вецер, ці што, не завернецца, не затрымае, не разадзьме іх ва ўсе бакі. Так плылі думкі ў Яўгеня. Яны былі—пачыналі з канца, міналі сярэдзіну, ішлі-заходзілі далёка-далёка... І зноў варочаліся і—усё па аднэй сьцежцы.

А калі гэтае „што“ напаткала іх, калі праехаў Анісь, Яўгень пра яго пачаў разважаць. І так цёнгле: самі зьмяняліся Яўгеневы думкі ў яго аднастайнай натуры. Яўгень разважаў цяпер:

— Хітры чалавек. Малайчына.

Конь ішоў на павароце, а ён:

— Хоць хітры, ды разумнага не тасуецца, кажа мой бацька, але-ж ...ён і розум, як сабе ні было-б,—мае. З нічога, а паглядзі ты, як абжыўся. Адзін з жонкаю, дзеці, як боб, а і ў заработках і дома... Спраўляецца. Зямлі—як старой бабе сесьці...

— Эх, каб ня бацька... Добра кажа Анісь. Сам гэта пачынаю разумець. Але што ты зробіш з старым... Ды калі чалавек уляпіць у што... Мой ты бацечка... Анісь у паблуд ня скажа,—далей і далей у сваіх думках.—Гуртам працаваць ня тое, што аднаму пэцкацца, марудзіць. Як сабе ні кажы, што сабе ні кажы—гурт. Ды калі, скажам, у цябе будуць малыя дзеці... Тады сілу сваю ўсю паложыш. Як на далонь, вылажыш сілу ды выкінеш за вакно бяз дай рацы. Не разагнеш рук ніколі. Закажаняеш. Ні табе на хвіліну адхланьня ня будзе, ні табе... Што значыць, як бы сабе ні было, гурт!

— Н-но!

— „Гуртам і ў кашы спорна“. Што гутарыць: калі-б горай яно, не марочылі-б людзям галоў. Людзі ёсьць больш разумнейшыя за нас. Не казалі-б у газэтах-бы, яно, ня пісалі... Ім-жа, як той казаў, усёроўна. Што ім ад гэтага—холадна ці горача? Яны толькі дабра хочуць, от што.

І сам сабе глыбей у сваіх думках:

— Як будуць у мяне дзеці, ці спраўлюся я, ці не? Цікава, якія будуць у мяне дзеці... І напэўна, калі цераз кожны год будуць і будуць, як

у майго дзядзькі Ціта, ня спраўлюся мусіць. Гэта добра, што бацька мой крапок:—шмат чаго памагае, хоць сабе і каля дому...

— Н-но!—пагнаў каня. Нібы засароміўся сам перад сабою, перад сваімі разважаньнямі аб дзецях. І от гэты патаемны сорам перайшоў у радасьць, зьліўся ў адзін камяк з мядзяна-срабрыстым днём, аблітым, працёршым з-за хмар свае заспаныя вочы, нізка апаўшым сонцам. Таму і запеў Яўгень і пеў, што раз вышэй і вышэй падымаючы голас:

А ў лесе зімаваў,
Ў лесе на тычы-ыне.
Ў лесе, ў лесе на тычыне,
На самай вяршыне.
. . . . . . . . . .

...А конь яго пярэднімі капытамі сваімі сек абледзянеўшы сьнег аж наскрозь, аж да мокрай зямлі.

* * *

Цэлую раніцу, як паехаў Яўгень у лес, Пракоп замінаў каля печы. Ён то вымаў, то ізноў укладаў у печ бярозавыя патарчакі—парыў вязы. Ён наліваў ваду ў выдзяўбаныя ў іх карытцы і грэў іх каля жару, з боку, ад самага поту. Макрына моршчылася, што замінае сьвёкар—не дае варыцца, гатавацца гаршкам. Спатайка гэтак кідала сваё нездавальненьне.

А потым—цэлы дзень амаль, што загінаў параныя чаўнакі Пракоп на капылы новых саней. На дварэ была гэтая праца, бо там ёсьць дзе разгарнуць рукі.

Макрына ў гэты дзень мыла бялізну.

Сонца, як і Яўгеню ў лесе, пырскала-рассыпала Пракопу на дварэ свае праменьні, нібы хтось шпурляў з ветрам жмені залацістае пшаніцызімкі.

Пракоп увайшоў у хату. Стоячы ад парога на тры крокі, шырока раўнамерна расставіўшы свае ногі—нібы зьбіраючыся штосьці цяжкое падпіраць, якое во-во павінна было рушыцца—скручваючы ў газэтную паперу калівы пражана-жаўтаватых жылак, сказаў да Макрыны:

— Кінь мыць—ідзі: паможаш зрэзаць сечкі.

І, запаліўшы сярнічку, адтапырваючы вусы, каб не прыпаліць іх, прыкурыўшы:

— А то прыедзе з лесу намерзшыся... Дык ты-ж ідзі... Я пайду скідаць акалот.

Вышаў з хаты, выпускаючы рэдкія пасмы мысьлінавага дыму.

На дварэ млеў, плакаў буйнымі кроплямі прэснай вады, на падабенства падмокшага цукру, руды сьнег. Певень недзе на суседнім дворы лапатаў крыльлямі, як падстрэленая качка на тоні. А цераз момант певень закукарэкаў. Куры гаманілі паміж сабою, разграбаючы конскі памёт. Яны былі глыбока затакованы сваімі справамі. Кожная з іх шукала нечага.. Грэбла капцюрамі, выпучваючы ўперад напоўнены валяк, глядзела

перад сабою асавелымі вачыма, і тады ізноў шукала, апускаючы дзюбу ў разбэрсаную кучу.

— А-кы-ышш, каб вас на раду...—махнуў рукою, бяз дай рацы, пералазячы цераз паркан. Куры стасаваліся, як малодкі-карты, а Пракоп пайшой цяжкою важыстаю паходкаю да андрыны. Ідучы, кідаў паабапал свой зірк—нібы направа і налева садзіў-вытыкаў дарогу—сьлед для часу вялікіх сьнежных заносаў. Пракоп разважаў:

— У гэтым годзе шмат было сьнегу—ураджай павінен быць, трава павінна быць. Прошлы год, быў, даўся ў знакі: ніколі ня было таго, каб купляць сена, купляць акалот.

І ўжо ў андрыне, скідаючы з падкладышоў снапы акалоту, саўсім пра другое:

— Дзе-ж яна?.. Чаму ня ідзе яна?

Хоць і ня бавілася Макрына, а думаў чамусьці. Бо не пасьпеў скінуць снапоў, як увайшла ў андрыну.

— Складай-жа іх, гэнам, каля сячкарні...—сказаў, злазячы. Лепш, зручней было-б, каб падаваць...

І ён пачаў класьці ў карытца пруткую салому—раўнамерна рассоўваючы яе, запіхаючы яе колкія канцы ў зубы цыліндраў.

Макрына круціла пасавае кола. Рамы яго зьліваліся ў рэдкую сетку, белую такую, квашаністую. Было відаць Макрыне цераз гэтую сетку, як нагінаўся Пракоп—лавіў ручку чыгуннага колца—памагаў круціць аднэй рукою, трымаючы ў карытцы другою спрунжыністую салому. Нажы хапалі за канцы сплюснутай цыліндрамі саломы, адразу адсякалі іх раз за разам: густа-востра. Але от цішэй пайшло пасавое кола. Пракоп пачуў, як засаплася Макрына. Гэтым часам ня была раўна разьмешчана салома ў карытцы, і Пракоп сказаў, выпускаючы корбу з сваёй рукі:

— Аддыхні... Перасапніся, нябож. Цяжка рэжа, каб яе на раду ня было.

І Макрына абвяла кругом—раз, другі раз дзеравяную ручку корбы. Сечкі набегла повен жалабок. Нагнулася адгарнуць, каб нажы не хапілі назад. А Пракоп прырыхтаваў да карытца сьвежы сноп.

Разьвязваючы перавясла, кладучы ў карытца, глянуў на зардзеўшы ружавізнаю твар Макрыны. Пусьціў у доўгія вусы ўсьмешку, схаваў яе там недзе далёка, далёка ў гушчары валасоў. І не адрываючы зірку ад яе расістых, поўных крамяных, выступіўшых на сьпелых яблычных скронях, кропель поту,—сказаў павольным голасам:

— Ну, як ты з Яўгеням...—адкрыта ўсьміхнуўся, упэўнена кажучы.—да душы ён табе... Прывыкла ты да яго?.. бо ён такі ў мяне—целегаваты...

Гладзячы рукою, раз-по-разу, скурчанае перавясла, прыціскаючы канцы яго пад латачок—ня спускаў зірку.

І яе скроні больш і больш разьдзьмухаў яго, гэты зірк, распальваў густы тлеючы жар. Тады залівала яна гэты жар апушчанымі вачыма,

навесіўшы на іх выбрызганую чорную фіранку валасатых век. Ня ведала, што адказаць, як адказаць яму на такую раптоўнасьць, на такі пэнт.

А ў ім заварушылася нешта даўнейшае, маладое. Выплыла аднекуль капля гарачай-іскрыстай крыві. Разьбеглася па ўсім целе. Нібы паходні то сям, то там запаліла-лупнула. Ударыла ў твар усім напорам. Запеніла, узбунтавала... Яшчэ і яшчэ шыбчэй пачала біцца—горача стала. Тады нахлынула нейкая млявая асалода, найшло забыцьцё...

Яна адгортвала нагою дробную сечку, глядзела на яе сплюснутыя плоскія ўсечаныя калівы.

— Ты кажы мне... калі што,—сказаў напружаным голасам, ступіў ад карытца скрадзеным крокам.—Мо, што такое... бывае-ж такое.., Бо я гляджу—а ты, бывае, як ні ў сім ні ў тым, як не свая...

— Нічога, татка...—сказала-абазвалася,—Яўгень добры для мяне...—не хацела зразумець. І ізноў адгортвала блішчустыя калівы сечкі.

— Ня ў гэтым сіла, што добры... дурная ты...—сказаў кранёным голасам.—А бывае тое, што і дрэнны. Добры і дрэнны, вось як яно.

І падыйшоўшы, нібы адграбаючы, адгрэбеную сечку:

— Калі што-о... якое-ты да мяне... Я яго, машэньніка, сукінага сына...—узяўся за яе сваімі нязграбнымі пальцамі. Так моцна ўзяўся...

Атрапянела Макрына ад раптоўнасьці. Як слуп, стаяла, не разумела, ня бачыла дробнай блішчустай сплюснутай сечкі. Крануў сваімі вусамі, густымі доўгімі, яе тонкія, маладыя, ружова-млечныя вусны. Апамяталася. Хацела з усяе сілы адштурхнуць.

— Та-амм-ат-ка...—вырваўся крык з-пад яго вуснаў, абдаўшы іх жоралам агню.

Выбегла з андрыны.

## V

Яўгень атрымаў з сельсавету паведамленьне-паперку. На ёй было на версе напісана і падкрэсьлена: „Бродаўскаму члену т. Бурцеліку Я. П“

А ніжэй крышку і лявей пачыналася:

„Сельсавет паведамляе вас, што 17/IV г/г., роўна а 9-й гадзіне вечара, адбудзецца на вашым насельным пункце сход. Вам патрэбна апавясьціць усіх гр. вашага пункту.

Яўка на сход абавязкова і без спазьненьня.

На чарзе дню будзе стаяць пытаньне колектывізацыі і бягучыя справы.

Старшыня с/с *Патапчык*“.

Яшчэ раз прачытаў паперку. Нешта радаснае адчуў. Несьвядомае а радаснае.

А ў думках чамусьці зьявілася і прайшло, як для паказу, „дзеці... Калі шмат дзяцей—добра, але-ж і дрэнна...“—І зноў прачытаў, з невядомаю радасьцю, апошнія словы.

Бацька сядзеў каля стала. Меркаваў скурат да пераплеценага лапця. Глядзеў, як прыладзіць яго, падшыць. Потым пачаў працягваць доўгую тонкую аборку. І от ад першага разу неяк засмаргнулася яна. Тады пачаў блытацца. Падскочыла злосьць, як конік-пстрыкун, што замарудзіў. А Яўгень пад гэта, трымаючы ў руках паперу:

— Калактыў будзем рабіць. Прыедуць сёньня з сельсавету, а ня то што.

Пракоп разблытаў аборку. Глянуў на сына. Потым глянуў на пераплецены лапаць. Потым ізноў паглядзеў на Яўгеня і застанавіў свой зірк на яго чакаючым твары.

— Ну, то што ты мне штотокаеш?—сказаў Пракоп.—Што ты гэтым мне хочаш сказаць?

— Нічога. Я толькі кажу...

— Мне не патрэбны твае казалы. Раз я сказаў, сказана! Я гаспадар, ці ты?

— Ну, дык што?

— Пакуль я гаспадар, каб мне па гэты раз гэтыя казалы. Мой бацька ня еў з катла і мне не вялеў. Няхай гультаі, абібокі выціраюць халадкі, а я працаваў сам сабе і ты павінен працаваць. Так што можна абыйсьціся і бяз лындыкаў [1]).

І бяручы з стала лапаць, нібы-то ён, лапаць, меў тут больш павагі, чымся сынавы словы:

— Пра гэтую камуну, яшчэ ў першую слабоду адурылі галаву. А цяпер Аніс параядае ёю вантробы-печані...

— Не камуну, а калактыў,—паправіў Яўгень.

— „Ня кіем, дык паленам“—упікнуў бацька.—Ня ўсёроўна лысы чорт.

— Іменна што ня ўсёроўна.

Тады Пракоп, моцна палажыўшы наводліў, з левай рукі, на лаву, лапаць:

— Змоўч лепей! Не расьсярчай мяне! От ім што: от гэткую ім, вялікую, вя-а-лікую дулю... аж пад самы нос тваім сельсаветчыкам, разам з тваім Анісем.

— Якія гэта яны мае...—сказаў Яўгень.—Гэткія яны і вашыя, як і мае. Я толькі кажу... Прычым тут Аніс?

— Глупства не патрэбна казаць. Табе гэты Аніс сваім калактывам адхланьня не дае. А яшчэ і ў савеце набілі галаву, як мяшок амяляньнем, дык ты і чаўпеш чорт ведае што! Хто ўжо з Анісем увойдзе ў гішэфт—будзе чалавек з таго:—выйдзе анціхрыстам, недавяркам, бязбожнікам. Ён-жа ніколі не перахрысьціцца, табе, пад заклад. Папытайся ты ў яго, калі ён у царкве быў? Дык ты думаеш з гэтага людзі будуць?— Ён ужо сваю душу запрадаў чорту...

— Кіньце, татка, даўнейшыя забабоны...—хацеў сказаць. Але з сянец пазвала Макрына і перашкодзіла ў спрэчцы:

---

[1]) Лындыкі—(лындыкі біць)—гультаяваць, нічога не рабіць.

— Яўгень... Яўгенька,—сказала Макрына,—ідзі загані ў хлеў сьвіньне.— І ён вышаў, ненаўмысьле бразнуўшы моцна дзьвярыма.

— Яны пад'елі ўжо,—сказала, калі вышаў, — так толькі абціраюцца каля платоў. Ідзі, а то пабягуць на вуліцу. Тады набегаешся за імі. Яны-ж, як чортам падшытыя.

Яўгень загнаў сьвіньне і не заходзіў у хату: пайшоў загадваць на сход.

Сутоньвалася. Дзе-ні-дзе запальваліся агні. Вострыя, тугія агні. То сям, то там сьвяціліся, скрозь зьмярканьне, як гарачыя параскіданыя вуглі. Стаўшы за Бродам, на ўзгорку, і кінуўшы зірк навакол—перад такім вечарам—хараство з усяго сабранага дню залівала вочы. Брод тануў у разгатых, во-во покнуўшых смалістых пупышках кляноў. Спрадвечных кляноў, ліп, дубоў. Пахла іх смалістая каша. Тут, наўкол балота аддавала сьвежасьцю расьцьвітаючых вясеньніх першых вечароў. А там за балотам, на яго каржакаватых дрэвах, аж на самым вастрыю кругавіду, спадалі чырваньню падфарбаваныя, наўмысьле, хмары. Яны спадалі за край кругавіду, упіраліся ў верхавіны, чапляліся за дробнае балацянае гальлё.

Прыслухаўшыся, можна было пацуць у гэты вечар: тысячу скрыжаваных, адзін цераз другі, гукаў. Тады невядома было, які з іх паперадзе слухаць, лавіць, песьціць ім сваё прастыўшае—у зімнясьнежных нарывах холаду—чуцьцё. Шпок... гэтая ладная, чорненькая, з доўгаю дзюбкаю птушачка, седзячы на самым вяршку векавечнага дубу—колькі нясе славы жыцьцю сваім століадным пералівам! Як льлецца, як пераліваецца па ўсім Бродзе, па яго маўлівых, заспаных пасьля сьнегу палёх, як коціцца перш ціхім, а потым узрастаючым вышэй і вышэй рэхам, аж на махавое балота, на зацьвіўшую цяцярукаватым чарнагаловым смычайку, яго пераборыстая песьня! Колькі... колькі жвавасьці ў гэтай чорненькай птушачкі. А жукі... якім шчокатам мляваць вуха майскія жукі, як быстра кілзаюць яны застоенае паветра, уздымаюць яго спакой на дыбы, на ўзьюшаны лямант. Узад і ўперад, узад і ўперад... Каб, здаецца, рабілі яны аснову, каб пакідалі за сваім лётам маленькую хоць найцянюткую павуціну—зблыталі-б... збэрсаным быў-бы ўвесь сьвет дашчэнту. Усё было-б заткана ў густую тонкую абалонку і мітусілася-б там, мітусілася-б, кішэла...

Стоячы на ўзгорку, за Бродам, яшчэ можна было-б пачуць — прыслухаўшыся добра—невядомыя гукі ад нябачных чалавечым вокам у атуляючай імгле істот, сьпевы зямлі. Яна такая чорна-чорная пасьля белага сьнегу! Яна такая мяккая, набрэнкшая, жывая. Во-во, здаецца, яе гукі ператворацца ў голас і загамоніць яна, вечна-маўклівая... пачне апавядаць пра цэлыя вякі мінуўшчыны. О, колькі ведае, чаго ведае кожная пядзя зямлі! Кожная пядзя, чорная, жывая, дыхае сьвежасьцю. Ляжыць, раскінуўшы свае прасторныя грудзі і дыхае поўнымі імі, жывымі. Прыслухаўшыся, можна-б пачуць у невядомых гуках новыя сьпевы... сьпевы радасьці пасьля адвечнага гора і сьлёз.

Калі Яўгень ішоў па вуліцы, неба было на захадзе падабранае зборыстаю фіранкаю ружаватай хмары. А на ўсходзе, з цёмнага прадоньня яго, нырцом выплывалі па аднэй зоры. Выплываючы, зоры ўціраліся сваімі калматымі лапкамі-міргамі. Прыгледзеўшыся лепей, яны былі падобны на чыста выпаласканыя, расплясканыя цяжкім абухам малатка плешкі цалёвых цьвякоў. Туга-туга былі ўвагнаныя яны ў падшытую столь чорнага неба.

Было во-як ціха! Быў ярка чуваць Яўгенеў голас. Падыходзячы да штакет, што адзялялі вокны бродаўцаў, Яўгень загадваў:

— На сход да Міхалкі! На схо-од!

— А што за сход?

— Хто прыедзе?

— З раёну ці толькі з савету?

Яўгень адказваў:

— Ідзеце, убачыце. Якія цікавыя. Хочаш, каб, седзячы на печы, усё ведаць

— На схо-од!

А сам у сваіх думках:

— Ото-ж забалабосьцяць, загамоняць нашы вучасьнікі. Ім самае слова калактыў—кож у сэрца, ражон у горла. Яны, каб прымелі—Анісяя гэтага расьпятушылі-б. Во-то ўжо даўся ён ім у знакі! Тры якія-небудзь гаспадары, з бацькам, чацьвертым на прыпражку, і хочуць, табе, усім правам завалодаць. Хочуць, каб на іх вуліцы быў кірмаш.

Ішоў ад аднае хаты да другой. Пад нагамі была мяккая, упрасаваная, вільготная зямля. Ззаду віхлела Лаўрэнава Нэрка.

— Пайшла вон, каб цябе...—абярнуўшыся, ляпнуў далоньню па штанох.

— На схо-од...—адбівалася на агародах рэха, чаплялася, здаецца, за зломаную абягайку віславухага месяца, павіслую над балотам.

## VI

Макрына выбегла з андрыны, як аблітая жарам. Яна ня ведала, дзе дзець вочы, як сустрэцца з чалавекам. Ёй здавалася, усе ведаюць, усе, з кім сустракаецца, знаюць.

— Што ён надумаўся... што-о,—шапталі вусны, гарэлі сорамам вочы.—Што мне рабіць?

І думка пішчаніцаю лезла, вярзлася, не адыходзіла ані на крок, не давала збыту, адхланьня:

— Ці сказаць Яўгеню?.. Што будзе з гэтага, калі скажу? Што будзе ён рабіць?—Усё-ж такі бацька, як-бы яно, сабе, ні было.

Во, як тасаваліся думкі.

Да вечара не сустракалася з сьвёкрам у вочы, не находзіла на яго—старалася знайсьці такую работу і ўсё думала:

— Сказаць, ці не?—сказаць, сказаць... Скажу і няхай, як хочуць... Мне ўсёроўна... Што ён надумаў... Чаго ён, ах, чаго—прычапіўся ён!—

Старызна... Абы прыехаў з лесу, скажу; так і скажу: „Зьдзяцінеў на старасьць... от што!“

А Пракоп увесь быў праняты потам. Як выбегла з андрыны, набіраў у шаснастку сечку. Гарнуў яе срэбныя калівы і пад густым лесам вусоў:

— От да чаго падшыхнула... каб цябе агонь. Дурная шэльма, як бот. То-то была мая маладосьць... каб цябе, гэнам, пярун!..

Дзесяты год, як памерла Пракопава жонка. Ішоў тады пяцьдзесят сёмы год. Думаў другі раз ажаніцца. Сыны не дазволілі. Гіляр казаў:

— Астанёмся мы ні пры сём, ні пры том. Людзям насьмешка. Да чаго яно гэта?

Так і абыграў.

Потым па вёсцы хадзілі чуткі, афарбованыя ў сяміцьвет: Юзічыха казала Антосявай нявестцы, Антосява нявестка старой Лаўрэнісе, Лаўрэніха Юстыне, а Юстына прыпаміналa:

— А-гга! Дык вось калі я здагадалася!—а-гга! Бо я-то думаю сабе аніяк у галаву не вазьму, дык во-ось яно што-о...

І ўжо на заўтра, зусім упэўнена з узьнятым аж з самага дна захапленьнем:

— А сястрыца мая, а міленькая...—падпёршы пальцам шчаку, локаць паставіўшы на мякаць далоні другой рукі,—дык я вышла гэтак на цямочку.., а мая-ж ты залаценькая!—Дык ён, падла старая... цялёп, цялёп цераз Матруніна гумно, цераз яе засаўкі...

Паладзі казала Юстына, што ішоў Пракоп. На самым на цямочку, як толькі зарэла.

— Дык я ўсё адразу і прыпомніла: выйдзеш, бывала, гэтак на двор на цямочку, а нешта—мільгець!—але-ж як маланкаю спаліць. Дык вось яно што...

— Цьфу! паскудніца,—расьцірала Паладзя нагою не даляцеўшую да зямлі сьліну.—Нечаму і яна варта. Каб ты ня вытрымала, як ты ня можаш вытрымаць. Ці даўно-ж тут што было,—абыраўшым голасам казала Паладзя,—ён-жа яшчэ не пасьпеў астыць. На іспасе два гады, ці што, як памёр. Цьфу!

— Дай-жа ты рады! Дык ён гэтак увагнуўшы галаву, увабраўшы яе ў плечы, як мядзьведзь—дзэб... дзэб, а я, як — акхакну, як кашляну... Дык ён як пойдзе, дык мяне аж сьмех разьбірае.

— Кавалер, каб цябе агонь спаліў,—сказала Паладзя.—Каб цябе немач абкавалерыла! Кныр стары.

Пасьля гутаркі з Юстынаю Паладзя спатайка казала Рыпіне:

— Нікому-ж толькі не кажы:—уга, ці цяперсе ён ходзіць. Яна-ж ужо грубая. Як мае быць, што, ты ня бачыш?—гэта-ж аж на нос прэ!

Рыпіна перапыняла Паладзю:

— Дык як-жа гэта будзе? Што-ж гэта ён сабе думае? Іліменты ён бузе ёй аплачываць, ці што?

„А я ўжо ня ведаю“,—хацела сказаць Паладзя. Але не сказала. Не хацела паказаць сябе няведаючаю. Захацела ‘шчэ больш зьдзівіць суседку:

— А ён жаніцца думае...— сказала, папраўляючы валасы за хустку, пацягнуўшы за рагі хусткі, каб тужэй трымалася.—Што яму абыходзіць... Якая трасца.

Цераз дзень данесьлі Пракопу. Яго сустрэў на вуліцы Арцём Мікалайчык.

— Дзядзька... што гэта я чуў:—жаніцца зьбіраешся на Матруне, ці што? На другі век пайшоў?

Пракоп вытрашчыў вочы. Тады Арцём расказаў чуткі. Сказаў, што казала Рыпына. Пайшоў Пракоп да Рыпіны. Тая паслала да Паладзі, Паладзя злажыла ўсё на Юстыну. Юстына сказала, што-о...

— Ды няма чаго таіцца. А што-ж бок і ня праўда, ня ішоў?—Э-э-э... Няма чаго жмурыць вока перад праўдаю. Э-э-э э...

Але Пракоп не за гэтым жмурыў вока. Юстына не зразумела гэтага прыжмурваньня. Каб ня ўхілілася, не пасьпела—во, як заехаў-бы Пракоп за доўгі язык.

— Сука,—абазваў.—Ліха тваёй матары! Пачы на цябе няма, немачы...

Моцна бразнуў дзьвярыма. На вуліцы ўжо, ідучы дадому:

— О-то-бок уелася ў косьці! Пранцы шарыя. Заўшніца, гэнам. Брыда, язычніца гэнам

Але... мала што выдумаюць бабы. Чаго толькі ня зложаць. З белага могуць зрабіць чорнае. З мышы могуць зрабіць сланя. Ёсьць такія ў кожнай вёсцы. Уродзіцца такі чалавек, такім і памрэ. Ніхто такога чалавека ня справіць.

От так і сьвярбіць язык, аж да прышчыкаў, маленькіх чырвоненькіх, як брушніца, от так і рупіць ён у такіх людзей. Магнэсам цягне штонебудзь сказаць. Абы што сказаць. Хоць каб на тую хвіліну, а зьдзівіць сьвет.

Ужо добра зьмяркалася, як прыехаў з лесу Яўгень. Вясёлым такім быў, гаварлівым.

— На колькі-ж натраляваў?—калі селі вячэраць, спытаўся бацька.

— На тры, семдзесят пяць...—адказаў, нясучы лыжку.—Папаліся нейкія такія лёгкія... пад рукамі. Толькі спраўляйся, вазі.

Макрына выліла ў міску астачу з пабеленага чыгунчыка. Выліваючы, кінула рэжучым зіркам на старога:—„і ні лыс“.

— Скажу,—шаптала недзе ў глыбіні яе нутра.—Як ляжам спаць, так і скажу.—Ізноў глянула на старога. Нават пратрымала свой зірк цэлы момант. Убачыла:—як і трэба, рысы твару. Падстрыжаная роўна цёмнарусая барада. Дзе-ні-дзе асыпана іністым срэбрам.

Чэрпала раз-по-разу лыжкаю ў паліванай місцы, кідала скрадзеныя ад сябе, зіркі і зноў бачыла:

Больш сьвятлейшыя за цёмную бараду, на колер тонкай хваёва-лапатлівай кары—вусы. Густа-густыя, раздвоеныя на дзьве роўныя пала-

віны правільным праборам. Таксама раскіданы па іхным лясістым гушчару, але менш прыкметна на іхным сьветлым полі—калівы іністага сухастою. Канцы абедзьвюх палавін іх вастрыліся і зьліваліся з бакамі цёмнай барады, з лапчыністаю палянкаю над ніжнім берагам тонкаю ружавізнаю накарбованай вусны.

Ізноў несла лыжку да паліванай міскі. І ўжо забыўшыся на асьцярожнасьць зірку:

...плоскі, з раўнамернымі маршчынамі, завоіністы, лоб. Калматыя бровы, храбра насупленыя над правільнымі беларускімі вачыма.

Як браў у рот лыжку, убачыла:—два шары белых, як часнок, зубоў, падхваченых кароценькімі ружовымі дзяснамі.

— Усёроўна скажу...—з прымусова ўсплыўшай злосьцю сказала. Устала ад стала і пачала прымаць пасуду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Макрына, як леглі спаць, і на заўтрае, і прайшло некалькі дзён— не сказала Яўгеню.

## VII

У Міхалкавай хаце накурана. Хоць ты павесь тапор-калун. Духата— аж лупае ў лямпе агонь. Няма-ж вольнага месца, каб дзе сесьці. Сядзяць на ложках і на лавах. Стаяць у парозе. Цiснуцца-лезуць наперад.

А за сталом сельсавету—старшыня, Патапчык, у картовай рубашцы. А побач з ім—мусіць аж з акругі. На ём кручком зробленая рудая рубашка. Валасы зачэсаны назад. Як гаворыць, відаць сьпераду залаты зуб. Як гаворыць, устае з лавы, абапіраецца аб стол старчава пальцамі. Зьлёгку то нахінаецца на стол, то адхінаецца. Часамі, гаворачы, адымае ад стала руку. Тады трымае яе далоньню ўверх, чуток прыкурчыўшы пальцы. Нібыта штось важыць у руцэ—хоча вызначыць яго каштоўнасьць. Тады ён даказвае „немагчымае“.

— Я ня буду вас агітаваць,—кажа, мусіць з акругі.—Я ўсё буду даказваць вам на простых фактах. Я ні на адзін крок не пайду ад зразумелых для вас фактаў. Каб вы, дзядзькі, усё-ж зразумелі, згадзіліся. Каб ня з тым палажэньнем, якое я даводжу, згадзіліся, а каб з яго правільнасьцю. Няхай сабе і ня ідзіце ў калектыў. Ніхто, як той казаў, вас не прымушае. Я толькі мушу прывесьці некалькі мізэрных, нязначных фактаў. А вы—ужо тады гледзячы—згаджайцеся, ці не згаджайцеся з імі.

— Па колькі ў вас палосак на адзін надзел?—пытае з залатым зубам.

З гурту адказалі:

— Як у каго.

— У сярэднім, канешне?

— Па чатыры,—кажа Карпусь.

— Мала што ў цябе „па чатыры“,—папраўляе Аніісь.—Калі браць найбольшы гурт з нас гаспадароў...

— Іменна найбольшы?

— ...дык па восем, таварыш-грамадзянін, канчае Аніс.—Гэта яго надзел не падзелены, дык па чатыры. А хто разьдзелены—па восем.

— А то і болей...—нехта з парогу.

Аніс дадае:

— Калі надзел ды на тры часткі... Ага, нашто-ж тут доўга: Астапчыкавых надзел дванаццаць палосак мае на іх трох.

І ён, гэты самы, што трымае руку далоньню ўверх:

— Ну дык вось: у вас дваццаць, скажам, было надзелаў. У сярэднім—па восем палосак на кожны (бо хто падзелены, а хто ‘шчэ і не падзелены). Па восем палосак, па восем межаў. А кожная мяжа... Ну, колькі займае па-вашаму кожная мяжа?—Самая вузенькая?—Дзесяць сантымэтраў займае?—два вяршкі, гэта?

— Дзіва што займае!!—некалькі чалавек у адзін голас.—Тры нават займае.

— Няхай, скажам-дапусьцім, два,—кажа чалавек,—уявім сабе, што два. Дык вось давайце зложым і вылічым. Канешне, мой доказ вельмі просты...

А з ложку жаночы голас:

— Ня трэба вылічваць. Усёроўна на кацёл ня пойдзем!

Карпусь з парогу падхапіў:

— Каб я ня меў права над сваім кавалкам хлеба! Каб глядзеў на тое, што выдадуць мне! Каб нехта мною камандаваў, сядзеў на маёй шыі.

— Ціха, таварышы!—устаў Патапчык.—Не перашкаджайце. Дайце гаварыць таварышу. Ня трэба, таварыш Карпусь, захапляцца заржавеўшым розумам. Цябе ніхто не прымушае. Кажэце, калі ласка, далей,—зьвярнуўся да чалавека з залатым зубам.—Ціха, таварышы.

І чалавек казаў:

— Восем межаў па дзесяць сантымэтраў ушыркі, гэта будае восемдзесят. А колькі, скажэце, у даўжкі вашыя палосы?

Адказалі не адразу. Памулялі момант. Яўген парушыў маўклівасьць:

— Сажняў з паўтараста будзе?

— Але-ж, будзе,—згадзіўся з імі побач стоячы Васіль.

— Дзіва, што будзе,—некалькі галасоў разам.

— Дык цяпер мы і зусім зможам вылічыць,—казаў чалавек.—У сажню, прыблізна, дзьвесьце шаснаццаць сантымэтраў... (мы перавядзём на сантымэтры). Значыць дзьвесьце шаснаццаць перамножым на паўтараста... мы атрымаем... ноль, ноль... чатыры пішу, адзін замячаю... два, тры... Мы атрымаем трыццаць дзьве тысячы чатырыста сантымэтраў. Гэта будзе даўжыня аднае мяжы. Цяпер мы перамножым і атрымаем квадрат. Трыццаць дзьве тысячы... на дзесяць ушыркі, атрымаем, будзем мець...

У парозе Карпусь падбіваў скупіўшыхся ў кучу:

— Не падпішамся на пратаколе. А сілком, найц (скарочанае „знаеце“—прымоўка Карпуся)—нічога ня зробяць.

Пятрок наўмысьле спатайка сьціснуўшы вокам, каб не заўважыў Карпусь:

— Цяпер-жа слабода, і ён нас ня прымусіць.

— От-ж-бок-то, найц, што слабода, ліха іх матары.

Яўгень піў ваду ў парозе і далучыўся:

— І мой-жа бацька гэтак кажа... Але-ж, па моему, раз яно тлумачаць табе, гавораць катораму, убіваюць у тваю галаву... не гаварылі-б без дай рацы, дзядзька Карпусь!

— Табе, найц, сорак бочак арыштантаў нагавораць,—упікнуў Карпусь, а ты ўсё будзеш разяўляць рот.

— Карпусь сплюнуў сярдзіта сабе пад ногі і, абцёршы рукою вусны, павёўшы ёю туды-сюды, сказаў:

— Мне анэгды казаў мой швагер з-за Вішнёўкі... Там каля іх быў утварыўся калякты ў гэты самы. Дык божухна-бацюхна, казаў, што было, што рабілася. З галаду былі пачалі мерці. Вядома, палавіна начальства. Кожны хоча быць начальнікам...

— Таварыш Карпусь!—пачулі голас Патапчыка,—прашу цябе не парушаць ціхату. Пасьля сходу будзеш раскладваць свае раестры, а не— выдзі на двор.

І чалавек, сьвецячы пад агонь няпрыродным зубам, казаў:

— Я падлічыў. Слухайце, таварышы, от што выходзіць. Паглядзеце, колькі марна гіне ў вас пад межамі! Колькі расьце на іх быльнягу, нікому некарыснага. Слухайце і вырашайце самі. Вас, кажу ізноў, ніхто ня будзе прымушаць. От я тут маю... На адзін васьмімежны надзел я падлічыў... На адзін надзел прыходзіцца два мільёны пяцьсот дзевяноста дзьве тысячы квадратовых сантымэтраў! Толькі на адзін. Гэтая лічбіна складае сабою кавалак зямлі велічынёю ў дзьве з паловаю і яшчэ з чым-та дзесяціны! Ну то што вы на гэта скажаце? Гэта значыць, у вашым Бродзе пад аднымі межамі—каля пяцідзесяці дзесяцін. Дык скажэце: на колькі-б павялічыўся ўраджай? Колькі можна было-б сабраць хлеба з гэтага аблогу, заглушанага дзікаю травою?

Сход прыціх. Каб чэкалі часы, было-б чуваць,—такая ўтварылася ціхата. Усе слухалі і ня верылі сваім вушам. „Як-жа то,—вісела ва ўсіх на цянюткім валаску адна думка,—як-жа то яно, гэ!—Столькі налічыў!!

Яўгень стаяў каля самага стала. Рука яго няўважліва ляжала на пля чуку дзядзькі Андрэя. Вачыма ён ня міргаў, а трымаў іх, востра паставіўшы ў аднэй меры цэлы момант. Таксама трымаў напалову адчынены, сухімі вуснамі абведзены, акруглены рот.

— Межы...

...Тыя межы, дзе расьце каржакаваты быльнёг. Тыя вузенькія межы, вузенькія... якія хавае ў сабе высокае бічастае жыта. Калі глядзіш

на жыта, значан маленькі раўчучок. У добрым жыце ледзь-ледзь бывае значан. Зьліваецца ў вялікім жыце раўчук:—не пазнаеш, дзе ёсьць мяжа.

І гэтыя вузкія межы... колькі, колькі займаюць сабою поля бяз дай патрэбы! Для таго займаюць, каб аддзяляць не разьдзеленае ніколі. На „маё“ і на „тваё“. Дык што-ж гэта такое „тваё“ і „маё“? Хто мае права называць так?

Але абарваўся волас маўклівасьці. Яго абарваў і на некалькі канцоў за адзін раз—Карпусь.

— Што ён чаўпе? Чаго вы разявілі раты? Вароны вы баслаўскія!

І сход адразу скалыхнуўся. Ахнуў цэлым слупам галасоў:

— Няправільна падлічыў!

— Правільна сказаў таварыш-грамадзянін!

— У свой бок сказаў!

— Што ён, па-твойму, у сваю кішэню наказаў?—балда!

— А ты не мацюгайся вельмі!

— Ня будзе ён лушчыць сваіх казалаў замест гарбузоў.

— Ты вельмі не размахвай рукамі: языком шалахчы, а рукам не давай волі.

— ...а ты колы ў Мікіты пакраў: злодзей ты!

Патапчык ня мог уняць буры галасоў, як Аніс, абярнуўшыся, узмахнуў шапкаю:

— Ці-ыхха! Кажу ціха, супакойцеся!

І сьціраючы буйныя кроплі поту з маршчыністага ілба, казаў:

— Мы вельмі рады, што таварыш-грамадзянін нам растлумачыў. Вельмі, аж нават, рады. Я ўвесь час мысьліў аб гэтым гурце.

— Мацней!—нехта сказаў з лавы, з гурту.—Ня чуваць.

— А ты другі-каторы не балабосьць, дык пачуеш,—сказаў Васіль.

— Я ўжо казаў некаторым,—далей казаў Аніс.—І калі-б хто згодзен, я хоць сёньня рад гуртавой рабоце. Патаму што я ўсё гэта вельмі добра цямлю. Я яшчэ як быў у службе, дык зразумеў усё гэта такое. Палітрук у нас быў вельмі добры чалавек. Бывала, як пачне табе выказваць, дык усё табе, як на далонь выкладзе...

А гэтым часам Карпусь за Міхалкаваю гамарняю-шафаю, каля ложку, сярод таўбуна жанок:

— ...ты каторая ня будзеш мець права над сваёю чапялою, над вілкамі. Тады ўсё будзе жыць на гадзінах. Дождж табе, ці якая слота—рабі свае гадзіны. Хворая ты, ці не—рабі, як чорны вол. Бо трэба-ж будзе каму-колечы працаваць: якраз палавіна будзе камандзіраў. Камандзірам то што—ня цяжка ім закілзаўшы сморгаць за лейцы. Я таксама—каб хто за мяне рабіў—быў-бы камандзірам.

— Тады, бадай, і сьвяткі,—пераняла мову Гальляшыха,—пойдуць на бок:—як вялікдзень, скажам, ці коляды?

— Дзіва што пойдуць! Што гэта табе, мая ты кабеціна, саблюсьці нехта будзе, калі тут калякціў.—Уга!

Абступілі Карпуся наўкол жанчыны. Стварылі цэлы гармідар.

— А ты, Карпусь, добра ведаеш?

— А мо‘ ты, гэта, на вудачку нас бярэш?

— А-гэ...

— Бо як, тым часам, твой надзел не кранёны...

— А як там, Карпусёк, за Вішнёўкаю было?

— Ціха!—пачаў стукаць Патапчык кулаком па стале.—Ізноў, мусіць, таварыш Карпусь?

А нехта падхапіў:

— Ён з бабамі за шафаю...

— Камароў ловіць у пацёмках...

Пракаціўся перабоісты рогат, і Карпусь змоўк. З патайка праціснуўся каля печы да парога. Сплюнуў толькі і вышаў нячутна з хаты.

Анісь доўга гаварыў. Ён казаў:

— Былі некалі панскія маёнткі,—колькі яны давалі хлеба? Якія былі ўраджаі на гэтых землях? Па колькі статку таго трымалі? Цэлымі, як той казаў, таўбунамі. Нязьлічоны прыбытак быў—цёк у кішэню нашых „вільможных“. А таму, што разам усё было яно. Разам усе на гэтага „вільможнага“ працавалі. Дык чаму-ж не далучыцца, як той казаў, адзін да аднаго? Чаму-ж не разгарнуць тую працу разам, калі ад гэтага яно большая карысьця? Калі тады, пане мой, як той казаў, у кішэню пана ішло ўсё эканомленае, дык чаму-ж яго, гэтага эканомленага, не зьмяркаваць на ўвесь на наш гурт, на хаўрус?

— І расло яно даўней куды лепей,—уставіў Яўгень.—Здаецца, пясок-плывун, а жыта як гай!

— Таму што не зямля наша вінавата, а мы самі вінаваты,—умяшаўся чалавек,—вядомаю меркаю трэба гараць, вядомае ўгнаеньне павінна быць пасеяна ў вядомую пару,—усё гэта зроблена. Абшарнік сустракаў некалі агронома, як свайго збавіцеля; ён без яго ня ступаў ані кроку, тады як мы на ўсё гэта часамі гатовы махаць рукамі. Ды і немагчыма ўсё эта кожнаму аднаму зрабіць. Бязумоўна. Не хапае сілы, не хапае сродкаў...

— Ды калі хто, скажам, з дробнаю сям‘ёю,—сказаў Яўгень,—дзец малыя.

— Дык от то-та ж,—нехта падхапіў,—хто-ж гэта будзе рабіць на тваіх дзяцей?

Чалавек перапыніў:

— Тады ўсё будзе прадугледжана:—будзе, скажам, каляктыўны фонд, яськлі будуць, дзеці ў доглядзе будуць...

Анісь скончыў:

— То-та ж...

Позна зацягнуўся сход. Позна Яўгень зьвяртаўся з сходу. Ідучы дадому, думкі роіліся ў Яўгеневай галаве. Віліся клубком. Чапляліся адна за другую. Хацелі, каб знайсьці невашта, за што можна было-б учапіцца.

Каб ня было гэтак, далей, каб быць самастойным, новым. Але не пасьпявалі сформавацца, зьвіцца думкі ў правільныя часойкі, як блытала іх адно горкае слова: „Бацька!“ Яўгень разважаў, ідучы:

— На сходзе пастанавілі зьбіраць подпісы на калякгыў. Каб чым больш запісалася, тым лепш: большы кавалак зямлі будзе, больш прывілегіі... Усё-ж такі я запішуся... Ну, а бацька, бацька... Не... усёроўна, трэба ісьці ў калякгыў...

Яўгень ішоў і не заўважыў у плывучых марах, як падышоў да хаты. Падышоўшы, пачуў, як шалясьцеў па вуглох меленькі ветрык. Ціхі такі, лагодны. Ветрык страпаўся ў замшэлых пазох хаты.

— Мусіць на перамену пагоды,—памысьліў сам сабе міжвольна, калі зачыняў вароты. Але не пасьпеў зачыніць, як у хаце нехта запаліў запалку. Міргаючы водблескам кінуўся сьвет агню на шыбы вакон. Прыціснуўся да іх, пачаў лізаць.

— Чаго яны поначы...—памысьліў Яўгень,—каго там узганашыла?

Падыйшоў да вакна, глянуў і не адразу зразумеў.

— Чаго гэта ён...—не даказаў ашаламучанымі вуснамі.

І ні то крыўда, ні то зьмешаная крыўда з радасьцю застыла на яго вуснах.

*(Працяг будзе).*

# СВЭАБОРГ[1])

*Поэма*

**Юлі Таўбін**

Памяці кіраўнікоў свэаборскага паўстаньня Каханскага і Емельянава.

Там, дзе скалы і неба-граніт,
Хвалі мора, як грэбні гор,—
Гартаваны ў гадох стаіць
Няпрыступны корч—
Свэаборг.
За істужкай Фінляндзкай мяжы
Уладаньне яго ляжыць,
З гор пабачыш,—
Мора, як зьвер,
А за морам—
С. С. С. Р.
Мчацца чайкі над пенай марэй,
Альбатросы раняюць крык,
Караблі прыбываюць на рэйд
Ад суровых паўночных крыг.
І ад сьветлых краёў паўдня,—
Стуль, дзе мора—агонь пяшчот...
... Калі вочы тухнуць у дня,
Пачынае ноч свой палёт.
Абляцеў, патануў закат,
Праглынуў яго морскі вір.
Грозна хмурацца жэрлы гармат,
Выглядаюць дзіры марцір.
Над абломкамі морскіх скал
Вецер сьцені свае расплякаў
На пануры вайсковы порт
Гартаваны ў гадох—
Свэаборг...

---

[1]) У Свэаборзе ў ліпні 1906 г. адбылося расьціснутае царскім урадам рэволюцыйнае паўстаньне салдатаў і матросаў.

*
* *

Хвалі мыюць уступ скалы,
Над гарою лятаюць арлы.
Выстаўляе агністы торс
Разапрануты Гэльсынгфорс [1])
Там —
*Яны* каратаюць дні.
Пыхкім сьветам гарэць агні,
На ахову іхных прынад
Гэтак шчэрацца жэрлы гармат
І чарнее ў цясьнінах гор
Волат казачны—
Свэаборг.
А зьбіваючы дзён граніт,
Паўстае нібы грозны міт.—
Год крыві, перамог і нягод—
Тысяча
дзевяцьсот
шосты
год!..

*
* *

Поўнач... Ліпень... Над цемрай скал
Аддаецца гарэзны залп;
Б'юць гарматы і б'ецца кроў
Пехацінцаў стралковых рот.
Калі полымем пыша край,—
Сэрца, полымем так-жа палай.
Калі край кажа мовай грымот—
Пярунамі кажы, кулямёт.
Разрываюцца
пакі
гранат...
Адгукаюцца
залпы
гармат.
Абудзіўся
расійскі
салдат!

*
* *

Перамога, і сэрцы жывуць,
Ў гучных словах няскладных прамоў...
Гэта воля п'яніць галаву

[1]) Гэльсынгфорс—сталіца Фінляндыі.

Ахмяляе галовы рабоў.
І за новыя дні і шляхі
Галасуюць адзіна штыхі,
І друкуе пра новы ўсход
Рэзолюцыю кулямёт!

---

Паплылі над небам чайкі.
Сэрцам з імі разам—людзі.
Паласатыя фуфайкі
Абгарнулі шчытна грудзі.
Быў „матросік—клешык куцы“,
Вырас волатам-гігантам...
О, надзея рэволюцый,
Свэаборгская каманда!..

* * *

Годы зграяй праляцелі—
Зграяй чаек над марамі,
Ля разьбітай цытадэлі
Хвалі пеняцца начамі.
Хвалі пеняцца і кануць,
І чароўнаю прынадай
Паланеюць, ня зьнікаюць
Іскры фабрык Ленінграда.

---

Быў нястрымным варожы напор
Верных царскіх эскадр і рот...
Вы загінулі ў сэрцы гор,
Зьбіты бомбамі тайны грот...
Але гукамі горных гармат
Запісалі вы ваша імя.
Паўтарае яго Свэаборг
У таемных прытулках пячор.
Вецер вечарам водзіць сьвіст,
Як найлепшы артылерыст.
Мора могілкам вартавы...
Спачывайце спакойна вы...
Хай наводзіць апошні форс
На проспэкты свае Гэльсынгфорс.
Углядаюцца ў тайны марэй
Рулі гаўбіц і батарэй—
Будзе вольны лунаць штандар,
Будзе новы фінляндзкі абшар.
Будзе новы і сьветлы порт—
Абяззброены Свэаборг.

* * *

Слава тым, хто за той гарой
Жыў, як волат і як гэрой,
Як асілак змагаўся між гор,
Як асілак закуты памёр
І прыходзяць на зьмену дні,
Пакаленьне...
У вачох агні.
Пакаленьне нашага дня,—
Свэаборгцы!—Ваша радня!
Рэжуць скалы морскі граніт
І суровы такі краявід...
Ветразь рые нябесны край,—
Гэта дальні фінляндзкі край.
Мчацца чайкі над пенай марэй,
Прагне рой карабельных рэй
І лунаюць палотны сьцягоў,
Бурштынеюць, як тая кроў,
Што пад холад крывавых зор
Затапляла калісь Свэаборг.
Гэты колер—
помста і кліч
Там, дзе некалькі дні гулі,
Запаліць небасхіл агнём
Разбурыць граніт пяруном...
І ракоча мора, як зьвер...
Сьвецяць літары
„С. С. С. Р.“

Менск, 14/IX—1929 г.

## КУРЫНАЯ ВОЛЯ [1])

*(Апавяданьне)*

**Іл. Барашка**

Здавалася-б: ці варта брацы гэроямі майго апавяданьня жоўценькіх, падобных на камкі масла, куранятак. Самых звычайных куранятак, якім толькі гэтым летам было па якіх тыдні тры-чатыры жыцьця, і якія, так паважнецку грэбаючы сваімі цененькімі ножкамі-пруточкамі калгаскі двор пад кіраўніцтвам сваіх чубатых мамак—дарослых курыц, зрабілі новую, праўда, маленькую, справу ў нашым калгасе.

Але ў маленькай справе заўсёды можна і трэба адшукаць вялікую!.. З маленьніх, часамі няпрыкметных спраў, складаецца вялікая справа, імя якой—жыцьцё! Трэба навучыцца любіць кожную маленькую, няпрыкметную для інцых справу, каб умець перабудаваць жыцьцё, і перабудоўваць моцна, трывала, назаўсёды.

Жыцьцё, жыцьцё! Якое чароўнае, прывабнае ты, калі той, хто жыве, разумее і кахае цябе! Ты для чалавека—сьвет, радасьць, бяда і слёзы...

А новае жыцьцё! Ці ня прывабней гучыць гэтае спалучэньне літар, якія захоўваюць у сабе адменны зьмест, пры параўнаньні проста з жыцьцём. Ці не адрываюць вас гэтыя гукі ад мінулага, і вы, прыжмурыўшы вочы, думкамі пераносіцеся ў нязнаную будучыню, і малюеце ў мазгавых цэнтрах фантастычныя здані прывабнай будучыні: гарады—сады, мёртвыя дымары сучасных фабрык, мноства электрычных правадоў, па якіх у гармоніі плывуць электроны, даючы чалавецтву энэргію, сьвет, цяпло,— усё патрэбнае і неабходнае для новага жыцьця... Я, напрыклад, так сабе ўяўляю гэтае новае, нязнанае жыцьцё.

І радуюся, цешуся, калі знаходжу, бачу сваімі вачмі маленькія, маленькія кавалачкі яго... Тут пачынаецца маё апавяданьне.

* * *

Наша яўрэйская калектыўная гаспадарка „Дэр наэр лэбн“, што азначае пабеларуску—„Новае жыцьцё“, вырасла на памешчыцкай зямлі, буйнага крывасмока—памешчыка Ваньковіча. Даўным даўно гэтага, як казалі батракі, пузатага пана няма. І мы тут гаспадарым ня мала-ня-многа а шосты год...

[1]) Апавяданьне зьявілася ў выніку паездкі аўтара ў калгас „Новае жыцьцё“, Смалявіцкага р., дзе адбылося гэтае здарэньне.

Вакол нашага двара расьце сівая ліпавая рошча, а землі калгасу цягнуцца праз балоты да верхменцаў, дзе сёлета таксама арганізаваўся калгас. Верхменцы ўзялі з нас прыклад. Прыходзілі, глядзелі, гутарылі з намі, і бачылі, што ў калгасе жыць ня тое што нядрэнна, і нават і добра.

— Спарнейшая,—казалі,—дальбог, праца..., як выдуць гуртам, як возьмуцца за працу—спарней выходзіць... А ты пыркаеш зямлю, пыркаеш, даглядаеш палоску—даглядаеш, а спору мала. І яшчэ казалі:— зямля, зямля!.. давіш ты нас, ой, як давіш... узяцца толькі за цябе, усё ты засланяеш сабой... і вось бачыш ты вечна перад сабою зямлю... а яна так, нібы магнэз, прыцягвае цябе да сябе, так прыгінае сьпіну тваю да сябе, што і малады здэцца чалавек па гадох, а з горбам на сьпіне ходзіш, ды з даўгімі, апушчанымі ўніз рукамі, з вачмі, у якіх нельга распазнаць—ці жывы чалавек гэта—ці вочы—тая-ж зямля...

Мы заўсёды адказвалі верхменцам:

— Ды вось таму, якраз, наш калгас „Новым жыцьцём" завецца, што мы жывем ня так, як вы, як вашыя дзяды жылі.

Верхменцы, трэба сказаць, слухалі нашы парады. Глядзелі на нас, вучыліся як можна жыць, і таму ў адзін з сёлетніх дзён сказалі:

— Годзе! Будзем будаваць і мы свой калгас!

Заяжджайце, часам, паглядзіце, як будуюць верхменцы сваё новае жыцьцё...

Але я ўсё не пра тое. Я-ж абяцаўся спачатку расказаць пра куранят. Дык вось слухайце.

* * *

Кожнаму чалавеку хочацца яечка зьесьці. А раз яно сьвежанькае, толькі што з-пад курыцы,—там больш! І вось, усталяваўшыся крыху па гаспадарцы—нашыя камунары спыталі ў самых сябе:

— Што? Чаму-ж мы ня можам яечка зьесьці? Хіба гэта дрэнна? Хіба ў нас няма патрэбы ў яйках? Хіба нашым дзецям пашкодзіць, калі яны на сьнеданьне будуць мець перад сабою ў агульнай сталоўцы па эерлах?!

— Ніколі!..—такі быў адказ. Усе адным чынам згадзіліся на тым, што кожны камунар мае поўнае права есьці яйкі і мець кур.

Праз некалькі дзён у кватэры амаль кожнага камунара, у цёмным падпечку зьявіліся па дзьве, а ў другога аж па чатыры курыцы. Стары Эле ў дадатак да двух курыц купіў пеўніка-задзіру з чорнымі, смалянымі пер'ямі ды гострымі шпорамі. З гэтага і пачалося.

Малка Левініха першая прывучыла сваіх кур хадзіць каля хаты. Выпусьціўшы курак, прывяжа іх шнурочкам да ножак і сядзе сама на ганку, возьме ў рукі пруткі з недавязанай панчохай і сядзіць, пільнуе,— а каб не разьбегліся яе куры, ды да голасу яе прывыклі, возьме жменьку ячменю, сыпане.

— Цыпэ-цыпэ-цыпэ...

— Цыпэ-цыпэ-цыпэ...

Чуе Элін пеўнік, як Малкіны куры ячмень смакуюць—падляціць, глыне зярнятка—другое, а як толькі заўважыць Малка—бяда:

— Акыш! Акыш ганэф...

А сама думае: дрэнны Эле гаспадар, і жонка Элі—Сорка гаспадыня дрэнная, ні тое што я, куры, дык і тыя галодныя, чужое крадуць...

Трэба аддаць справядлівасьць. Неяк пад новы год Малкіна курыца зьнесла першае яечка. Па ўсяму калгасу прайшла гэтая навіна, а калі ў той дзень Малка прышла ў клюб, радыё паслухаць, дык Хана-Лэя, несьцярпела і пахвалілася на вуха Малцы:

— Заўтра і мая курачка зьнясе яечка...

— Данкет гот...—Будзем мець эерлах! [1])—адказала старая Малка Хане-Лэі.

* * *

Але курыная гісторыя на гэтым ня скончылася.

Прышоў красавік. Камунараўцы ўзяліся за палявыя работы. Гэта-ж ня хаханькі—трэба гектараў з пяцьдзесят пад ярыну ўзараць, абсеяць, адным словам прывесьці да толку. Бабы сеялі расаду, садзілі цыбулю і буракі на агародах, якія заложаны нашым калгасам на асушаным балоце каля Верхменю. Ну і расьце-ж у нас на балоце гародніна! Азірнуцца не пасьпелі, як цыбуля павыпускала свае зялёныя шчотачкі, узышла расада і буракі. Сонца пачало вышэй падымацца, дый прыпякаць яе сьлед. Сьледам за красавіком прышоў і май. А ў маі заквакталі куры камунараў.

І тут Малка першая. Яна нікому ня кажучы парашыла сваіх двух кур пасадзіць на яйкі.

— Будуць кураняткі, з куранятак будуць і курачкі, а курачкі зьнясуць яечкі—разважала Малка.

Але так, як разважала Малка, разважалі і Хана-Лэя і Сорка і жонка Абрама Рэзьніка—Соня.

Праз тры тыдні куры павыводзілі жоўценькіх (бы воск ці масла) харошанькіх маленькіх куранятак. Малкіны куры—прывялі аж трыццаць куранят! Ня менш павыводзілася куранят і ў іншых камунарак. Толькі Сорцы не пашанцавала: яна выкінула з-пад кур больш паловы баўтуноў.

— Ну, што зробіш,—згадзіўся Эле. Хопіць з нас і гэтых!

І вось, калі прышоў час поліва і Малка, Сара, Хана-Лэя ды Соня Рэзьнікава былі занятыя на полі, кураняты зрабілі ў двары сваю курыную рэволюцыю. Вы сьмяяцёся! Гэта была сапраўдная рэволюцыя! Бо ведаеце ў чым справа...

[1]) Эерлах—яечкі.

... Прышла Малка з поля дахаты—заве кур з куранятамі ў цёмны падпечак спаць і рукі на ўвесь двор разьвяла.

— Вос із дос?—пытаецца ў яе муж.

— Сам ты паглядзі: было трыццаць, а цяпер восем... і гэта чорнае не маё куранё... прыблудак, гэта Ханы-Лэі курачка...

... А чырвонашчокая Хана-Лэя стоячы ля печы таксама разводзіла рукамі:

— Што гэта, канца няма! Гэтулькі куранят... трэба каб дваццаць восем было, а прышло два разы дваццаць восем... цэлы калектыў...

— Рабіць што?—пыталася ў мужа, але той нічога ня мог адказаць. Ды пасудзіце самі, што-б мог адказаць муж Ханы-Лэі...

... Ну, ці-ж гэта не рэволюцыя. Куранятк і самі сабе павыбіралі добрых мамак, а дрэнных пакідалі... і якая ім была справа да таго, што адны належаць Сорцы, а другія Соньцы. Абсалютна ніякай! Больш таго. Нават Элін певень не пашоў дахаты спаць, бо надта ўжо душна ў падпечку Элінай кватэры. Проста-ткі задушыцца, а ня тое, што ўскурнуць можна... Певень палічыў, што лепш яму спаць на вышках калгаснай стайні, ды не чакаючы гаспадара Элі наесьціся залатога аўсу каля старога вялікага Лыскі...

Але, як кажуць далей—было болей.

* * *

Малка апынулася ў бязвыхадным становішчы. Ёй хоць і крыўдна было, што яна ня можа апазнаць сваіх куранят, але першыя дні не паказвала віду сваёй крыўды. Яна нібы спадзявалася, што падрастуць кураняты—паразумнеюць, і пойдуць да свае сапраўднай гаспадыні. Яна нават ішла на хітрыкі—стане на ганку і першая зазывае курэй вячэраць, каб можна было заўчасьне сваіх апазнаць, ды адабраць. Але куры, відаць, па прыродзе больш схільныя да калектывізму, чым сапсаваны ўласнасьцю чалавек!

Заве Малка:

— Цыпэ-цыпэ-цыпэ...

а разам з імі лятуць на вячэру кураняты Хана-Лэі, якіх яна, Хана-Лэя, заве:

— Куцэ-куцэ куцэ...

Корміць Сорка сваіх куранят, заве:

— Пылі-пылі-пылі...

а лятуць да Соркі і Малчыны і Сонькіны і Ханы-Лэі кураняты.

Адным словам:—вэрхал! Рэволюцыя! Кураняты ня слухаюць сваіх гаспадынь і хочуць жыць калектывам!

Тут на дапамогу курам прышоў савет камуны. Ён у сваёй пастанове сказаў:

| Слухалі: | Ухвалілі: |
|---|---|
| Аб куранятах. | Распачаць працу па калектывізацыі курэй камуны „Новае жыцьцё“. Прызнаць сучаснае індывідуальнае ўладаньне курамі, у той момант, калі куры самі гэтага не жадаюць—нездавальняючым. З восені пачаць плянавае птушкаводзтва ў камуне, для чаго прыступіць да пабудовы ўзорнага куратніку. Пытаньне аб курынай калектывізацыі вынесьці на абгаварэньне агульнага сходу сяброў камуны. |

Быў і сход. Хоць куры і пакрыўдзілі Малку, няслухаючыся яе, як гаспадыні, аднак яна была супроць курынай калектывізацыі.

— Чаму ты супроць?—пытаўся ў яе старшыня сходу.

— Я супроць? Не, я ня супроць, але-ж нельга курам волі даваць, каб яны што хацелі тое і рабілі... ды да таго... у мяне кожны дзень яечка сваё падпечкам было, а цяпер...

— Цяпер кожны сябра камуны мае поўнае права на яечка,—адказаў старшыня камуны,—галасую:

— Хто за?

Паднялося ўгару трынаццаць камунараўскіх рук.

— А супроць?

Падняла руку адна Малка. А потым нечакана дадала:

— Мяне не лічыце! Я так сябе! Па старой прывычцы. Ніяк не магу згадзіцца і дапусьціць, каб ня я над курамі, а куры нада мной гаспадаром былі...

— Нічога, большасьцю галасоў ад сёньнешняга дню куры зьяўляюцца нашай калектыўнай уласнасьцю,—растлумачыў Абрам Рэзьнік,—старшыня камуны пастанову.

— А паміж сабою куры даўно стварылі моцны калектыў!—дадаў наш жартаўнік Бэрэлэ.

Усе ад душы сьмяяліся. А я падумаў—яшчэ адна перамога, яшчэ адна маленькая справа ў „Новым жыцьці“ зроблена. Цяпер у нас калектывізавана ўся гаспадарка, уключаючы і калектывізаваўшых сябе кур.

Цяпер у калгасе будуем узорны куратнік. І мне здаецца, што Элін певень сёньня пяе ня так, як раней:

— Ку-ку-рэ-ку!,—а па-новаму, па-адменнаму:

— За-кал-гас!..

Менск.

## У КАЛГАСЕ

**Сяргей Фамін**

Кастрычнік сад калгаскі агаліў.
Гудуць лясы ад восеньскіх пажараў.
У нас у калгасе звонкі пераклік
Прывезеных нядаўна малатарань.

Так кожны дзень.
А вечарамі ў даль
У клюб пад ліпы адыходзіць гоман.
І пахне сьвежасьцю рабінавых караль
І адмалочанай аўсянаю саломай.

А раніцой, калі гарыць усход,
І сад шуміць малінаваю хусткай—
Да сьвіраняў з калгасу йдзе народ
І закіпае дружная пагрузка.
Гадзіна, дзьве і вось пагружан хлеб
І ад калгасу ў дзедаўскіх бярозах
У даль папаўзуць, туды
        Далей,
            Далей
Да гарадоў чырвоныя абозы.

І кожны дзень расьце, расьце калгас,
І з кожным днём—шырэй яго палосы.
Нядаўна з поля дальняга да нас
Прыехала на навасельле вёска.

Нядаўна трактар з фабрык прывязьлі,
Каб узараць дзядоўскія абшары.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
У нас у калгасе звонкі пераклік
Прывезеных нядаўна малатарань.

## РЭКОНСТРУКЦЫЙНЫЯ МОТЫВЫ

**А. Вечар**

Набраць-бы ў рукі сьпелага калосься
ды кожны колас мілаваць і гладзіць...
Густое жыта навакол сплялося
і разгарнула крыльлі радасьць.

Зямля,
палітая крывавым потам,
ня стогне болей у ярме няволі,—
таму палі так зарунелі потым,
таму ўраджай такі на кожным полі.

Ну як-жа тут ды не абняцца з новым!..
Зямную-б кулю узваліць на плечы
машын нявіданных, машын сталёвых
і патануць у сонечнай далечы.

Затым і я выходжу на палетак,
бяру ў далоні і спрабую глебу...
Усё, што створана мільёнамі поэтаў,
аддасьць галодны за кавалак хлеба!

Затым, затым, што дорагі бяз конца
жывых грудзей рытмічныя ўдары—
поэзію-ж як гэтае от сонца
ніхто не адбярэ і не падарыць.

Пад сонцам—залаты загар пшаніцы,
палёў калгасных буйнае бязьмежжа,
бярозавых пасадак шэраг ніцы,
а на дарозе пескавая сьвежасьць.

Чырвоныя абозы скора пойдуць
спакойным крокам у шумлівы горад
і будуць па дарозе гойдаць, гойдаць
галінамі бярозак ветры ў зорах.

Тады ад хутара па гэтай-жа дарозе,
нібы дзікун, з аглядкаю і ў поўсьці,
усьлед абозам кулаком пагрозіць
і будзе думаць, як адпомсьціць.

Усё дарма!
Дарма...
А кожны колас
нібыта сам у рукі лезе.

Адзін я!.. ні душы няма... і голас:
Няхай жыве зямля ў жалезе!

10/X—29 г.
г. Менск.

# 1905 [1])

*Драма ў 4-х актах, дзесяці абразох*

**Андрэй Упіт**

## АКТ ТРЭЦІ

### Зьява першая

*Склеп у маёнтку, нізкае сводчатае памяшканьне. Сьпераду невялікае аддзяленьне з закратаваным вакном, праз якое падае ўспыхваючае чырвонае полымя. Каля сьцяны драўляная лава. У глыбіні падобны да нары ўваход у другое памяшканьне, вялікшае, зусім цёмнае і перапоўненае арыштаванымі. Стуль часамі чуваць ціхія стогны, сьлёзы, супакойваючыя словы. Часам зьнекуль звонку чутны гармонік.*

Лепіньш *(са Снэдзэ выходзяць з другога памяшканьня)*. Ідзі лепш сюды. Там немагчыма. Як быдла нагналі. Хаця-ж бы вады далі, каб скатаваныя і замучаныя маглі напіцца.—Табе больш не баліць?

Снэдзэ. Не. Мне і тады не балела. Кажушок у мяне тоўсты, я толькі галаву ўцягну ў каўнер. Мне ніколі ня больна... *(Садзіцца на лаву і кашляе)*.

Лепіньш. Але кроў ты сплёўваеш.

Снэдзэ. Кроў. Спачатку троху было, а сёнека быццам ужо няма.

Лепіньш *(сядае побач, абыймае рукой)*. І калоцішся. Праклятыя, хаця-ж бы дошкай вакно забілі. Вецер цягне сюды. Табе ўсё-ж ткі лепш там у глыбіні.

Снэдзэ. Не, ня хочу. Там жудасна.

Лепіньш. Цяперака, братка, усюды жудасна.

Вартаўнік *(угары за вакном бачны ногі, калі ён праходзіць міма)*. Хто ідзе? Стой!

Сястра Снэдзэ *(кволая дзяўчынка, за вакном)*. Не страляй, міленькі! Я толькі брацiку цёплую адзежыну.

Снэдзэ *(ускочыў)*. Мая сястра!.. Ачмурэла. Чаго яна тут шукае?

Вартаўнік. Нельга. Гэта строга забаронена.

Сястра Снэдзэ. Я тутака-ж праз вакно. Толькі на пяць хвіліначак.

Снэдзэ. Прэч адсюль!

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 8—9.

Вартаўнік. Ну пачакай, пагляджу, ці ня йдзе хто. *(Праз момант).* Ну! Але шпарчэй!

Сястра Снэдзэ *(тварам да вакна).* Браток!

Снэдзэ *(злуючы).* Чаго ты хочаш? Чаго шукаеш?

Сястра Снэдзэ. Я табе прынесла кажушок. *(Прасоўвае праз краты).* Вам тутака ня зімна?

Снэдзэ. Зімна—нязімна. Выбірайся ты адсюль хутчэй.

Сястра Снэдзэ. Вай... Мы страшэнна баімося за цябе—ніводнае начы ня сьпімо. Увесь час возяць міма—па аднаму, па тры. Барончык разьяжджае разам з драгунамі. І Вітал з імі. Кажуць—усіх выказвае. Поднэца штодзень ходзіць у маёнтак. Пастар зноў у хаце, кажа, ты падняў штандар на вежы ў кірсе.

Снэдзэ. Хай ён павесіцца на сваей вежы!—Што там гэтак сьвеціцца? Месяц, ці яшчэ дзённае сьвятло?

Сястра Снэдзэ. Вай-й, брацютка. Драгуны падпалілі Гайленоў хутар... І Зарэнс, гаворуць, сёнека падстрэліў Брэнсона. Па ўсей воласьці сёнека шукалі. У пуні знайшлі.

Лепіньш. Аб Робэжнэксу і Рэснайсу нічога ня чуваць?

Сястра Снэдзэ. Мы нічога ня ведаемо. Са свайго пакойчыку ня вылазім. Стары Робэжнэкс забіты.

Вартаўнік. Ну, адыходзь, дзяўчына! Хутчэй! Там ідуць.

Сястра Снэдзэ *(шэптам са сьлязьмі).* Бывай, браточак! *(Уходзіць).*

Снэдзэ. Эх! ходзяць сюды!.. Толькі на сэрцы робіцца цяжэй...

Лепіньш. Цыц! Садзіся! Там нехта ідзе. *(Недзе за сьцяной чуваць шум—крокі, звон шпораў, лязг зброі; лаючы і праклінаючы, нібы цягнуць некага).*

Голас фон Гаммэра. На! Трымайце яго—мацней! За галаву—так!.. За ногі—так!.. На, Восіпаў! пачынай!—Раз... два... тры... чатыры... *(За кожным разам чуваць сьвіст дубца, але хутка яго глушаць заўвагі п'яных драгунаў, зьдзекваньні, сьмех, жарты, гармоніка).*

Галасы. Іш, стары чорт! зусім ня крычыць!.. Немы, як старая падноска!.. Ага! пачынае прабірацьу!.. Прыцісьні, Восіпаў!..

Голас фон Гаммэра. Даволі!.. Кіньце яго ў склеп да іншых!

Драгуны *(цягнуць зьбітага Зарэна і кідаюць яго на падлогу).* Ляжы, старая падла!.. Згніеш!.. Заўтра цябе выкінуць варонам!.. *(Выходзяць).*

*(Момант у абодвых аддзяленьнях склепу сьмяротная ціша. Зарыва пажару ўспыхвае ў вакне мацней. Зарэнс пачынае ўсхліпваць).*

Лепіньш. Трымайся, сябар. Тут усе таксама пакутуюць. Ідзі лепш сядзь на лаву. На падлозе лёд. *(Хоча дапамагчы яму ўстаць).*

Зарэнс *(спрабуе ўстаць, але валіцца назад; як бяз голасу).* Не... Пусьці... Так ніцам мне лягчэй... Здаецца ў сьпіне нешта зломлена...

Лепіньш. Ах, зладзеі!

Зарэнс. Не—аб сабе я нічога. Ці доўга яшчэ гэтай маей сьпіне трымацца... Таварышы, ці няма глыточка вады?

Лепіньш. Не. Сёнека зрана тут была лужа ад адлігі—даўно яе вылакталі дасуха. Ты ня першы, якога сюды кідаюць.

Зарэнс (*праз момант*). Усёроўна. Аб сабе я нічога... Але як я мог так не пацэліць...

Лепіньш. У Брэнсона?

Зарэнс. Адкусіць я мог-бы сабе гэту руку... Чаму яна, праклятая, дрыжэла!.. Цяперака ён сядзіць у палаце з афіцэрамі і п'е гарбату з ромам.

Фэрлінг (*з двума драгунамі; у аднаго з іх у рукох ліхтар*). Паднімеце вышэй агонь, тут так цёмна. (*Ідзе ўперад, поўны гневу, але стараецца гаварыць урачыста і замаркочана*). А, тут ён і ёсьць! Ну падніміся, Зарэнс, калі твой пастар з табой гаворыць. (*Зарэнс ня рухаецца*).

Лепіньш. Вам трэба было камандаваць ім, пакуль ваша варта яго не скалечыла.

Фэрлінг. А! Гэта ты, Лепіньш. Да вас абодвых я якраз і пасланы.—А хто гэты трэці?

Снэдзэ. Той, хто чырвоны штандар узьняў на кірхавай вежы.

Фэрлінг (*адскокваючы, на хвіліну губляе ўрачыстасьць тону*). Ты, бястыжы нягоднік! Вышчарака! І гэта ты мне яшчэ гаворыш у вочы!

Лепіньш. Ня крычы-ж Фэрлінг, тут ня кірха.

Фэрлінг (*стрымаўшы сябе, біблійным голасам*). Ах, сапсаванае дзіцё! Але з табой будуць гутарыць іншыя! Я пасланы да вас, Зарэнс і Лепіньш!

Лепіньш. Мы чакалі цябе, Фэрлінг.

Зарэнс (*варушыцца і стогне*).

Фэрлінг. Цялесная боль і мучэньне, асабліва-ж калі яны заслужоныя,—нішто ў параўнаньні з тымі мукамі, якія нас чакаюць у пекле.

Лепіньш (*бліжэй*). Скуль ты ведаеш? Ты-ж не паспрабаваў ні тых, ні тых.

Фэрлінг (*узмахвае рукамі, але стрымоўвае сябе*). Ня блюзьні! Гэта вам навука, пакараньне павінна быць. Але кара яшчэ ўперадзі. Цяжкі шлях будзе вам абодвым заўтра. Я пасланы падрыхтаваць вас абодвых да гэтага.

Лепіньш. Мы ўжо гатовы.

Фэрлінг. Да-праўды я кажу! Не разьлютоўвайце вашы сэрцы. Якая карысьць чалавеку, калі цела яго жыве, а душа загіне ў муках пякельных.

Лепіньш. Ну, хто перажыў пекла ня зямлі, таго твае пекла не напалохае.

Фэрлінг (*прыкідваецца, што не пачуў*). Таму яшчэ ў апошні момант вы можаце прызнацца ў сваіх грахох і пакаяцца. Вам яшчэ можа быць даравана.

Лепіньш. Я сумляваюся ў гэтым. Ці-ж барончык мяне выкрэсьліў са свайго сьпісу?

Фэрлінг *(зноў узьнятым голасам)*. Я не кажу аб гэтым сьпісу— але аб тым, дзе імя кожнага чалавека ўпісана ў кнігу спрадвечнасьці. Сьцеражыцеся, каб вас адтуль ня выкрэсьлілі. Бог, што выспрабоўвае сэрцы, ведае і бачыць усё. Таму прызнавайцеся самі і не хавайце тых, хто грашыў разам з вамі.

Лепіньш. А! Так гэтага вам трэба! Мне здаецца, Фэрлінг, што і бяз боскае дапамогі мы бачым адзін-аднога. Нават праз тваю хутру я бачу наскрозь. Сэрцы ты выпрабоўваеш ня горш фон Гаммэра.

Фэрлінг *(угневана; выходзіць з ролі)*. Што? Што ты брэшаш?

Лепіньш. Я дзіўлюся з цябе, Фэрлінг. Чаму ты наогул тут? Садзіся ў сані поплеч з Віталам, аб'яжджай воласьць і дапамагай лавіць бунтаўшчыкоў. Або яшчэ лепш, з барончыкам і драгунамі ўзлазь на каня і аб'яжджай... Поўкажушок і скураныя штаны. Блакітную шапку на патыліцу. Нагайку з боку... *(Сьмяецца)*.

Фэрлінг *(падаўшыся ўперад, сьціснуўшы кулакі, прыдушаным голасам)*. Што!.. Што!..

Лепіньш. Толькі тое, што ты знаходзішся на службе ў карнае экспэдыцыі. Сколькі плоцяць у месяц гэткаму, як ты?

Фэрлінг *(хістаецца; нібы ўміраючы)*. Ты... гіблая... душа!.. *(Выпрастаўшыся; аднэй рукой угару)*. Ты... блазьнюк і богам адкінуты! *(Абедзьве рукі ўгару)*. Ты... пракляты!.. Заўтра цябе расстраляюць... як сабаку... як ваўка!

Лепіньш. Кінь камэдыянства! Паберажы свой голас для нядзельнага казаньня.

Фэрлінг *(апушчае рукі, аднэй рукой нібы абараняючыся ад чорта, бокам згорбіўшыся бяжыць да выхаду)*. Дзьябал!.. Дзьябал!.. Дзьябал!.. у канцылярыю!.. у канцылярыю!.. *(Зноў вяртаецца, выкідае ўгару рукі, бяжыць уперад, ня можа вымавіць—уперад і зноў назад, трасецца, трасець кулакамі, выцягваючыся ўгару, выкрыквае)*. Со-цы-я-лі-сты!.. *(Выходзіць)*.

*Цемра, стогны і плач*

### Зьява другая

*Пакой у будынку ўпраўляючага маёнткам. Стол, венскія стульля, дзеякія рэшткі мяккай панскай мэблі. Углыбіні шкляныя дзьверы, за імі балькон у бок саду. Вячэрняя шэрая гадзіна. За сьцяной зрэдку ўвесь час чутны гармонік, сьмяюцца драгуны, пішчаць дзяўчаты.*

Фон Гаммэр *(стоячы, запальвае цыгару, падае скрыначку Паўлу Сяргеявічу)*. Калі ласка, Паўла Сяргеявіч.

Паўла Сяргеявіч *(рукі ў кішэнях, нэрвова ходзіць па пакоі)*. Дзякую.

Фон Гаммэр. Бярэце, бярэце. Гэта з новай пасылкі. Якраз ваша марка.—Чаго вы нэрвуецеся? Я-ж вам абяцаў хуценька справіцца з гэтай справай.

Паўла Сяргеявіч. Так. *(Ківае галавой)*. Таму, што тамака ў вас гэтая ўрачыстасьць спраўляецца.

Фон Гаммэр. І ў вас, Паўла Сяргеявіч. Паны хочуць зрабіць нам маленькую прыемнасьць пасьля гэткае цяжкое працы. І вы маеце вялікі посьпех у тутэйшых дам.

Паўла Сяргеявіч *(ня можа вытрымаць гармідару за сьцяной)*. Чэрці, чаго яны тамака пішчаць!

Фон Гаммэр. Ну, і нашы хлопцы таксама заслужылі маленечкае пацехі. І яны гэта ўмеюць. Праўду кажучы, калі-б я быў троху маладзейшы...—Гэтыя латыскія дзяўчаты зусім ня кепскія. *(Сьмяецца, пагладжваючы вус, потым спыняецца, заўважыўшы нездаваленьне Паўла Сяргеявіча; сур'ёзна, нібыта падладжваючыся)*. Я бачу, Паўла Сяргеявіч, вы ўсё яшчэ незадаволены.

Паўла Сяргеявіч. Калі-б я наогул мог-бы тутака быць задаволеным, я-б не падаваў-бы просьбы аб маей адстаўцы.

Фон Гаммэр. Абавязак салдаты ня пытацца, задаволены мы ім ці не. Пакуль мы знаходзімося на службе, мы абавязаны быць на сваём месцы. Асабліва ў гэтыя часы, калі рука нягоднікаў адважылася падняцца супроць дзяржаўнага ладу і супроць сьвяшчэннае асобы яго маэстату. Паўла Сяргеявіч.

Паўла Сяргеявіч. Я спадзяваўся, што сёнека я ня буду абавязаны быць на сваем месцы.

Фон Гаммэр. Пакуль загад ня прышоў, я ня маю права вас звольніць.—Але я думаю, што і так вы ня маеце прычын, каб гэтак хвалявацца. Ці-ж я ня ішоў на спатканьне вашым жаданьням і шмат разоў рабіў так, як вы гэтага жадалі? Ці-ж я не загадаў адправіць у Рыгу гэтага старшыню выканаўчага камітэту, хаця-ж ён заслужыўся на кулю больш, чым усе іншыя.

Паўла Сяргеявіч. Але ж ягонную хату вы ўсё-ж ткі загадалі спаліць.

Фон Гаммэр. Ад гэтага я ня мог адмовіцца. Якая-колечы пагроза патрэбна для тых усіх бунтаўшчыкоў, якія ўсё яшчэ прымаюць і хаваюць лясных братоў [1]).

Паўла Сяргеявіч. А сёнека вы хочаце іх грамадзкі будынак.

Фон Гаммэр. Аддзяленьне ўжо накіравана туды. Мяне прыслалі сюды, каб я зьнішчыў усе гнёзды соцыялістых і я гэта раблю. Гэтага

---

[1]) „Ляснымі братамі“ зваліся ў часы першае рэволюцыі і аграрнага паўстаньня, у 1905—1907 годзе, латыскія рэволюцыянэры-паўстанцы, якія паўцякалі ад войска ў лясы і з іх вялі змаганьне з расійскімі карнымі атрадамі і адміністрацыяй. Такіх „лясных братоў“ у Латвіі было многа і жыхарства, тойма ад улады, іх падтрымоўвала.

*(Заўвага перакладчыка)*.

асабліва патрабуе барон Вольф і іншыя паны. Я толькі адклаў да сёнешняга вечара, каб злучыць прыемнае з карысным і зрабіць нашым тасьцём маленькую ілюмінацыю, *(Зноў абрываючы сябе)*. Ці-ж я па вашаму жаданьню ня звольніў ад кары розгамі гэтага настаўніка?

Паўла Сяргеявіч. Вы хацелі пакараць яго за тое, што мы ня можам злавіць яго брата. Сам-жа ён зусім няшкодны. Кожны дзень у школе вокны адчынены, і ён са сваймі вучнямі сьпявае дзяржаўны гімн, калі мы праяжджаем міма.

Фон Гаммэр. Вы дужа простадушны, Паўла Сяргеявіч. Ці-ж вы ня бачыце, што гэта толькі прыкідваньне, ілгарства? Барон Вольф гэтага грамадзянчыка лепш ведае, чым мы. Але на ваша жаданьне я пакінуў яго ў спакоі. І валасьці я скінуў тры тысячы штрафных грошы за расстрэл Вітола.

Паўла Сяргеявіч *(з агідай)*. Віталс... вы ведаеце, Робэрт Карлавіч, абшарнік і монархісты, як і вы. Мне агідна гэтая дзіцячая рэвалюцыя і рэволюцыянэры. Але яшчэ больш мне агідны яе здрайцы, гэтыя рабскія душы, гэтыя брыдкія стварэньні...

Фон Гаммэр. Вы не салдат, а філёзоф моралі, і пры тым сантымэнтальны, Паўла Сяргеявіч. Здаецца, што вы сюды прысланы на манэўры, а не на падаўленьне паўстаньня. Ваша трыманьне робіцца проста падазроным, Паўла Сяргеявіч.

Паўла Сяргеявіч. Аставайцеся пры вашых падазрэньнях, Робэрт Карлавіч.— Знача вы не жадаеце звольніць мяне сёнека ўвечары ад гэтага—як вы завеце—паседжаньня суду?

Фон Гаммэр *(рашуча)*. Не. Пакуль ня прышла папера аб вашай адстаўцы, я гэтага не магу. Я ўжо вам абяцаў: на гэты раз я буду корэктны і мы гэтую справу хутка скончым.

Паўла Сяргеявіч *(уздрыгвае нібы ад фізычнае болі ад новых воклікаў за сьцяной)*. Праклятыя! Гэта немагчыма! *(Шпарка выходзіць. Гармідар сьціхае)*.

Фон Гаммэр *(злосна гледзячы ў сьлед)*. Баба!.. Кадэт!..

Мэйер *(уваходзіць, халодна стрыманы)*. Добры вечар, пане фон Гаммэр.

Фон Гаммэр *(прыглядзіўшыся)*. А! гэта вы, пан Мэйер. Добры вечар! Вы да мяне.

Мэйер. Я думаю. Тутака адбудзецца нібы нейкая ўрачыстасьць, і я запрошаны.

Фон Гаммэр. Так. Але тады вы павінны зьвярнуцца да пані фон Стрыка і да барона Вольфа. Робіць-жа гэта ўсё ваша валасьць. Бочкі піва і ежа драгунам ад валасьці.

Мэйер. Так. І дзяўчаты ад валасьці. Гэта я ведаю. Прышоў толькі зрабіць прабачэньне і сказаць, што я не змагу быць. У мяне жонка хворая.

Фон Гаммэр. Вы наогул амаль-што зусім не паказваецеся, пане Мэйер. Здаецца, вы нібыта сьвядома не жадаеце нам дапамагаць.

Мэйер *(маўчыць).*

Фон Гаммэр. І сваіх лавіцеляў вы напэўна яшчэ не выказалі.

Мэйер. Не. За выключэньнем таго аднаго, Вітола. Але той ужо больш вам не патрэбны.

Фон Гаммэр. Нам тут наогул нічога не патрэбна. Мы тут не для свае ўласнае забавы, а для вашае бясьпечнасьці. Дзіўна вы разумееце наш абавязак—а таксама і ваш, пане Мэйер.

Мэйер. Вы цяперака тут, а потым ад'едзеце, пане фон Гаммэр. Але мы павінны заставацца, таксама як застануцца і руіны спаленых хутароў і гэтая няпрыязьнь да вашых абавязкаў і да тых, хто ім служыць. Я не жадаю лёсу Брэнсона і Вітола.

Фон Гаммэр. Так. І вы таксама тэрорызаваны. І вы баіцеся лясных братоў. *(Бліжэй).* А, мо' гэта што кольвек іншае. Вы пачынаеце рабіцца падазронным, пане Мэйер. Я чуў аб вашай дзіўнай радні. Брат верхавода ўсёй гэтай банды нягоднікаў, Робежнекса, нібыта ваш зяць. Як гэта можа быць, пане Мэйер?

Мэйер. Аб гэтым вам прыдзецца запытацца ў маёй дачкі, пане фон Гаммэр.

Фон Гаммэр *(коратка, рэзка).* Можаце ісьці.

Мэйер *(пакланіўшыся, выходзіць, сустрэўшы ў дзьвярах Класонса, Брэнсона і барончыка).*

Фон Гаммэр. Хто тамака яшчэ.

Класонс *(са сваімі паперамі).* Іх прывялі. Мо', пан ротмістар, пачне?

Фон Гаммэр *(усё яшчэ разьюшаны, каротка махае рукой. Класон назад).*

Брэнсон *(рука на перавязі).* Я прышоў сказаць. Я ўсё-ж ткі лепш ня буду ўдзельнічаць на паседжаньні.

Барончык. Гэты стары бандыт усё-ж ткі яго напалохаў.

Фон Гаммэр. Ваша прысутнасьць амаль-што неабходна. Мы паставілі-б гэтага бандыта вам вока супроць вока.

Брэнсон *(нэрвова).* Каму гэта патрэбна? Справа-ж ясная.

Фон Гаммэр. Так, ясная. Як вы сабе хочаце. *(Вынімае з кішэні рэвольвэр і кідае яго на стол. Сядае).*

Брэнсон *(хутка выходзіць).*

Барончык *(сядае побач з фон Гаммэрам).* Мяккацелы! Ён яшчэ баіцца іх. Такім дробным набоям няможна нават вераб'я забіць.

Фон Гаммэр *(незадаволены).* Ну, для Вітола ў іх знайшлася нават пуля маўзэра... *(Да дзьвярэй, крычыць).* Ну! прывесьці!

Класонс *(ідзе і садзіцца пры канцы стала).*

Драгуны *(драгуны гоняць Лепіньша, Ганну Стэйнбэрг і Снэдзу; Зарэнс сам ня можа ісьці, двое яго цягнуць і, прытуліўшы да сьцяны, увесь час падтрымоўваюць).*

Паўла Сяргеявіч *(уваходзіць шпарка, з нярухомай галавой; ня гледзячы ні на кога, сядзіцца далей, пры другім канцы стала. За*

*сьцяной зразу пачынаецца гармідар, чутны стрэлы бутэлячных коркаў, піск жанчын і сьмех, дрынданьне гармоніка).*

Фон Гаммэр *(убачыўшы падсудных, зноў траціць самаўладаньне; зьверскі люты).* Бліжэй, быдла! Каб відаць былі вашы морды!

Драгуны *(падпіхаюць траіх бліжэй).*

Паўла Сяргеявіч *(стомлена).* Робэрт Карлавіч! Вы мне абяцалі...

Фон Гаммэр. Паўла Сяргеявіч! Не чакайце тут якіх-колечы цэрамоній *(Усё-ж-ткі стрымліваецца).* Класонс!

Класонс *(гледзячы ў свае паперы).* Снэдзэ! *(Той выходзіць наперад).* Ганна Стэйнбэрг! *(Тая выходзіць).*

Фон Гаммэр. Снэдзэ і Ганна Стэйнбэрг! Вас пасылаюць у Рыгу ў турму. Вас будзе судзіць вайсковы суд.

Барончык *(распусна сьмяецца, гледзячы на Ганну, нахіліўшыся шэпча на вуха фон Гаммэру).*

Фон Гаммэр *(незадаволены, адсоўваючыся).* Трымайцеся спакойна, барон Вольф. Сёнека ўвечары ў іх тут іншых даволі. І не спайвайце вы мне іх так моцна. Глядзеце, і гэтыя ледзь трымаюцца на нагах.

Барончык *(сьмяецца).* Ах, што вы, пане фон Гаммэр! Няхай хлапцы пацешацца. Шкода, гэта быў-бы для іх кавалачак!.. Якога чорта вы іх яшчэ ў Рыгу пасылаеце? Вы-ж маеце поўнамоцтвы.

Фон Гаммэр *(больш ня слухае).* Чаго вы яшчэ стаіцё?.. Чаго вы яшчэ глядзецё? Кругом!.. Вон!.. Вывесьці!

Драгуны *(піхаюць Снэдзэ і Ганну да выйсьця).*

Ганна *(праходзячы міма Лепіньша).* Да пабачаньня, таварыш! *(Паціскае руку).*

Лепіньш *(сумна ўсьміхаючыся).* Да непабачэньня, таварышы!

Фон Гаммэр. Чулі, Паўля Сяргеявіч? І пасьля гэтага вы яшчэ са сваім гуманізмам! Нават кулі не баяцца гэтыя дзікуны.

Барончык *(падняўшыся, прагна гледзячы ў сьлед Ганьне).* Эх! Шкода!.. Хаця-ж бы нагайкай гэтак—дваццаць пяць... *(Скрыгочучы зубамі ў садыстычнай прагнасьці).* Эх!

Фон Гаммэр. Класонс!

Класонс. Зарэнс! *(Момант ніхто не рухаецца).*

Фон Гаммэр *(ва ўсё горла).* Зарэнс—сказана! Дзе ён? Чаму я яго ня бачу!

Драгун. Дазвольце далажыць, ваша высокадабродзьдзе. Ён не стаіць на нагах.

Фон Гаммэр. Чаму не стаіць? Ен павінен стаяць, калі я з ім размаўляю! Дайце яму адну!

Другі драгун. Мы ўжо давалі, ваша высокадабродзьдзе. Здаецца ён ужо нічога не адчувае.

Фон Гаммэр. Не адчувае... Але можа быць ён яшчэ чуе? Мо' яшчэ бачыць?—Ці бачыш дзе ты знаходзішся, старая малпа. *(Момант чакае).* Страляць у пана Брэнсона, там у цябе, нягодніка, было чатары вокі ў

ілбе!.. Ат! з гэтым няма чаго траціць часу. *(Устае).* Вывесьці! Вывесьці і пачакаць гэтага другога. *(Драгуны выводзяць Зарэнса).*

Драгун *(прабіраючыся міма выходзячых, хістаючыся падыходзіць да самага стала; руку да фуражкі, хістаючыся, ашчэрыўшыся, заікаючыся).* Сьмею далажыць... ваша... ваша... высокадабро... бро... Мадам просіць...

Барончык. Ідзі, ідзі, сяброчак! Скажы, што мы зараз прыдзем.

Драгун *(яшчэ больш вышчарыўшыся).* Слухаюся, гэр барон... *(Хістаючыся выходзіць).*

Фон Гаммэр *(садзіцца).* Я вам казаў, барон Вольф, не спайвайце іх задужа.

Барончык *(паціскае плячыма).* Віно і кан'як я ім не даю. Але там-жа ж ёсьць бочкі з півам ад воласьці.

Класонс. Лепіньш!

Лепіньш *(увесь час спакойна назіраўшы, падыходзіць бліжэй).*

Фон Гаммэр *(стрымліваючыся).* А! Тут ты ў мяне стаіш! Цяпер у цябе пятля на шыі, цяпер ты ня зможаш больш бегаць па сходках, падбухторваць народ і абстрэльваць цягнікі. *(Ня можа больш стрымацца—ускочыў, б'е кулаком па стале).* Галаву ўгару! Рукі па швох, калі я з табой гавару, латыскае быдла!

Паўла Сяргеявіч. Робэрт Карлавіч!..

Фон Гаммэр *(нібыта падпарадкуючыся цяжкому лёсу).* Добра, добра... Хай будзе па вашаму цэрэмоніялу. *(Сядае).* Ты Пётра Лепіньш?

Лепіньш. Гэта я.

Фон Гаммэр. Начальнік баявой організацыі?

Лепіньш. Так.

Фон Гаммэр. Добра. Гэта ясная рэч. Ты тут паўсюль быў кіраўніком і загадчыкам—пры спальваньні маёнтку, забойства ўрадніка Саркіса, абстрэлу драгунаў...

Лепіньш. Усюль не, але дзе-ні-дзе так.

Фон Гаммэр. Чуеце, Паўла Сяргеявіч! Ну, дык скажы, дзе ты іменна быў.

Лепіньш. Я-ж тутака не на тое, каб байкі апавядаць. У вас смажаніна астыгне на вэрандзе.

Фон Гаммэр *(ківаючы галавой).* Вось спрактыкаваны нягоднік!— Ну, добра. Хто разам з табой удзельнічаў у разброеньні жандара на станцыі?

Лепіньш. Гэтага я не магу сказаць.

Фон Гаммэр. Ня можаш, ці не жадаеш?

Лепіньш. Гэта ўсёроўна.

Фон Гаммэр. Чаму ты ўпіраешся? У тога—як яго?—Вітолса знайшлі шаблю жандара. Ён сам прызнаўся.

Лепіньш. Гэта была яго справа. Ён вам шмат у чым прызнаўся.

Фон Гаммэр. Так. І за гэта твае таварышы яго расстралялі?

Лепіньш. Бязумоўна за гэта.

Фон Гаммэр. І ты рады гэтаму?

Лепіньш. Не—чаму? Ён атрымаў сваю кару, як атрымаюць яе ўсе шпегі, здраднікі.

Фон Гаммэр. Чуеце, Паўла Сяргеявіч!—У цябе характар, малады чалавек. Толькі на гэты раз гэта табе не паможа.

Баранчык *(увесь час ваўтузіўся, як на голках,—ускочыў з пенаю на вуснах)*. Ты—сабака! Скуру з цябе злупяць і потым расстраляюць!

Лепіньш *(паварачваючы сьпіну)*. Чаго гэты хлапец тут дзярэ горла.

Фон Гаммэр. Сядайце, барон. *(Садзіць яго)*. Скажы, чаму ты яшчэ ўчора абразіў пастара свайго прыходу.

Лепіньш. Майго прыходу? Мой прыход вы цяпер шукаеце па ўсіх лясох і балотах. Пастар Фэрлінг паступіў на службу да карнае экспэдыцыі.

Фон Гаммэр. Знача ты прызнаешся, што належыш да соцыялістычных організацый?

Лепіньш. Я лічу за вялікі гонар, што належу да іх.

Фон Гаммэр *(сьмяецца праз сьціснутыя зубы)*. І гэтыя суб'екты маюць свой гонар.—Дзе-ж цяпер Мартын Робежнэкс.

Лепіньш. Бліжэй, чым вы можаце сабе ўявіць.

Фон Гаммэр. Даволі! *(Ускоквае)*. Цяпер мне даволі!—Праз—дзесяць—мінут—цябе—расстраляюць. *(На момант жудаснае маўчаньне)*.

Лепіньш *(гледзячы з-пад-ілба, едка-саркастычна сьмяецца; паціскае плячыма)*. І толькі? Гэта для мяне не навіна. Я даўно ўжо гатовы.

Фон Гаммэр *(апушчаецца ў крэсла; праз момант)*. Ці ёсьць у цябе яшчэ якое-колечы жаданьне?

Лепіньш. Ад вас? Што-ж вы яшчэ мне можаце даць?

Фон Гаммэр *(махае рукой)*. Вывесьці!

Драгуны *(падыходзяць з некаторай пашанай, бяруць Лепіньша ў сярэдзіну)*.

Лепіньш *(агляну́ўшыся)*. Кепскую паслугу вы робіце сваім братом-абшарнікам, фон Гаммэр. Дорага ім прыдзецца заплаціць за наша жыцьцё. *(З паднятай рукой)*. Прыдзе час—адкрыецца гэта акрываўленая зямля, і мы паўстанем са сваіх магіл. Тады—дрыжыце вы, каты.

Фон Гаммэр *(нібыты стогнучы)*. Вывесьці... Вывесьці...

Драгуны *(выводзяць Лепіньша. Барончык падбягае ззаду з кулакамі, нібіта жадаючы яшчэ ўкусіць. Класонс выходзе са сваймі паперамі)*.

Фон Гаммэр *(цяжка падымаецца; рэвольвэр астаецца на стале)*. Пфу! Няпрымена з гэтымі загартаванымі тэрорыстамі.

Паўла Сяргеявіч *(увесь час нібы загіпнозаваны не адрывае вачэй ад дзьвярэй, адказвае нібы размаўляючы з самім сабой)*. Так... прыемнай, калі яны плачуць і просяць.

Барончык *(назад)*. Біць іх усіх спачатку, так каб скура адлятала ад касьцей. Сто—дзьвесьце... Трыста!.. Вы робіцеся дужа мяккім, пане фон Гаммэр.

Паўла Сяргеявіч. Таму, што мы сьпімо на вашых мягкіх пухавікох і ямо за вашым сталом. Высокая культура наогул робіць чалавека мяккацелым. *(За сьцяной асабліва галосны гармідар, ён ускоквае нібы хоча накіровацца туды, але застаецца, стомлена садзіцца)*.

Барончык. Ах, так... да стала. Прашу, паны. Пані фон Стрык чакае.

Фон Гаммэр. Ну, Паўла Сяргеявіч, пойдзем.

Паўла Сяргеявіч. Пазьней—я пазьней.

Барончык. Што—пазьней. Гэтыя хлопцы запраўды могуць выпіць нам усё піва. *(Сьмяецца)*.

Фон Гаммэр *(скрывіўшыся, незадаволена)*. Эх, што—піва! Дайце мне каньяк! Каньяк!

Барончык. І шампанскае! Мы сёнека ўпяршыню адчынілі склеп майго бацькі. *(Уходзяць абодвы з Гаммэрам)*.

Паўла Сяргеявіч *(стаіць са схіленай галавой, са сьціснутымі кулакамі; воддаль чуваць залп стрэлаў—ён здрыгануўся, нібы падстрэлены, падае са стогнам у крэсла і хапае галаву рукамі. Зараз-жа за гэтым за сьцяной новая хваля сьмеху, піску і гармоніка. Затым музыкі пачынаюць настройваць інструманты)*.

Мартын Робежнэкс *(шпарка, аглядаючыся, ідзе праз сад і балькон; ціха ўваходзіць у шкляныя дзьверы, яны застаюцца шырока расьчыненымі. З рэльвольвэрам у руках ён стаіць і момант глядзіць на Паўла Сяргеявіча)*.

Паўла Сяргеявіч *(адчуўшы холад ад дзьвярэй, мэханічна падымаецца, з пахіленай галавой накіроўваецца зачыняць; ледзь не наскоквае на Мартына Робежнэкса, ціха ўскрыкнуўшы, адступае на крок)*. А! Чаго вы хочаце? Хто вы такі?

Мартын Робежнэкс *(гатовы на ўсё)*. Гэта я жадаў у вас спытаць. Вы фон Гаммэр?

Паўла Сяргеявіч. Не. Я яго памочнік, камандзер драгунскага эскадрону.

Мартын Робежнэкс. Ага! І з вамі мне трэба пагутарыць.

Паўла Сяргеявіч. Хто вы такі?

Мартын Робежнэкс. У вас слабая памяць, пане афіцэр. Але пачухайце патыліцу ці ня ўспомніце старога чалавека, якога вы загадалі сваім драгунам прывязаць да каня, а пасьля і забіць. Я ягоны сын, Робежнэкс. Мартын Робежнэкс.

Паўла Сяргеявіч. А! *(Хістаючыся, хапаецца рукой за галаву).*

Мартын Робежнэкс А! Ваша памяць пачынае працаваць, пане афіцэр... *(Заўважае, што той глядзіць на стол, дзе рэвольвэр і заднім ходам пасоўваецца).* Спынецеся на месцы. Бачыце, я ўжо трымаю ў руце, і ня буду чакаць покуль вы возьмеце свой. Але так будзе лепш. Станавецеся тут. *(Левай рукой хапае яго за грудзі і ставіць каля дзьвярэй).* Цяпер вы адкажаце мне за жыцьцё майго бацькі. І за ўсіх іншых. І за тых двух, што толькі-што забіты за паркам. За тых, якіх па дарозе на станцыю забіваюць у сасьняку. І за тых, што ўжо чацьверты тыдзень задыхаюцца ў замкавых скляпох.

Паўла Сяргеявіч *(хістаючыся каля сьцяны).* Што мне адказаць вам... Я ня кат, ні інквізытар...

Мартын Робежнэкс. Так? А хто-ж вы—па вашаму ўласнаму разуменьню?

Паўла Сяргеявіч. Ці-ж я сам гэта ведаю?.. Я быў афіцэрам расійскае арміі, расійскім памешчыкам і манархістым. Я быў пасланы сюды зрабіць парадак, арыштаваць бунтаўшчыкоў і перадаць суду. Так я разумеў свае заданьні. Але цяперака аказалася, што я зусім падпарадкаваны ротмістру, які да гэтага сам нямецкі памешчык. Непоўналетні разбэшчаны хлапец спойвае маіх салдат, прысвойвае маю ўладу і ад майго імя робіць жудасныя ўчынкі.

Мартын Робежнэкс. Вы кажаце аб барончыку Вольфу?

Паўла Сяргеявіч. Ну, зразумела. А вы мне за гэта суяце рэвольвэр пад нос.

Мартын Робежнэкс. Не старайцеся загаварываць мне зубы. Вы—афіцэр і абшарнік, і дазваляеце сабой камандаваць нейкаму малакасосу хлапцу, вырадку, у жылах якога цячэ кроў былых зладзеяў з вялікіх шляхоў і забойцаў.

Паўла Сяргеявіч. У тым-та і справа... *(Стамляецца ўсё больш).* Блазнам і высьмеяным зрабілі мяне ў гэтай крывавай гульні. І пры гэтым я яшчэ павінен сядзець з імі за адным сталом і піць іхняе віно... *(Здрыгануўся).* Брыдка!.. Я больш не магу... Я падаў просьбу аб адстаўцы—заўтра ці пасьлязаўтра я хацеў выехаць адсюль. Пайсьці са службы я хацеў—у мяне ў Пецярбургу пры царскім двары радня. Аудыенцыю да яго вялікасьці я хацеў прасіць, пісаць аб тым, што тутака робіцца... Але цяперака мне здаецца, што ўжо позна і ўсё дарэмна...

Мартын Робэжнэкс. Зразумела, дарэмна. Тут-жа ўсё робіцца па беспасрэднаму загаду тае-ж вашае гэтак завомае вялікасьці. *(Углядаецца пільна).* Ведаў-бы, ці вы запраўды гэтакі наіўны, ці толькі прыкідваецеся і лжэце. *(Крок уперад, бліжэй).* Слухайце, афіцэр! Калі я сюды ішоў, у мяне быў толькі адзін намер: першага, каго тут спаткаю. Але цяперака ў мяне іншае на розуме. Я ня ведаю, ці ўдасца мне жывому адсюль выбрацца. Праўду кажучы, я ў гэтым вельмі сумляваюся. Патрулі, варта стаяць наўкол маёнтку, вечар цямнее, але затое грамадзкі будынак

пачынае гарэць яскрава. У мяне такі прынцып: самую чорную, агідную душу за сваю.—Дзе цяпер барончык?

Паўла Сяргеявіч *(робіць нявыразны рух рукой).*

Мартын Робэжнэкс. Ну, добра. Ён не ўцячэ да мяне.—Але з аднэй умовай, пан афіцэр: раней поўгадзіны вы не пашлеце сваіх драгунаў лавіць мяне? Ваша слова гонару!

Паўла Сяргеявіч. Ні праз поўгадзіны, ні праз гадзіну. Але слова гонару, якое атрымоўваюць з рэвольвэрам у руцэ.

Мартын Робэжнэкс. Правільна. Ці-ж я ня ведаю, чаго варта слова гонару абшарніка. *(Робіць два крокі ў бок вэранды).* Я дарую вам ваша жыцьцё, пане афіцэр. Насеце яго, калі вы яшчэ можаце. Пачысьціце вашы боты—яны запэцканы ў крыві рэволюцыйнага народу. Вымыйце вашы рукі, калі вы яшчэ гэта можаце! *(Выходзіць).*

Паўла Сяргеявіч *(выпроставаючыся, нібы ў бяспрытомнасьці, хістаецца, нібы мыючы трэ адна-аб-адну рукі; шэпча).* Змыць... Змыць... Кроў... *(Застагнаўшы, падае лакцямі на стол, рукамі хапаецца за галаву).*

Барончык *(стукаючы ў дзьверы).* Паўла Сяргеявіч! Паўла Сяргеявіч! Мы чакаем! Дамы маркоцяцца бяз вас!

Паўла Сяргеявіч *(убачыўшы рэвольвэр перад сабою, устае, як у гіпнозе бярэ яго; за сьцяной дзікі сьмех і шум музыкі—ён страляецца і падае).*

## АКТ ЧАЦЬВЕРТЫ

### Зьява першая

*Вялікая вэранда ў канцы будынку ўпраўляючага. На панадворку засыпаныя сьнегам дрэвы і кусты ў парку. Усё памяшканьне асьветлена. За вокнамі відаць рэшткі спаленага замку—палацу. Пасярэдзіне даўгі, накрыты ежай, напіткамі і начыненьнем стол. З другога боку шырокія шкляныя дзьверы ў вялікі пакой, праз які ўваход у кухню. У тым пакоі музыка, падпіўшыя драгуны, сялянскія дзяўчаты і маладзіцы—не зважаючы на паноў жартуюць з драгунамі, пішчаць і час-ад-часу танцуюць. Па добрай вячэры, Зэлтыня і Юза зьбіраюць начыньне і падаюць каву. Паны, відавочна, выпіўшы стаяць групамі і размаўляюць.*

Фон Стрык яўнкундзэ[1]) *(да барончыка).* Але чаму тут нічога ня відаць? Я хачу бачыць, як гарыць.

Барончык *(у якога вочы больш глядзяць у бок драгунскіх заляцаньняў у другім пакоі; сьмяецца).* Мы дужа рана запалілі. Мне здаецца,

[1]) „Яўнкудзэ“ па-латыску знача—паненка. Складаецца з двух слоў: „яўнс“—малады, новы, маладая, і „кундзэ“—паня. Малады чалавек палатыску—„яўнкунгс“. *(Заўвага перакладчыка).*

гэта ілюмінацыя ўжо падыходзіць к канцу. Пан фон Гаммэр задужа доўга цягнуў паседжаньне з гэтым быдлам.

Фон Стрык яўнкундзэ. Фу-уй! Пан фон Гаммэр кепскі кавалер.

Барончык. Толькі ў адносінах да вас, панна фон Стрык. Да латыскіх дзяўчат ён зусім галантны. Сёнека адну выправіў у Рыгу без лазы.

Фон Стрык яўнкундзэ. Без лазы? *(Нібы ад ласкоткі)*. Скажэце пане фон Вольф, што яны робяць, калі іх б'юць? Яны крычаць таксама?

Барончык *(сьмяецца)*. Ну, я думаю так.

Фон Стрык яўнкундзэ. Ах! Гэта так цікава! Скажэце, пане фон Вольф... Я-б таксама хацела бачыць калі-небудзь. Ці можна?

Барончык *(паціскаючы плячыма)*. Чаму не? Але я ня ведаю, ці дазволіць пан фон Гаммэр.

Фон Стрык яўнкундзэ. Чаму не дазволіць? Я нічога ня буду рабіць. Я толькі хачу паглядзець. Гэта так цікава! Пагутарце вы з панам фон Гаммэрам. Так? Вы мне гэта абяцаеце?

Фон Стрык кундзэ *(з Фэрлінгам і Брэнсонам)*. Тут так вільготна. Мне гэта вечарына здаецца падобнай да вячэры пасьля паляваньня ў якой-небудзь хаце лясьніка. Вам не здаецца гэтак, пане пастар?

Фэрлінг. Дзякуйце богу, фон Стрык кундзэ, што яшчэ гэтак! Па меншай меры ён нам голае жыцьцё абараніў. Але колькі зара сямеек, дзе цяпер глыбока сумуюць па нябожчыках адышоўшых і забітых бунтаўшчыкамі. Мы яшчэ з ласкі божай можамо лічыцца шчасьлівымі.

Брэнсонс. Я, здаецца, самы шчасьлівы сярод вас.

Фон Стрык кундзэ *(пры кожным слове ківае галавой)*. Так, так, так... Вы самы шчасьлівы, бо вы бліжэй ўсіх былі да сьмерці. Колькі там не хапіла... Колькі не хапіла... Я дзіўлюся і не разумею, як гэта вам пашанцавала.

Фэрлінг. Каго сам бог бароніць, фон Стрык кундзэ...

Гаммэр *(да якога падыходзе Класонс з скрыначкай цыгар)*. Вы дазволіце, фон Дален кундзэ?

Фон Дален кундзэ. Але прашу, пан фон Гаммэр! Прашу, паноў! *(Классонс падае цыгары ўсім іншым і сьпяшаецца запаліць)*.

Зэтыня (*шчасьлівая, зьзяючая, падыходзіць да фон Стрык кундзэ, робіць рэвэранс)*. Калі ласка, вялікая маці. Кава на стале.

Фон Стрык кундзэ. А торт ужо пячэцца?

Зэтыня. Так, так, высокашаноўная маці. Пячэцца.

Фон Стрык кундзэ. Ну глядзі ты мне, каб не згарэў. *(Зэтыня шпарка выбягае)*. Ну, паны, прашу да кавы! Прашу, прашу! *(Садзяцца гутарачы)*. Кунігунда, ты сюды.—Пан фон Вольф, калі ласка! *(Садзіць побач)*.

Фон Дален кундзэ *(глянуўшы ў пакой, вяртаецца, паціскаючы плячыма)*. Ах! Якія-ж гэтыя сялянскія дзеўкі! Самі вешаюцца салдатам

на шыю. Зусім не саромяцца. *(Сядае побач з фон Гаммэрам і ўвесь час ўважліва яго аглядае. Усе чокаюцца і п'юць).*

Фон Гаммэр *(моцна падпіўшы, вясёлы).* Ах, што там, пані фон Дален! На тое яны і існуюць. Хай-жа мае хлопцы троху пацешуцца. Тут-жа ня горад, тут гэта ім рэдка трапляе.—На здароўе, паны!

Фон Стрык кундзэ. Я не магу зразумець, пан пастар, як гэта вы можаце вытрымаць. Вашы высілкі астаюцца бяз вынікаў, але вы ўсе-ж ткі не стамляецеся і ня кідаеце гэты сапсаваны народ на волю лёсу. Я дзіўлюся вашай адвазе, пан пастар.

Фэрлінг. Дазвольце. *(Налівае яе шклянку).* Гэта ёсьць сьвядомасьць свайго абавязку, пані. Большага я не адважваюся сабе прыпісываць. Праўда, бязбожнасьць і распусту я бачу ўсюль. Але я не наймовы пастух, які кідае сваіх авец, якімі-б яны ні былі. *(Біблійным голасам).* І калі-б нават мой голас астаўся толькі голасам у пустэчы, я ўсё-ж не замоўчу... На здароўе, мае пані!

Фон Дален кундзэ *(якая ўвесь час з захопленьнем глядзела на фон Гаммэра, амаль прыціскаючыся да яго).* Голас ў пустэчы... Ах як прыгожа!—Але дзе-ж Паўла Сяргеявіч? Чаму ён ня ідзе да стала?

Фон Гаммэр *(п'яны).* Паўла Сяргеявіч ад'язджае. У Петраград едзе—скардзіцца на мяне.

Фон Дален кундзэ. На вас, пан фон Гаммэр! Але чаму-ж? Вы-ж такі добры, пане фон Гаммэр!

Фон Гаммэр *(кулаком аб стол).* Блазьнюк! Я загадаю яго высьцебаць! Вайскова-палявому суду я яго аддам!

Фон Стрык яўнкундзэ. Ах! пане, фон Гаммэр! Паўла Сяргеявіч-жа такі прыгожы!

Фон Стрык кундзэ. Але, Кунігунда!—Налей-жа пану барону. *(Фон Стрык яўнкундзэ налівае).*

Барончык. Гэта нічога! Шампанскага мы вып'ем!—Выбачайце, фон Стрык яўнкундзэ.—*(Устае, ідзе да дзьвярэй).* Шампанскае! Шампанскае! *(Выходзіць).*

Фон Гаммэр. У бараноў рог я яго скручу! Кадэт гэткі!

Фон Дален кундзэ. Супакойцеся, пан фон Гаммэр. У вас такое слабое сэрца...

Фон Гаммэр *(убачыўшы драгунаў, якія са шклянкамі ў руках сталі натоўпам каля дзьвярэй).* Чаго вы хочаце, чэрці гэткія? Восіпаў, быдляціна, куды ты лезеш!

Драгун *(хістаючыся, вышчарыўшыся).* Адважваюся далажыць, ваша высокадабродзьдзе.—Мы—на ваша здароўе...

Фон Гаммэр *(ускочыўшы).* А! На здароўе, хлопцы! *(Ідзе туды).*

Драгуны. Вясёла змагацца, ваша ваў, ваў, ваў, ваў!

Драгун *(усё больт захапліваючыся).* Здароўе нашым дамам!

Іншыя. Ваў ваў, ваў!

Барончык *(ідзе з бутэлькай шампанскага ў вядры, за ім Зэтыня і Юза таксама з вёдрамі).*

Драгуны. Гура! ура! ура!

Барончык *(сьмяючыся, качае вядром у тахт, крычыць разам з імі).*

Фон Гаммэр *(канчаткова захоплены).* Восіпаў, сукін сын. Давай пацалую. *(Абодвы абымаюцца і цалуюцца. Драгуны крычаць ура. За сталом усе падымаюцца і плешчуць у далоні—таксама Зэтыня і Юза, паставіўшы вёдры; дзяўчаты таксама, зьбіўшыся каля дзьвярэй. Музыка грае туш. Пасьля гэтага драгуны выходзяць).*

Фон Дален кундзэ *(выціраючы сьлёзы).* Ах, як гэта было прыгожа! Як ён іх любіць!..

Фон Стрык кундзэ *(барончыку, які наліў стаканы).* Як яны вас кахаюць, гэтыя нашы збавіцелі!

Барончык. Я іх таксама. Гэта добрыя хлопцы.—*(Схапіў шклянку шампанскага).* А цяпер, паны... *(Ускрыквае і выпушчае шклянку з рук. Усе ў перапудзе, за выключэньнем фон Гаммэра,—ускакваюць; Брэнсон нават інстынктыўна хаваецца за стол.*

*Да вэранды з боку парку падышлі Ян Робежнэкс, Вільдэ і Поднэкс, шапкі ў рукох, стукаюць у шкло).*

Фэрлінг *(бяз голасу).* Божа мой!.. Што гэта такое?

Класонс. Не хвалюйцеся, паны! Гэта дэпутацыя ад воласьці. Яны жадаюць прывітаць вас.

Фон Гаммэр. Чаго яны жадаюць? Чаго яны яшчэ могуць хацець? Я загадаю ім па пяцьдзесят... Па семдзесят пяць—па сто я ім усыплю, чорт пабяры!.. Выбачайце, фон Дален кундзэ...

Барончык. Дазвольце ім, пан фон Гаммэр. Хай-жа яны ідуць.—*(Назад).* Праз кухню! *(Махае Классонсу).*

Класонс *(бяжыць туды).* Куды лезеце! Праз кухню! Праз кухню, вам кажуць. *(Паказваючы ім рукамі і рухамі ідзе за імі па вэрандзе наўкруг да дзьвярэй, а потым сьпяшаецца ім на спатканьне).*

Фон Стрык кундзэ *(усьлед).* Ногі! Ногі хай вытруць!

Барончык. А цяпер, паны! За здароўе нашага абаронцы і збавіцеля, пана фон Гаммэра! Прозіт!

Госьці. Прозіт!

Фон Стрык кундзэ. Але скажэце, пан пастар, чаму ваша жонка не паехала з вамі?

Фэрлінг. Але-ж вы ведаеце, фон Стрык кундзэ, яна ня можа. На шостым месяцы...

Фон Стрык кундзэ. Ах, так. Тады зразумела патрэбна быць асьцярожнай. Ну, нічога, з боскай дапамогай усё абыйдзецца добра. Скажэце, што цяперака робіць ваша маленькая?

Фэрлінг. О! Яна ў нас спрытная. І здольная. Кожны вечар моліцца.

Фон Стрык кундзэ. Што вы кажэце! Якое разумнае дзіцё! Колькі-ж ёй год?

Фэрлінг. На трэці дзень вялікадня споўніцца пяць год.

Фон Стрык. Скажэце! Ну, хто ад бацькоў атрымаў у спадчыну, той ужо рана пачынае.

Класонс *(уводзіць дэпутацыю; тыя нібыта спалохана, кланяюцца і пераступаюць каля дзьвярэй).*

Барончык. Ат! Што там тупаць каля дзьвярэй! Ідзі бліжэй, каб было відаць.—*(Класонс падштурхоўвае дэпутацыю бліжэй і ставіць у шэраг усіх каля сьцяны).* Пан фон Гаммэр, я думаю, тутака павінен быў-бы быць прысутным Паўла Сяргеявіч.

Фон Гаммэр. Хто. Паўла Сяргеявіч. Абавязкова. Я загадваю яму зьявіцца. У поўнай форме і з усімі ордэнамі... Я яго прывучу да парадку... *(Фон Дален кундзэ супакойвае яго, усьмяхаючыся, паказваючы на дэпутацыю. Барончык махнуў рукой Класонсу, той выбягае. Драгуны і дзяўчаты натоўпам, каля дзьвярэй).*—Ага! Цяпер вы, нарэшце прышлі... Доўга я павінен быў вас чакаць... Глядзеце, як гэты дзед выглядае! *(Сьмяецца).* Дзед, ці ўмееш ты скакаць?

Поднэкс *(напалоханы шапялявіць).* Не навучыўся, пане...

Фон Гаммэр. Ну, тады ты ў мяне навучышся. Ты ў мяне сёнека паскачаш...

Зэтыня *(якую ў дзьвярах нейкі драгун памацней абняў, пішчыць).*

Барончык. Цыц!— *(Да Яна, які відавочна зьбіраецца прамаўляць).* Ну!

Ян Робэжнэкс. Дазвольце паведаміць, ваша-ваша высокадабродзьдзе, што агульны сход воласьці выбраў нас—паслаў нас выказаць вам глыбокую падзяку за аслабаненьне ад пяці тысячаў штрафу.

Фон Гаммэр. Так, я вас аслабаніў. Ад дзесяці тысячаў я магу вас аслабаніць. Я маю неабмежаваныя паўнамоцтвы...

Ян Робежнэкс. І далей дазвольце мне паведаміць, што воласьць дзякуе пакорна ваша высокадобродзьдзе за аднаўленьне парадку і спакою ў староны... Вам і нашаму высокапаважанаму барону... і паважанаму пану пастару... І дужа шкадуе, што яшчэ здарыўся гарэзны напад на вернага падданага нашага маэстату... *(Выцірае хусткаю пот з ілба).* І абяцае з свайго боку ўсё, што будзе ў сілах... і ўперад...

Класонс *(перабіваючы прамову, вяртаецца і нешта шапнуўшы на вуха барончыку).* Ён ня ідзе. Дзьверы зачынены. Ён не адказвае...

Барончык. Пан фон Гаммэр, Павел Сяргеявіч ня ідзе.

Фон Гаммэр. Як ня ідзе! Калі я загадваю! *(Кулаком аб стол).* Я загадаю яго арыштаваць... Восіпаў!

Барончык. Пачакайце, пан фон Гаммэр. Я сам.—Зачынена, вы кажаце?—Праз сад... *(Сьпяшаецца з вэранды ў парк).*

Фон Гаммэр. Я загадаю яму налічыць... *(Фон Дален кундзэ нешта шэпча яму на вуха).* Так. А як-жа, фон Дален кундзэ. Зараз! Я ім пакажу!.. *(Устае, трымаецца за край стала).* Я вас паклікаў, праклятыя соцыялісты... *(Фон Дален устае і нешта шэпча яму на вуха).*

Ах так!—Ну гэтак... Дык я кажу, што я задаволены, дужа задаволены. Сёнека і на будучыню. Усе разумныя элемэнты хай падтрымоўваюць працу войска, тады мы ў хуткім часе зможам паведаміць пана генэрал-губэрнатара і яго імпэратарскую вялікасьць... *(Углядаючыся на Яна).* А! ты гэта той настаўнік! Ты ўсё яшчэ сьпяваеш, божа цара храні. Калі мае драгуны праяджаюць міма?

Ян Робежнэкс *(надзвычайна няшчасны, аглядаючыся).* Так, так, ваша высокадародзьдзе... Мы сьпяваемо кожную раніцу і ўвечары...

Фон Гаммэр. Зрана і ўвечары—гэта добра. Сьпевы, паны, гэта добра. Я сам раней, калі быў у кадэцкім корпусу... *(Схамянуўшыся).* Чаго яны яшчэ тут стаяць.—Кругом! Направа! Марш!

Фон Стрык кундзэ. Класонс! Дайце ім на кухні па шклянцы гарэлкі.

Фон Дален кундзэ *(падаючы талерку Класонсу).* А тут яшчэ гэтыя рэшткі бутэрбродзікаў.

Фон Гаммэр. Зьмірна! Музыку! У гонар найвышэйшага павадыра арміі, яго імпэратарскае вялікасьці!

*(Музыка. Ян пачынае, усе сьпяваюць божа цара храні. Драгуны робяць высілкі стаяць проста, але хістаюцца. Дзяўчаты сьпяваюць, надзьмуўшы шчокі).*

Барончык *(з парку, са скрыпаньнем адчыняюцца дзьверы, улятае, дрыжучы і калоцячыся).* Паны! гэта жудасна!.. Ён застрэляны!

*(Адразу жах, цішыня і аслупяненьне).*

Брэнсонс *(бяз голасу).* Хто—застрэляны?

Барончык. Павал Сяргеявіч... Ляжыць—так... Проста ў лоб...

*(Агульная куламеса. Дамы з піскам бегаюць адна-да-аднэй. Брэнсон уцякае праз дзьверы ў пакой, куды выходзілі драгуны, дзяўчаты і дэлегацыя. Фэрлінг, склаўшы рукі да маленьня, шукае месца куды б схавацца).*

Фон Гаммэр *(абязглузьдзеўшы ад п'янства).* Застрэляны! Хто адважыўся страляць. *(Апаматаўшыся, выбегае на сярэдзіну вэранды).* Гэта нячувана! Рэвольвэр!.. Дзе мой рэвольвэр?.. Драгуны! У ружжо! Абкружыць парк!.. Нікога не выпушчаць жывым!..

### Зьява другая

*Пляцоўка ў парку маёнтку. Наўкола пакрытыя сьнегам кусты. Над імі бачна вэранда, скуль сьвятло даходзіць і да пляцоўкі. Час-ад-часу чутна музыка, выгукі п'яных драгунаў, піск жанчын. На другім баку далей зрэдку чуваць стрэлы.*

Два драгуны *(спачатку ня бачны, сьвісьцяць, крычаць).* Э-оо! Э-оо! *(Выходзяць на пляцоўку; іншыя агукаюцца здалёк).*

Драгун. Э-оо! Пайшлі дахаты!—*(Другому).* Страляюць. Чэрці! Нібы патроны можна з зямлі накапаць.

Другі *(сьмяецца)*. Соцыялістых ловяць... Гэта твой Восіпаў. Языком цэлую армію пераможа, а цяперака ў яго напэўна штаны трасуцца.

Першы. Эх. Абрыдла мне гэтая служба. Я разумею—вайна, дык вайна. А тут—нібы на паляваньні за зайцамі. Гэта-ж такія-ж людзі.

Другі. Што? Людзі? Хто гэта табе казаў? Соцыялісты—не чалавек.

Першы. Да пятак, я табе кажу!.. Бяруць гэткага беднага чорта—і да дрэва. Як старога сабаку, які ўжо ня можа больш служыць...—Гэта агідна!

Другі. Слухай, хто гэта табе нагаварыў?

Першы Ніхто мне нічога не нагаварыў.

Другі. Не, ты мне тутака ня думай жартаваць!

Два драгуны *(з парку)*. Ну, што? Што крычыш? Злавілі?

Першы. Не злавілі і няма каго лавіць.

Трэці. Як няма? Нам загадана вартаваць.

Першы. Ну зразумей, дурніца, няма чаго вартаваць, Павел Сяргеявіч не застрэляны, ён сам застрэліўся.

Абодвы другіх. Сам? Як гэта?

Першы. Ну—так.

Другі. Рэвольверам ротмістра.

Трэці. Ня можа быць!

Першы. Але кажуць-жа табе! Ротмістр загадаўісьці дахаты.

Чацьверты *(выпіўшы)*. Ліха ведае, што за парадак! Сёнека не мая чарга—і я павінен швэндацца ўсюдых. Катарга, а ня служба. Скуру трэба злупіць з усіх гэтых праклятых соцыялістых!

Трэці. Але чаму застрэліўся?

Першы. Ідзі, спытай яго самога! *(Зноў дзесьці страляюць)*. Э-оо! Дахаты! *(Музыка і сьмех з боку вэранды)*.

Другі. Чуеце, як хлопцы гуляюць!

Трэці. Пойдзем, каб ня выжлукцілі ўсё. Толькі адна бочка засталася.

Чацьверты. Але ротмістр сёнека ўпіўся.

Другі. Чаго плявузгаеш. Ці-ж толькі гэта бачылі?

Чацьверты. Але-ж я табе кажу! калі загадваў пець, дык тады на дзевяноста дзевяць градусаў... *(Сьмяецца. Усе ўходзяць. За кустамі на некага крычаць)*.

Ян Робежнэкс *(ідзе з Вільдэ)*. Ідзеце, пан Вільдэ! Яны ўпіліся. Хаця-ж бы з гонарам адыйсьці адсюль.

Вільдэ. Пачакайце! Валасны старшыня з жонкаю таксама ідзе.

Ян Робежнэкс. Чорт іх пабяры! Першы і апошні раз я ўдзельнічаю ў гэткай дэпутацыі.

Вільдэ. Але вы-ж самі жадалі.

Ян Робежнэкс. Так і глядзі, што-б не залічылі да контр-рэволюцыянэраў. Ад лясных братоў ніхто ня можа быць спакойны.

Вільдэ. Глупства! Я зусім не баюся, у мяне ў самога рэвольвэр. Заўтра яны робяць паляваньне—выжануць усіх, як зайцаў і расстраляюць. Ваш брат, здаецца, ужо ўцёк?

Ян Робежнэкс *(злосна)*. Чаго вы мяне пытаеце аб ім! Ці-ж я павінен аб ім ведаць!—Я тут павінен прыходзіць і трымаць прамову... Цяпер яшчэ сьпіна мокрая.

Вільдэ. Нічога асаблівага вы там не сказалі. Так і я магу сказаць.

Юза *(уваходзіць нездаволеная)*. Куды вы ўцякаеце пане! Я магу тутака заблытацца.

Ян *(за руку)*. Гэтага ты толькі і хочаш! Ці-ж я ня бачу! Вочы назад глядзяць. Сораму ты ня маеш.

Юза. Ня ціскайце-ж! *(Вырваўшы руку)*.—Чаго вы ад мяне хочаце! Вы мне не камандзер які-небудзь!

Ян Робежнэкс. Ты яшчэ будзеш гутарыць!

Поднэкс *(падпіхваючы Зэтыню)*. Што ты туды яшчэ глядзіш! Цаган з мёдам знайшла!

Зэтыня. Я табе кажу, пакінь мяне ў спакоі! Я сама ведаю!

Поднэкс. Разумная якая! Няўжо-ж драгунам на шыю павесішся! Тады як вазьму пугу!..

Другі драгун *(з чацьвертым клічуць)*. Гэй, гэй, прыгажуньні! Што-ж гэта такое! Баль толькі што пачаўся. *(Схапіў Зэтыню)*.

Зэтыня *(напалову змагаецца, напалову дазваляе)*. Ва-й, яўнкунгс! Пусьцеце!

Чацьверты *(ловіць Юзу)*. Не, паненачка, нічога ня будзе! Мы яшчэ паскачам.

Юза. Так, але пан мне болей не дазваляе.

Ян Робежнэкс. Яна павінна ісьці дахаты. Кундзэ адна з малым дзіцянём...

Другі драгун. Што той там плявузгае? Дзяніс, дай яму адну!

Чацьверты *(зьнімаючы вінтоўку)*. Трымай морду! Я табе пакажу пана! Прэч! Марш! *(Ян Робежнэкс уцякае)*. І вы абодвы! Чаго яшчэ стаіш? Чаго вочы выпучыў ?Марш! *(Тыя ўходзяць)*. Гніды гэткія! Я вам пакажу!

Другі *(абымаючы Зэтыню)*. Так гаспадынька! Мы яшчэ паскачам! *(Цягне яе)*.

Зэтыня *(упіраючыся)*. Пусьцеце, яўнкунгс! Чаго вы са мной старухай...

Другі драгун *(за кулісамі)*. Хай старая, абы добра скакала...

Чацьверты *(моцна абняўшы Юзу)*. Ну, прыгажуньня! Цяпер мы пацешымся! *(Цалуе)*.—Эх! чорт забяры! *(Тупае нагой)*.

Юза *(сьмяецца)*. Пусьці! Ты мне прычоску псуеш!

Чацьверты. Што ты кажаш? Прычоску? *(Сьмяецца)*. Я табе яе так пакалмачу, што тры дні будзеш прычосвацца Пойдзем!—Я хачу

піць... Сёнека я хачу напіцца, як быдляцінка—як сьвіньня... Пойдзем, сьвіначка!.. *(Цягне яе. Момант сцэна пустая).*

Фэрлінг *(з Брэнсонам, фон Гаммэрам і з першымі трэцім драгунамі).* Хэ, хэ, хэ! Вашы хлопцы сёнека добра пацешацца, пан фон Гаммэр... *(Адразу сур'ёзны).* Толькі гэты труп там у суседнім пакою...

Фон Гаммэр *(п'яны незадаволены).* Чорт-бы яго забраў! Зноў паясьненьні і ўсялякія няпрыемнасьці. Няма больш афіцэраў у расейскай арміі. Бабы і вяхоткі!

Ферлінг. Падняць руку на свае ўласнае жыцьцё—як гэта жудасна Бязумоўна, гэта здарылася ў момант зацямненьня розуму. У ясным розуме чалавек не аддасьць душы дзьяблу на пякельныя мукі.

Фон Гаммэр. Ах, дайце спакой, пастар, са сваймі навукамі. *(Драгунам).* Адвядзеце гэтых паноў да патрулёў ў канцы прысадаў, а тыя хай адвядуць іх у фальварак пастара. Зразумелі?

Першы драгун. Так точна, ваша высокадабродзьдзе.

Фэрлінг. І не запамятайце, пане фон Гаммэр, што вы мне абяцал. Трох салдат, як варту. Я буду чакаць ужо заўтра.

Фон Гаммэр. Як сабе хочаце, хаця-ж гэта залішне. Заўтра мы ператрасем усе лясы, пераловім усіх бандытаў. Я тутака зраблю гэткі парадак, што сабака сялянская не адважыцца выйсьці на дарогу,

Брэнсонс. І вы думаеце, што мы можам сьмела ісьці?

Фон Гаммэр. Калі мае драгуны вас праводзяць? Чаго-ж вы баіцеся?

Брэнсонс. Мартын Робежнэкс яшчэ тутака бадзяецца.

Фон Гаммэр *(разьюшаны).* Чаго вы яго баіцеся, як дзіце пужала? Я вам даю сваё слова гонару, што заўтра ён ужо будзе сядзець у мяне ў склепе. Калі ахвота, прыходзьце паглядзець.

Фэрлінг. Будземо спадзявацца на ўсё лепшае. Але сэрца такое неспакойнае.

Фон Гаммэр *(сьмяючыся, б'е яго па плячы).* Ня будзьце бабай, пастар! У вас-жа свой абаронца, яшчэ больш надзейны, чым мае драгуны. *(Сур'ёзна).* Я-б загадаў вас адвесьці, паны, але абодвы мае ездавыя кані адасланы на станцыю, каб спаткаць пана старога барона. Дык—добрае дарогі!

Брэнсонс. І яны нас праводзяць да пастарату?

Фон Гаммэр. Але-ж я сказаў! Патруля з канца прысадаў.—Бывайце здаровы, паны! *(Падае руку).*

Фэрлінг. З боскай дапамогай. З боскай дапамогай. *(Уходзіць з Брэнсонам і абодвымі драгунамі; фон Гаммэр уходзіць назад.—Сцэна на момант пустая).*

Дзяўчына. *(ўцякаючы ад барончыка).* Пан барон! Пан барон! Дайце спакой!

Барончык *(перапіўшыся, бяз шапкі).* Чаго ты крычыш, дурная!

Фон Стрык яўнкундзэ *(засопшыся, у нестрыманым гневе)*. Пан фон Вольф! І вы пакідаеце нас адных...

Барончык. Па-ардон, фон Стрык яўнкундзэ... Я толькі гэтую прыгажуньню праз парк праводжу.

Фон Стрык яўнкундзэ. З якіх часоў вы гэткі кавалер для хлеўніцаў? *(Падыходзе да дзяўчыны, нюхае)*. Тут-жа хлевам пахне.

Барончык *(цынічна сьмяецца)*. Дзеля перамены і гэткі пах згодзіцца.

Фон Стрык яўнкундзэ. Калі вы зараз-жа ня прыдзеце, мы з мамай выедзем.

Барончык. Зараз, паненачка! Як вокам міргнуць!

Фон Стрык яўнкундзэ *(падскочыўшы да дзяўчыны)*. Шлюха. Распусьніца. Я скажу пану фон Гаммэру. Цябе ў склеп зачыняць. Сьцёбаць цябе заўтра будуць... *(Убягае)*.

Барончык *(сьмяецца)*. Сапраўдная амазонка... *(Схапіўшы дзяўчыну за руку)*. Ну, як? Пойдзем.

Дзяўчына. Пусьцеце мяне, пан барон. У мяне ў хаце хворая маці. Гаспадыня мяне сілай выгнала сюды.

Барончык. Ня будзь дурніцай. Толькі на поўгадзінкі. За кухняй маленечкі пакойчык.—Ніхто нічога ня будзе ведаць. Пяць рублёў я табе там.

Дзяўчына. Не! Пусьцеце! *(Вырываецца)*.

Барончык *(у нястрымным гневе хапае яе і за другую руку)*. Нікуды я цябе ня пушчу, сусыня гэткая. У склеп я цябе зачыню! Адсьцябаць я цябе загадаю! Драгунам цябе аддам!.. Пяці драгунам па чарзе!..

Дзяўчына. Ай! Не ламіце рукі! *(Плача)*.

Барончык *(сіпіць)*. Я табе яе адламлю, падлюга ты гэткая!.. *(Убачыўшы Мартына Робежнэкса, адразу выпускае, адступае на крок)*. Што—хто гэта?

Дзяўчыня *(агляну́ўшыся, ускрыквае, уцякае)*.

Барочык *(ахрыпшы)*. Чаго ты хочаш?

Мартын Робежнэкс *(з рэвольвэрам у руцэ, падыходзіць бліжэй)* Гэта я табе зараз скажу. *(Заўважыўшы, што барончык лезе ў кішэню)*. Зьмірна! Рукі па швох!

Барончык *(шапялява, цяжка дыхаючы)*. Чаго вы хочаце?

Мартын Робежнэкс *(гледзячы на яго з агідаю)*. Цьфу! Гэта завецца абшарнік і рыцар! Агіда! Ты ня варты кулі чэснага рэволюцыянэра... А! Цяпер ты дрыжыш, нягоднік! Колькі душаў латыскіх сялян на тваім сумленьні?

Барончык *(ляскаючы зубамі)*. Пусьцеце... я заплачу...

Мартын Робежнкс. Што? Заплаціш? Гэтак! На тое-ж я і зьявіўся, каб зрабіць з табой добры гандаль. Ну? Колькі ты мне можаш пасуліць?

Барончык. Мы... мы багатыя... У майго бацькі многа грошы...

Мартын Робежнэкс. Гэта было-б добра. Але бачыш, барончык, мне патрэбна палічыцца ня толькі з табой і тваім бацькам, але і з усімі

тваімі продкамі. Пакажы мне хаця-ж бы аднаго такога, які ня купаўся-б у поце і крыві селяніна. Толькі аднаго—і я зараз адпушчу цябе на ўсе чатыры бакі.

Барончык *(схіліўшы галаву, плача)*.

Мартын Робежнэкс. Нічога, барончык. Ты кепскі комэрсант. Тваё калькуляцыі дзіцячыя. Калі-б вы былі багацейшымі за Крэза, дык і то свой доўг вы пакрыць ня зможаце. Што-ж ў вас ёсьць і чым вы думаеце адкупіцца? Ці-ж тыя грошы, што ляжаць у вас па скрынях, ня вы высасвалі пакапеечцы з нашых жыл? Ці-ж гэта ня нашы грошы, якімі вы хочаце нас купіць? Наш гандаль—жарты, барончык, і нічога з гэтага ня будзе...

*(З боку вэранды чуваць вясёлы гул; чуваць камандуючы голас фон Гаммэра).*

Барончык *(заўважыўшы, што Мартын Робежнэкс на момант перакінуў ўвагу ў бок вэранды, кідаецца на яго).*

Мартын Робежнэкс *(ударам рэвольвэра адкідае яго назад, страляе ў яго і зьнікае ў кустох; барончык падае).*

Першы драгун *(ня відны).* Яшчэ страляюць, праклятыя! Толькі пілнуй, каб самому ня пусьцілі кулю ў рэбры... Э-оо! Ідзеце дахаты.— *(Уваходзіць з трэцім).* Чуеш, як там балююць. Ты тут цягайся, як дурань, праводзячы іхных пастараў. Пастар... Сьвіньня! *(З вэранды гул павялічваецца; фон Гаммэр камандуе).*

Трэці. Стары сёнека зноў удрызг п'яны. Цяпер рыхтуйся сьпяваць гімн да-раньня... *(Найшоў на барончыка).* Чэрці, хто тут ляжыць.

Першы. Упіўся нехта задужа.

Трэці *(штурхаючы нагой).* Гэй! падымайся! Вушы адмарозіш! *(Равеньне п'яных драгунаў божа цара храні, галасы жанчын.—Два драгуны, стаўшы на-выпраст, як варта, стаяць абапал барончыка).*

КАНЕЦ

З латыскае мовы пераклаў **К. Езавітаў.**

## З НІЗКІ „ПАЎДЗЕННАЕ МОРА“

**Зьмітрок Астапенка**

1

### НА ЎЗМОР'І ВЕЧАР...

На ўзмор'і вечар. Ціха яркне
Абрыс вячэрніх, сонных хваль...
Сваю любімую, татарка,
У гэты вечар засьпявай!

Арлы арлуюць ў небе зранку
І ў горы кружацца назад...
Я назаву цябе, каханка,
Звычайным імем—Хацімат!..

Чамусьці сэрца у трывозе
Ў прыбой вячэрні і туман...
Сьпявай, што-небудзь на парозе,
Мая красуня—Хацімат!..

Аб чым, пытаеш?.. Хоць аб моры!
Яго я бачу ў першы раз...
Сьпявай аб тым, як гаснуць зоры
Ля вашых хат у начны час!..

Сьпявай аб тым, як навальніца
Шукае морскія шляхі,
І з дальняй Турцыі зарніцы
Маўкліва ліжуць небасхіл.

Аб тым, як шквал зьлятае раптам,
Узьбіўшы валаў морскіх хмель,
І, як бяз ветразей і мачтаў
Імчыць на скалы карабель.

Мне любы віхраў завываньні
І рокат мора у валох,
Бо ўсё жыцьцё ідзе ў змаганьні
І дні ідуць мае ў шляхох...

Сьпявай, красуня!..
Сёньня—штылі...
І дрэмле мора далягляд.
Гладзі—ў якой маўклівай стыні
Далёкіх гораў вадаспад!..

Сьпявай, пакуль загаснуць зоры!..
А заўтра—пойдзема з табой
Зьбіраць у кошыкі па ўзмор'і
Што занач выкіне прыбой...

Алушта,
жнівень 29 г.

2

## У ПОРЦЕ

Цэлы дзень ішла работа ў порце.
Разгружалі баркі, караблі...
Цэлы дзень у морскай пазалоце
Сьнегавыя ветразі плылі.

У партовым горадзе заўсёды
Галасоў шумлівы перабой,
Пераборы морскія мэлёдый
І ў суровым рокаце прыбой.

На масткох смуглявыя матросы
Колькі песень ведаюць такіх
Аб краінах казачна-заморскіх
І тубылках стройных, агнявых...

Цэлы дзень ішла работа ў порце...
Ля затокі швэндаўся народ.
Нагружалі грузчыкі бясконца
Акіянскі грузны параход.

Заўтра, толькі ноч пакіне бераг—
Паляціць над бухтамі туман...
І да порту Рыо-дэ-Жанэйро
Паплыве заморскі капітан.

Мора шэпча ласкава і квола
І калыша ціха караблі...
Паплыла мэдуза каля молу
Да крутой базальтавай скалы.

Сьпяць пад сонцам сінія прасторы,
Вецер ціхі хваль не скалыхне...
— Ёсьць у вас, у Беларусі — мора?
Запытаўся нехта у мяне.

Я сьмяюся весела й паціху...
У канатах вецер шалясьціць.
Мора дрэмле, мора сыпле іскры,
Як агні паўночныя зарніц.

Сэвастопаль.
жнівень 1929 г.

## ДЖАН-ХОТ [1])

**Е. Пфляумбаум**

На Джан-хоце высокія горы,
на Джан-хоце віно і сьмех,
і ў зіяньнях, бы першы сьнег,
бела-пенныя грэбні на моры.

З Геленджыку, на кацеры „Сьпід"
паплылі у трывожнай прасторы,
а здалёк усьміхаліся горы—
на чужыне—чужы краявід.

Адзначыла у ласках праменных
вялічава-задумнае мора,
і маяк урачыстым дазорам
сьведчыў сонцу сваю сумленнасьць...

Я глядзела любаму ў вочы
напілася віном і сьмехам...
аб такой нечаканай уцехе
на Джан-хоце стары напрарочыў.

Вакханалію справіла мора:
распляло цёмна-сінія косы
і каханьня хмялёвую росып
ў навальнічных прапела мажорах!..

Зноў глядзела я любаму ў вочы!
напілася жудой і сольлю,
аб такім нявыказным болю
на Джан-хоце стары не прарочыў.

---

[1]) Джан-хот—мясцовасьць на Паўночным Каўказе.

На гарачых ад солі вуснах
я адчула цалунак мора
і чакала... чакала пакорна
яшчэ новых, такіх спакусных...

А пазьней... адпачыла глыбока
у пяшчотах сярэбранай ночы...
і глядзела я любаму ў вочы,
бы ў прадоньне, трывожным зрокам.

Геленджык,
1 ліпеня.

# Задачы культурнай рэволюцыі ў пяцігадовым пляне соцыялістычнага будаўніцтва

М. Карклін

## Пролетарская лінія і клясавая барацьба

Тое, што задачы культурнай рэволюцыі ў пяцігадовым пляне павінны заняць адно з галоўных месц, не патрабуе вялікіх довадаў.

Мы ня зможам ажыцьцявіць плян соцыялістычнага будаўніцтва ў гэты пяцігадовы кавалак часу, калі задачы культурнай рэволюцыі ня будуць яскрава фармуляваны з усёй яснасьцю і бальшавіцкай просталінейнасьцю.

Культурная рэволюцыя, якая праводзіцца ў краіне, з кожным годам патрабуе ўсё большых і большых капітальных укладаньняў і вырашэньня шэрагу зусім новых і неабходных арганізацыйных праблем з забясьпечаньнем поўнай ідэолёгічнай вытрыманасьці ў іх ажыцьцяўленьні, з аднавасным захаваньнем у культурна-нацыянальных пытаньнях пролетарскага зьместу, як адзінай гарантыі для захаваньня поўнай пролетарскай лініі і пролетарскай дыктатуры на такім адказным і сур'ёзным фронце працы, як правядзеньне задач культурнай рэволюцыі, дзе ўвесь шлях будзе ўсеяны ўсялякімі падводнымі каменьнямі, шкоднымі отпрыскамі і балячкамі, якія выклікаюцца тою беднай культурнасьцю, якая засталася нам у спадчыну ад старога ладу і той клясавай барацьбою, якая адбываецца ў краіне паміж прыватным капіталам і пасьпяхова наступаючым сацыялістычным сэктарам.

У такой многаграннай і складанай абстаноўцы ня толькі складаўся пяцігадовы плян народнай гаспадаркі і культуры, але ажыцьцяўляўся першы год пяцігодкі і вызначаліся пэрспэктывы на другі год.

Пры ўсіх гэтых цяжкасьцях, якія стаяць перад сацыялістычным плянам, у зьвязку з заядлай клясавай барацьбой у вёсцы і ў горадзе, якая ня толькі не аслабла, а няўхільна ўзмацняецца дзякуючы поўнаму наступу па ўсіх франтох клясавага ворага, які, асабліва на культурным фронце, імкнецца маскавацца рознымі сродкамі, пад якімі хаваецца нацыянал-дэмакратызм, шовінізм ці нават антысэмітызм, але як-бы ня быў замаскаваны твар супрацiўленьня клясавага ворага, ён павінен бязьлітасна выкрывацца і нішчыцца канчаткова бальшавіцкай пролетарскай рукой.

Вось чаму асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на соцыяльна-культурныя пытаньні і праблемы пяцігодкі і ня толькі таму, што ўвесь комплекс пытаньняў культурнай рэволюцыі зьяўляецца надзвычайна сур'ёзнай працай, з прычыны яе крайняй глыбіні і шырокага вырашэньня пытаньняў быту ў поўным яго ахопе, але таксама і таму, што якраз на гэтым фронце клясавая барацьба толькі-толькі разгараецца ў самых рознастайных формах і выглядах.

Пастановаю Парт. Зьезду Саветаў і Зьезду былі даны асноўныя дырэктывы, што пяцігодка народнай гаспадаркі і культуры павінна дабіцца значнага ўздыму культурнага ўзроўню працоўных мас, асабліва культурнага ўзроўню пролетарыяту і таксама вырашыць актыўна намечаныя задачы культурнай рэволюцыі. Гэта дырэктыва зусім ясна паказвае, што задачы перад усёй пяцігодкай павінны поўнасьцю і няўхільна адбіваць пролетарскую лінію пры ажыцьцяўленьні задач культурнай рэволюцыі.

Пяцігодка ва ўсіх сваіх мерапрыемствах павінна была ў лічбовых лімітах забясьпечыць гэтыя цьвёрдыя клясавыя ўстаноўкі нашых вышэйшых партыйных і савецкіх інстанцый.

## Лімітныя ўстаноўкі пяцігодкі

У чым вызначаюцца, коратка формулюючы, гэтыя лімітныя ўстаноўкі і ўзрастаючыя тэмпы?

Ва ўвядзеньні *7-гадзіннага рабочага дня* ва ўсіх галінах прамысловасьці, якія працуюць цяпер яшчэ 8 гадзін. Пераведзена ўжо на 7-гадзінны рабочы дзень 7 прадпрыемстваў па ВСНГБ з колькасьцю каля 4.000 рабочых, гэта значыць 11—12 проц. усіх рабочых, якія працуюць на прадпрыемствах ВСНГ.

У ажыцьцяўленьні поўнага *зьліквідаваньня няпісьменнасьці* ня толькі ў гарадох, але і сёлах за пяцігодзьдзе і *ўвядзеньні ўсеагульнага абавязковага навучаньня* дзяцей у школах 1 ступені. Для дзяцей-жа з 8-годняга ўзросту гэты ахоп павінен пачацца з 1929-30 году.

У падрыхтоўцы *новых чырвоных спэцыялістых* і кваліфікаваных рабочых кадраў з пролетарскіх гушчаў і бядняцка-серадняцкай часткі сялянства, у разьмерах, якія забясьпечваюць асноўныя патрэбы сацыялістычнага пляну. Груба вызначаючы гэтую падрыхтоўку ў колькасным выражэньні праз ВУЗ'ы, Тэхнікумы, школы, курсы і г. д. у разьмеры каля 88 тыс. чал.

Ува ўзбраеньні значна *больш тэхнікай і энэргетыкай* працоўных мас, асабліва рабочага ля варштату і селяніна на полі, даючы ім дадаткова праз нашы электрастанцыі да 175 млн. клв. гадз. энэргіі замест цяперашніх 31 млн. клв. гадз. у год (1928-29 г.), пры чым рост энэргаўзбраеньня павінен дасягнуць на аднаго працаздольнага жыхара каля 103 клв. гадз. замест цяперашніх 37 клв. гадз.

У павялічэньні карыснага *жыльлёвага фонду* ў акруговых гарадох з такім разьлікам, каб ён у канцы пяцігодкі ў сярэднім складаў на

аднаго чалавека 6,6 кв. мэтраў, а для рабочых-жа і іх сем'яў каля 8 кв. мэтраў на чалавека.

У пашырэньні *выдавецкага фонду* і тэхнічных магчымасьцяй нашых друкарань з такім разьлікам, каб вытворчы плян выдавецтва падняўся з 17,2 млн. друкаваных аркушаў у 1927-28 годзе да 64,5 млн. друкаваных аркушаў, пры гэтым, каб асаблівае месца ў выдавецтве заняла популярная, навукова-тэхнічная літаратура шырокага карыстаньня, адпаведна патрабаваньням пяцігодняга пляну.

У коопэраваньні сялянскіх двароў, якое павінна быць даведзена амаль да 100-процантнага памеру ў канцы пяцігодкі, што-ж датычыцца рабочае клясы, дык гэтае коопэраваньне павінна быць скончана ў бліжэйшыя гады пяцігодкі. Праводзячы пры гэтым *шырокую колектывізацыю* бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак і гэтым рашуча паднімаючы вытворчыя сілы вёскі, канчаткова зьнішчыць кулацкае супрацiўленьне і ўплыў яго ў вёсцы.

У ажыцьцяўленьні *буйных будаўнічых работ* і арганізаваньні неабходных новых навучальных і навуковых організацый, як, напрыклад: прамысловага Інстытуту, Хэміка-тэхналёгічнага факультэту, пэдолёга-пэдагагічнага Інстытуту, Інжынэрна-тарпянага аддзяленьня Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, Факультэту організацыі буйных гаспадарак (савгасаў і калгасаў), Інстытуту судовай мэдычнай экспэртызы і псыхіатрыі, скурнавэнэрычнага Інстытуту і іншых, з адначасным *узмацненьнем і палепшаньнем працы ужо існуючых:* Акадэміі Навук, Навукова-Дасьледчага Інстытуту сельскае і лясное гаспадаркі, Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, Дзяржаўнага Унівэрсытэту, Вэтэрынарнага Інстытуту і шэрагу яшчэ іншых Інстытутаў.

Не пералічваючы далей іншых лімітаў, як па росту школьнага і клюбнага будаўніцтва, правядзеньні мерапрыемстваў бытавога характару, па росту рэальнага матар'яльнага ўзроўню жыцьця рабочае клясы і бядняцка-серадняцкай часткі вёскі, па пытаньнях тэхнічнай рэконструкцыі, па ахове і наогул аздараўленьню працы і інш., аб іх будзе гаварыцца яшчэ далей, але мы павінны тут бясспрэчна ўстанавіць яшчэ тое, што ўсе гэтыя ўстаноўкі, якія выцякаюць з экономічных, політычных і культурна-бытавых патрабаваньняў магчыма ажыцьцявіць толькі ў тым выпадку, калі тэмп індустрыялізацыі краіны пойдзе ў поўным аб'ёме і асабліва поўна будзе выпаўняцца плян прамысловага будаўніцтва па цяжкай індустрыі, што ў сваю чаргу дасьць магчымасьць шырока і глыбока ахапіць сацыялістычнай рэканструкцыяй ня толькі прамысловасьць, але і сельскую гаспадарку і ўсе вытворчыя і бытавыя працэсы ў народнай гаспадарцы.

## Далейшыя пэрспэктывы соцыялістычнага росту

Першы год нашай пяцігодкі як па СССР так і БССР паказвае, што ўсе меркаваньні першага году апраўдаліся з перавышэньнем.

Рост індустрыялізацыі краіны і асабліва кіруючай яе часткі—буйнай прамысловасьці—значна вышэй па сваіх вынікавых паказальніках, чым было намечана. Соцыялістычная рэконструкцыя ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы пусьціла свае карані значна глыбей, чым гэта магчыма было чакаць у першы год па першаму варыянту пяцігодкі.

Усё гэта дало магчымасьць ня толькі сказаць, што мы ідзем у тэмпе, вызначаным пяцігодкай, і не адстаем, але таксама вызначыць і новыя падвышаныя тэмпы амаль па ўсіх галінах народнай гаспадаркі ў тым ліку і па культурных пытаньнях; у прыватнасьці, калі на асьвету меркавалася па пяцігодцы па дзяржаўнаму саюзнаму бюджэту асыгнаваньняў у 475 млн. руб., то цяпер яны падымаюцца па кантрольных лічбах да 600 млн. руб., па БССР-жа толькі па рэспубліканскім бюджэце намечана (кантрольныя лічбы) на асьвету 55,5 млн. руб. замест 33,4 млн. руб. у мінулым годзе і даецца магчымасьць паскорыць тэмп культурнага будаўніцтва, пашыраючы пры гэтым яго ахоп.

Гэты рост матар'яльных магчымасьцяй павінен пайсьці галоўным чынам, на неабходны рост і забясьпечаньне культурных патрэб шырокіх мас працоўных і патрэб разьвіваючайся народнай гаспадаркі, якія ўсё болей і болей упіраюцца ў вырашэньне пытаньня аб проблеме кадраў у шырокім сэнсе гэтага слова.

Культурная рэволюцыя ў сваёй праграме мае задачу організаваць, адукаваць дзесяткі і сотні мільёнаў насельніцтва для вялікага культурнага ўздыму. Гэты ўздым пачаўся, але ён не аформлен у належным памеры. Культурная пяцігодка яшчэ ня стала сапраўднай уласьцівасьцю мас.

Другі год пяцігодкі, які ідзе пад пунктам погляду далейшага, яшчэ больш узмоцненага тэмпу сацыялістычнай індустрыялізацыі, яшчэ большых посьпехаў сацыялістычнага сэктару над прыватна-капіталістычным і, ўрэшце, яшчэ большага паглыбленьня працы над соцыялістычнай рэконструкцыяй ва ўсіх процэсах народнае гаспадаркі—дае новы зусім сьвежы штуршок і для ажыцьцяўленьня, больш пасьпяхова, больш рашуча і больш капітальна, задач культурнай рэволюцыі.

## Школа і настаўнік

Увесь культурны сэктар пяцігодкі ўваходзіць у аграмаджаны сэктар, такім чынам усе пляны соцыяльна-культурных проблем праходзяць організацыйна праз соцыялістычны сэктар. Значыць, пры гэтых умовах усе вынікі павінны быць значна паўней па сваіх паказальніках, чым гэта магчыма чакаць па некаторых іншых сэктарах, дзе прыватны сэктар мае яшчэ значную долю свайго організацыйнага ўплыву. Нават тая частка сродкаў, якая прыцягвае пяцігадовы плян на асьветную справу праз самаабкладаньне, ці іншым парадкам, як дапамогу школе і кнізе, урэшце таксама атрымоўвае напрамак ад соцыялістычнага сэктару, канкрэтна праз аддзел народнае асьветы.

Значыць, у чым нашы цяжкасьці? А ў тым, што сам матар'ял, які праходзіць праз школу першай ступені, падбіраецца літаральна бяз усякага разбору і абавязкова незалежна ад сацыяльнага паходжаньня, бо пяцігадовы плян уводзіць абавязковы культурны мінімум навучаньня. Вось тут-та, пры такім рознастайным складзе дзяцей-вучняў і часта яшчэ і настаўнікаў, павінен быць і асаблівы нагляд з боку ідэолёгічнай часткі выкладаньня. Бо не сакрэт, што тое, што дзіця-вучань атрымоўвае ў першыя годы навучаньня, вельмі доўга і глыбока застаецца на далейшы час. Вось чаму, ня гледзячы на тое, што масавае навучаньне, увядзеньне ліквідацыі няпісьменнасьці і ўвядзеньне ўсеагульнага навучаньня і праводзіцца ў 100-процантным разьмеры праз аграмаджаны сэктар,—усё-ж з прычыны яго масавага ахопу соцень тысяч дзяцей і наяўнасьці дзесяткаў тысяч настаўнікаў з розным сацыяльным паходжаньнем,—усё гэта высоўвае перад намі неабходнасьць больш глыбокага організацыйнага нагляду і хуткай падрыхтоўкі настаўнікаў з рабочых і бядняцка-серадняцкай часткі сялянства для таго, каб сапраўды гэтым забясьпечыць, поўнасьцю і беспамылкова, ідэолёгічны бок у падрыхтоўцы новага пакаленьня для сацыялістычнага будаўніцтва.

Памылкай было-б лічыць, што гэтым мы недаацэньваем тэй культурна-настаўніцкай сілы, якая цяпер абслугоўвае і выкладае ў нашых савецкіх школах. Не. Гэтая культурная сіла, якая засталася ў спадчыну ад старога мінулага, і ўжо цяпер падрыхтаваная за 12 год існаваньня савецкай улады,—зьяўляецца вялікім культурным укладам у нашай працы. Недаацэньваць яе мы ні ў якім разе ня можам, але адначасна і пераацэньваць яе таксама было-б памылкай. Наш пяцігадовы плян — плян соцыялістычнага будаўніцтва патрабуе, каб савецкі выкладчык прызнаваў яго ня толькі формальна, але і па сутнасьці, каб у яго крыві пульсавалі ідэі, укладзеныя ў нашай пяцігодцы, каб ён быў поўнасьцю ахоплены тым энтузіазмам, якім ахоплена ўся рабочая кляса і бедната вёскі пры будаўніцтве буйнай індустрыі, ці ажыцьцяўленьні калгаснага будаўніцтва.

Плян падрыхтоўкі настаўнікаў за пяцігодзьдзе вялізарны. Трэба падрыхтаваць больш 11 тысяч чалавек (бяз ВУЗ'аў). Але не малым павінен быць і той плян, які патрабуе і перападрыхтоўкі і палітычнага выхаваньня таго настаўніцкага складу, які ня змог яшчэ поўнасьцю зьліцца з тымі задачамі, якія высунала Кастрычнікавая Рэволюцыя і якія ажыцьцяўляе цяпер наш соцыялістычны плян сваім пераможным наступам на прыватна-капіталістычныя рэшткі ў нашай народнай гаспадарцы.

## Аб новых кадрах соцыялістычнага будаўніцтва

Пытаньне аб кадрах для соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца неад'емнай і самай сур'ёзнай часткай пяцігодкі. Ад правільнага і поўнага вырашэньня гэтага складанага і цяжкога пытаньня цяпер многае залежыць.

Ужо цяперашняя пяцігодка патрабуе пэўных кадраў, але, ня гледзячы на гэта, галоўная частка падрыхтоўваемай сілы (якая падрыхтоў-

ваецца на працягу гэтай пяцігодкі) будзе ў поўным тэмпе працаваць і ў той пэрыяд часу, які будзе называцца ці другім пяцігодзьдзем, ці пэрыядам ажыцьцяўленьня генэральнага пляну.

Так мы бачым, што пытаньне аб кадрах у пяцігоднім пляне, пры дапамозе якіх павінна будзе ажыцьцяўляцца культурная і тэхнічная рэволюцыя,—зьяўляецца такім пытаньнем, якога ня ўмесьціш толькі ў адзін пяцігодні кавалак часу і пры ўсёй вастрыні пытаньня аб кадрах, для гэтай пяцігодкі, магчыма атрымаць значную колькасьць высока-кваліфікаваных кадраў толькі на шостым ці сёмым годзе. Адсюль узьнікае і патрабаваньне, так вырашыць гэтае пытаньне, каб тэрмін падрыхтоўкі быў як можна больш скарочаны і рацыянальна скарыстаны.

Мы цяпер адчуваем, што па фінансавым магчымасьцям ажыцьцяўленьне культурных плянавых наметак зьяўляецца самым цяжкім і складаным пытаньнем, дзякуючы таму, што кожнае мерапрыемства патрабуе значных капітальных укладаньняў і добра падрыхтаваных культурных сіл і пры тым ня толькі проста культурных, але і марксыцкіх сіл для таго, каб сапраўды поўнасьцю быў забясьпечаны ідэолёгічны бок пры ажыцьцяўленьні культурных задач пяцігодкі.

Прыкладам, Беларуская Акадэмія Навук стварылася не ў адзін год, а прайшла з пачатку стадыю сваёй організацыі праз Інстытут Беларускай Культуры, ня гледзячы на гэта, і цяпер усё яшчэ вельмі адчуваецца патрэба ў марксыцкіх сілах.

Пры чым само выконваньне працы хаця-ж у той самай Акадэміі патрабавала ня толькі новых людзей, але і памяшканьня, абсталяваньня і г. д., дзякуючы чаму пяцігодка павінна была прадугледзіць ня толькі рост кантынгэнту працаўнікоў Акадэміі, але і пабудову зусім новых карпусоў і ўсякіх іншых будынкаў для абслугоўваньня, без чаго і нармальная праца немажліва.

Такі-ж самы малюнак, з ня меншым патрабаваньнем, маецца і ў арганізацыі Прамысловага Інстытуту, які таксама высоўвае ня толькі патрабаваньне на людзей і абсталяваньне, але і спэцыяльныя ляборатрыі і будынкі, якіх немагчыма знайсьці без таго, каб ня будаваць зусім новых.

Беднасьць у жыльлёвым фондзе нашых гарадоў бязумоўна выклікае вялікі рост выдаткаў на гэтую частку ў пяцігодцы па навукова-культурным установам, што ў выніку значна адбіваецца на ўсёй выдатковай частцы пяцігодкі па гэтым пытаньням.

Той-жа самы малюнак і ня ў меншым памеры мы маем і па першапачатковаму навучаньню, па дашкольнаму выхаваньню, па клюбнаму і тэатральнаму будаўніцтву, кінофікацыі і радыёфікацыі, — *усё* патрабуе капітальнага будаўніцтва, *усё* патрабуе і не без падставы масавых мерапрыемстваў, якія зьвязаны бязумоўна і з масавым выдаткаваньнем сродкаў.

Возьмем для прыкладу хоць-бы ўвядзеньне ўсеагульнага навучаньня, як і ліквідацыю няпісьменнасьці сярод насельніцтва да 30—35-годняга ўзросту,—ажыцьцяўленьне гэтага мерапрыемства патрабуе сама менш каля

50 млн. рублёў па фінансаваму пляну, сродкі па гэтых выдатках больш чым па іншых галінах знайсьці па мясцоваму бюджэту немагчыма, дзякуючы чаму без спэцыяльнай дапамогі (датацыі) ад рэспубліканскага ці саюзнага бюджэту не абыйсьціся.

У пытаньні зьмяншэньня выдаткаў нават такія меры эканоміі, як перавод працы школ на некалькі зьмен працы (на 2 яшчэ можна, але 3-я дае ўжо адмоўныя вынікі) ці перавод на бесьперапынны рабочы тыдзень,— ня могуць і не вырашаюць пытаньня аб памяшканьнях для школ, дзякуючы чаму вырашаць гэту задачу даводзіцца пяцігодцы, галоўным чынам шляхам масавага школьнага будаўніцтва. А гэта значыць, другімі словамі, патрабуюцца і вялікія ўкладаньні іменна ў гэтую пяцігодку, а не ў далейшыя гады.

Пяцігодка гэта ўлічвае і прадугледжвае патрабаваньні ўкладаньняў на капітальнае школьнае будаўніцтва па ўсіх лініях больш чым 56 млн. р. Гэта буйная сума, але няўхільная, бо без яе і немагчыма ажыцьцявіць нашу культурную рэволюцыю, якая павінна расьці, галоўным чынам, зьнізу, з заводу, сяла, з школы і клюбу, праз усеагульнае абавязковае навучэньне, праз ліквідацыю няпісьменнасьці, праз масавую падрыхтоўку новых кадраў спэцыялістых з рабочых і бядняцка-серадняцкай масы вёскі.

Ітак, як-бы ня было цяжкім пытаньне аб кадрах, яно павінна быць вырашана. Калі мы раней стаялі перад беспрацоўнай арміяй працы, нават з кваліфікаваных рабочых, то цяпер наглядаецца часта ўжо недахоп нават простай фізычнай працы для нашай прамысловасьці, сіл для рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і для культурнага фронту.

Пяцігодка, асабліва асьветная частка яе, завастрае гэта пытаньне ў поўным памеры і патрабуе самых высокіх тэмпаў ажыцьцяўленьня, так, для прыкладу, у 1929-30 годзе павінна быць падрыхтавана для нашага будаўнічага сэзону больш 5.150 чалавек будаўнікоў праз спэцыяльныя курсы; таксама каля 1.000 працаўнікоў прылаўку, ня менш 1.000 розных спэцыялістых—працаўнікоў для наркаматаў і г. д. Хіба-ж гэта не вялізарная адказная праца нашай культурнай пяцігодкі, калі нават лічыць па другому году пяцігодкі, які зьяўляецца толькі пачаткам росту працы па падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы. Наогул за ўвесь пэрыяд пяцігодкі прыдзецца тым ці іншым парадкам падрыхтаваць рабочую сілу для прамысловасьці, якая ўсё больш узрастае для будаўніцтва і іншых галін народнай гаспадаркі, прыблізна больш чым 85 тыс. чалавек.

Гэтая армія новых будаўнікоў, падрыхтаваных упяршыню для вытворчай працы,—павінна будзе даць высокі соцыялістычны эфэкт па сваіх выніках.

Гэта рабочая сіла ў шмат якіх выпадках будзе працаваць ужо па новых формах узаемна дысцыплінаванай таварыскай працы, аб якой ён, гэта значыць адукаваны рабочы, ня мог раней і марыць.

Але гэта ня ўсё, мы стаім перад яшчэ больш складанай задачай, гэта значыць перад задачай падрыхтаваць асабліва вялікія кадры кваліфікаваных тэхнічных і культурных сіл, прычым, галоўным чынам, з гушчаў рабочае клясы і бядняцкіх мас і серадняцкага сялянства.

Чым больш мы зможам рабочых і сялян з беднаты (трэба проста сказаць) паслаць у ВУЗ'ы і ВТУЗ'ы і падрыхтаваць з іх чырвоных новых спэцыялістых,—тым больш мы будзем гарантаваны ад таго „спэца"-шкодніка, „культурніка", якія для сваёй карысьці, у сваіх мэтах ажыцьцяўляюць свае „пляны", а не працуюць для ажыцьцяўленьня соцыялістычнага пляну, як гэтага патрабуе Комуністычная партыя і Савецкая ўлада.

Чым больш мы зможам падрыхтаваць сялян з беднаты для сельскай гаспадаркі, як кіраўнікоў па колектывізацыі, соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі,—тым менш у нас будзе прабелаў і ўсякіх кулацкіх скрыўленьняў пры правядзеньні лініі нашай пяцігодкі ў вёсцы.

Тыя сотні—тысячы (аграномаў каля 700 чалавек, вэтэрынараў каля 270 чалавек, каморнікаў каля 250 чалавек, іншых спэцыялістых каля 2.890 чалавек, тэхнікаў каля 2.800 чалавек, інжынэраў каля 850 чал., дактароў каля 720 чалавек і мэдычных працаўнікоў сярэдняй кваліфікацыі каля 550 чалавек і г. д.) новых будаўнікоў соцыялістычнага ладу, якія вышлі з самай гушчы рабочых бядняцка-серадняцкай вёскі, якая хуткаператвараецца ў колектыўную савецкую вёску,—павінны сваім энтузіязмам, сваім вынаходніцтвам, сваім соцыялістычным спаборніцтвам паказаць такія вынікі працы, аб якіх мы раней і марыць не маглі.

Такім чынам, для лепшай падрыхтоўкі і кваліфікацыі кадраў для нашага будаўніцтва пяцігодка прадугледжвае вялікую колькасьць курсаў, як кароткатэрміновых, так і доўгатэрміновых, каб узьняць ня толькі вышэй культурныя і тэхнічныя веды рабочых і сялян, але і для таго, каб даць ім магчымасьць папасьці лягчэй у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Організуемыя для гэтага стыпэндыі далі ўжо магчымасьць значна палепшыць соцыяльны склад нашых вышэйшых навучальных установ, у прыватнасьці колькасьць рабочых у мінулым годзе з усяго складу слухачоў вышэйшых навучальных установ складала ўжо каля 29—30%, а з сялян каля 46—47%. Як бачым, усё яшчэ надзвычайна малы процант рабочых, ня гледзячы на тое, што з кожным годам рабочая праслойка ў ВУЗ'ах усё ўзрастала.

Тэмп прыёму рабочых і сапраўднай беднаты і серадняцтва вёскі ў ВУЗ'ы і ВТУЗ'ы павінен быць куды мацнейшы. Усе ўмовы, для пасьпяховага выпаўненьня гэтага пытаньня забясьпечваюцца нашай пяцігодкай поўнасьцю. Усе затрудненьні, з чыйго-б боку яны ня выходзілі, павінны быць зьнішчаны, тут ня можа быць так званых „эканоміі" і „каштарысных немагчымасьцяй". Не зразумець гэтага важнейшага мерапрыемства і не забясьпечыць яго выпаўненьня—значыць наогул не разумець задач культурнай рэволюцыі.

## Соцыялістычнае спаборніцтва, колектывізацыя і бесьперапынны рабочы тыдзень

Соцыялістычнае спаборніцтва, пераход на бесьперапынны рабочы тыдзень, шырокая колектывізацыя раздробленых сялянскіх гаспадарак— уносіць у пяцігодку асаблівае соцыялістычнае адценьне ў нашай працы.

Бо што значыць перайсьці ў гарадох, на прадпрыемствах, установах, у гандлі, у культурных установах і г. д. на бесьперапынны рабочы тыдзень. Гэта значыць ня *толькі* мець новых 60 рабочых дзён у год, але і прымусіць гэтым нашы заводы—будынкі як і асноўныя прылады вытворчасьці—машыны паўней і хутчэй *даць эфэкт* і пры гэтым хутчэй зьмяняючы іх, пасьля скарыстаньня, на больш новую, удасканаленую тэхніку у сваю чаргу яшчэ больш аблягчыць гэтым працу рабочага.

Але акрамя гэтага бесьперапынны рабочы тыдзень уносіць, як было сказана, ня толькі лепшую зьменнасьць тэхнікі і дае павялічэньне росту выпрацоўкі прадукцыі, але і мае глыбокае палітычнае і бытавое значэньне.

Асноўная маса працуючых павінна будзе мець цяпер дзень адпачынку праз кожныя 4 дні замест адпачынку раней праз кожныя 6 дзён. Гэта літаральна патрабуе ад пяцігодкі перагляду організацыйных форм культурнай працы ў нашых клюбах і наогул соцыяльна-культурных установах. Тое, чаго нам не ўдалося дасягнуць гадамі, гэта значыць каб нашы клюбы працавалі ўвесь тыдзень, а ня толькі ў большасьці сваёй з поўнай нагрузкай па так званых суботах і нядзелях—вырашаецца цяпер значна лягчэй. Бесьперапыннасьць масы членаў клюбу, наведваючых клюбы ў дзень свайго адпачынку, прымусіць ня толькі скарыстоўваць паўней клюбныя памяшканьні, але і значна шырэй і паўней скарыстаць тыя-ж абслугоўваючыя іх культурныя сілы.

Таксама колектывізацыя ў вёсцы, калі цэлыя вёскі аб'яднаюцца ў адзіны калгас, калі агульныя інтарэсы зьяўляюцца пераважнымі ня толькі ў вытворчасьці, у працы, але і ў соцыяльна-культурных патрэбах членаў калгасу,—усё гэта ў выніку павінна зрабіць цэлую культурную рэволюцыю ў сэнсе культурнага і бытавога абслугоўваньня. Тут агульны інтарэс у вырашэньні школьнай справы будзе бясспрэчным, тут мэдычная дапамога і прафіляктыка будзе адзіная, тут выхаваньне маладога пакаленьня: ясьлі, дзіцячыя сады, пляцоўкі і г. д.—займуць не малое месца ў колектыўным інтарэсе, адным словам, наша хуткае калгаснае будаўніцтва, якое ўжо цяпер у 1929 годзе па БССР ахопвае звыш 3,2% усёй засеўнай плошчы, дзе маецца больш 1.679 калгасаў, якія яднаюць ня менш 20 тыс. сялянскіх двароў, а праз год гэты ахоп павінен узрасьці ў некалькі разоў, гэта значыць да 11,6% усёй плошчы засеву,—значыць мы ўжо на другім годзе пяцігодкі амаль ажыцьцяўляем наметкі пяцігодкі, ня гледзячы на тое, што якраз на гэтым фронце сустракаецца самае заядлае супраціўленьне кулакоў і больш усяго вакол гэтага пытаньня разгараецца клясавая барацьба,—усё гэта патрабуе ўсебаковага куль-

турнага абслугоўваньня; усё гэта цяпер патрабуе зрабіць і зусім іншыя практычныя, мэтадалёгічныя вывады па нашай соцыяльна-культурнай частцы працы. Па аднэй лініі магчыма можа здарыцца, у першыя часы, вялікая трата сіл і сродкаў, але, з другога боку, гэта сапраўды стварае надзвычайную сыстэму сапраўднага ажыцьцяўленьня задач культурнай рэвалюцыі ў вёсцы.

Сацыялістычнае спаборніцтва, якое ўжо заваявала вялікае месца ў савецкім грамадзянстве, гэта ідэя, якая зарадзілася ў мазгох маладых соцыялістычных будаўнікоў, нашай моладзі і перадавых рабочых з пачатку на заводзе і прадпрыемствах—самым хуткім тэмпам перакідаецца ўсё шырэй і глыбей ва ўсе галіны народнай гаспадаркі і культуры.

Соцыялістычным спаборніцтвам ахоплены цяпер ужо мільёны як у горадзе, так і ў вёсцы. Формы грамадзкай дысцыпліны пры выпаўненьні сацыялістычных заданьняў паказалі, якія глыбокія патэнцыяльныя, рэволюцыйна-культурныя сілы мае рабочая кляса.

Наша вынаходніцтва, ініцыятыва, самакрытыка высока ўзрасьлі. Гадамі ўстаноўленыя традыцыі ламаліся ў некалькі дзён і тыдняў. Коснасьць, абломаўшчына, нядбайнасьць, у шмат якіх мясцох зусім страцілі сваю вастрыню.

Што-ж усё гэта азначае? А гэта азначае, што шырокія пласты рабочых ужо падрыхтаваліся да выпаўненьня самых цяжкіх задач, якія выстаўляюцца нашым соцыялістычным плянам. Вось аб гэтых выніках і павінны цяпер сур'ёзна падумаць працаўнікі культурнага фронту.

Хваля соцыялістычнага спаборніцтва на заваёвы культурных пазыцый не за гарамі. Ці гатоў да гэтага наш культурны разьдзел пяцігадовага пляну, вось пытаньне, на якое мы павінны цяпер даць адказ. На гэта адказаць з дастатковай яснасьцю і станоўчасьцю пяцігодка, культурны сэктар пяцігодкі яшчэ ня могуць. Гэта зьяўляецца тою дадатковай працай бліжэйшых дзён, якую трэба прарабіць на падставе вынікаў, якія даў нам першы год пяцігодкі і ўлічваючы тыя задачы, якія стаяць перад намі ў зьвязку з новымі запатрабаваньнямі, якія высоўвае перад намі соцыялістычнае спаборніцтва, павінна цяпер ня з меншай актыўнасьцю ахапіць і культурную працу.

## Аб энэрга-хэмічна-тэхнічнай базе

Ня меншыя культурныя вынікі ў пяцігоднім пляне павінен даць, для агульных задач культурнай рэволюцыі, і хуткі рост энэрга-тэхнічнай базы ў народнай гаспадарцы. Наш „Асінбуд“, „Гомельбуд“ і шмат дзесяткаў электра-станцый, расстаўленых плянамерна па пунктах разьвіцьця прамысловага і гарадзкога будаўніцтва, маючы пры гэтым ня толькі задачу задавальненьня прамысловых і гарадзкіх патрэб, але і распаўсюджаньня сфэры ўплыву электрастанцый і на сельскую гаспадарку. Плян забясьпечаньня электраэнэргіяй у сельскай гаспадарцы ахоплівае, на першыя часы, ня менш 50 тыс. сялянскіх двароў, прычым энэргія

на 75% павінна быць накіравана на маторнае абслугоўваньне. Што гэта азначае? Гэта азначае, што сярод гэтых 50 тыс. сялянскіх двароў павінен быць закладзен пачатак культурна-тэхнічнай рэволюцыі, калі сялянская праца аблягчаецца ня толькі трактарам, маторам на газе, ці паравым катлом, але і электраэнэргіяй—электраматорам.

Такім чынам, крок за крокам пяцігодка сьцірае тую тэхнічную дыспропорцыю, якая маецца паміж горадам і вёскай, а поруч з гэтым у пэўнай ступені зьмяншаецца яшчэ болей і культурная дыспропорцыя.

Ня ў меншым памеры, а пры пэўных абставінах нават і ў большым, пяцігодка ўносіць рэконструкцыю і шляхам большага ўвядзеньня хэмізацыі працэсаў у народнай гаспадарцы, ня толькі ў прамысловасьці, але і асабліва ў сельскай гаспадарцы. Патрабаваньне, як мага падняць ураджайнасьць на 45% за пяцігодзьдзе ў параўнаньні з сярэднім ураджаем за апошнія 4 гады па зернавых культурах, ёсьць ня больш і ня менш як патрабаваньне ад сельскай гаспадаркі, а ў тым ліку і ад сялянства, куды вышэй падняць свае веды вакол культурнага вядзеньня сваёй гаспадаркі. Прычым не самацёкам, а паступовым плянавым парадкам, шляхам культурных хэмічных, тэхнічных новаўвядзеньняў, крок за крокам заваяваць і падпарадкаваць нашаму ўплыву тое, ад чаго яшчэ ў значнай меры залежаць вынікі нашай сельскай гаспадаркі, гэта значыць падпарадкаваць сьвядомаму ўплыву стыхійныя зьявішчы прыроды, як: дождж, сухмень, скарыстаньне сонцавай энэргіі і сьвету для дасягненьня большага эфэкту ў сельскай гаспадарцы і каб шкодны ўплыў гэтых зьявішч усё болей і болей зьнішчаўся.

Каб гэтага дасягнуць, патрабуецца вялікая колькасьць хэмічнай і тэхнічнай дапамогі, у прыватнасьці хэмічных угнаеньняў у канцы пяцігодкі (у 1932-33 годзе), неабходна давесьці да 900 тыс. тон замест цяперашніх 32 тыс. тон у 1928-29 годзе. Гэты вялізарны плян мерапрыемстваў павінен забясьпечвацца грандыёзнай і глыбокай культурна-асьветнай працай, адсюль высока ўзрастае і значэньне популярнай сельска-гаспадарчай літаратуры, асабліва масавага характару. Вопытныя і навуковадасьледчыя організацыі павінны таксама свае вузка-навуковыя досьледы энэргічней перавесьці ў масавае прымяненьне, значна большым тэмпам заняцца стварэньнем апорных сэлекцыйных баз як спэцыяльных, так і сялянскіх.

Мы павінны з усёй важкасьцю і пэўнасьцю сказаць, што навуковадасьледчыя, вопытныя станцыі і лябараторыі павінны значна зьмяніць свае мэтады працы, не абмяжоўваючыся толькі „цікавымі“ тэмамі вузкага характару, а больш заняцца тым, што павінна даць штуршок сельскай гаспадарцы да пераходу да лепшых колектыўных організацыйных форм вядзеньня яе і культурным спосабам апрацоўкі зямлі, гадоўлі жывёлы і г. д.

Урэшце, побач з процэсамі ўрастаньня ў народную гаспадарку электра-энэргіі, хэмізацыі, неразрыўна з імі зьвязана і шырокае ўрастаньне

найноўшай тэхнікі: машын, лепшых прыладаў вытворчасьці і г. д. Праводзячы плянавым, а не выпадковым парадкам, тэхнічную спэцыялізацыю рабочых і сялян—мы гэтым самым бязумоўна дасягаем таго, чаго патрабуе культурная рэволюцыя, таго, чаго патрабуе соцыялістычнае будаўніцтва, а яно патрабуе соцыялістычнай рэконструкцыі і ў тэхніцы, гэта значыць, каб не да тэхнікі прыстасоўваць чалавека, а ўкладаючы ў яго рукі тэхніку, даць гэтым яму такое энэрга-тэхнічнае ўзбраеньне, каб у матар'яльны стрыжань грамады ўрастала і тэхнічная структура культурна аграмаджанай вытворчасьці.

А тое, што злучэньне нашых тэхнічна-вытворчых мерапрыемстваў з культурнымі мерапрыемствамі зьяўляецца бясспрэчнай неабходнасьцю, аб гэтым Ленін яшчэ ў 1897 годзе пісаў так: што „нельзя себе представить идеала будущего общества, общества без соединения обучения с производственным трудом молодого поколения; ни обучение, ни образование без производительного труда, ни производительный труд без паралельного обучения и образования не могли бы быть поставлены на ту высоту, которая требуется современным уровнем техники и состояния научного знания".

Значыць, ідучы па гэтаму шляху, пяцігодка сваім культпаходам вырашае культурную рэволюцыю, шчыльна зьвязваючы яе з аграмаджанымі формамі вытворчасьці, нават прымусовымі абавязацельствамі. Возьмем хоць-бы закон аб увядзеньні абавязковага навучаньня дзяцей, ліквідаваньня няпісьменнасьці, прымяненьне абавязковым парадкам так званага аграмінімуму, вэтэрынарнага і зоотэхнічнага мінімуму і г. д., гэтыя формы культурнага націску абавязковым парадкам павінны будуць усё болей і болей пашырацца, асабліва па хэмізацыі, па профіляктыцы, па лініі аховы здароўя, па санітарыі і тэхніцы, па ахове ад небясьпекі ў вытворчай працы,—усё гэта будзе пастаўлена значна вышэй чым цяпер, што асабліва выклікаецца ўвядзеньнем бесьперапыннай сыстэмы ў працы, неперарыўнага рабочага дню, многазьменнасьці і, урэшце, абавязкова і глыбока прапрацаваць і правесьці організацыйна куды паўней падрыхтоўку пролетарскіх культурных сіл.

## Апалітычнасьць і беспэрспэктыўнасьць не сумясьцімы з ажыцьцяўленьнем пяцігодкі

Організацыйныя пытаньні на культурным фронце, як і кантроль за організацыяй пляну—зьяўляюцца неад'емнай працай над пяцігодкай. Тая напружнасьць, якая цяпер ёсьць вакол культурных пытаньняў, значна можа быць і павінна быць зьмякчана, калі організацыя ўсяго культурнага пляну будзе пастаўлена на высокі ўзровень, адпаведна патрабаваньням сапраўднасьці сацыялістычнага будаўніцтва.

Наш пяцігодні плян пабудован і на падставе навукова-марксыцкага фундамэнту, адсюль належнае месца прадастаўлена і навуцы, якая

павінна ў максымальным памеры паскорыць ажыцьцяўленьне ўсяго пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

Пяцігодка намеціла няспынны рост маладых навуковых пролетарскіх сіл, які патрабуе ад старых працуючых ужо навуковых сіл разуменьня і значна паўнейшага прымяненьня навукова-марксыцкіх мэтадаў у сваіх навуковых працах. І тыя абставіны, што ўжо не малая колькасьць з старых навуковых кадраў шчыра пайшла на службу соцыялістычнага будаўніцтва, гавораць за тое, што ня можа быць, пры цяперашніх тэмпах разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва і аб'ёму працы,—каб якаянебудзь, нават самая малая частка энэргіі, якая можа прынесьці карысьць на культурным фронце, не перадала-б сваіх ведаў. Соцыялістычнае будаўніцтва, якое прыносіць з сабою і культурную рэволюцыю, кожнаму і поўнасьцю дае магчымасьць прымяніць свае сілы і веды, ці будзе гэта перададзена індывідуальна ці колектыўна. Ні адзін культурны працаўнік, які сапраўды жадае працаваць для справы замацаваньня Савецкай Улады, замацаваньня дыктатуры пролетарыяту і гэтым для забясьпечаньня соцыялістычнага будаўніцтва, — ня можа застацца з боку. Усякая аполітычнасьць, беспэрспэктыўнасьць — не сумясьцімы з ажыцьцяўленьнем пяцігодкі.

Наша пяцігодка ўцягвае поўнасьцю і цалкам у культурную масавую працу перадавыя пролетарскія сілы, якія былі і застануцца галоўнаю апораю пры правядзеньні культурнай рэволюцыі.

Па арабочваньні нашага савецкага апарату асаблівае месца павінна заняць арабочваньне пролетарскімі культурнымі сіламі таксама і нашых культурных організацый і гэтым хутчэй перавесьці як сьлед працу гэтых організацый на новыя рэйкі, на рэйкі, па якіх павінна пайсьці пераможнае ажыцьцяўленьне задач культурнай рэволюцыі, якая намечана ў пяцігодцы. Гэты неабходны шлях дасьць таксама яшчэ большую магчымасьць вызваліцца ад шкодных „культурнікаў“ і культчыноўнікаў і той „бязідэйнай“ аполітычнасьці, якая ня менш небясьпечна, чым наяўна контр-рэволюцыйныя настроі.

Гэткім чынам, задачы культурнай рэволюцыі, якою ўсё болей і болей ахопліваюцца шырокія масы пролетарыяту, ідучы па лініі разьвіцьця клясавай самасьвядомасьці—зьяўляюцца асноўным культурным стрыжнем нашай пяцігодкі, вакол якога павінны быць мабілізаваны ўсе культурныя сілы краіны на больш сьмелую, на больш рашучую перабудову працы, на больш органічную, глыбокую адданасьць іх усяму пролетарскаму пляну соцыялістычнага будаўніцтва.

# ЭКОНОМІЧНЫ КРЫЗІС У ПОЛЬШЧЫ

**М. Вісьлянскі**

Той факт, што Польшча перажывае ў сучасны момант экономічны крызіс і што крызіс ахапляе ўсё новыя галіны гаспадаркі, ніхто ўжо гэтага не адмаўляе. Не адмаўляюць гэтага нават урадавыя экономістыя, хоць для зазначэньня крызісу яны і карыстаюцца такімі, мала зразумелымі для шырокіх пластоў насельніцтва, тэрмінамі, як „рэцэсія“, „дэпрэсія“ і г. д.

Перш за ўсё, чым прыступіць да аналізу прызнакаў і асаблівасьцяй польскага крызісу, мы спынімся на прычынах гэтага зьявішча.

Польскія буржуазныя экономістыя, аналізуючы прычыны крызісу, паказваюць на зьніжэньне сусьветнай кон'юнктуры, на напружнае становішча на сусьветным грашовым рынку, на зьніжэньне цаны на збожжа. Опозыцыйныя экономістыя паказваюць на яшчэ адну прычыну—так званы „этатызм“. На гэтым апошнім фактары мы спынімся далей. Пакуль мы некалькі слоў прысьвяцім першым тром фактарам, у якіх буржуазныя экономістыя бачаць прычыны крызісу.

Аргумант аб агульна-сусьветнай дэпрэсіі зьяўляецца мала пераканальным, тым больш, што нават Польскі Кон'юнктурны Інстытут канстантуе ў апошнім нумары свайго бюлетэню, што цэлы шэраг буйных эўропэйскіх краін, у тым ліку некалькі сярэдня-эўропэйскіх, уступаюць у пэрыод ажыўленай кон'юнктуры.

Не вырашаючы пытаньня, правільна ці няправільна ацэньвае Кон'юнктурны Інстытут кон'юнктуру ў Эўропе, трэба запытаць: калі ў большасьці краін пачынаецца ажыўленая кон'юнктура, то чаму менавіта Польшча належыць да ліку нямногіх краін з паніжанай кон'юнктурай. Відавочна, апрача агульнасусьветных фактараў, на разьвіцьцё крызісу ў Польшчы ўплываюць спэцыфічныя, чыста польскія прычыны.

Часткова можна пагадзіцца з буржуазнымі экономістымі, калі яны бачаць адну з прычын крызісу ў напружаным становішчы на сусьветным грашовым рынку. Бо і сапраўды: урад Пілсудзкага, пасьля атрыманьня ім, у канцы 1925 г., так званае стабілізацыйнае пазыкі (названае „ключавой“, бо яна павінна была быць нібы-та, „ключом“, які адчыняе перад польскай буржуазіяй касы амэрыканскіх банкіраў) павёў політыку орыентацыі на значны наплыў чужаземнага капіталу ў Польшчу. Становішча, якое стварылася на амэрыканскім фінансавым рынку, і змаганьне за золата, якое

вядзецца паміж эмісійнымі банкамі капіталістычных краін, стварылі, аднакжа, сытуацыю, у якой Польшчы трэба было адмовіцца ня толькі ад надзеі атрымаць буйную пазыку ў Амэрыцы, але ад спроб зьмясьціць на францускім рынку облігацыі Цэнтральнага Зямельнага Банку на суму 20 мільёнаў доляраў.

Амаль зусім ня вытрымлівае крытыкі спасылка на зьніжэньне цэн на збожжа, што прывяло, нібы-та, да паніжэньня спажывецкай здольнасьці сялянства. Крызіс сапраўды пачаўся з паніжэньня пакупной здольнасьці насельніцтва (ня толькі сялянства, але і гарадзкога пролетарыяту, а таксама дробна-буржуазных пластоў гарадзкога насельніцтва), аднак-жа прычыны гэтага трэба бачыць не ў паніжэньні цэн на збожжа, але ў агульнай політыцы ўраду Пілсудзкага (аб чым мы пішам ніжэй). Бо асноўная маса польскага сялянства ня мае таварнага збожжа і, таму, яна не зацікаўлена ў высокай цане на збожжа.

Па даных, зьмешчаных у польскім „Статыстычным Штогодніку" на 1928 г. у ліку 3.261.909 сельскіх гаспадарак ёсьць наступная колькасьць „карлікавых" і дробных сялянскіх двароў:

| Плошча, якую маюць гаспадаркі | Колькасьць гаспадарак | %% да агульнага ліку гаспадарак |
|---|---|---|
| 0.0—0.5 гэкт. | 333.869 | 10,2 |
| 0,5—1 „ | 271.986 | 8,3 |
| 1—2 „ | 502.913 | 15.4 |
| 2—3 „ | 379.437 | 11.6 |
| 3—4 „ | 345.790 | 10,6 |
| 4—5 „ | 276.624 | 8.5 |
| | 2.110.619 | 64,6 |

Да „карлікавых" гаспадарак у Польшчы залічаюцца гаспадаркі да 3-х гэкт. Такая гаспадарка ня толькі ня мае таварнага збожжа, але для прахарчаваньня сям'і ўласьніку „карлікавае" гаспадаркі трэба купляць хлеб у памешчыка і кулака. Сяляне, якія ўладаюць 3—5 гэкт., маюць даволі ўласнага збожжа толькі ў гады асабліва добрага ўраджаю. Таварнага збожжа ў іх ніколі амаль няма. Такім чынам, вышэйпрыведзеная табліца даводзіць, што асноўная маса сялянства, якая ўладае да 5 гэктараў зямлі і якая складае 64,6% усяго вясковага насельніцтва, ня можа быць залічана да продуцэнтаў таварнага збожжа і таму яна ня толькі не зацікаўлена ў высокай цане на збожжа, але ў значнай сваёй частцы зацікаўлена, якраз, у нізкай на яго цане.

У роўнай меры таксама ад высокай цаны на збожжа не залежыць пакупная здольнасьць 700.000 батрацкіх сем'яў, якія існуюць, па прыблізных падліках Польшчы („Рабочы Каляндар" на 1926 г., выдадзены

кніжным коопэратывам „Ксёнжка“ прыводзіць лічбу 617215 батракоў, ня лічачы рабочых у дзяржаўных маёнтках і лясох). Некаторыя лішкі збожжа мае ў ураджайныя гады серадняк, які ўладае 5—10 гэктарамі, колькасьць двароў якога складае 22,5% агульнае колькасьці гаспадарак. Апрача таго, трэба ўлічыць наступны факт: вышэйпаказаныя лічбы ілюструюць становішча, якое існавала ў 1921 г., у час усеагульнага перапісу (больш новых даных няма). З таго часу бязумоўна шмат што зьмянілася ў горшы бок: насельніцтва шпарка павялічваецца (прыблізна на 400 душ у год), эміграцыі за межы амаль няма, прамысловасьць не разьвіваецца і таму лішак вясковага насельніцтва ня мае магчымасьці атрымаць працу ў горадзе, застаецца ў вёсцы. У гэтых умовах шпарка разьвіваецца процэс раздрабненьня і паўпэрызацыі серадняцкіх гаспадарак, якія губляюць свой характар прыватных вытворцаў таварнага збожжа. Такім чынам, без памылкі можна канстатаваць, што толькі частка серадняцкіх заможных двароў зацікаўлена ў высокай цане на збожжа, у роўнай меры з кулацкімі гаспадаркамі (ад 10 да 50 гэкт. зямлі і якія складаюць 12% усіх двароў) і памешчыцкімі маёнткамі 0,9% двароў.

Дробныя серадняцкія сялянскія гаспадаркі зацікаўлены, галоўным чынам, у высокай цане на скаціну, малочныя продукты, яйкі, масла і г. д., узровень якіх, як гэта выплывае з ніжэйнаступнай статыстыкі (у якой мы ўлічваем таксама цэны некаторых прамысловых і колёніяльных тавараў) не асабліва зьнізіўся:

Індэксы цэн (1927=100).
(Лічбы, запазычаныя з афіцыяльных „Ведамасьцяй Статыстычных“ № 18).

| 1929 год. | чэрвень | ліпень | жнівень |
|---|---|---|---|
| Харчаваньне расьліннага паходжаньня | 76,6 | 77,9 | 74,7 |
| Харчовыя продукты жывёльнага паходжаньня | 96,5 | 96,4 | 99,8 |
| Колёніяльныя тавары | 103,8 | 103,1 | 104,9 |
| Тэкстыльныя тавары | 97,1 | 95,6 | 95,1 |
| Мэталы | 100,3 | 100,1 | 100,2 |

Мы бачым, што для шырокіх мас сялянскага насельніцтва проблема „ножніц“ амаль ня існуе. Ва ўсякім выпадку ў гэтых адносінах становішча з 1927 „благополучного“ году амаль не зьмянілася (калі ня лічыць нязначнага павялічэньня цаны колёніяльных тавараў). Значнае-ж зьніжэньне цэн на збожжа не магло, як даведзена вышэй, мець вялікі ўплыў на пакупную здольнасьць сялянства. І, таму, таксама не ў проблеме „ножніц“ трэба бачыць асноўную прычыну крызіса.

Спэцыфічна польскай прычыны крызісу, незалежна ад сусьветных кон'юнктур, зьяўляецца так званы „этатызм“, які некалькі месяцаў таму

назад быў прычынай для вялікай палемікі на старонках штодзённага і спэцыяльнага друку ў Польшчы. „Этатызм“ не зьяўляецца, аднак, як сьцьвярджаюць некаторыя буржуазныя эканамістыя, свайго роду дзяржаўным капіталізмам. Калі мы ўважліва прааналізуем характэрныя рысы гэтага „этатызму“ і пазнаёмімся з пералікам прадпрыемстваў, якія зьяўляюцца ўласнасьцю дзяржавы, тады мы пераканаемся, што „этатыстычная“ палітыка ўраду зводзіцца фактычна да ваеннай падрыхтоўкі Польшчы. У час дыскусыі аб „этатызьме“ з боку аўторытэтных удзельнікаў палемікі, было паказана, што дзяржава падпарадкавае сабе, галоўным чынам, прадпрыемствы, якія служаць для ваенных мэт. Такім чынам, у руках дзяржавы знаходзіцца ўся васковая прамысловасьць, а таксама тыя прадпрыемствы, якія могуць быць прыдатнымі для ўзмацненьня баявой гатоўнасьці краіны. У руках дзяржавы знаходзяцца буйныя хэмічныя фабрыкі, як азотная фабрыка ў Хоржове, як Тарноўская азотная фабрыка, якую ўрад будуе за свой кошт. Пры дапамозе адпаведнай крэдытовай палітыкі, якая праводзіцца дзяржаўнымі банкамі, урад падпарадкаваў сабе шэраг прыватных прадпрыемстваў і прыстасаваў іх да патрэб арміі. Клясычным зьяўляецца прыклад буйных мэталюргічных прадпрыемстваў „Стараховіцэ“. Апрача таго, урад будуе за свой кошт порт у Гдыні, які мае для Польшчы бязумоўна буйнае вайсковае значэньне. Будуюць таксама такія об'екты, як элеватары, рэзьніцы, халадзільнікі, хлебазаводы, асабліва на ўсходніх крэсах (Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна), якія маюць значэньне для забесьпячэньня арміі; будуюцца, урэшце, стратэгічныя чыгункі і шосэ. Аб характары гэтага сваясаблівага „дзяржаўнага капіталізму“ сьведчыць той факт, што для працы ў дзяржаўных прадпрыемствах і наогул ва ўсёй дзяржаўнай адміністрацыі адкамандыравана маса афіцэрства. Афіцэры прызначаюцца ня толькі на адказныя пасады ў адміністрацыі і ў прадпрыемствах, але камандыруюцца нават і ў такія ўстановы, як больнічныя касы, якія маюць пад сваім загадам больніцы, і якія роўным чынам адыграюць не малую ролю ў выпадку вайны. На сваіх грамадзянскіх пасадах афіцэрская маса ня толькі праводзіць дырэктывы ўраду, але вывучае мэтоды адміністрацыі, што можа мець значэньне на выпадак патрэбы кіраваньня окупаванымі тэрыторыямі. Такім чынам, мы бачым, што так званы „этатызм“ зьвязаны з узмоцненай мілітарызацыяй усяго дзяржаўнага і грамадзкага апарату Польшчы. Гэтыя факты ў выстарчальнай меры яскрава характарызуюць істоту польскага „этатызму“.

Для правядзеньня палітыкі „этатызму“ патрэбны, аднак, грошы. Грошы гэтыя дае насельніцтва ў форме вялізарных дзяржаўных падаткаў. Насельніцтву даводзіцца выносіць на сваіх плячох цяжар вялізарнага трохмільярднага бюджэту, тры чвэрці якога ідзе на ўтрыманьне шматлікай арміі і нячувана разгорнутага паліцэйскага і бюрократычнага апарату. Насельніцтву даводзіцца расплачвацца за ўсю гэтую палітыку „этатызму“, якая зводзіцца фактычна да падрыхтоўкі вайны супроць

СССР. Што гэтая вайна падрыхтоўваецца супроць СССР — аб гэтым сьведчыць уся замежная і ўнутраная палітыка ўраду Пілсудзкага. Не дарэмна буржуазная Польшча мае дачыненьне да ўсіх антысавецкіх камбінацый на міжнародным грунце. Не дарэмна яна вядзе сыстэматычнае антысавецкае цкаваньне ўнутры краіны. Не дарэмна ўрад Пілсудзкага водзіцца з усякім бела-эмігранцкім збродам, не дарэмна ён вядзе палітыку, нячуванага тэрору ў дачыненьні да працоўных і эксплёатуемых мас у Заходняй Украіне і Беларусі. Гэтая палітыка, зьвязаная з вялізарнымі непродукцыйнымі выдаткамі вядзе да зґаленьня насельніцтва і да скарачэньня яго пакупной здольнасьці. Куды ідуць гэтыя вялізарныя сумы, якія выкалачваюцца з насельніцтва, сьведчыць гісторыя бюджэтных перавыдаткаў у 1927-28 бюджэтным годзе на суму 660 мільёнаў злотых, у выдаткаваньні якіх урад ня хоча даць справаздачу. Вялізарная частка гэтых грошай была выдадзена на ўзброеньне, на забесьпячэньне арміі, на паліцыю і на ўзмацненьне апарату фашысцкай дыктатуры ўнутры краіны.

Пры такім становішчы прычыны зьмяншэньня пакупальнай здольнасьці насельніцтва трэба шукаць ня ў нізкай цане на збожжа, а ў непасільным цяжары дзяржаўных выдаткаў, зьвязаных з вайсковай падрыхтоўкаю польскай буржуазіі, якая арыентуецца на вайну з Савецкім Саюзам.

Адным з важных прызнакаў крызісу зьяўляецца бязумоўна рост колькасьці вэксальных протэстаў. Працэс гэтага росту пачаўся ўвосень мінулага году і наўпрэкі чаканьням польскіх экономістых, да гэтага часу ня спыніўся.

| Месяц і год | Агульная колькасьць выстаўленых вэксалёў у тыс. злотых | Сума апротэставаных вэксалёў у тысяч. злотых | Сярэдняя цэннасьць апротэставаных вэксалёў |
|---|---|---|---|
| 1928 | | | |
| VII | 230.013 | 47.594 | 207 |
| VIII | 228.574 | 44.999 | 197 |
| IX | 236.909 | 49.880 | 211 |
| X | 274.354 | 60.255 | 220 |
| XI | 272.661 | 61.640 | 226 |
| XII | 313.128 | 67.668 | 216 |
| 1929 | | | |
| I | 356 691 | 76.787 | 215 |
| II | 390.339 | 82.660 | 212 |
| III | 441.176 | 92.627 | 210 |
| IV | 454.679 | 100.054 | 220 |
| V | 475.213 | 103.352 | 217 |
| VI | 456.959 | 98.511 | 216 |
| VII | 506.713 | 116.763 | 230 |

Па даных Кон'юнктурнага Бюлетэню за верасень бяг. г., агульная сума выстаўленых вэксалёў у жніўні месяцы зьменшылася амаль на 100 мільёнаў злотых і таму, напэўна, колькасьць апротэставаных вэксалёў таксама крыху зьменшыцца. Прапорцыя, аднак, хутчэй за ўсё застанецца той самай, як у ліпені, або нават пагоршыцца.

Некаторае скарачэньне прапорцыі протэстаў у Польскім Банку (з 5,37 проц. у ліпені на 5,21 проц. у жніўні) ня можа быць палічана, як прызнак паляпшэньня, бо яно выклікана, з аднаго боку, абвастрэньнямі ў падборы вэксальнага матар'ялу і, з другога боку, пралангіраваньнем вэксалёў больш солідных кліентаў банку.

У зьвязку з разьвіцьцём крызісу назіраецца паступовае, але значнае, паніжэньне курсу 34 важнейшых польскіх прамысловых акцый. Калі мы прымем, што сярэдні індэкс курса гэтых акцый у 1927 г. раўняўся 100, то ў красавіку 1928 г. узровень курсаў раўняўся 114,3, у жніўні 1928 г.—107,3, у сьнежні 1928—99,6, у сакавіку 1929 г.—86,8 і ўрэшце ў ліпені 1929 г.—79,8. Такое значнае паніжэньне курсу прамысловых акцый выклікана, зразумела, крызісам, які перажывае прамысловасьць, а таксама дарагоўляй крэдыту (да 3,5 проц. месячных), у выніку чаго трымальнікі акцый рэалізуюць свае каштоўныя, але мала рэнтабельныя паперы і зьмяшчаюць свае капіталы на прыватным вучотным рынку.

Экономічная дэпрэсія адбілася ў гэтых умовах на зваротах Варшаўскай біржы. У параўнаньні з мінулым годам вельмі значна скараціліся зьдзелкі наогул, акцыямі-ж ў прыватнасьці.

Малюнак вялізарнага скарачэньня зьдзелак даюць нам наступныя лічбы:

Зьдзелкі на Варшаўскай біржы (у тыс. злотых).

| | Студзень 1928 г. | Жнівень 1929 г. |
|---|---|---|
| | 643.937,3 | 371.303,8 |
| У тым ліку зьдзелкі з акцыямі . . | 49.890,8 | 18.901,5 |

Мы бачым, што на працягу першых 8-мі месяцаў бяг. году агульны разьмер зьдзелак на біржы скараціўся амаль на 50 проц., зьдзелак-жа акцыямі амаль на 60 проц. Таксама гэты факт у выстарчальнай меры яскрава характарызуе разьмер крызісу ў Польшчы.

Вельмі важным паказальнікам экономічнага дабрабыту, ці крызісу зьяўляюцца лічбавыя даныя аб колькасьці беспрацоўных. Аднак, нават павярхоўнае азнаямленьне з лічбамі офіцыяльнай польскай статыстыкі ў гэтай галіне даводзіць, што мы маем справу з „дутымі" лічбамі. Прыводзім наступны характэрны прыклад. Паводле № 17 „Статыстычных Ведамасьцяй", паказчыкам хістаньня лічбаў рабочых, занятых у апрацоўчай прамысловасьці, зьяўляецца наступная табліца:

Статыстыка рабочых у апрацоўчай прамысловасьці.

| Месяц | Агульная колькасьць занятых рабочых | | Часткова беспрацоўных | |
|---|---|---|---|---|
| | 1928 г. | 1929 г. | 1928 г. | 1929 г. |
| I . . | 464.769 | 304.146 | 71.960 | 36.599 |
| II . . | 481.320 | 487.459 | 62.165 | 72.906 |
| III . . | 498.280 | 500.201 | 61.533 | 57.198 |
| IV . . | 517.786 | 526.236 | 79.305 | 98.100 |
| V . . | 522.443 | 539.869 | 97.569 | 136.608 |
| VI . . | 529.549 | 531.615 | 68.034 | 98.708 |
| VII . . | 521.803 | 506.904 | 56.145 | 89.639 |
| VIII . . | 548.836 | — | 58.442 | — |

У графе рабочых, занятых у 1929 г. у апрацоўчай прамысловасьці, паказваецца на зьмяншэньне колькасьці рабочых прыблізна на 25.000 чал. Трэба было чакаць, што ў статыстыцы абсолютна беспрацоўных розьніца паміж чэрвенем і ліпенем будзе прыблізна гэтая-ж самая, калі адначасова не павялічылася колькасьць рабочых у іншых галінах прамысловасьці (адход у вёску на палявыя работы мала верагодны ў зьвязку з перанасяленьнем у вёсцы і з беспрацоўем сярод парабкоў). Разам з тым у іншых галінах прамысловасьці павялічэньне колькасьці рабочых у параўнаньні з чэрвенем не назіраецца; статыстыка-ж абсолютна беспрацоўных паказвае ў чэрвені 90.958 чал., у ліпені-ж 84.292 чал., г. зн. скарачэньне беспрацоўя амаль на 6.000 чалавек. Выходзіць, такім чынам, няўвязка: невядома, якім чынам з статыстыкі зьнікла амаль 31.000 чал.

Аднак, нават гэтыя „нацягнутыя“ афіцыяльныя лічбы вышэйпрыведзенай табліцы паказваюць на значнае пагаршэньне становішча прамысловасьці. Яны даводзяць, што калі ў мінулым годзе апрацоўчая прамысловасьць перажывала пэрыод росту, то ў адпаведных месяцах бягучага году назіраецца якраз процілеглае зьявішча.

Скарачэньне вытворчасьці ілюструецца наступнай табліцай індэксаў продукцыі: (1925 г.—1927 г. = 100) індэксы прамысловай продукцыі.

(Па даных бюлетэня Кон'юнктурнага Інстытуту ад верасьня 1929 г.).

| Год і месяц | Агульн. індэкс. прамысл. прадукц. | Індэксы прадукцыі | |
|---|---|---|---|
| | | Вытворчых тавараў | Спажывецкіх тавараў |
| 1928 | | | |
| IV . . . . . . . | 126,7 | 143,1 | 120,3 |
| V . . . . . . . | 126,0 | 143,4 | 120,5 |
| VI . . . . . . . | 128,4 | 148,8 | 120,9 |
| VII . . . . . . . | 127,8 | 147,2 | 121,0 |
| VIII . . . . . . . | 130,3 | 150,3 | 123,4 |
| 1929 | | | |
| IV . . . . . . . | 133,9 | 150,9 | 120,5 |
| V . . . . . . . | 129,4 | 151,4 | 112,3 |
| VI . . . . . . . | 127,5 | 149,9 | 110.7 |
| VII . . . . . . . | 126.2 | 142,7 | 109,3 |
| VIII . . . . . . . | 126,2 | 142,4 | 111,6 |

Калі мы на падставе вышэйпрыведзеных лічбаў нарысуем крывыя разьвіцьця вытворчасьці, то пераканаемся, што павышальнай тэндэнцыі продукцыі ў мінулым годзе прыдзецца проціпаставіць моцную тэндэнцыю да паніжэньня ў аналёгічных месяцах бяг. году.

Як гэта ня дзіўна, але аб паглыбленьні крызісу сьведчыць таксама тая акалічнасьць, што пасьля 28 месяцаў бесьперапыннай пасыўнасьці гандлёвага балянсу, апошнія м-цы, г. зн. ліпень і жнівень, далі актыўнае сальдо. Гісторыя польскага гандлёвага балянсу даводзіць, што актыўным ён бывае толькі ў час экономічнага ці фінансавага крызісу. Актыўным гандлёвы балянс Польшчы быў у час інфляцыйнага пэрыоду. Пасьля стабілізацыі валюты ў пачатку 1924 г. гандлёвы балянс стаў пасыўным. Актыўным ён стаў зноў у другой палове 1925 г. у час наступнага крызісу. Актыўнае сальдо ператварылася ў пасыўнае вясною 1927 г., калі пасьля кон'юнктуры, узьнікшай у Польшчы ў зьвязку з ангельскай забастоўкай, краіна ўступіла ў фазу ажыўленьня. І, нарэшце, актыўным балянс замежнага гандлю стаў зноў цяпер, калі ўсе прызнакі крызісу ў наяўнасьці. Сакрэт гэтага парадоксу заключаецца ў тым, што гэтыя зьмены адбываюцца, галоўным чынам, за кошт скарачэньня ці павялічэньня імпорту, але толькі ў нязначнай ступені ў сувязі з зьменамі ў экспорце. Пад час крызісу зьмяншаецца імпорт машын, сыравіны і напоўфабрыкатаў. У сувязі з зьмяншэньнем пакупной здольнасьці насельніцтва скарачаецца таксама імпорт прамысловых тавараў і ўсякага харчаваньня. Трэба, аднак, прызнаць, што калі гутарка ідзе пра цяперашнюю фазу, у якую ўступіў замежны гандаль, то некаторае павялічэньне экспорту ўсё-ж ёсьць. Так, напрыклад, сярэдні месячны экспорт выражаўся ў 1928 г. сумай 280,9 млн. злотых. У першым квартале 1929 г.—181,6 млн. злотых, у другім квартале бяг. году ўжо—226,3 млн. злотых, у ліпені—276,4 млн. злотых, і, нарэшце, у жніўні—280,7 млн. злотых. Гэтае павялічэньне экспорту мае, аднак-жа, сэзонны характар, часткова-ж выклікана фактам, што польская прамысловасьць, у зьвязку з скарачэньнем аб'ёму ўнутранага рынку і ў пагоні за гатоўкаю прадае свой тавар заграніцу па вельмі нізкіх бросавых цэнах. Характэрным зьяўляецца наступны прыклад: у жніўні бягучага году акцыз за цукер даў амаль на 3 млн. злотых менш, чым у ліпені. Значыцца, спажываньне цукру ўнутры краіны значна скарацілася; але адначасова экспорт цукру ў гэтым месяцы павялічыўся на 14 млн. злотых у параўнаньні з папярэднім месяцам. Усе польскія экономістыя аднагалосна прызнаюць гэты факт і падкрэсьліваюць, што пра структурныя зьмены польскага замежнага гандлю няма падстаў гаварыць.

Значнае хістаньне выкрывае імпорт. Сярэдні месячны імпорт мінулага году выражаўся сумай 280,2 млн. злотых. У ліпені бягучага году імпорт раўняўся ўжо толькі 266,4 млн. злотых, у жніўні-ж усяго толькі 226,5 млн. злотых. Пры больш падрабязным азнаямленьні з лічбамі імпорту ў 1928 і 1929 г. відаць, што, па-першае, значна скараціўся імпорт хар-

чаваньня. Так: у параўнаньні з першымі васьмі месяцамі 1928 г. у працягу першых васьмі месяцаў 1929 г. імпорт пшаніцы скараціўся прыблізна на 93 млн. злотых, жыта—на 50 млн. злотых, кукурузы—на 12 млн. злотых і рыжу—на 20 млн. злотых (трэба тут заўважыць, што скарачэньне імпорту збожжапродуктаў выклікана ня толькі зьмяншэньнем пакупной здольнасьці насельніцтва, але таксама протэкцыйнай політыкай ураду, рэглямэнтацыяй прамолу і г. д.). Скараціўся таксама імпорт сыравіны, машын і гатовых вырабаў. Так, імпорт нявырабленых скур скараціўся на 26 млн. злотых, вырабленых скур—на 15 млн. злотых, каўчука—на 12 млн. злотых, сынтэтычных фарбаў—на 7 млн. злотых, электрычнага кабеля—на 4 млн. злотых, рызьзя—на 4,5 млн. злотых, бавоўны—на 40 млн. злотых, воўны—на 1,2 млн. злотых, сельска-гаспадарчых машын—амаль на 9 млн. злотых, трыкотажных вырабаў—на 3,5 млн. злотых і г. д.

Адначасна ў працягу першых 8-мі месяцаў 1929 году павялічыўся экспорт збожжа амаль на 70 млн. злотых, цукру—на 29 млн. злотых, бэконаў—на 25 млн. зл., кароўяга масла—на 7 млн. зл., вугля—на 15 млн. злотых, пражы—на 12 млн. зл., штучнага шоўку—на 4,5 млн. зл., тэкстыльных вырабаў—на 30 млн. зл., вопраткі і галянтарэі—на 4 млн. зл. Павялічэньне экспорту збожжа выклікана зьмяншэньнем цаны на ўнутраным рынку, продажам урадам за межы сваіх рэзэрваў збожжа і скасаваньнем забароны вывозіць збожжа за межы. Рост экспорту бэконаў бязумоўна выклiканы значным скарачэньнем аб'ёму ўнутранага рынку. Росту экспорта цукру і вугля садзейнічае політыка Дэмпінга, якая ўзмацняецца. Як вядома, урад дазволіў, некаторы час таму назад, цукрапрамыслоўцам значна павялічыць цану на ўнутраным рынку, і, такім чынам, узмацняць магчымасьць экспорту. Зусім у іншым стане знаходзіцца справа з вугалем. Што датычыцца ўзмацненьня экспорту тэкстыльных вырабаў, то ў даным выпадку няма ніякага сумненьня, што гэта было дасягнута за кошт унутранага спажываньня. Аб гэтым сьведчыць таксама тая акалічнасьць, што, побач з ростам экспорту, ня толькі не павялічалася продукцыя тэкстыльнай прамысловасьці, але наадварот,—скарацілася.

Цяжкое экономічнае становішча краіны адбіваецца ў апошні час на лічбах дзяржаўнага бюджэту. Калі ў 1927 г. і ў 1928 г. меліся буйныя бюджэтныя лішкі, то ў апошні час становішча ў гэтых адносінах радыкальна зьмянілася. Мы прыводзім ніжэйнаступную характэрную табліцу, якую мы ўзялі з № 9 „Кон'юнктурнага Бюлетэня“ (гл. таб. на стар. 126).

Трэба пры гэтым сказаць, што фактычна ў працягу апошніх месяцаў ёсьць ужо бюджэтны дэфіцыт, бо вышэйпрыведзеная статыстыка ня ўлічвае выдаткаў, якія робіць урад на капітальныя ўклады. Ня глядзячы на гэта, бюджэт на 1930-31 б. г. будзе ўнесены міністрам фінансаў у разьмеры бюджэту на бягучы год. З гэтага трэба зрабіць вывад, што цяжар падаткаў ня будзе зьменшаны і гэты факт зразумела ня будзе садзейнічаць разьвіцьцю спажываньня і вытворчасьці.

Дзяржаўныя выдаткі і прыбыткі (у мільёнах злотых).

| | 1928 г. | | | 1929 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Выдаткі | Прыбыткі | Сальдо | Выдаткі | Прыбыткі | Сальдо |
| I | 229,0 | 255.0 | + 26.0 | 227,5 | 256,9 | + 29.4 |
| II | 233,4 | 238.9 | + 5,5 | 203.6 | 249,3 | + 45.8 |
| III | 286,8 | 306.2 | + 19,4 | 265,6 | 278,1 | + 12.5 |
| IV | 213,2 | 222,5 | + 9,3 | 245.3 | 250,9 | + 5.6 |
| V | 230,3 | 244,0 | + 13.7 | 240,6 | 245,3 | + 4.7 |
| VI | 206,2 | 216,5 | + 10.4 | 232,1 | 232,6 | + 0,5 |
| VII | 224.0 | 233.9 | + 9,9 | 251,0 | 251,8 | + 0.8 |
| VIII | 230.6 | 237,8 | + 7,2 | 231.8 | 233,1 | + 1,3 |
| IX | 228,1 | 238.4 | + 10,3 | — | — | — |
| X | 226,4 | 267.4 | + 11.0 | — | — | — |
| XI | 268,0 | 287,0 | + 29,0 | — | — | — |
| XII | 265,2 | 299.0 | + 33,8 | — | — | — |

Ня гледзячы на разьвіцьцё экономічнага крызісу і на факт, што гандлёвы балянс быў пасыўны ў працягу 28 м-цаў (прычым пасыўнае сальдо балянсу замежнага гандлю за гэты час перавысіла суму 1,5 мільярдаў злотых), на пакрыцьці польскае валюты гэта да гэтага часу амаль не адбілася. Уцечка валюты з Польскага Банку ў больш буйных памерах выкрылася толькі ў красавіку бяг. году, аднак-жа, у наступных месяцох у вогуле спынілася. І таму пакрыцьцё грашовага звароту зьменшылася толькі ў нязначнай ступені. У гэтых умовах Польскі Банк меў магчымасьць не карыстацца крэдытовымі рэстрыкцыямі і не скарачаць грашовага звароту. Факт нязначнай уцечкі замежнай валюты з Польскага Банку сьведчыць аб тым, што пэрыод фінансавай і крэдытовай ізоляцыі Польшчы мінуў. Наогул-жа існуе ўпэўненасьць, што польскай валюце не пагражае пакуль ніякая конкрэтная небясьпека. Магчыма, што ў сувязі з апошнім павялічэньнем вучотнага проценту ў некаторых заходня-эўропэйскіх эмісійных банках зноў узмацніцца тэдэнцыя да ўцечкі замежнай валюты Польшчы. Няма, аднак, сумненьня, што ў выпадку неабходнасьці Польскі Банк будзе скарачаць вэксальны портфэль і грашовы зварот на шкоду народнай гаспадаркі, але ні ў якім выпадку не дапусьціць хістаньня польскай валюты, тым больш, што політыка Польскага Банку знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад амэрыканскага „радцы“ *Дзьюі*.

* * *

Прызначаны вясной бяг. году ўрад Сьвітальскага, які быў толькі новым выданьнем ураду фашысцкай дыктатуры, заняўся спробамі спыніць экономічны крызіс, які ўсё паглыбляўся. Экономічная політыка гэтага ўраду ўпаўне характарызуе яго клясавы і фашысцкі характар. Урад гэты адразу-жа даў буржуазіі цэлы шэраг новых ільгот. Аднэй з першых мер, ужытай міністрам фінансаў Матушэўскім—было вызваленьне некаторых капіталаў ад дзяржаўнага ападактаваньня. Далей, Матушэўскі скасаваў контроль над банкаўскімі ўкладамі. У маі бяг. году вучотны процант Польскага Банку быў павялічаны з 8 да 9 проц. гадавых. Задавольваючы запатрабаваньні прамысловай і аграрнай буржуазіі, урад Сьвітальскага адкрыта выступіў на шлях высокіх таварных цэн. Такім чынам, былі павялічаны цэны на цукер, нафту, вугаль, жалеза. Адначасова ўрад павялічыў на 20 проц. чыгуначны таварны тарыф. Вельмі характэрнымі зьяўляюцца меры, ужытыя ўрадам у галіне збожжавай політыкі. Ня гледзячы на тое, што ўрад бязумоўна ўяўляе ў поўнай меры, што сутнасьць экономічнага крызісу заключаецца ні ў якім разе не ў цане на збожжа, ён, выконваючы запатрабаваньні буйных зямляўласьнікаў і кулакоў, пайшоў па шляху высокіх збожжавых цэн. Рэзэрвы збожжа, сабраныя папярэднім урадам Бартэля, якія павінны былі граць паміж іншым ролю манэўравай таварнай масы ў выпадку надмернага павялічэньня цаны на збожжа, былі ўрадам Сьвітальскага прададзены за межы, Кіраўнік ранейшай збожжавай політыкі ў Міністэрстве Ўнутраных Спраў, вышэйшы чыноўнік Швальбе, адтрымаў адстаўку. Урад скасаваў усе абмежаваньні ў галіне збожжа-экспорту. Аднача́сна ўрадам былі ўведзены забаронныя мыты на збожжа з-за межаў. У сучасны момант абгаварваецца пытаньне аб увядзеньні экспортных прэмій у гандлі збожжам. Усе гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца рэалізацыяй запатрабаваньняў памешчыкаў і кулакоў, а таксама буйнага капіталу.

Выконваючы волю фінансавага капіталу, урад фашысцкай дыктатуры абвастрыў у далейшым сваё наступленьне на правы і дасягненьні рабочае клясы. Усё ў больш шырокай меры ўжываецца ўрадам нахабны, люты тэрор у дачыненьні да рабочых і асноўных сялянскіх мас. Рэволюцыйных рабочых і сялянскіх дзеячоў агенты дэфэнзывы расстрэльваюць сярод белага дню на мітынгах (забойства беспартыйнага рабочага ў Лодзі—члена рабочай дэлегацыі, якая наведала СССР, на справаздачным мытынгу аб яго паездцы, забойства селяніна, які абараняў перад слухачамі рабоча-сялянскі саюз), узмоцнена пашыраецца ім фашысцкае соцыяльнае законадаўства, накіраванае на пазбаўленьне рабочае клясы магчымасьці абароны сваіх інтарэсаў шляхам страйку і забастовак.

Побач з урадавым тэрорам і пад яго абаронай, абвастраецца экономічны і політычны тэрор у дачыненьні да рабочых мас з боку фабрыкантаў і памешчыкаў, у дачыненьні да батракоў і сэзоньнікаў з сялянскай

беднаты. Характэрным праяўленьнем высілкаў фашызму паралізаваць барацьбу рабочае клясы шляхам фашысцкага соцыяльнага законадаўства зьяўляецца нядаўна распрацаваны міністрам працы законапроэкт аб увядзеньні прымусовага арбітражу ў конфліктах паміж прадпрыемцамі і працоўнымі. Гэты законапроэкт дапаўняе фашысцкую сыстэму судоў працы і накіраваны на канчатковую ліквідацыю права коаліцыі і забастовак. Гэты законапроэкт павінен закончыць той процэс фашызацыі профэсыянальнага руху, які ўзмоцнена праводзіцца соцыял-фашысцкімі і фашысцкімі агентамі ўраду ўнутры рабочага руху.

Ясна, што і палітыка высокіх цэн, якую вядзе ўрад Пілсудзкага, вастрыём сваім накіравана супроць інтарэсаў працоўных мас, руйнуючы і прыводзячы да поўнага зґаленьня рабочае масы ў горадзе і асноўныя сялянскія масы ў вёсцы. Да такіх-жа мерапрыемстваў, накірованых на ўзмацненьне і ўзбагачэньне кіруючых кляс і страту экономічных інтарэсаў працоўных мас, зьяўляецца распараджэньне ўраду фашысцкай дыктатуры аб зьмяншэньні ўзносаў, якія належаць з прадпрыемцаў па страхаваньні працоўных ад беспрацоўя.

Гэтая яскрава выражаная клясавая экономічная палітыка фашызму мае на мэце з усіх сіл затрымаць распад гнілой капіталістычнай стабілізацыі за кошт бязьмернага павялічэньня эксплёатацыі і ўціску рабочае клясы і асноўных мас сялянства. Але ўсе патугі ўраду фашысцкай дыктатуры прыводзяць толькі да далейшага хістаньня гэтай стабілізацыі і яшчэ больш яскрава падкрэсьлівае той факт, што Польшча была, ёсьць і будзе найбольш слабым, нятрывалым зьвяном у сыстэме нятрывалай, гнілой і хісткай капіталістычнай стабілізацыі.

Працэс хістаньня так званай капіталістычнай стабілізацыі, агульны ўсяму капіталістычнаму сьвету, праяўляецца ў найбольш вострых формах у Польшчы. Гэты паскораны процэс расхістаньня стабілізацыі знаходзіць сваё выражэньне ў тым экономічным крызісе, аналізу якога прысьвечаны гэты артыкул, і ў грандыёзных бойках рабочых і сялянскіх мас, а таксама мас заняволеных і прыгнечаных польскім імпэрыялізмам народаў. Клясавая барацьба ў Польшчы таксама як і нацыянальна-вызваленчы рух прыгнечаных народаў, усе больш абвастраецца і набывае ўсё больш напружаны характар. Прычым усё яскравей выступае факт контрнаступленьня працоўных мас гораду і вёскі ня толькі ў абарону сваіх экономічных інтарэсаў, але і па лініі палітычнай барацьбы за зьвяржэньне фашысцкай дыктатуры.

Фашысцкая сыстэма ў Польшчы ідзе да заняпаду. Нарастаюць элемэнты рэволюцыйнай сытуацыі. Гэтым тлумачыцца і актывізацыя соцыялфашысцкіх і сялянскіх фашысцкіх партый, іх спробы адцягнуць узмоцненай опозыцыйна-дэмократычной дэмагогіяй працоўныя масы ад рэволюцыйнай барацьбы. Аднак апошнія падзеі: шэраг буйнейшых і жорсткіх забастовак, або выбар у самакіраўніцтвы паказваюць, што дывэрсыйныя выступленьні гэтых партый у абарону фашысцкай сыстэмы ня могуць

разьлічваць на посьпех, бо масы ўсё больш і больш лявеюць. І ў Польшчы адзін супроць аднаго стаяць дзьве непрымірыма варожыя сілы: рабоча-сялянскі лягер, пад кіраўніцтвам узмацняючай свой уплыў комуністычнай партыі, і лягер фашысцкай контр-рэволюцыі ад соцыял-фашыстых, якія граюць ролю „левай“ опозыцыі ў адносінах да фашызму і эндэкаў, якія выконваюць ролю „правай“ опозыцыі ў адносінах да штабу польскага фашызму. Барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць, за паўнату ўлады аднаго з бакоў вырашыць лёс Польшчы. Экономічны крызіс, які разгортваецца, зьяўляецца магутным усьмірыцелем рашучай сутычкі гэтых сіл.

# СУЧАСНЫЯ РЭЛІГІЙНЫЯ НАСТРОІ НА БЕЛАРУСІ

**Проф. С. Я. Вольфсон**

Барацьба з рэлігіяй уступіла ў Савецкім Саюзе ў паглыбленую абвостраную фазу. Рэлігія ўсё больш робіцца адным з цэнтральных апорных пунктаў, на якім прабуюць замацавацца розныя антысавецкія клясавыя групоўкі. Рэлігія, пачынаючы яе паганска-абрадавымі і канчаючы містычна-этычнымі праявамі, вельмі часта грае ў нашых умовах ролю той дымавое заслоны, за якую хаваецца клясавы вораг дыктатуры пролетарыяту.

Наяўнасьць у Савецкім Саюзе 50.000 функцыянуючых царквей, звыш 500.000 адных толькі царкоўных актывістых—членаў царкоўных саветаў, 6 мільёнаў сэктантаў, звыш мільёна хрыстамольцаў—вось толькі некаторыя з лічбаў, што паказваюць якіх патуг патрабуе яшчэ ад рабочае клясы барацьба на антырэлігійным фронце, які ўяўляе сабою далёка не апошнюю перашкоду ў нашым паходзе да соцыялізму.

Для барацьбы з ворагам, для перамогі над ворагам раней за ўсё гэтага ворага трэба вывучыць. Нам патрэбна сабраць магчымы фактычны матар'ял аб тым, у якіх соцыяльных праслаеньнях найбольш цьвёрда гнязьдзяцца рэлігійныя настроі, як і чым зьдзейсьнівае рэлігія ў савецкіх умовах „улоўленіе душ", у якім напрамку разгортваецца вызваленьне розумаў з-пад улады рэлігійнага дурману, дзе вогнішчы рэлігійнай інфэкцыі і, наадварот, дзе фактары дэтэолёгізацыі—антырэлігійнага рэволюцыянізаваньня мысьленьня, як уплываюць культурныя, узроставыя родавыя і іншыя адзнакі ў адносінах да рэлігіі і г. д., і г. д. Зьбіраемы фактычны матар'ял патрэбна падводзіць пад пільны марксысцкі аналіз і такім чынам выконваць той соцыялёгічны вучот, які так патрэбен на антырэлігійным фронце. У якасьці першае спробы зьбіраньня гэтага матар'ялу па БССР, пішучым гэтыя радкі была прадпрынята анкета аб сучасных рэлігійных настроях на Беларусі. Пры садзейнічаньні студэнтаў Права і Гаспадаркі БДзУ мною было распаўсюджана 2800 анкет, з якіх гэтым-жа студэнтам, па правядзеньні адпаведнай растлумачальнай кампаніі, давялося атрымаць запоўненымі толькі каля 1/3. Гэтыя анкеты і прадстаўляюць матар'ял, асьвятляемы ў гэтым артыкуле.

Атрыманыя і распрацаваныя намі анкеты праведзены ва ўсіх 8-мі акругах БССР. Месцамі іх запаўненьня зьяўляюцца 9 гарадоў, 5 мястэчак і 67 вёсак.

Усяго было абсьледавана 834 асобы, з якіх 552 выявіліся бязбожнікамі і 282 рэлігійнымі. Такім чынам сярод абсьледваных процант жывучых ва ўладзе рэлігіі, вельмі высокі—ён дасягае амаль 34 проц. Процант гэты ніякім чынам нельга лічыць павялічаным, хутчэй ён паменшаны, паколькі шмат хто з рэлігійна-настроеных асоб, якім былі ўручаны анкеты, ці адмовіліся ад іх запаўненьня, ці ўвільнулі па якому-небудзь поваду, ці, нарэшце, на проста пастаўленае пытаньне: „ці верыце“ адраблялісе прывядзеньнем нічога неазначаючай рысы.

Па родаваму, узроставаму і нацыянальнаму складу абсьледваньне характарызуецца наступнымі дадзенымі:

1) Мужчын—585, жанчын—249.

2) 12-18 год—150 чал.; 19-30 год—336 ч.; 31—50 год—246 ч.; старэй за 50 год—102 ч.

3) Беларусоў—604; яўрэяў—163; палякаў—26; расейцаў—26; латышоў—40; літоўцаў—3; іншых—8.

Асноўнай мэтаю абсьледваньня зьяўлялася якасная характарыстыка бязбожнікаў і веруючых у БССР. Каб адказаць на гэтае запытаньне, зьвернемся да аналізу абодвух груп, выяўленых анкетай. Першае, што павінна быць тут адзначана—рэзка адрозьнены родавы склад груп. Так, сярод бязбожнікаў 415 мужчын і 137 жанчын. Гэта значыць, што жанчыны сярод бязбожнікаў складаюць 25 проц., а сярод веруючых 40 проц. [1]).

Так дае сябе адчуць цяжкая векавая спадчына культурнай адсталасьці жанчыны, якая знаходзіцца ў куды большай меры падуладнай рэлігійнаму ўзьдзеяньню, чым мужчына.

Нацыянальны склад груп такі: *беларусы* складаюць сярод веруючых 73 проц., сярод бязбожнікаў 72 проц., *яўрэі*—сярод веруючых 15 проц., сярод бязбожнікаў 19 проц., *палякі*—сярод веруючых 5 проц.; сярод бязбожнікаў 2,2 проц.; *расейцы*—сярод веруючых 2 проц.; сярод бязбожнікаў 3,5 проц.

Такім чынам анкета паказала амаль аднолькавы процант сярод веруючых і бязбожнікаў у беларусаў і яўрэяў; процант веруючых палякаў больш чым у два разы перавышае процант бязбожнікаў палякаў; у расейцаў-жа, наадварот: проц. веруючых у амаль два разы менш проценту бязбожнікаў.

Вельмі цікавы малюнак уяўляе сабою ўзроставы склад абодвых разглядаемых намі груп. Самая маладая па ўзросту група (12-18 год) складае сярод бязбожнікаў 25%, а сярод веруючых 4,5%; наступная група ад 19 да 30 год мае сярод бязбожнікаў 46%, а сярод веруючых 29%; група асоб ва ўзросьце ад 31 да 50 год складае сярод бязбожнікаў 24%, сярод веруючых жа 40%; нарэшце, найбольш старая група, звыш за 50 год, складае сярод бязбожнікаў 5%, а сярод веруючых ужо 27%.

[1]) Той і другі процант, як відаць, паменшан, паколькі жанчыны былі ахоплены анкетай менш за мужчын, але паказальна *адносная* розьніца.

Значыць, анкета адбівае адваротную пропорцыянальнасьць узроставасьці і атэізма. Сярод бязбожнікаў самыя маладыя займаюць, прыкладна, такое-ж месца (25%), як сярод веруючых найбольш старыя (27%). І наадварот—самыя старыя сярод бязбожнікаў даюць процант (5), прыблізна супадаючы з процантам веруючых сярод самых маладых (4,5). Тую-ж сваясаблівую законамернасьць можна прасачыць і на прыкладзе дзьвюх сярэдніх груп. Група 19—30 год сярод бязбожнікаў займае 46%, а сярод веруючых 29%, у той час як наступная ўзроставая група (31—50 год) дае, груба кажучы, адваротнае разьмеркаваньне:—сярод бязбожнікаў—24% і сярод веруючых—40%. Мы бачым, значыць, што наша моладзь, якая выхоўваецца савецкай школай, вольна—за невялікімі выключэньнямі—ад загніваючага ўплыву рэлігіі,—з аднаго боку; што рэлігія найбольш чэпка трымае ў сваіх лапах старэйшае пакаленьне,—людзей дарослых і сформаваўшых свой сьветапогляд ва ўмовах царызму.

Прытнае ўвагі заслугоўваюць дадзеныя, што ўстанаўляюць сувязь паміж соцыяльным складам запытаных,—іх пахаджэньнем і родам заняткаў з іх адносінамі да рэлігіі.

Соцыяльнае становішча анкетаваных адбілася на іх адносінах да рэлігіі наступным чынам. Сярод групы, паходзячай з асяродку працаўнікоў асьветы і асоб вольных прафэсій (урачы, юрысты) бязбожнікі складаюць 100%; з рабочых бязбожнікі складаюць 86%; з служачых—85%; з батракоў—84%; з саматужнікаў—65%; з сялян—62%; з духоўных—64%; з гандляроў—35%. Тут зьвяртае на сябе ўвагу цыфра, якая датычыць дзяцей асьветнікаў і асоб вольных профэсій і дае 100% бязбожнікаў. Паказальны амаль аднолькавыя лічбы для вядучых сваё пахаджэньне ад рабочых і батракоў (86 і 84 %), а таксама ад саматужнікаў і сялян (65 і 62%). Цікавы аграмадны процант бязбожных выхадцаў з асяродку служак рэлігійных культаў—64%—такім чынам 2/3 амаль паходзячых ад профэсыяналаў рэлігіі парывае з верою бацькоў... Натуральна, што найменшы процант бязбожных даюць тыя, якія вядуць сваё пахаджэньне ад гандляроў (35%).

Цікава адначасна прывесьці адпаведныя лічбы ў адносінах да соцыяльнага стану анкетаваных у сучасны момант. На першым месцы па проценту бязбожнікаў знаходзіцца група вучняў (99%). Анкетаваныя вучні—у большасьці школьнікі старэйшых клясаў 2-й ступені, астатнія—студэнты ВНУ. На наступным месцы ідуць батракі і савецкія служачыя,—сярод якіх груп процант бязбожнікаў дасягае 91. Сярод рабочых процант няверуючых вызначаецца 87. Тая-ж лічба характарызуе і бязбожжа сярод асьветнікаў. Для іншых груп гэты процант такі: сяляне—55%, саматужнікі—53%, хатнія гаспадыні—42% і гандляры—28%.

Вельмі паказальны лічбы, адзначаючыя залежнасьць рэлігійных настрояў ад культурнага ўзроўню. Процант бязбожнікаў сярод няпісьменных складае 16, сярод асоб з ніжэйшай адукацыяй 67, з сярэдняй 87 і з вышэйшай 86.

Вялікі інтарэс уяўляюць сабою дадзеныя, што паказваюць на ролю розных фактараў, абумовіўшых рэлігійнасьць апрошаных ці іх бязбожжа. Асабліва яскравыя дадзеныя адносяцца да ролі школы—у 63% школа адыграла ролю рэлігійна-выхаваўчага фактара і толькі ў 37% зьяўлялася фактарам супроцьрэлігійным. Першая лічба амаль цалкам адносіцца да школы дарэволюцыйнай, другая—за малымі выключэньнямі—да школы савецкай. Прамысловая праца ні ў адным выпадку не паказана, як абмовіўшая рэлігійныя настроі, 20-жа зьмяшчаюць паказаньні на яе, як на прычыну, выклікаўшую паварот аб веры да бязбожжа. У адносінах да сельска-гаспадарчае працы малюнак уяўляецца зусім іншым. У 26 выпадках паказана, што сельская гаспадарка абумоўлівае рэлігійныя настроі і падтрымлівае веру ў боства. 7-жа чалавек паказалі на тое, што сельска-гаспадарчая праца дапамагла ім звольніцца з-пад улады рэлігіі. Нельга не адзначыць яшчэ, што 54 апрошаных спасылаліся на літаратуру, як на асноўную прычыну, выклікаўшую іх бязьвер'е. З гэтымі адказамі трэба супаставіць 19 процілежных, якія паказваюць, што чытаньне літаратуры штурхнула апкетаваных да рэлігіі...

Асабліва патрэбна адзначыць уплыў на рэлігійныя настроі вайны і рэволюцыі. 22 з бязбожнікаў, г. ё. 4% усіх выяўленых намі бязбожнікаў паказала, што яны перажылі пералом ад веры да бязбожжа пад уплывам вайны.

Яшчэ большы процант—10% прышло да бязбожжа пад уплывам рэволюцыі.

Але тут-жа патрэбна адзначыць, што некаторая колькасьць анкетаваных пад уплывам рэволюцыі зрабіла адваротны шлях: ад бязьвер'я да рэлігіі. Такіх адказаў намі зарэгістравана 11.

Перажываньні асабовага парадку, інтымнае пачуцьцё, закаханасьць і г. д. граюць ролю раскоўваючага ад рэлігіі фактара досыць часта. Адпаведныя адказы складаюць 11% у адносінах да другіх зьяў, выступаючых у ролі процірэлігійнага фактара. Але ў 22 выпадках тыя-ж перажываньні зьяўляліся фактарам супроцьлежным: яны вялі ад атэізма да рэлігіі. Нарэшце, цэлых 14% паказвае як на прычыну бязбожжа на азнаямленьне з законамі прыроды.

Ня лішне будзе адзначыць разьмеркаваньне веруючых па асобных рэлігіях: 68% належыць да праваслаўнай рэлігіі; 16—18% да юдзейскай; 8% да каталіцкай; 4% да розных сэкт; 2% не належыць да якіх-небудзь афармленых рэлігійных плыняў.

Трэба паказаць яшчэ на наступнае, вартае быць асабліва падкрэсьленым, зьявішча. Досыць прыкметны процант веруючых (15%) ня выконвае рэлігійных абрадаў. У той-жа час вядомы, праўда, ня вельмі значны процант (3) абвясьціўшых сябе ў анкеце бязбожнікамі выконваюць абрады. Мотывы: „так робяць людзі", „каб дрэнна не гаварылі", „каб не сьмяяліся з мяне", „каб не сварыцца з жонкаю", „каб не засмучаць бацькоў" і г. д., і г. д.

Асобным пунктам анкеты зьяўлялася зьвернутае да веруючых пытаньне аб тым, як яны ўяўляюць сабе боства. Большасьць ад адказу на гэтае пытаньне ўхілілася. Дадзеныя-ж адказы выявілі выключную ўбогасьць паняцьцяў і беспрасьветную блытаніну. Для 12 веруючых бог гэта „сьвяты дух“, для 11—„зьвышчалавек“, для 8—„звышнатуральная сіла“, для 4—„забабонная сіла“ для 4—„ўсемагутны ўладар“, „уладар сьвету“, для 1—„сіла, якая стварыла і стварае бачанае і нябачанае“, для 1—„сіла, якая праяўляецца ў розных законах матэрыі і зьявах прыроды, якая дае нам жыцьцё і розум“ і г. д., і г. д.

Што прадстаўляюць гэтыя кадры палонных рэлігіі? Якi характар іх веры? Які—так сказаць, тонус іх рэлігійнага сьвета погляду? Анкета паказала вельмі малую колькасьць фанатыкаў рэлігіі, людзей сьлепа і безагаворачна веруючых у боскасьць, для якіх выключана магчымасьць хоць якога крытыцызма ў адносінах да сьвяшчэннай рэлігійнай догмы. Такіх я налічыў сярод 282, абвясьціўшых сябе веруючымі, толькі 13 чалавек, г. ё. менш 5%. Вось, напрыклад, 62-х гадовы селянін в. Карачоўшчыны Слуцкага раёну. Ён адчувае боскасьць, як „нешта ўсюдыіснучае і карыснае для мяне“. Яго абражае самая думка аб магчымых з яго боку рэлігійных хістаньнях. „Усё жыцьцё не рабіў вераломства і ніколі не зраблю яго“, заяўляе ён: „Думаю памерці ў сваёй веры, так як я ў бозе і бог ува мне“, урачыста заканчвае ён анкету. „Няхай плявузгаюць комсамольцы, я і слухаць гэтага ня хочу“, адбаярваецца ад ненавісных бязбожнікаў 70-гадовая сялянка з Бабруйшчыны. Таксама сьцьвярджае і больш маладая прыхільніца пана-бога—40-гадовая няпісьменная сялянка з в. Копічы Магілеўскае акругі: „Бальшавікі кажуць, што няма бога, але ён моцна сядзіць на небе і ніхто яго адтуль ня скіне“. Тупа-фанатычныя зарокі захоўваць кляцьвенную вернасьць рэлігіі даюцца часам ня толькі дажываючымі век старымі. „Буду крэўна верыць да самае сьмерці“, клянецца 24-гадовы селянін Клічаўскага раёну, Бабруйскае акругі. „Бог быў, бог ёсьць і застанецца пасьля нас“—сьцьвярджае хатняя гаспадыня з хутара Зяленка—„калі-б ня бог, невядома, дзе-б мы былі“... Ідэя бога, усемагутнага творцы і кіраўніка сусьвету валадае гэтымі сьляпымі, адурманенымі, атручанымі рэлігійным наркозам людзьмі. „Вера ў бога зьяўляецца самым асноўным у маім жыцьці“, піша 43-гадовы шавец-яўрэй з Калінкавіч. Рэлігійная атрута часам прасякае і ў мазгі моладзі, як, напрыклад, гэтай 18-гадовай дзяўчыны-каталічкі, сялянкі з в. Гарбузы, Койданоўскага раёну, так неператмальяа ўпэўненай у тым, што „ўсё добрае на сьвеце ад бога, усё благое ад яго ворагаў“. Апавяданьні маткі, адурманіўшыя ўжо галаву пяцігадовага дзіцяці рэлігійнымі брэднямі, штогодныя споведзі, імпозантнасьць касьцельнай службы завербавалі маладую дзяўчыну ў армію служак пана-бога. Некаторыя з фанатыкаў рэлігіі даходзяць у сваім стане да брэдавых ідэй і зданьняў. Вось яўрэй-шавец 81 году з м-ка Гарадзец, Рагачоўскага раёну. Яшчэ падлеткам, ён сьлепа верыў, а калі натыкаўся на бязбожныя гутаркі тавары-

шоў, дык адыходзіў, каб не зрабіцца супольнікам іх граха. Усё жыцьцё, седзячы за шавецкім варштатам, ён марыў стаць „падобным да праведніка". І вось цяпер, уступіўшы ў 9-ы дзесятак, ён піша: „Часамі бачу бога ўва сьне—у вобразе полымя. Некалькі разоў ён гаварыў са мною"... „Я хворая. У царкву далёка хадзіць, але ногі мае не баляць—я там на крыльлях нясуся", піша сялянка 47 год з Негарэлага. Часам месца напалову-паганскіх праяў рэлігійнага фанатызма і экзальтацыі займаюць містычныя формы рэлігійнасьці, яны парываюць з абрадавай рэлігійнасьцю і накіроўваюцца па рэчышчу „потусторонних" імкненьняў, цяжаць да самаўдасканаленьня і злучэньня з боскасьцю. Так, адзін з апрошаных, 26 год, з вышэйшай адукацыяй, выхадзец з сялян, на запытаньне аб занятках, адказаў „сталых ня маю", наступным чынам ахарактарызаваў свой сьветапогляд: „У рэлігіях я цаню тое і схіляюся перад тым, што служыць прычынаю яднаньня ўсіх людзей... Рэлігійныя настроі адліваюцца ў форму нутранога самаўдасканаленьня, як неабходнага сродку да падняцьця моральнага ўзроўню"... Анкетаваны лічыць, „што рэлігія можа даць чалавецтву тое, што яно ня здужае атрымаць ад навукі, і што выключна рэлігія стварае непрахадзячае, вечнае дабро". Малапісьменны селянін 66 год кажа: „Рэлігіі ня прызнаю. У афіцыйнага бога ня верую, але прызнаю вышэйшую ў сьвеце сілу, якая жыве ва ўсёй прыродзе, у кожным чалавеку... мае рэлігійныя настроі ў маёй душы і сэрцы"...

Цікавы асноўны мотыў, які дамінуе ва ўсіх анкетах у доказ існаваньня бога. Стары—сталяр-яўрэй 67 год з Рагачова формуляваў яго так: „Раз існуе сьвет, значыць павінен быць і гаспадар гэтага сьвету, якому трэба ва ўсім пакарацца". Гэты аргумэнт ад „гаспадара сьвету", ад „творцы сьвету" і г. д. сустракаецца ў пераважнай большасьці адказаў сьлепа-веруючых, бясспрэчна-рэлігійных падданых пана-бога. Часам трапляюцца довады ад таго ці іншага жыцьцёвага здарэньня, штурхнуўшага асобу ў абыймы боскія, ці замацаваўшага яго ў веры. Так, напрыклад, кравец-яўрэй з Слуцку паведамляе, што ён стаў няўхільна верыць з тых пор, як яго сям'я ўцалела ад напаўшых на яго бандытаў; „ясна, што нас выратаваў бог", вынікае катэгорычны вывад. Аналёгічны адказ: „На 31 годзе дужа захварэў, стаў верыць у бога і адужаў. З тае пары моцна верую". (Селянін-паляк 34 год, в. Кутніна). Але паўтараю, фанатыкі, людзі моцнай і няўхільнай веры складаюць мізэрную меншасьць сярод зарэгістраваных анкетай веруючых. У пераважнай большасьці з іх вера падточана ў самых асновах. У адных няма мужнасьці прызнацца ў гэтым самім сабе, другія знаходзяцца на раздарожжы, трэція па інэрцыі выконваюць рэлігійныя абрады, не ўкладаючы ў іх якога-небудзь нутранога зьместу. Рэволюцыя зруйнавала веру большасьці з тых нават, хто працягвае лічыць сябе веруючым. Палітычны і соцыяльны рух у краіне, супроцьрэлігійная літаратура, бурны культурны рост мас, усё гэта кідае насеньне скэптыцызма і нявер'я ў душу тых, хто яшчэ нядаўна верыў. І таму так часта шмат хто з гэтых веруючых гаворыць аб

„раздарожжы“, „раздум'і“, „няяснасьці“, „сумненьні“ і г. д. Гэтымі словамі хістаньня і рэлігійнага скепсіса пярэсьцяць без малога 40% анкет асоб, абвясьціўшых сябе веруючымі.

Прывяду шэраг тыповых у гэтых адносінах адказаў: „І верую, і ня верую ў бога, бо ў апошні час мая вера пахіснулася“. (Каваль-яўрэй 32 год. М-ка Гарадзец).

„З зьяўленьнем антырэлігійнай літаратуры і розных дакладаў вера стала не ранейшай. Заўважаю несправядлівасьць у рэлігійнай веры“. (Селянін-беларус, 56 год з в. Скароднае, Мазырскае акр.).

„Верую ў бога, але часам закрадваюцца ў душу сякія-такія сумненьні“. (Селянін-беларус, 51 год з в. Чэрвена, Бабруйскае акр.).

„Хоць і лічу сябе веруючым, але ў апошнія гады пачынаю адчуваць, што ўва мне адбываецца значная перамена. Ня так старанна выпаўняю пасты, у царкву таксама хаджу ня так рэгулярна, як раней. Паглядзіш на людзей і думаеш: „Чым я горш за другіх“... (Селянін-беларус, 35 год, Бабруйскае акругі).

„Хутчэй верую, чым ня верую. Сярэдзіна на палове“. (Савслужачы, 37 г., г. Віцебск).

„Калі слухаеш гутаркі вучоных, дык згаджаешся з імі, а потым старое бярэ верх і лічыш, што бог усё-ткі ёсьць“. (Селянін-беларус, 40 год, в. Чырвоная-Слабада).

„У думках пра бога заблытаўся. Абрады выконваю, але ня зусім. Ледзь-ледзь схіляюся да бязбожжа“. (Селянін-беларус, 42 г., в. Цясова).

„Не магу сказаць, ці існуе бог. Пасьля Кастрычніка стаў верыць менш. Калі забіралі сынагогі, царквы, касьцёлы пад клюбы і бог нікога не караў, я стаў думаць „значыць, бог не ўсемагутны, інача ён пакараў-бы бязбожнікаў. А можа яго і сапраўды няма“. (Селянін-беларус, 30 г., в. Карачоўшчына).

„Верую, але трошкі“. (Шавец-яўрэй, 30 г., м-ка Сяліба).

„Верую, але не магу разабрацца, можа і бязбожнікі трохі правы“. (Хатняя гаспадыня-яўрэйка, 23 год, г. Рагачоў).

„Бога нельга абражаць. Яму трэба верыць. Ці ёсьць ён ці няма—ня ведаю“. (Сялянка-полька, 50 г., в. Рудня).

„Пакуль яшчэ верую, але калі бог ня здужае палепшыць маё жыцьцё, хутка перастану вераваць“. (Селянін, 44 год, з в. Чурыны).

„Невядома каму верыць. Поп кажа адно, эвангелісты—другое, а комуністы зусім іншае,—так і ня ведаеш каму верыць“, разгублена заяўляе 55-гадовая сялянка з в. Гарласенава,—усё сваё жыцьцё сьлепа і безагаворачна вераваўшая.

Такіх адказаў у розных формуліроўках і варыяцыях, як я ўжо гаварыў, да 40 проц. Чаму-ж усе гэтыя, што сумняваюцца, хістаюцца, на бездарожжы разгубліваюцца, веруюць „часткова“, „трошкі“, „на палову“, „так сабе“ і інш., чаму гэтыя людзі, вера каторых ужо разьедзена іржою

скепсіса і нявер'я, не парываюць канчаткова з рэлігіяй, не звальняюцца з-пад яе гнятучай улады.

Інэрцыя, сіла векавое традыцыі, прывычка з дзяцінстна—зьяўляюцца асноўным фактарам, які ўтрымлівае ў падначаленьні рэлігіі тых, хто ўжо пачаў свой адыход ад яе, хто ўжо нутром адчуў і нікчэмнасьць і шкоднасьць рэлігіі. Значная большасьць вагаючыхся адганяе пры гэтым ад саміх сябе думку аб магчымасьці разрыву з рэлігіяй. „Так было, значыць... так павінна быць".

44-гадовая жанчына з м-ка Насовічы, выхаваная ў сям'і дробнага гандляра, вырасла ў атмосфэры вераваньня ў тагосьветнае жыцьцё, у прыход „яўрэйскага збаўцы", у сьвятых, у чарцей, у дамавых, у хлеўнікаў і г. д. Цяпер, у сярэдзіне пятага дзесятку, яна адганяе, як дадзейную муху, усякую крытычную думку, што датычыць бога. „У існаваньне бога веру па прывычцы",—заяўляе яна, „бо так мяне выхоўвалі бацькі і ў маім узросьце ня хочу ламаць боскіх традыцый". Хатняя гаспадыня 29 год, з Менску, з сярэдняй адукацыяй, беларуска, заяўляе: „Вера моцна пахіснулася, але зьнішчыць тое, што ўпіталася ў плоць і кроў, цяжка". Мікроб рэлігіі ў сарака—пяцідзесяцігадовых людзей, канечне, яшчэ больш трывалы... 52-гадовая сялянка з в. Царконьня сказала: „Верую ў бога, таму, што і мой дзед, і мой бацька верылі, значыць, і я павінна верыць". А местачковы столяр 47 год заяўляе бяз лішніх гутарак: „Хутчэй сьвет праваліцца, чым я зраблю вераломства перад богам маіх бацькоў, дзядоў і дзядоў маіх дзядоў"...

Сілаю, консэрвуючай рэлігійную традыцыю, зьяўляецца пераважна на вёсцы і ў мястэчку нежаданьне ўвайсьці ў конфлікт з „грамадзкім поглядам". Боязьнь падпасьці пад асуджэньне т. з. грамадзкасьці нярэдка ўтрымлівае культурна-адсталыя элемэнты на ланцугу рэлігіі.

34-гадовая сялянка з в. Волмы верыць „дзеля прыліку, каб людзі языкі не часалі". 50-гадовы селянін Бабруйскае акругі працягвае верыць „каб ухіліцца насьмешак ад суседзяў". Кравец-яўрэй, перажыўшы ў гады рэволюцыі сур'ёзны пералом у бок бязбожжа, абвяшчае сябе веруючым, „каб падтрымаць людзкую думку". 27-гадовая дзяўчына-ўрач піша, што ў яе „адносіны да рэлігіі абы-якавыя" і ў той-жа час запэўняе, што „ў бога веру",—ад сваёй веры не адмаўляецца таму, што яна жыве ў сям'і, напоўненай рэлігійнымі абрадамі, а „з ваўкамі жыць, павоўчаму выць". І вось яна, савецкі ўрач, выхаваны савецкай школай, аформленая і вырашчаная ў эпоху рэволюцыі, павоўчаму вые да вяшчай славы боскай. А вось, беспрацоўны агароднік, 45 год—„у бога веру таму, што лічуся з грамадзкай думкаю, у сынагогу хаджу, бо няма куды больш хадзіць". Каротка і ўразумела... Селянін-літовец, 27 г. з в. Садонскай у бога „верыць трошкі". Але „не паказваю віду, што я няверуючы для таго, каб жыхары рэлігійныя не сьмяяліся з мяне". На глебе гэтае боязьні суседзкае думкі, якая негадаваньнем і насьмешкаю можа абваліцца на галаву бязбожніка, у нашага анкетуемага часты сутычкі з жонкаю, якая

таксама пахіснулася ў веры і ня лічыць патрэбным хаваць гэта ад суседзяў. „Цяпер ідзе пералом з жонкаю",—піша ён, „і часта адбываюцца вялікія сваркі"...

Акалічнасьцю, якая тармозіць у сумняваючыхся і вагаючыхся пераход ад веры да бязбожжа, часта зьяўляецца цэрамоніяльна-абрадавы элемэнт рэлігіі. Падобна да беспрацоўнага, які, як мы ўжо казалі, ходзіць „у сынагогу толькі таму, што больш некуды хадзіць", шмат хто з апрошаных адносяцца да сынагогі, царквы, касьцёлу як да свайго роду клюбу. „Ці ёсьць бог—ня ведаю, але абрады яўрэйскай веры вельмі люблю выконваць", піша кравец 26 год з м-ка Гарадзец. „Я выконваю ўсе абрады, малюся, выконваю пасты. Абрады выконваю са здаваленьнем, бо мне вельмі падабаецца іх урачыстасьць", чытаем мы ў анкеце гандляра 63 год з таго-ж мястэчка. „У касьцёл хадзіць прыемна. Лепей за ўсякага тэатру. Адпачываеш там за цэлы тыдзень", піша 37-гадовы хутаранін з Койданаўскага раёну. „Каб ня было нашых вялікіх сьвяткаў, чалавек здурнеў-бы",—гучыць адказ 28-гадовага селяніна-беларуса з Сьмілавіцкага раёну. „Зойдзеш у сабор, дык перажываеш душэўнае хваляваньне. Нават ня думаеш, ці ёсьць бог, а прыемна",—адказ хатняй гаспадыні 32 год, жонкі чырвонага камандзіра. Такіх адказаў, падкрэсьліваючых цэрамоніяльна-абрадавую старану рэлігіі, налічваецца да 20, дадзеных людзьмі з расхістанай у самых асновах вераю. Побач з гэтым трэба паставіць тыя анкеты, запоўненыя людзьмі, якія сумняваюцца ў рэлігіі, але лічаць неабходным яе ўтрымаць з прычыны меркаваньня грамадзкага, так сказаць, парадку. Гэта большай часткай меркаваньні аб тым, што рэлігія патрэбна як моральная вузда, як вузда паліцэйская. 42-гадовы селянін з Сьмілавіцкага раёну так піша: „Стаю на раздарожжы. Ёсьць бог ці не, ня ведаю, але ведаю, што ў грамадзе патрэбна дысцыпліна ці страх. Без рэлігіі гэта немагчыма". Такі голас тых, каму патрэбен бог паліцэйскае службы. Вось, для прыкладу, другі такі-ж адказ, некалькі іначай сформуляваны. „Трэба верыць у бога, бо калі ня будзем верыць у яго існаваньне, тады мы перарэжам адзін аднаго". (Селянін-беларус, 50 год, з в. Канічы). Такіх адказаў можна было-б прывесьці да 15. Усе яны вельмі набліжаюцца адзін да аднаго. У некаторых анкетах сустракаюцца вельмі туманныя развaжаньні аб тым, што калі нават бога і няма, людзі ўсе—павінны верыць, бо іначай яны „стануць падобнымі да жывёлы". Не пазбаўлены інтарэсу і адказы некаторых элемэнтаў, выкінутых рэволюцыяй з сядла. Яны аргумэнтуюць тым, што „з зьнікненьнем веры, зьявіліся чаргі ля крамаў", што „мы разьлічваемся за бязбожжа неўраджаямі" і г. д.

Якія па нашай анкеце асноўныя фактары бязбожжа? Агульныя дадзеныя мы ўжо прыводзілі. Дапоўнім сказанае.

З 552 прайшоўшых анкету бязбожнікаў 144, г. ё. 26 проц. зьяўляюцца няверуючымі з самага раньня дзіцячага ўзросту. Большасьць з іх вырасла ў бязбожнай сям'і, выхоўвалася па-за ўсякім рэлігійным уплывам.

Гэта, так сказаць, „патомсьцьвенныя бязбожнікі", людзі, сьветапогляд якіх ніколі ня быў атручаны тэолёгічнай атрутаю. Частка, праўда, паспытала ў раньнім дзяцінстве ўплывы рэлігіі, але гэты ўплыў быў зусім нязначным, не пакідаючым якіх-небудзь сур'ёзных сьлядоў на сьветапоглядзе. Сярод гэтай групы бязбожнікаў меншасьць адносіцца да рэлігіі пасыўна-адмоўна, большасьць-жа актыўна-адмоўна. Гэтыя актыўна-адмоўныя адносіны да рэлігіі звычайна мотывуюцца яе шкоднай соцыяльнай роляю, яе скарыстаньнем эксплуататарамі пры прыгнечаньні працоўных. Анкеты часта зьмяшчаюць затрабаваньні ўзмацніць барацьбу з рэлігіяй, перадаць будынкі рэлігійнага культу пад школы і клюбы, забараніць царкоўны звон, не дазваляць выпуску рэлігійнай літаратуры і гэтак далей.

Астатнія 74 проц. бязбожнікаў у пачатку свайго жыцьця былі веруючымі. Умовы выхаваньня і ўплыў акаляючага асяродку ўсялялі ў іх веру ва ўсемагутнае боства, якая трымалася да пэўнага пэрыяду. Затым пачынаўся ці паступовы адыход ад рэлігіі, патрохі прыводзіўшы да бязбожжа, ці круты пералом, у выніку якога ранейшы вернападданы панабога абарачваўся ў ваяўнічага бязбожніка. Пры гэтым аграмадная большасьць (53 проц.) перажыла пералом ад веры да бязбожжа ва ўзросьце ад 8 да 18 год, 15 проц. паміж 18 і 30 гадамі, 5 проц. паміж 30 і 50 гадамі, 1 проц. (15 чалавек) зрабіў антырэлігійны пераварот у сваім сьветапоглядзе ўжо ва ўзросьце старэйшым за 50 год. Гэта невялікая група, на 6-м і 7-м жыцьцёвым дзесятку спаліла тое, перад чым яна ўсё жыцьцё схілялася, і становіцца ў шэрагі ваяўнічых бязбожнікаў; яна заслугоўвае таго, каб прыглядацца да яе бліжэй.

Селянін-беларус, 57 год з в. Масьцецкай перажыў пералом да бязбожжа 7 год назад пад уплывам антырэлігійных дакладаў і чытаньня савецкіх часопісаў і кніг. Селянін-беларус 65 год з в. Нова-Дворцы паведамляе, што парваў з рэлігіяй на 51-м гадзе жыцьця: „Служыў у царкве і наглядзеўся на несправядлівасьць і ману папоў і рашыў, што калі бог іх не карае, значыць няма чаго верыць". Савслужачы 54 год, Менск, піша аб сваім антырэлігійным пераломе. „Давялося быць на антырэлігійным дыспуце. Слухаў мітрапаліта Ўвядзенскага. Здавалася: што ён правы. Потым стаў гаварыць проф. Вольфсон. Рашыў, што і ён правы. Каб разабрацца стаў чытаць навуковую літаратуру і адыйшоў ад веры". Яўрэй-селянін, былы дробны гандляр, 59 год з м-ка Гарадзец, перастаў верыць ва ўзросьце 54 год пад уплывам пераходу на землеробства і лекцый агранома. Савслужачы 61 года, з чыноўнікаў, піша: „Пасьля рэволюцыі, калі пытаньне аб рэлігіі і веры ў бога сталі навукова тлумачыцца... у мяне зарадзілася вялікае сумненьне ў неабходнасьці для чалавецтва рэлігіі".

Мы паказвалі ўжо вышэй, што вайна для 4 проц. усіх абвясьціўшых сябе бязбожнікамі і рэволюцыя для 10 проц. з іх зьявілася фактарам, расхістаўшым і зьнішчыўшым веру. Некалькі дэталізуем сказанае.

48-гадовая сялянка-яўрэйка з Негарэлага кажа, што калі ўзялі ў яе сына на вайну і ён загінуў там, дык яна выращыла, што бога няма: „Іначай ён не дапусьціў-бы такой несправядлівасьці“. Селянін-беларус з в. Падвалочнай паведамляе, што ў яго адбыўся рэзкі антырэлігійны пералом, выкліканы „сусьветнай вайною, дзе ў імя бога гінулі сотні тысяч людзей, а яму да гэтага ня было ніякае справы, таксама, як і раней ён нікому не дапамагаў у жыцьці“. „Калі я быў у арміі,—кажа другі селянін з в. Кураеды,—я бачыў, што і тыя, якія малілі бога, і тыя, якія ня верылі ў яго, аднолькава гінулі, і я перастаў верыць“. Савслужачы—удзельнік вайны піша: „Пералом да бязбожжа ў точным сэнсе слова адбыўся са мною ў той момант, калі я ўбачыў, што сьвяшчэньнікі, якія з блаславеньнем пасылалі на фронт забіваць, самі заставаліся ў тылу. Перад бойняй з пенаю ў роце даводзілі, што нельга забіваць, а тут зразу стала магчымым забіваць“. Трэба наогул заўважыць, што соцыяльная роля духоўнікаў, яго прыслужваньне эксплуататарам і прыгнятацелям, яго бажанства і двудушша граюць ролю аднаго з важных фактараў дэтэолёгізацыі насельніцтва і адыход мас ад рэлігіі. Спасыланьні падобнага парадку складаюць амаль 5 проц. усіх паказаньняў на антырэлігійныя пераломы. Вось некаторыя тыповыя ў гэтых адносінах адказы. Служачы п.-т. канторы з Гомеля кажа: „Пералом са мною адбыўся, калі я пераканаўся, што рэлігію скарыстоўваюць для матар‘яльных сродкаў, прыкрываючыся імем бога, служкі яго проста ашуканцы, маняць другім, самі ня вераць і, прымушаючы шукаць „лепшага“ на небе, пры дапамозе рэлігіі ствараюць „лепшае“ на зямлі. Я адмовіўся ад бога і яго служак“. Селянін з Самахвалавіцкага р. 36 год, кажа: „Пералом быў выкліканы з боку духоўнікаў на 24 годзе. Мне прыходзілася быць на споведзі. Калі я даў папу 5 капеек, ён мяне ня прыняў у споведзь“. „Перастаў верыць паступова“,—піша селянін 57 год з м-ка Дукора. „Пералом быў выкліканы канфліктам з папом за справу аб сенажаці. Гэты выпадак зусім адпіхнуў ад царквы“. У савслужачага 45 год, з Віцебску, селяніна па пахаджэньню, супроць-рэлігійны пералом адбыўся ў юнацкім узросьце. „Ён быў выкліканы злачынствамі папоў, якія яны рабілі над сялянамі нашай вёскі, бо зямля, на якой знаходзілася вёска, была царкоўнай. Мы за яе плацілі папу вялікія грошы і адбывалі розную работу натурай. Поп уладаў ня толькі над нашымі гаспадаркамі, але і над нашымі думкамі“. Селянін-беларус 58 год апавядае, што ў яго паварот ад рэлігіі быў у выніку службы ў старой арміі. „Ваеннае начальства заўсёды прымушала хадзіць у царкву маліцца, а поп заўсёды прымушаў „паважаць“ начальства, што мне вельмі было брыдка і выклікала адхіленьне ад рэлігіі“. Другі селянін 28 год так характарызуе прадпасылкі адбыўшагася з ім пералому. „Калі я вучыўся, хадзіў сьпяваць на клірасе і добра пазнаёміўся з папоўскім жыцьцём... я бачыў, што яны нас прымушалі верыць, усё робячы на словах, а не на справе.

Аднойчы поп мяне спавядаў і загадаў пасьціць. я потым пашоў да яго дамоў і там было зусім іншае“.

Мотывы ад соцыяльнай несправядловасьці, цяжкіх умоў існаваньня, асабовых няўдач сустракаюцца ў 2 проц. анкет. Найбольш характэрна для анкет гэтага роду спасыланьне, што вера зьнішчана думкаю аб існаваньні аграмадных багацьцяў побач з жахлівым жабрацтвам. „Добры бог, што так пабудаваў сьвет“, выкліквае адзін вучань сямігодкі в. Дабрыгор, Віцебскае акр. А другі вучань выражае сваю думку наступным чынам: „Перадом да бязбожжа выклікан кепскім становішчам, беднасьцю насельніцтва і г. д. Думаецца, чаму бог ня клясава праводзіць лінію“. Думка пра „несправялівага бога“, расчараваньне ў бозе ў шмат каго з стаўшых бязбожнікамі зьявіліся ў выніку якое-небудзь зьявы ці здарэньня, пакінуўшых на апрошанага асабліва моцнае ўражаньне. „Маці пераконвала“,—піша адна студэнтка-яўрэйка, „што бог, гэта нешта добрае, справядлівае, але ў 1919-20 г. у часе голаду была сьведкаю пакуты на гэтай глебе. Я гаварыла, што калі-б бог быў, ён не павінен быў дапусьціць падобных зьявішч. Вера была загублена“. Хатняя гаспадыня—немка, 48 год з Койданаўскага р., ва ўзросьце 40 год перастала верыць таму, што „я доўга верыла й малілася, а бог мне ні ў чым не дапамог. Малілася многа і думала, што мне будзе лепш жыць і муж стане лепшым. А то ён біўся. Але муж ня стаў лепшым. За гэтае я перастала верыць у бога“. Другая хатняя гаспадыня, 35 год, з мястэчка Гарадзец перастала верыць таму, што „16 год мяне аддалі замуж за старога і бог дапусьціў гэта“. Селянін-беларус 47 год, з в. Камень, піша: „Маліўся, пасьціўся, каб ня браў маткі ад шасьцярых дзяцей, але ён не паслухаў мяне і жонка памерла... Я канчаткова пераканаўся, што малітва ні ў чым не дапамагае. І цяпер я ня хочу верыць“. Адказы такога парадку сустракаюцца вельмі часта. Часам яны сформаваны досыць наіўна, на манэр 17-гадовай вучаніцы в. Малышэвічы. „Калі скончыла 3 групы прымітыўнай школы, хацела вучыцца далей. Маці ня мела сродкаў і не хацела аддаваць мяне ў сямігодку. Цэлыя вечары я з верою малілася аб тым, каб „бог даў“, каб мяне вызначылі ў сямігодку. Нічога не дапамагло. Я засталася дома і з гэтага часу ня веру ў бога“. Студэнт БДзУ з сялян піша: „У жыцьці я не заўважаў „наяўнасьці“ асобай сілы-боскасьці. Ня бачыў і яе дапамогі бедным. „Разьлічыўся“ назаўсёды з богам, калі аднойчы ў полі, у цяжкую хвіліну, праклінаючы сваё жыцьцё, пракляў бога з усімі сьвятымі і вылаяўся памацернаму па яго адрасу“. „Колькі я ня верыў у бога“,—піша селянін-беларус з в. Скароднае,—„ён не дапамагаў, а прышла Кастрычнікаўская рэволюцыя і дапамагла“. Рэволюцыя, як мы ўжо паказвалі, для 10 проц. усіх пераўшых перадом да бязбожжа, сыграла вялікую ролю ў гэтых адносінах. Вось тыповыя для гэтай групы адказы, якія паўтараюцца з індывідуальнымі варыяцыямі ў шматлікіх анкетах. „Быў перадом ад веры ў бога да бязбожжа на 35-м гаду, у часы рэволюцыі. Прагналі цара, сталі

вольна жыць сяляне; сталі тлумачыць, што бога няма. Папы пацішэлі, ня сталі прымушаць рабіць абрады, раней аддавалі пад суд, калі сказаць што пра цара". (Селянін 46 год з в. Новікі). „Быў пералом з рэволюцыяй. Калі прагналі міраедаў, зразу стала лягчэй жыць. Вось ён наш бог—рэволюцыя, падумаў я. А папы вялі нас у цемру, каб абараняць цара і айчыну. Вось і атрымаўся для мяне доказ веры". (Батрак 43 год з в. Капейка). Характэрна апавяданьне 47-гадовай сялянкі з в. Логавішчы: „Была прыгожай, аканом прымусіў мяне да сажыцельства. Радзілася дзіцё. Дома не давалі жыць. Пакутвала, але думала, што ад бога і цярпела. Усё верыла. Усё пакутвала за свой грэх. Сын ужо вялікі, мучыўся таксама. Ня сьмеў падняць галавы, паколькі незаконнанароджаны. Пасьля рэволюцыі надзялілі яго зямлёю... Ён роўны чалавек. І тое, аб чым я прасіла ўсё жыцьцё бога—зрабіць майго сына роўным чалавекам, зрабіў Ленін. І я пераканалася, што бог для багатых. А нам, цёмным людзям, верыць у яго нельга. Трэба працаваць і самім дабівацца лепшай долі".

З астатніх мотываў, якія сустракаюцца ў анкетах, патрэбна адзначыць яшчэ супярэчнасьць паміж навукай і рэлігіяй. Тыповы адказ: „У школе навука стала апраўяргаць тое, што гаворыць рэлігія. Поп аб'ясьніў, што Мёртвае мора зьявілася ад таго, што бог спаліў тры гарады грэшнікаў, а ў той-жа дзень прышоў настаўнік географіі і сказаў, што Мёртвае мора ўтварылася ад дзеяньня вульканічных сіл і мёртвае яно таму, што зьмяшчае ядавітую соль, атраўляючую жывыя істоты. Я ўбачыў, што рэлігія маніць".

Ёсьць анкеты, гаворачыя аб тым, што рэлігійныя настроі субліміравалі сэксуальную энэргію і што гэтыя настроі разьвеяліся, калі гэтая энэргія знайшла выхад. Вось цікаўны ў гэтых адносінах адказ. 36-гадовая жанчына—сялянка, полька, піша, што яна да 30 год верыла ў Хрыста, якога ўяўляла сабе, як „прыгожага кавалера". Затым вера ўлятучылася, „калі пакахала комуніста і вышла замуж".

Патрэбна-б было яшчэ адзначыць, што шмат якія анкеты носяць адбітак унутры-сямейных спрэчак, узьнікаючых на рэлігійнай глебе. Пры гэтым барацьба бацькоў і дзяцей прыводзіць да капітуляцыі першых, як аб гэтым выразна апавядае 56-гадовы селянін з Чырвонай-Слабады. „У маіх рэлігійных пераменах сыгралі вялікую ролю дзеці, з якіх адзін зьяўляецца настаўнікам, двое комсамольцы, адзін—піянэр. Спачатку я вёў барацьбу з дзецьмі, але адзін у полі не ваяка, і паступова прышлося паддацца іх уплыву".

* * *

Гэткія асноўныя дадзеныя, якія дае наша абсьледваньне. Мы лічым, што гэтыя дадзеныя не дазваляюць яшчэ вывесьці той соцыялёгічны вучот сучасных рэлігійных настрояў у БССР, аб неабходнасьці якога мы гаварылі ў пачатку нашага артыкулу. Мы зрабілі толькі першую

спробу сабраць адпаведны матар'ял. Прадстаўлены ў артыкуле матар'ял, думаецца нам, сьведчыць аб тым, што гэтая спроба не засталася бясплоднай. Далейшая задача—сабраць гэты матар'ял у колькасьці дастатковай для соцыялёгічных абагульненьняў. Гэтую задачу пастараецца ў бліжэйшым будучым вырашыць кафэдра марксызма-ленінізма Беларускай Акадэміі Навук.

Але й дадзеныя нашай першай анкеты, думаю я, заслугоўваюць увагі ўсякага, хто цікавіцца лёсам рэлігіі,—гэтай найскладанейшай і найшкоднейшай, гістарычна-асуджанай ідэолёгіі, перажываючай у Савецкім Саюзе свае змрокі.

# КНІГАПІС

**„Маладняк“ № 8, 1929 г.** *Орган Беларускай Асацыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў.*

З бэлетрыстычных твораў, якія зьмешчаны ў № 8 „Маладняк“, мы маем толькі апавяданьне *М. Нікановіча* „У палявых дарогах“, якое зьмешчана поўнасьцю. Драма-ж *Рыгора Кобеца* „Гута“ і аповесьць *Сымона Баранава* „На абрэзках зямлі“, якія надрукаваны ў гэтым нумары, яшчэ ня скончаны, дадзены толькі пачатак. Бэлетрыстычны аддзел мае яшчэ „Песьню пра сяброўства“ *Барыса Мікуліча*, але гэта хутчэй за ўсё—верш у прозе, які напісаны ў вельмі прыгожай мастацкай форме.

*Нікановіч* у сваім апавяданьні „У палявых дарогах“ малюе сучасную вёску. Але як ён яе малюе? Нікановіч паказвае „ідыятызм“ вёскі, аўтар бачыць у нашай савецкай вёсцы толькі дурасьць, цемру, уладу сьляпых імпульсаў, ён ня бачыць таго новага, што мы маем у вёсцы. Нікановіч дае нам вобразы вясковых жанчын, іх „цяжкі жыцьцёвы шлях, поўны зьняваг, беднаты, сьлез“. І старуха-сялянка, і яго сястра, якая памерла і аб якой Нікановіч успамінае, і тая жанчына-парадзіха, якая памірае „пры дапамозе“ розных бабулек,—усё гэта гаворыць толькі аб сьмерці, аб цемры вёскі. „Такі шлях амаль кожнай з нашых вясковых кабет, шлях мацеры-пакутніцы, вялікай беларускай сялянкі“ (ст. 8). І ня толькі жанчыны. Усюды на вёсцы змрок, журба і сьляпая пакорнасьць лёсу, бязвольле. Нікановіч ня бачыць таго зруху, які маецца на вёсцы, няма ніводнага слова аб барацьбе беднаты і серадняцтва супроць кулака. Таму і ня дзіўна, што Нікановіч ведае толькі адзін колер, менавіта, чорны. На аднэй 15 старонцы, амаль што на кожным радку маецца слова „чорны“, ці „цёмны“: „гэты вочы цёмныя“, „афарбаваную ў чорны колер кохту“, „з цёмнай печы“. Яшчэ больш такіх прыкладаў на стар. 21. Аўтар ня бачыць розьніцы паміж кулачкай, беднячкай, серадначкай, ён плача аб „мацеры-пакутніцы, вялікай беларускай сялянцы“. Чаму гэта беларуская сялянка *вялікая?!* А украінская, расійская і іншыя маленькія, ці што, сялянкі? І яшчэ. Няўжо і кулачка—„вялікая беларуская сялянка“?

Якія пачуцьці абуджаюцца ў аўтары, калі ён бачыць гэтае становішча вёскі? Можа, ён кліча беднату на ўзмацненьне барацьбы з кулаком, можа, ён гаворыць аб тым, што трэба будаваць калгасы, узмацняць змычку рабочае клясы з бядняцка-серадняцкай часткай вёскі? Не. Яго, бачыце, „агортвае нейкі *жаль*“ (падкрэсьлена намі—*Н. К.*). Вось які наш Нікановіч „жаласьлівы“.

Паехаў Нікановіч з сваёй любай студэнткай БДУ ў саўгас. Выпадкова заехаўшы ў вёску, ён убачыў, што там „пуста і глуха“, „нябачная яшчэ мною бедната“, „мора неперажытай пакуты, сьмяротнай тугі і жаху“.

Чаму гэтак страшна выходзіць у Нікановіча? Таму, што мастацкі кругавід яго вельмі вузкі, ён вырывае

выпадковую дэталь, драбніцу з ланцугу зьяў, застанаўліваецца на ёй, падыходзіць да яе статычна, ён ня бачыць, куды расьце вёска, якія тэндэнцыі яе разьвіцьця. Аўтар, захапіўшыся драбніцай, ня заўважыў комсамолу, партыі, груп беднаты, клясавай барацьбы. Атрымоўваецца ўражаньне, што аўтар хацеў напужаць савецкую грамадзкасьць: глянь-ка, што там у вёсцы робіцца...

І вось Марыля, студэнтка БДУ, якую напэўна таксама „агортваў некі жаль“, кажа:

— Ня тут наша месца... Пайду ў тыя палявыя дарогі.

А мы скажам: ня рыпайся... Бядняцка-серадняцкая частка вёскі, у цесным саюзе з пролетарыятам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі перабудоўвае вёску на соцыялістычны лад і ныцікаў, плакальшчыкаў ёй непатрэбна.

Першы акт драмы „Гута“ маладога пролетарскага пісьменьніка *Кобеца* сьведчыць аб тым, што аўтар добра знаёмы з рабочым жыцьцём. Тэма, бязумоўна, вельмі цікавая і актуальная. Аб „Гуце“ яшчэ прыдзецца асоба гаварыць, калі поўнасьцю будзе надрукавана.

З вершаў заслугоўваюць увагі ўрыўкі з поэмы яўрэйскага пролетарскага пісьменьніка *Ізі Харыка* „Душой і целам“. Пераклад вельмі ўдалы. Добра робіць рэдколегія „Маладняка“, што знаёміць беларускага чытача з творчасьцю яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў Беларусі. Жадана, каб гэтая поэма была поўнасьцю перакладзена на беларускую мову.

*Хведаровіч* прысьвечае свае „Дзьве баляды“ Рафаілу Гроссу, „які косьці склаў на палёх Варшавы“ ў 1920 г.

Памяць—кнігу кладу на стол—
Прада мною дваццаты год.
Кліча, кліча ў славуты паход
Баявы вартавы комсамол.

І вось тады:

Рафаіль паміраў ад ран—
Сьвежы вырас у полі курган.

Хведаровіч засмуткаваўся—

Дзе славутыя, буйныя дні
Завірух, агнявых навальніц?

Верш утварае моцнае ўражаньне. Трэ' было-б, каб Хведаровіч больш пісаў аб нашым соцыялістычным будаўніцтве.

Артыкулы *М. Горскага* аб грузінскай літаратуры і *Карака* аб „украінскай літаратуры ў процэсе мастацкага самавызначэньня“ зьяўляюцца вельмі каштоўнымі, глыбокімі па свайму зьместу.

*Кучар* зьмесьціў крытычны артыкул—літаратурны портрэт *Васіля Каваля.*

Гэты артыкул мае шэраг супярэчнасьцяй. У адным месцы аўтар кажа, што „Каваль—пісьменьнік бядняцкае часткі вёскі“ (ст. 99). Гэта трэба разумець так, што Каваль асьвятляе шлях бедняка-селяніна да соцыялізму, паказвае, як ён колектывізуецца і г. д. Але на ст. 107 мы чытаем, што „ў Каваля слаба ідзе земляўпарадкаваньне і колектывізацыя ў самым прозаічным сэнсе (тутжа і разгар клясавай барацьбы), слаба падымае сваю індывідуальную гаспадарку бядняк (нэндза, цемра, беднота вёскі)“. Няўжо гэткім павінен быць пісьменьнік бядняцкае часткі вёскі? Невядома таксама, навошта трэ' было Кучару пісаць, што „Каваль у сваёй творчасьці блізка родніцца з Сейфулінай“. Хіба Сейфуліна, па Кучару, зьяўляецца пісьменьніцай бедняка? Здаецца, не...

Вельмі бедны ў гэтым нумары бібліяграфічны аддзел.

**Н. Кабакоў**

**„Штэрн“ № 8-9, 1929 г.** *Орган яўрэйскай сэкцыі БелАПП'у.*

Часопісь *„Штэрн“* за апошні час здолела заваяваць вялікі круг чытачоў. Павялічылася і колькасьць маладых яўрэйскіх пісьменьнікаў *з рабочых.* У рэцэнзуемым намі № 8-9 „Штэрн“ за 1929 г. мы маем апавяданьне рабочага-мэталіста *Ізраэліта* „У лагчыным волаце“. Нядаўна ў

„Штэрн“ была надрукована аповесьць рабочага-пісьменьніка *Гарэліка*. Гэта, бязумоўна, вельмі радаснае зьявішча.

У сваім апавяданьні *Ізраэліт* малюе жыцьцё рабочых цьвіковага заводу. Аўтар паказвае нам, як нашыя фабрычныя рабочыя аддана працуюць на вытворчасьці, адчуваюць вялікую адказнасьць за свой завод. Вартаўнік заводу выступае на сходзе рабочых:

— Таварышы, вы памятаеце, як пан Макшыцкі нас душыў... Зараз мы яго прагналі, усіх гэтых паноў „на мушку“ ўзялі, зямля, заводы— нашыя, так мы павінны быць добрымі гаспадарамі.

Так гаворыць рабочы, той, каму дорагі заваёвы Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Гэта апавяданьне асабліва каштоўна сваёй тэматыкай, бо мы ў яўрэйскай літаратуры покуль-што маем вельмі мала твораў з непасрэднага жыцьця заводаў.

Малады пісьменьнік *Эля Каган* даў апавяданьне „У зялёны месяц май“ з жыцьця рабочых-друкароў. *Каган* мае лёгкую, жартаўліва-гарэзную, маляўнічую мову і манеру пісьма. Ён мае вялікую здольнасьць у кароткіх рысах, мастацкі-вобразна, маляўніча і жыва, жартліва і, часам, глыбока пісаць. *Каган* таксама мастацкі-моцна, упэўненымі мазкамі і штрыхамі перадае пачуцьці, псыхолёгічныя перажываньні сваіх гэрояў і зьявы прыроды.

Моня Мінкін—гэрой апавяданьня— рабочы цынкографіі. Ён, быццам, кахае дзьвух работніц. Потым прышла трэцяя—Філінка,—маладая, па броні працуе, ён ужо забывае пра тых дзьвюх, яму спадабаецца Філінка.

І вось ён з ёй гуляе. Разважваюць паміж сабой:

— Залатая ноч.

— Залатая,—згаджаецца яна.

— Сьвятло месяца ў сэрца льлецца.

— У сэрца,—згаджаецца яна.

— А сэрца робіцца яшчэ больш шырокім.

— Больш шырокім, — згаджаецца яна.

— І хочацца ўсё прыціскаць да сэрца і цалаваць.

— Цалаваць,—згаджаецца яна.

— Ну...

І яна згаджаецца.

Радкі, прысьвечаныя сходу рабочых друкарні, на якім гаворыцца аб вынаходцы Мінкіна (ён вынаходзіў новую танную фарбу для літографіі, што дае вялікую экономію),—самыя маляўнічыя, жывыя.

*Каган*—малады савецкі пісьменьнік, які многа абяцае ў будучыне.

Пісьменьнік *Альбэртон*, які знаёмы яўрэйскаму чытачу сваёй выдатнейшай кнігай „Біро-Біджан“, за якую аўтар атрымаў першую прэмію імя Мэндэлэ, у сваёй новэле „Каліфікацыя“ даў малюнак з жыцьця маладога рабочага шахты. Апавяданьне мае вялікую каштоўнасьць, паколькі ў ім закранаецца вельмі важнае ў сучасны момант проблема ўцягненьня яўрэйскай працоўнай моладзі ў цяжкую прамысловасьць.

Ёсьць у гэтым нумары пачатак аповесьці выдатнага яўрэйскага пісьменьніка *Годынера*.

Поэты *Талалай, Хашчавацкі* далі прыгожыя, бадзёрыя вершы.

Поэта *Аксельрод*, які даўно ўжо ня друкаваў сваіх вершаў у нашых часопісах, даў у гэтым нумары „Штэрн“ некалькі вершаў. У поэзіі Аксельрода заўсёды меліся ноткі ўпадніцтва. У надрукаваных у рэцэнзуемым нум. „Штэрн“ вершах мы чытаем:

> Ісьці на спаброніцтва з кім-небудзь
> вечна цяжка.
> З самім сабою—ў тысячу разоў
> яшчэ цяжэй.

І яшчэ:

> А можа сапраўды яшчэ ня ўсё
> прапала
> Нельга.
> Ня трэба
> З маста ды ў раку...

Бачыце, поэта сумняваецца, хістаецца, ня ведае, што яму рабіць.

Але далей ён кажа:

> І чорную галаву падняўшы,
> Я мацней станаўлюся на зямлю,
> Хто ня можа нівошта верыць,
> Кажу я, той нічога ня варты.

Будзем спадзявацца, што *Аксельрод* „мацней стане на зямлю“.

З вершамі *Камянецкага* здарылася вось што. Ён здаў ў рэдколегію „Штэрн“ вершы, якія былі адасланы для набору. У адным з вершаў было такое месца:

> За цяжкія рабочыя дні і прыгожыя вершы
> Пакуль што мала плоціць наша вялікая краіна.

Гэта поэта так гаворыць сваёй матцы, якая нездаволена, што сын прыехаў да яе „з пустымі кішэнямі“. І ён пацяшае матку, што „ня ведаю калі, але лепш стане“.

> Тады, тады-дзе-б я ні быў,
> Ці ў блізкіх
> Ці ў дальніх краінах—
> Я знайду вольны час
> І прыеду ў прыгожым пальто
> З гальштукам з чыстага шоўку.

Друкары знайшлі, што гэты верш, які прасягнуты пэсімістычнымі, дробна-буржуазнымі настроямі, не павінен друкавацца ў часопісі. Рэдколегія часопісі „Штэрн“ згадзілася і ня зьмесьціла гэты верш. Гэта зьява—вельмі радасная, яна гаворыць аб тым, як нашыя рабочыя чула адносяцца да праяў дробна-буржуазнага ўплыву ў нашай літаратуры. Але за тое ў гэтым-жа самым нумары Камянецкі прадстаўлен 2 бадзёрымі вершамі.

Вельмі багаты літаратурна-крытычны аддзел, у якім ёсьць артыкулы *Ашаровіча* аб кнізе Агурскага „Яўрэйскія камісарыяты“, *Дунца*—„Дзьве рэцэнзыі“, *Цвайга*—да 10 годзьдзя сьмерці выдатнага таленавітага пісьменьніка *Эшера Шварцмана*.

Ёсьць артыкул *Валабрынскага* „Дыялектыка ў прыродзе“ і артыкул *А. Б.* аб выніках 10 пленуму Выканкому Комінтэрну.

Рэцэнзуемы нум. сьведчыць аб тым, што „Штэрн“ становіцца сапраўды значнай і масавай часопісьсю і адпавядае запатрабаваньням яўрэйскага пролетарскага чытача.

**Н. Кабакоў**

**Володимир Сосюра. Поэзії,** том першы. *Державне видавництво Украіны. 1929. У ліку 5.000 паасобнікаў стар. 218 з портрэтам. Цана 2 р.*

Перад намі ляжыць новае выданьне твораў вядомага украінскага поэты Уладзімера Сасюры, вядомага сваёй блытанінай у галіне ідэолёгічнага афармленьня твораў і паступовым сходам з бадзёрых, рэволюцыйных мотываў „Червонай зими“, да ўпадніцтва у кнігах „Коли зацвітуть акації“, „Сьогодні“, дзе поэта „у минули ночи за Есеніним плакав у сні“, дзе яму страшан наган, з якім у мінулым „Вкраїну з краю в край проходили з боями“ ідучы „вперед за владу рад“.

У першым томе сабраны самыя рэволюцыйныя творы поэты, што пісаны ў 1921—23 гг., творы, якія маюць найбольшую соцыяльную значнасьць дзеля эпохі, творы, якімі як кажуць на Украіне, поэта асасюрыў моладзь, асасюрыў рэволюцыйнай бадзёрасьцю мотыву, прыняцьцем новай эстэтыкі і сам рассасюрыўся. Сам пайшоў блытанымі сьцежкамі. Спачатку няпрызнаньне НЭП'у, адарванасьць ад зямлі, пашырэньне ў невядомую даль („Всі на молочний шлях. Сьогодні лекція про жінку і кохання. Лектора даст земля, а зрання екскурсія в суседню сонячну систему“, ст. 43), потым натхненая эротыка („губи в губи... тепло і вішнево“, бо ўжо: „Отдзвонила давно Революция“), частковае прызнаньне НЭП'у („Але ні. Їх другим треба взять“) і пад канец творчы крызыс, захапленьне Есеніным і мотывамі ўпадніцтва, мотывамі „сасюраўскага“ жалю.

Выданьнем першага тому поэта аглядвае свой творчы шлях, свае мастацкія дасягненьні. А іх ня мала

Смуглы, задуменны юнак, „такий я ніжний“ лірык, прышоў ад вёскі, праз завод да пролетарыяту. Прышоў з Донбасу, дзе жылі бацькі, належачы да сялянскай інтэлігенцыі. Прышоў з сталай культурай, якую набываў у сельска-гаспадарчай школе працуючы на содавым заводзе; на шахце і ў сваіх сяброў-настаўнікаў В. Карака, І. Куліка, В. Блакітнага, якім прысьвечана большасьць поэм першага тому. Між працай вялася проба сіл у вершы на расійскай і украінскай мовах, а ў 1921 г. поэта цалкам пераходзіць на родную мову.

У час грамадзянскай бойкі Сасюра з чырвонымі. Ён праходзіць Украіну з краю ў край, а часамі і піша вершы:

„Сходили на базар, помилися у бані,—
Я вірші став писать під вечір золотий“.

І пад уплывам сучаснасьці:

„Писав чагось про сьмерть... неначе знав, що ніччю
Роптавий стрілів бліск і блиск вочку прониже тьму...
Й ми знов підем на бій за владу робітничу...
О, не завуть мені Червону ту зиму...“

Але бойка скончана:

І знов Донеччина... і вітер верби хиле...
Й не віриться, що знов побачу я село,
Давно покинуте, таке до болю миле...
Але багато з нас дадому не прийшло“.

Поэма, з якой мы ўзялі адрыўкі, называецца „Червона Зіма“ (7I-I). Гэта самы пекны твор першага тому. Поэма—безасабовая. Тэма—барацьба паўстаўшага народу супроць белай навальніцы. Скупое, напруджанае сапраўдным лірызмам, апісаньне дзей, аддае шчырым пачуцьцем. Складзена яна з 4-х радковых строф у рыфмаваных ямбах.

Вершы пісаныя пасьля „Червонай Зіми“ фактычна яе дапаўняюць.

„Нас тільки Влада Рад да Сонця доведе...“
Й нам путь теперь одна. Внизу старе захлям...
Дим іншого життя нам вітер з гір несе...“

У іх кароткія, алегорычныя, напруджаныя яскравым пачуцьцем, малюнкі прыроды.

„Де море шарудить, над срибным пляжем трави,
і шелестіння слів коханих і простих...
О теплий ночи блиск і блиск очей лукавий,
де у колисці вій гойдався молодик“.

Блізка падыходзяць да настрояў „Червоний Зіми“ наступныя поэмы: „1917 рік“, „Оксана“. „Осенні зори“, „Віра“, „1871 рік“ і інш.

Усе яны зроблены на падставе ўяўленьня мінулага „сняться мені эшалоні і далі, грізні загони... А сосни шумлять“ (ст. 124). Ва ўсіх іх экварэльнасьць, гледжаньне здалёку, з сумным успамінам аб мінулым. Прыкметна вольная пабудова вершу. Але наогул яны самастойнага значэньня не набываюць, толькі дадаюць да „Червоний Зіми“ „сум“.

У „Навкола“ і „В віках“ поэта дзеліцца з чытачом весткамі пра чужыя старонкі, нібы казкай:

„Я на огненних крилах несусь...
І все я, все разгадав...
Я здейсняю казкі Флямаріона“ і г. д.

Поэта пераносіць на Марс прыгожую сінь зямлі, ён рэволюцыйна-настроены „на гривах космосу ми вилізли із шахт... Я хочу бою“. Ён заклікае ўсіх на „молочный шлях“, дзе „лектора даст земля“. Мотыў, як бачыце, знаёмы, распрацованы Ал. Талстым („Эаліта“). На гэтыя-ж тэмы пісаў і Алекса Слісарэнка ў „Поемах“ (выд. 1923 г.), што займаюць асаблівае месца ў украінскай літаратуры па сваёй голай фабульнасьці.

Мы бачым у Сасюры паступовую зьмену. Ад сучаснасьці „Червонай Зіми“ ён хоча падняцца ў высь... Але зямля бярэ сваё:

„Як тягне—бить, довбати, бить
блискуче, чорне під землею!“

Поэту „Абридло вже мені співать“, ён у сумленьні:

„Минай, проклята ніч, минай!..
Я—чорний езуіт. Ти не приходь до мене
Не знатимуть вуста эгипетських очей.
Хай в стрісі шарудить сумний ноктюрн Шопена.
і плаче молодик под схиленим плечем.“

Прамінула „Червона Зіма“ з патосам успамінаў, якія даюць смутныя адбіткі. У „космасе“ туга не знайшла за што зачапіцца.

Зноў зямля: „Хто розуміе цей жах, коли душа так одинока“.

„Мое серце—благбаз в часи військового комунізму,
коли далі булі такі пахучі, такі червоні“.

Супроць свайго „я“ поэта паказвае сваю ідэолёгію:

„Коли буде знати про Перекоп кожна дитина,
і зацвітуть електричними зорами і земля, і небо,
коли темп життя так зміниться,
що будуть віки за одну хвилину,—
тоді прийде кінец нэпу..
... Тоді згадають і про Володимира Сосюру...“

А ў сучаснасьці:

„десь понад Дінцем журба осіння броде...“

У поэты журба і ўспаміны аб рэволюцыі. Ён стаіць на месцы... А пасунуцца наперад хочацца, хочацца ісьці ў нейкія далі. Зьяўляецца „пролёг до невідомої поеми“, у якой „я не знаю, що буду писати далі...“ бо „це я хожу по місту з одрізаною головою... НЭП“. Наогул поэта хворы

„Мамо, а можа я сплю,
може чего занедужав...“

Мусіць у зьвязку з гэтым у яго пашыраюцца мотывы каханьня:

„Падають комети на голи коліна сльози біжать по щоках...“
кохана, дети, дети, чи упадем іще в траву з тобою ми“.

Але адчуваецца і другое, адчуваецца смутак сьмерці:

„Вітер над морем... скелі... В море я кинув когось.
Місяц доріжку стеле, ніби па хвілях огонь...
Місяц доріжку стеле, ляжу на ній, засну...
Тихо, без дум опущуся в темну, холодну труну“.

Поэта ад соцыяльных мотываў перайшоў да фізыолёгічных (каханьне) і далей да заняпаду, да сьмерці.

Але побач з сумнымі мотывамі ў яго зьяўляецца новае „жинка революції“ ў поэме „Рабфаківка“, якая ўжо кажа, што „ніколи не буде краще на землі“. Адчуваецца частковае прымірэньне з жыцьцём.

Зноў поэту ўспамінаецца родны Донбас, але ў больш цёмных фарбах:

„Біля канторки хлопцы п'яні,
вгорі вагончики біжать;
і труби в синім океані...
Туди летить моя душа.“

Гэта ўрывак з поэмы „Нальотчиця“. Тут мы павінны адзначыць зьмену шасьцістопнага ямбу, у якіх мы адчувалі рытміку лаў і эшалонаў, рытміку рэволюцыі—скарочаным, энэргічным, таксама пявучым, чатырохстопным. Аўтар самастойны, вельмі добра ўладае новым разьмерам. Ды і наогул у Сасюры стала распрацованая культура вершу, на якім адчуваюцца ўплывы тагочасных літаратурных плыняў. Мы знаходзім уплыў імажыністых (Есенін) у вобразе, футурыстых ( першую чаргу В. Хлебнікава) у сэнсе пабудовы радкоў і распрацоўкі тэхнікі ў поэмах, акмеістаў (адчуваецца ўплыў Н. Гумілева, напр. „Я прийшов на станцію Революція, коли ударив други дзвінок“). Можна-б было прывесьці шмат прыкладаў але гэта справа дасьледчыка.

Поэта часта вяртаецца да свайго мінулага жыцьця на вёсцы. Ён сумуе, што:

„Не зустрінусь у полі я з вечором.
не нарву я шипшини Донбасу...“

І крыху супакоена заяўляе пра сваё казачае сэрца. Жывучы ў горадзе яму шкода „що кожна корова жестяна і висіть паді мною“. І ў той-жа час „тепло мені відчувати, що дружина у мене—селянка“.

У поэты зьмена ў адносінах да НЭП'у, бо

„Місто взяла в ромби і квадрати
всі думки, всі пориві мої“.

Ён ня ведае, хто каго марочыць і гатоў страляць у „кожні жірні очі, в кожну шляпку і в манто“. Жалезная дысцыпліна партыі кажа поэту, што „Їх другим треба взяти“. Гэта вялікі крок наперад у ідэолёгіі Сасюры.

У зборніку шмат невялічкіх вершаў поэты, лірычных—вельмі шчырых

і добра апрацованых. Напісаны яны ў клясычным дусе. Тэмы—казаньне, малюнкі прыроды, з якіх шмат урэзваецца ў памяць:

> "Гэй спокійно і синьо над садом,
> а над морем—задуменни сон.
> на заходзі губною помадою
> написав и розвіз... горизонт.

На гэтым я канчаю разгляд першага тому „поэзіі“ Сосюры. Аглядаючы сваю творчасьць, Сосюра мабыць выдасьць і наступныя томы, аб якіх у будучыне спадзяюся напісаць.

**Барыс Папкоўскі**

**Ю. Бібіла**. Летапіс беларускага друку. Частка II. *Паасобныя выданьні на беларускай мове (з дадаткам проклямацый і адозваў 1863 і 1905 г.). 1835—1916 гг. Выданьне Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі, Менск, 1929, 197×215 мм, 800 паасобнікаў, цана 65 кап.*

Справа падліку друку зьяўляецца надзвычайна важнай як для штодзеннага жыцьця, так і для навуковай працы. Бібліотэкар, настаўнік, спэцыялісты, навуковы работнік—усе адчуваюць вялікую патрэбу ведаць, што надрукавана на беларускай мове наогул і што ўласна—па спэцыяльнасьці кожнага. Але ня ўсякі работнік можа зрабіць для сябе падлік усяго надрукаванага. Тым больш, калі большасьць старых выданьняў ёсьць толькі ў бібліотэках ды ў нязначнага ліку бібліофілаў. Таму праца аўтаркі мае надзвычайную каштоўнасьць. Ёю да гэтага часу ўкладзена і выдана Дзяржаўнай Бібліотэкай часткі III і II гэтага „Летапісу“, якія даюць весткі пра паасобныя выданьні 1917—1924 гг. і пра кругабегавы друк да 1925 г. Гэта II частка „Летапісу“ абхоплівае на беларускай мове з 1835 да 1916 г. уключна. Такім чынам з выхадам гэтага выданьня аўтаркай падлічаны ўвесь новачасны беларускі друк да 1925 году. З 1925 г., як вядома, падлік кругабегавых і некругабегавых выданьняў вядзецца „Летапісам беларускага друку“, які выдаецца Беларускай кніжнай палатай. Калі выйдзе ўкладзены аўтаркай падлік старадрукаў—справа выяўленьня беларускага друку ў асноўным будзе скончана і застанецца толькі праца над дадаткамі, якіх будзе ня так шмат.

У гэтай другой частцы „Летапісу беларускага друку“ зьмешчаны весткі пра 244 паасобных выданьні на беларускай мове ды пра 34 проклямацыі на ёй. Выяўленых аўтараў гэтай літаратуры налічваецца каля 80.

Нажаль у гэтай кніжцы няма сыстэматычнага паказчыку кніжнай продукцыі, які-б палегчыў карыстаньне кніжкай розным спэцыялістым, ды і наогул быў-бы вельмі карысным. Да вельмі прыкрых памылак друку трэба аднесьці быццам 1918 год выданьня „Ciekawyś? — Przeczytaj!“ В. Дунін-Марцінкевіч, у той час, калі гэта ня так.

Урэшце нас дзівіць чаму гэта выданьне, так патрэбнае для ўсіх школ, бібліотэк і іншых асьветных установаў, якіх больш 6.000, вышла толькі ў ліку 800 паасобнікаў.

**М. Стаход**

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У БДВ друкуецца зборнік вершаў Язэпа Пушчы пад назваю „Грэшная кніга“.

* Т. Кляшторны здаў у друк зборнік сваіх вершаў „Ветразі“.

* Белдзяржвыдавецтвам прыняты да друку зборнік вершаў маладога поэты Ю. Таўбіна „Агні“.

* Друкуецца зборнік апавяданьняў С. Хурсіка.

* Выходзіць з друку кніжка апавяданьняў Васіля Каваля „Крыніца“.

* Прынята БДВ да друку кніжка вершаў М. Хведаровіча „Рытмы“.

* БДВ выпускае вялікі роман Р. Мурашкі „Сын“. Роман малюе эпоху 1905 году.

* Друкуецца першы нумар ілюстраванай двухтыднёвай часопісі „Чырвоная Беларусь“. Часопісь рэдагуе М. Чарот.

* Рыхтуе да друку новы зборнік сваіх вершаў Аркадзь Моркаўка.

* Здаў у БДВ зборнік вершаў С. Ліхадзіеўскі „Чырванеюць вішні“.

* З. Астапенка падрыхтаваў да друку зборнік вершаў „Запевы“.

* Друкуецца ў БДВ асобнай кніжкай аповесьць І. Барашкі „Рыгор Галота“.

* М. Хведаровіч здаў у БДВ кніжку вершаў для Чырвонай арміі пад назваю „Баявыя песьні“.

* А. Звонак здаў у Белдзяржвыдавецтва сваю поэму „Загай“ для надрукаваньня яе асобнай кніжкай.

* Здадзены ў БДВ новы зборнік вершаў М. Лужаніна пад назваю „Шостае пачуцьцё“. Падрыхтавана да друку яго поэма „Салімонка“. Выходзіць з друку яго другая кніжка вершаў „Новая ростань“.

* БДВ друкуе зборнік вершаў В. Маракова „Жыцьцё, як мора“.

* Сяргей Дарожны рыхтуе да друку зборнік сваіх вершаў і поэму „Тацяна“.

* Выходзяць у БДВ творы М. Лынькова: „Апошні зьверыядавец“ (аповесьць) і „Андрэй Лятун“ (апавяданьні).

* М. Нікановіч выпускае ў БДВ зборнік апавяданьняў „Вясновы прамень“ і рыхтуе да друку новы зборнік.

* Друкуецца асобнай кніжкай апавяданьне Хв. Явара (Шынклера) „Ічэ“.

* Сяргей Фамін здаў у Белдзяржвыдавецтва зборнік вершаў „Дымнае жыта“. Падрыхтаваў да друку поэму „За новыя дні“.

* Сакратарыят БелАПП'у прымацоўвае шэраг таварышоў да Менскіх фабрык і заводаў. Вядзецца падрыхтоўчая праца па організацыі цэнтральнага рабочага літгуртка пры Доме Пісьменьніка. Падрыхтоўваецца шырокі сход чытачоў часопісі „Маладняк“, на якім будуць абгаварвацца пытаньні тэматыкі „Маладняка“ і інш.

* Падрыхтаваны да друку зборнік крытычных артыкулаў БелАПП'у пад рэдакцыяй А. Сянькевіча і М. Аляхновіча. Рыхтуецца да друку зборнік вайсковых вершаў і апавяданьняў.

* У Магілеўскай філіі БелАПП'у ідзе падрыхтоўчая праца па складаньні трэцяга альманаху творчасьці

песьняроў Магілеўшчыны. Альманах будзе мець назву „Удар“. Творы, якімі мяркуецца запоўніць альманах, будуць пераважна адбіваць працэсы колектывізацыі вёскі, якая ў апошнія часы ідзе нябывала хуткім тэмпам. У альманаху прымаюць удзел: Я. Івашын, Ю. Лявонны, яўрэйскі поэта Мільлер, а таксама гурткоўцы з раёну.

* Амсьціслаўская студыя БелАПП'у здае ў друк літаратурна-мастацкі альманах „Усход“. У альманаху бяруць удзел: Юлі Таўбін, Зьм. Астапенка, А. Куляшоў і інш.

Вясною г. г. студыя організавала шэраг літаратурных выступленьняў і выезды.

Сёлета студыя адзначае пятыя ўгодкі свайго існаваньня. Мяркуецца выдаць зборнік выбраных вершаў. Пры студыі заснавана яўрэйская літаратурная сэкцыя — кіруе сэкцыяй яўрэйскі літаратар Плякс.

* У БДВ выдаецца зборнік вершаў П. Глебкі „Урачыстыя дні“. У сучасны момант Пятро Глебка канчае поэму „Арка над акіянам“, якая будзе зачытана 2 сьнежня г. г. на ўзвышаўскім вечары-альманаху.

* Кузьма Чорны напісаў аповесьць „Лявон Бушмар“ — аповесьць друкуецца ў часопісе „Узвышша“. Цяпер працуе над романам „Вялікае выганьне“—з часоў імпэрыялістычнай вайны.

* Уладзімер Дубоўка здаў у БДВ зборнік вершаў і поэм „Дэпэшы бяз адрасу“.

* Васіль Шашалевіч скончыў драму „Воўчыя ночы“, літаратурны тэкст якой зьмешчаны ўва „Ўзвышшы“, і прыступае да апрацоўкі сцэнічнага тэксту, пасьля чаго п'еса будзе перададзена ў адзін з Беларускіх дзяржтэатраў, альбо выдадзена асобнай кніжкай. П'еса малюе рэволюцыйную барацьбу з бандытызмам на Беларусі.

* Літаратурнае згуртаваньне „Узвышша“ з 4 лістапада г. г. адчыніла літаратурны сэзон дакладам А. Бабарэкі „Поэзія, як уяўленьне“. Па выпрацаванаму пляну павінна адбыцца шэсьць дакладаў на літаратурныя і грамадзкія тэмы, тры вечары творчай справаздачы ўзвышаўцаў і чатыры вечары-альманахі розных пісьменьнікаў. Сходы будуць адбывацца раз у два тыдні (адчыненыя) у залі „Дому пісьменьніка“, аб чым будзе паведамляцца праз газэты.

* Дзяржаўны польскі вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам т. Багінскага выяжджаў у Койданаўскі раён, дзе ў розных мясцох правёў 10 пастановак. Ставіліся п'есы: „Мяшчанка“, „Не ўдалася“, „Магда“ і „Чытальня“.

Апошні спэктакль быў наладжан у в. Янова за 2 кілёмэтры ад граніцы. Сяляне гэтай вёскі спэцыяльна да спэктаклю пабудавалі на адкрытым месцы сцэну. Усе спэктаклі карысталіся вялікім посьпехам.

Зараз колектыў тэатру вярнуўся ў Менск і будзе рыхтаваць новы рэпэртуар. Да 1 студзеня тэатр зробіць выезд на Аршаншчыну і, апрача таго, будзе абслугоўваць польскае насельніцтва г. Менску.

* У Віцебску заканчваюцца натуральныя здымкі кіно-карціны „Хамелеон“. Гэтымі днямі кіно-экспэдыцыя прыяжджае для натуральных здымкаў у Менск.

* На кіно-фабрыцы Белдзяржкіно ў Ленінградзе заканчваецца монтажам карціна „Готэль Савой“, у якой малюецца стрэкапытаўскае паўстаньне на Гомельшчыне ў 1919 г.

* На пасаду загадчыка Галоўмастацтва Наркамасьветы назначан тав. Некрашэвіч, які дагэтуль быў нам. загадчыка АПАД ЦК КП(б)Б.

* У час кастрычнікавых урачыстасьцяй у Маскве адчыняецца выстаўка пісьменнасьці ўсіх народаў СССР. Прэзыдыум Беларускай Акадэміі Навук пастанавіў прыняць удзел у гэтай выстаўцы.

* 9-га кастрычніка ў Доме пісьменьніка адбылася сустрэча Белдзяржкіно з беларускімі пісьменьнікамі.

Ва ўступным слове намесьнік дырэктара Белдзяржкіно т. Александровіч спыніўся на задачах кіно і літаратуры ў сучасны момант.

Прадстаўнік Белдзяржкіно т. Дзяржавін пазнаёміў сход з тэматычным плянам на наступны год.

У спрэчках выступілі: А. Сянькевіч, Зьм. Бядуля, Ліманоўскі, Барашка, Ліхадзіеўскі і шэраг іншых таварышоў.

* Колегія Наркамасьветы лічыць мэтазгодным пабудаваць у Менску будынак цырку. Памяшканьне новага цырку мяркуецца скарыстоўваць для масавых палітычных кампаній, а таксама як тэатральнае памяшканьне да пабудовы новага тэатру.

Пабудова цырку будзе каштаваць 150.000 руб.

* БАН прыступіла да складаньня слоўніка беларускіх пісьменьнікаў 18—20 ст. ст., дзеля чаго ўтворана спэцыяльная камісія.

У зьвязку з гэтым ЦБ краязнаўства зьвярнулася да ўсіх краязнаўчых організацый з просьбай дапамагчы ў зборы адпаведнага матэрыялу.

* У Гомелі распачаў сваю працу першы Беларускі дзяржаўны тэатр. Колектыў тэатру ўключыў у плян сваёй працы організацыю выездаў на заводы для тэатральных пастановак у часе абедзеных перапынкаў рабочых.

* Дом Пісьменьніка БССР мае на мэце згуртаваць пролетарскіх і блізкіх па сваёй ідэолёгіі да рабочай клясы пісьменьнікаў і журналістых— навакол задач партыі ў галіне будаўніцтва соцыялістычнай культуры і мастацтва. Ён зьяўляецца месцам для іх комуністычнага выхаваньня, падвышэньня і разьвіцьця іх палітычнага і агульнага культурнага ўзроўню, а таксама месцам іх грамадзкай працы і грамадзкага адпачынку.

Дом Пісьменьніка існуе першы год. Ад сакавіка м-ца г. г. „ДП“ вёў організацыйную працу і толькі цяпер пераходзіць да плянавай працы культурнага абслугоўваньня пісьменьнікаў.

У бягучым годзе ўтвараецца:

1) цэлы шэраг гурткоў па вывучэньню а) марксызму і ленінізму, б) чужаземных моў, в) намечаны шэраг дакладаў па пытаньнях літаратуразнаўства і грамадазнаўства.

2) Будуць наладжаны стрэчы пісьменьнікаў з адпаведнымі палітычнымі працаўнікамі, дзяржаўнымі ўстановамі, тэатрамі, комсамолам, рабочымі.

* Пры „ДП“ організавана з прадстаўнікоў розных культурна-асьветных установ сталая камісія для ўшанаваньня памяці памершага пролетарскага поэты Паўлюка Труса. Яна ставіць сваею задачаю збор сродкаў на пабудову ў колгасе „Ленінскі Шлях“ на Магілеўшчыне, дзе поэта правёў лета 1929 году, школы яго імя і бібліотэкі ў вёсцы Нізок, Узьдзенскага раёну (Меншчына), дзе поэта радзіўся. Камісія зробіць вельмі дакладнае апісаньне літаратурнай спадчыны, пакінутай П. Трусом. Вядзецца збор літ. матэрыялаў, якія ненадрукаванымі знаходзяцца ў прыватных асоб і ўва ўстановах.

Пры „ДП“ утвараецца Каса ўзаемадапамогі пісьменьніцкага колектыву. Організоўваецца шырокая бібліотэка пераважна з сучасн. пролетарскай літаратуры і сучасн. літаратуразнаўства.

„ДП“ вядзе работу па зьбіраньню зьвестак аб усіх беларускіх пісьменьніках, якія жывуць у іншых гарадох БССР, а таксама і ўва ўсім СССР.

У далейшым маецца на мэце пры „ДП“ стварыць музэй літаратуры.

* 26 кастрычніка на паседжаньні акадэмічнага савету (БАН) адбыліся давыбары віцэ-прэзыдэнта акадэміі, неадменнага сэкратара і новых членаў прэзыдыуму.

Саўнарком БССР ухваліў зацьвердзіць наступныя, паданыя Беларускай Акадэміяй Навук, кандыдатуры: акадэміка Якуба Коласа (К.М. Міцкевіча) на пасадзе віцэ-прэзы-

дэнта Бел. Акадэміі Навук і члена прэзыдыуму Акадэміі; акадэміка Івана Андрэявіча Пятровіча (Я. Нёманскі)—неадменным сэкратаром Бел. Акадэміі Навук і членам прэзыдыуму Акадэміі; за ім пакінута пасада нам. старшыні Джяржпляну.

Членам прэзыдыуму Бел. Акадэміі Навук зацьверджаны: дадаткова акадэмік С. Ю. Матулайціс і т. т. А. М. Платун і І. П. Ошэровіч.

Саўнарком прыняў да ведама, што канчатковы склад прэзыдыуму Бел. Акадэміі Навук, у сувязі з праведзенымі дадатковымі выбарамі, складаецца з наступных асоб: т. т. У. М. Ігнатоўскага (прэзыдэнт Акадэміі Навук), М. І. Бялугі (віцэ-прэзыдэнт), акадэміка Якуба Коласа (віцэ-прэзыдэнт), акадэміка Пятровіча, акадэміка Матулайціса, акадэміка Некрашэвіча і т. т. Платуна і Ошэровіча.

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

## Першая украінская музычная комэдыя

З зімы гэтага году ў сталіцы Украіны пачне свой паказ першая украінская музкомэдыя. Гэта будзе першая спроба ўтварыць музкомэдыю на украінскай мове. Розьніца між музкомэдыяю старога часу, калі волатаўскім тэмпам узрастае украінская пролетарская культура, вялікая. Украінскі тэатр у яго бытавых формах ставіў музкомэдыі (опэрэты) пераважна клясычныя, але гэта ня было яго сталаю працаю. Трэба сказаць, што украінскі тэатр дарэволюцыйнага часу быў, як бы сказаць, унівэрсальны. Ставіў ён драмы, трагэдыі, комэдыі, опэры, опэрэты і фарсы, і ў гэтым перавагу аддаваў п'есам з народнага быту, што да-рэчы ўяўляюць сабою ня што іншае, як народную опэрэту, бо ў іх пераважнае значэньне мелі сьпевы і танцы.

Першы тэатр украінскай музкомэдыі ў сваёй працы выключна думае культываваць музкомэдыйны жанр, ставячы гэту працу ў экспэрымэнтальных рамках.

Новая украінская музкомэдыя прыстасуе сваю працу і рэпэртуар да разуменьня масавага гледача. Музкомэдыя будзе чыньнікам выхаваньня мас. Гэта таму, што глядач савецкіх тэатраў у гарадох складаецца з рабочых і служачых.

Рэжысэрам новай украінскай комэдыі запрашаюць вядомага пастаноўшчыка Сьмірнова, што асабліва выявіў сябе, як найлепшы знаўца тэатру Мольера. Сярод дырыжэраў у тэатры музкомэдыі працавацьмуць пераважна украінскія композытары (ёсьць такія кандыдатуры: композытар Крыжаноўскі, Радзіеўскі, Бак, Верховінец, дырыжэр опэры Вэйсэнбэрг. Хто з іх працавацьме, канчаткова ня вырашана).

Украінская музкомэдыя, якую цяпер організоўваюць, мае адыграць вялікае культурнае значэньне ў Украінскім тэатральным процэсе. Організацыяй яе украінскі тэатр ахопіць амаль усе галіны тэатру. Вядома, гэта толькі пачатак у справе разгортваньня працы украінскай музкомэдыі. Ужо цяпер організоўваюць другі украінскі тэатр, які працавацьме на пэрыфэрыі і давацьме паказы як опэры, так і опэрэты. Відавочна, з наступнага году украінскую музкомэдыю будуць мець у сябе ўсе значнейшыя гарады УССР.

* Увосень літорганізацыя „Заходняя Украіна“ сьвяткавацьме свой пяцігадовы юбілей. Да гэтага юбілею „Заходняя Украіна“ выпускае альманах.

* Композытар К. Богуслаўскі напісаў дзіцячую опэру-гульню „Андрэйка Казак“ на тэкст М. Тополі. ДВУ гэту опэру выдае. Нядаўна композытар адсьвяткаваў дзесятыя ўгодкі сваёй музычнай дзейнасьці. У чугуеўскіх лягерах, дзе адбывалася ўшанаваньне композытара, чырвонаармейцы організавалі яму цёплае спатканьне.

* Рэжысэр О. Довжэнко з групаю выехаў да с. Ярэські, Палтаўскай акругі для здыманьня натуры для карціны „Зямля“. Сюжэт: змаганьне

сельскага актыву за трактарызацыю сяла.

* У канцы лістапада г. г. адбудзецца пяты зьезд літорганізацыі „Плуг“.

* У выданьні ДВУ выходзіць другое дапоўненае выданьне зборніка апавяданьняў „Тысячы ў адзінках“— С. Піліпенкі. С. Піліпенка таксама здаў у друк зборнік „Батраковы байкі“.

* Ю. Дорошэнка здаў да друку ў выд-ва „Плужанін“ збор поэзій „Степова глибінь“.

* Група яўрэйскіх поэтаў (Квітка, Маркіш, Гофштэйн, Рэзьнік і Фіненберг) па пастанове Дзяржвыдавецтва Украіны перакладаюць на яўрэйскую мову „Кобзар“ Тараса Шэўчэнкі. Пераклад будзе выданы ў бягучым годзе.

* Вядомы цюркскі поэта Ала-Вэрдаў рыхтуе да друку пераклад на цюркскую мову поэмы Тараса Шэўчэнкі „Наймічка“. Поэма выйдзе ў Азэрбайджане.

* Нядаўна ў Кіеўскай Лаўры знайшлі вялікі падземны ход, які цягнецца ад будынку мітрополіта да Усьпенскай царквы. Каля царквы гэты ход закручваецца сьпіральлю і зноў падыходзіць да свайго пачатку. Гэты ход выкапаны ў XVI стагодзьдзі, але на пляне Лаўры ён зьявіўся толькі з 80-гадоў мінулага стагодзьдзя, калі яго выпадкова выкрылі. Ход на пляне мае некалькі вялікіх камор.

* Нядаўна Кіеўскі краёвы аддзел Усеукраінскага фото-кіно-кіраўніцтва агаласіў вынікі ўсесаюзнага конкурсу на складаньне эскізнага проэкту будынку новага кіно-тэатру ў г. Кіеве. Жюры ўхваліла даць прэміі проэктам пад такімі дэвізамі: I прэмію— дэвіз „Асьвета“ (1.200 р.), аўтар— проф. Н. А. Троцкі, архітэктары— Гільтэр І. А., Зэлікман Т. Я. і Казак С. Н. (Ленінград); II прэмію— „Зялёны завулак“ (800 р.), аўтары— тэхнікі Кулагіны С. А. і Г. А.; III прэмію—„13“ (600 р.), аўтар— архітэктар Забалотны В. І. (Кіеў); IV прэмію—дэвіз „Чырвоны ромб“ (400 р.), аўтары—архітэктары Фідман В. І. і Каган Д. М. (Масква).

## Выстаўка нямецкай вытворчай графікі на Украіне

Выстаўка нямецкай вытворчай графікі на Украіне зьяўляецца вельмі значным культурным зьявішчам. Упяршыню шырокія колы нашай грамадзкасьці знаёмяцца з нямецкім мастацтвам у вытворчасьці не з выпадковых вырабаў і паасобных узораў, а непасрэдна з вялікай параўнаўча колькасьці экспонатаў, старанна паказаных Украінскім Таварыствам Культурнай Сувязі з Заграніцай. Выстаўка дэмонстравалася ў Харкаве, Кіеве і Адэсе і ўсюды прываблівала да сябе надзвычайную ўвагу і ў першую чаргу мастакоў, вучняў мастацкіх ВНУ, школьных і рабочых экскурсій і г. д.

Выстаўка мае аддзелы—плякаты, узоры, упакоўкі, дзелавыя паперы-бляпкі, рэклямныя лісты, ілюстрацыі, вокладкі кніг, і захапляе выключным узроўнем тэхнічнага выкананьня.

З таго, што наўраецца на выстаўцы, адчуваецца, што высокая культура вытворчага і тэхнічнага процэсаў узьнімае ўжо працу мастацкай графікі далёка за ўзровень звычайнага „прыкладнога“ мастацтва, але ўсё-ж, за рэдкім выключэньнем, прыкметна, што ў гэтым вытворчым мастацтве яшчэ не сабраны ўсе творчыя сілы, усё-ткі гэта „прыкладное мастацтва“, хаця і вельмі высокай якасьці.

Аўладаць такой высокай тэхнікай гэта задача як мастака, так і працаўніка нашай паліграфічнай прамысловасьці, але разам з тым трэба помніць, што мастацкая вытворчасьць павінна выпрацаваць сваю ўласную мову і мастацтва павінна быць не прыкладною, а органічнаю часткай процэсу вытворчасьці.

**В. Седляр**

# КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў РСФСР

13 верасьня ў Маскву прыяжджала дэлегацыя татарскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Дэлегацыя ў працягу месяца наведала Астрахань, Баку, Тыфліс, Батум, Сымферопаль, Ялту і Харкаў. Усюды татарскіх пісьменьнікаў сустракалі з захапленьнем.

У Маскве пісьменьнікі Татарскай рэспублікі наведалі завод „Сэрп і Молат“, азнаёміліся з процэсам вытворчасьці і правялі гутаркі з татарскімі рабочымі заводу.

Татарскія пісьменьнікі ўдзельнічалі ў спэцыяльнай нарадзе „ГІЗ‘а“, якая адбылася ў дзень 14 верасьня г. г. пад старшынствам т. Халатава. Вітаючы ад імя ГІЗ‘а гасьцей, т. Халатаў выказаў надзею, што татарскія пісьменьнікі дадуць шэраг сапраўды мастацкіх літаратурных твораў, у якіх будзе адлюстравана наша грандыёзная соцыялістычная будова.

У абмене думкамі прымалі ўдзел татарскія пісьменьнікі Нігмаці, Кутуеў, Османаў, Галіеў і інш.

Тав. Сутырын, які выступіў з вітаньнем ад імя РАПП‘у, сказаў, што татарскія пісьменьнікі павінны болей высьвятляць дзейнасьць сваіх культустаноў і даваць больш артыкулаў у расійкія часопісі пра татарскую мастацкую літаратуру.

* У кастрычніку пачынаюць працаваць літаратурна-мастацкія майстэрні „Кузьніцы“. Праца ў гэтых майстэрнях заменіць сабой старыя гутаркі літорганізацый, якія раней насілі выпадковы характар і не здавальнялі пісьменьнікаў — членаў „Кузьніцы“.

Галоўнай сваёй задачай майстэрні ставяць цесную сувязь з провінцыяльнымі літгурткамі „Кузьніцы“.

* Выдзелена камісія з прадстаўнікоў „Кузьніцы“ для правядзеньня 10-гадовага юбілею існаваньня організацыі. Да сьвяткаваньня юбілею, які адбудзецца ў лютым - сакавіку 1930 году, прыстасавана правядзеньне Ўсесаюзнага зьезду альбо конфэрэнцыі „Кузьніцы“.

* У сярэдзіне верасьня г. г. адбыўся першы асеньні сход членаў літгрупы „Рабочая Вясна“.

У выдавецтве „Недра“ друкуецца альманах „Рабочай Вясны“, які выйдзе ў хуткім часе. Да друку рыхтуецца другі альманах.

* Н. Ціханаў падрыхтаваў да друку зборнік новых апавяданьняў і зборнік вершаў „Зверинская 2“. У зборнік вершаў уваходзяць: туркестанскія вершы, цыкль вершаў „Зверинская 2“ і шэраг новых вершаў, якія друкаваліся ў апошні час у „Зьвязьдзе“, „Новом Мире“ і інш. выданьнях.

* І. Садоф‘еў напісаў поэму „Рискованный покой“ і цыкль новых вершаў пра моладзь. Канчае поэму „Степан Буянов“.

* Л. Сейфуліна канчае новую аповесьць „Гібель“. Разам з Валер‘янам Праўдухіным працуе над лібрэта для опэры „Чапаеўшчына“. Опэра пойдзе ў гэтым сэзоне ў ленінградзкім Дзярж. Вялікім опэрным Тэатры.

* Ленінградзкі Дом Друку шырока разгортвае сваю працу. У яго сьце-

нах мяркуецца аб'яднаць усе ленінградзкія літорганізацыі і асоціяцыі, якія пакуль раскіданы па ўсім горадзе. Сюды пераяжджаюць: Фэдэрацыя пісьменьнікаў, Літфонд, ЛАПП, МОДПіК, Драмсаюз, Ленінградзкі саюз поэтаў і ленінгрдзкае аддзяленьне Ўсерасійскага Саюза Пісьменьнікай.

У сярэдзіне верасьня (г. г.) адчыніўся „габінэт журналіста і рабкора". Мэта габінету—павышэньне кваліфікацыі газётных працаўнікоў.

„Габінэт пачынаючага пісьменьніка" таксама знаходзіцца ў Доме Друку. Габінэт пачынаючага пісьменьніка будзе наладжваць выстаўкі твораў, дыспуты аб сучаснай літаратуры, аб літаратурнай вучобе, аб шляхох літаратурнай творчасьціі г. д.

* Маскоўскі Тэатр Пролеткульту ў часе сваёй працы ў Менску атрымаў ад мясцовага рабочага т. Кобеца п'есу „Карусель"—з жыцьця рабочых шклянога заводу. П'еса прынята тэатрам да пастаноўкі, якая намяркована ў бягучым сэзоне.

* Савкіно да Дню ўраджаю і колектывізацыі выпускае ў пракат у вясковыя клюбы і хаты-чытальні шэраг фільм. З новых культур-фільм будуць выпушчаны ў пракат: „Асеньняя пасяўная кампанія", „За колеўтыўную гаспадарку", „Бесарабская комуна", „Контрактацыя", „Канец Жураўліхі", „Пшаніца, ячмень і авёс", „У паход за ўраджай".

* У ГІЗ'е выходзіць кніга вершаў С. Кірсанава: „Слово предоставляется Кирсанову".

* Юры Лебядзінскі канчае аповесьць „Любовь". Працуе над романам „Поворот".

* Гісторыка-архелёгічнай экспэдыцыяй з Наўгародзкай губэрні, дзе экспэдыцыя працавала па раскопках стара-славянскіх курганоў, прывезена шмат цікавых помнікаў матэрыяльнай культуры часоў незалежнасьці Вялікага Ноўгараду. У гэтым годзе ў Наўгародзкай губэрні ўпяршыню раскапана 10 курганоў, па якіх можна прасачыць разьвіцьцё далёка пайшоўшай наперад клясавай дыфэрэнцыяцыі. Асабліва важна находка своеасаблівага сярпа, якая паказвае на высокае разьвіцьцё зямляробства ў X-XI в.в.

У межах цяперашняга Ноўгараду раскапана так званае „Рурыкава Гарадзішча", якое было ў працягу некалькіх стагодзьдзяў рэзыдэнцыяй князёў, якім незалежны Вялікі Ноўгарад забараніў жыць на тэрыторыі самога гораду. Да гэтага часу Рурыкава Гарадзішча лічылі рэзыдэнцыяй варажскіх князёў IX веку, г. ё. самай старой часткай В. Ноўгараду; цяпер даказана, што яно не старэй XI в.

* Праўленьне Ўсерасійскага саюза савецкіх пісьменьнікаў узьнімае пытаньне ў Выканбюро Фэдэрацыі аб пабудове дому для старых літаратараў.

* У Маскве спыніўся праездам з Парыжу ў Японію профэсар Дзяржаўнага інстытуту мастацкіх навук Токіё Каменосуке Морыта. Профэсар Морыта наведае Ленінград, Ніжні-Ноўгарад і Кіеў, каб вывучыць помнікі бізантыйскага мастацтва, якія знаходзяцца ў гэтых гарадох.

* Савкіно пераабсталёўвае свой кіно-тэатр „Первый Художественный Совкино" для гукавога кіно. У памяшканьні кіно-тэатру перарабляецца будка, абшываецца столь і сьцены матэрыялам, які не прапушчае гукі. У тэатры будзе ўстаноўлены апарат і рэпродуктары сыстэмы інж. Шорыка. У сярэдзіне кастрычніка памяшканьне 1 Савкіно-тэатру будзе пераабсталявана для дэмонстрацыі гукавых фільмаў.

* П'еса „Власть" А. Глебава перакладзена на францускую мову. Магчыма пастаноўка п'есы ў гэтым сэзоне адным з левых францускіх тэатраў.

* Тэатр Рэволюцыі рыхтуе п'есу А. Завалішына „Партбілет". Пастаноўку робіць В. Ф. Фёдараў, мастацкае афармленьне—І. Шляпянава.

Прэм'ера адбудзецца ў канцы кастрычніка г. г.

* 3 кастрычніка ў Маскву прыехаў вядомы нямецкі пролетарскі пісьменьнік Іоганес Бэхер. У СССР т. Бэхер прыяжджае другі раз (ён быў у Маскве на 10 гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі). У гутарках з маскоўскімі пісьменьнікамі т. Бэхер выказвае зьдзіўленьне таму волатаўскаму тэмпу, якім ідзе наперад жыцьцё Савецкага Саюзу.

Цяпер тав. Бэхер піша драму на тэму аб рэволюцыі ў Нямеччыне.

* Нацсэкцыя „Кузьніцы“ вырашыла наладзіць сувязь з пролетарскімі пісьменьнікамі Украіны, Беларусі, Арменіі, Грузіі, Азэрбайджану, Татарстану і Узбэкістану. Выпрацаваны тэкст лісту да пролетарскіх пісьменьнікаў для абмену літаратурнымі творамі і наладжаньня жывой сувязі паміж літорганізацыямі.

* У СССР прыехаў сакратар Нямецкай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў, аўтар ў свой час нашумеўшай кнігі „Война“, пісьменьнік-комуністы, Людвіг Рэн. Тав. Рэн наведаў Дзяржвыдат, дзе гутарыў з т. Халатавым.

Тав. Людвіг Рэн у гутарцы сказаў, што ён прабудзе ў Савецкім Саюзе 3—4 м-цы і за гэты час азнаёміцца з соц. будовай і пытаньнямі культурнай рэволюцыі ў СССР. Тав. Рэн думае напісаць кнігу нарысаў з савецкага быту. Тав. Халатаў коратка пазнаёміў т. Рэна з працай Дзярж. Выдавецтва.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Са складу рэдакцыі нямецкай літаратурнай часопісі „Нейе Бюхершау“ вышлі яго супрацоўнікі Іоганес Бэхер і Эгон Эрвін Кіш. Яны матывуюць свой выхад няправільнай лініяй часопісі, якая называе сябе пролетарскай, і, у прыватнасьці, зьмяшчэньнем артыкулу Макса Германа-Вэйсэ, які хваліць рэакцыйнага буржуазнага пісьменьніка Бэна.

* Вядомая кніга Рэмарка „На Захадзе без перамен“ разышлася ў галоўных заходня-эўропэйскіх краінах і ў ПАЗШ у колькасьці 1.500.000 экзэмпляраў. Найбольшы тыраж дала Нямеччына—750.000 экз., у Англіі вышла 195.000 экз., у ПАЗШ—215.000 экз., ва Францыі—220.000 экз. Нават у Галяндыі кніга разышлася ў колькасьці 40.000 экз., у Даніі—30.000, у Швэцыі—25.000 і г. д. Першае нямецкае выданьне зьявілася ў канцы студзеня 1929 году.

* Выдавецтва „Малік“ у Бэрліне выдае дакумэнтальную кнігу: „Вайсковыя лісты забітых пролетарыяў“. Выдавецтва зьвярнулася з адозваю да ўсіх, у каго ёсьць такія лісты, з просьбай даць іх выдавецтву (у копіях) для апублікаваньня.

* На паседжаньні нямецкага кіно-тэхнічнага таварыства ўпяршыню дэмонстравалася рэнтгенаўская фільма. Урач мае магчымасьць бачыць на карціне здымкі руху паасобных органаў, напрыклад, рэнтгенаўскі здымак жывата і інш.

* У выпадку 26 конгрэсу Саюзу Эспэрантыстых Паўночнай Амэрыкі, студыя Мэтро-Гольдвін-Майер канчае пастаноўку першай гукавай фільмы на мове эспэранто.

* Ангельская кіно-фільма выпускае кароткамэтражную гукавую карціну, у якой паказ Вэзувія суправаджаецца гулам вулькану. Некаторыя кіно-здымкі былі зроблены на краю самога жарала Вэзувія.

* Фірма „ПДЦ“ (у Нью-Йорку) уключыла ў сваю вытворчую праграму здымак опэр: „Кармэн“, „Аіда“, „Фауст“, „Сельская честь“, „Казкі Гофмана“, „Марта“, якія будуць выпушчаны двухактавымі гукавымі карцінамі. Калі гэты досьлед будзе мець посьпех, фірма „ПДЦ“ пераробіць у гукавыя карціны і іншыя опэры.

* 12 верасьня г. г. памёр найвялікшы поэта Латвіі Ян Райніс (Ян Плешкан). Радзіўся ён 30 жніўня 1865 году ў Курляндыі. На грамадзкай ніве Райніс зьявіўся ў пачатку дзевяностых гадоў, разам з першымі марксыстымі Латвіі.

Райніс пісаў таксама і драматычныя творы, з якіх цікава адзначыць: „Агонь і ноч“, „Індус і арыя“, „Залаты конь“ і інш.

Ён быў першым перакладчыкам клясычнай літаратуры на латыскую мову: ім перакладзены „Гамлет“ Шэксьпіра, „Фауст“ Гётэ, „Разбойнікі“ Шыльлера і інш.

У апошнія гады свайго жыцьця ён прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі „Т-ва культурнага зблiжэньня Латвіі з СССР“ і да апошняга часу быў яго старшынёю.

Вершы Яна Райніса былі выданы ГІЗ'ам на расійскай мове ў перакладах: Валерыя Брусава, Івана Белавусава і інш.

* У Бэрлінскім „Міжнародным Рабочым Выдавецтве“ вышла новая кніга пролетарскага нямецкага пісьменьніка Ганса Лорбеера: „Прачніся!“. Аўтар на старонках часопісі „Тагебух“ кажа, што гэта яго першая кніга ў прозе—зборнік апавяданьняў 1925—1928 г.г.

Апавяданьні Лорбеера даюць яркія малюнкі двух буйнейшых нямецкіх хэмічных заводаў, на якіх ён працаваў у якасьці рабочага.

* У Парыжы вышла пасьмертнае выданьне твораў вядомага францускага поэты, блізкага да пролетарскіх клясаў, Жоржа Шэнэв'ера, які памёр у мінулым годзе, таленавіцейшы вучань Жуля Ромэна.

* У маленькім провінцыяльным гарадку Мальвэрнс (Англія) адбылася ўрачыстасьць у гонар Бэрнара Шоу, організаваная па тыпу Вагнэраўскіх дзён у Байрэйце. Была пастаўлена напісаная некалькі год назад п'еса „Назад да Мафусаіла“ і новая п'еса „Тележка с яблоками“, якая пераносіць гледачоў у Англію 1980 г.: урад—банда машэньнікаў; краінай фактычна кіруюць трэсты. П'еса выклікала звычайны шум у прэсе.

* У адным з кіно-тэатраў Цурыха 10 верасьня г. г. С. Эйзэнштэйн зрабіў даклад аб савецкай кінематографіі для прадстаўнікоў прэсы. Даклад быў ілюстраваны паасобнымі часткамі з „Броненосца Потемкина“, „Октября“ і „Старого и нового“. Прагляд прайшоў з вялікім уздымам, але паліцыя адразу-ж забараніла ўсякія далейшыя выступленьні Эйзэнштэйна.

Організацыя „Промэтэус“ вырашыла абавязкова слухаць і наступны даклад Эйзэнштэйна. Для гэтага зрабілі так: Эйзэнштэйн сядзеў моўчкі на эстрадзе, а рукапіс яго дакладу быў зачытаны другой асобай.

* Ува ўсіх краінах сьвету існуе 52.000 кіно-тэатраў, у якіх налічваецца 21.150.000 месц. Амэрыка з усяе колькасьці кіно - тэатраў (52.000) мае 20.500 кіно - тэатраў. У ПАЗШ штотыдзень прадаецца ня менш 90 млн. білетаў у кіно. Кожны год амэрыканскія фірмы вытвараюць 750 поўнамэтражных і каля 2.000 каротка-мэтражных фільмаў. Кіно-тэатры ПАЗШ штотыдня наведвае да 100 млн. чалавек, з якіх 92 проц. дарослых.

* 26 чэрвеня г. г. мінула 60 гадоў Марціну Андэрсэну Нэксе, найлепшаму і найпопулярнейшаму пісьменьніку Даніі. Андэрсэн Нэксе—рабочы пісьменьнік. Зьмест яго твораў—гэта жыцьцё і змаганьне рабочых кварталаў сталіцы Даніі—Копэнгагену, з якіх выйшаў і ён сам.

Нэксе—адзін з першых чужаземных пісьменьнікаў, які вітаў Кастрычнікаўскую рэволюцыю. Ён прыяжджаў у СССР у самыя цяжкія дні, і вынікам гэтага зьявілася кніга, поўная веры ў магутнасьць Савецкага Саюзу, пад назваю „Насустрэч маладому дню“.

* Хутка ў Мюнхене мае адчыніцца міжнародная выстаўка плякатаў, якая ахопіць усе віды плякатаў апошняга часу. Гэта выстаўка будзе мець вялізны аддзел плякатаў СССР.

* З травеня г. г. у Львове пачаў выходзіць новы літаратурна - навуковы, мастацкі і грамадзкі месячнік „Новыя шляхі“, які выдае львоўская Выдавецкая суполка „Новыя шляхі“. Часопісь выходзіць пад галоўнай рэдакцыяй Антося Крушэльніцкага. Часопісь мае гэткія разьдзелы: літаратурна-крытычны, у якім—поэзія, нарысы, новэлі, апавяданьні, аповесьці, романы, драмы, літаратурныя характарыстыкі пісьменьнікаў, рэцэнзіі і запаметкі; навуковы—артыкулы па філёзофіі, гісторыі, прыродазнаўчым навукам, экономіі і соцыолёгіі; мастацкі аддзел—артыкулы пра музыку, тэатр, малярства, архітэктуру; публіцыстычна-грамадзкі—

артыкулы на агульныя тэмы украінскага жыцьця; часопісь мае аддзел інформацыйны, дзе падаюцца весткі з усіх галін працы ведаў і творчасьці.

* Вядомыя францускія пісьменьнікі Андрэ Тэрыв і Леон Лемонцье надзвычайнай рэклямай абвясьцілі ў францускім друку аб стварэньні новай літаратурнай школы, якую яны назвалі „Популізм". Сутнасьць популізма наступная: „Далоў літаратуру снобаў, літаратуру аб элегантных людзях! Мы будзем малявацьжыцьцё простага народу. Але мы ня хочам ублытвацца ў розныя соцыяльныя доктрыны, якія псуюць твар мастацкай літаратуры. Застаюцца дзьве рэчы: сьмеласьць у адборы сюжэту і некаторая частка простага цынізму і трывіяльнага густу".

Пасьля доўгага перапынку—гэта новы „ізм", відавочна, адна з праяў дробна-буржуазнага і рэакцыйнага натуралізму.

* Вядомы францускі філёзоф Анры Бэргсон піша дадатак да свайго нашумеўшага трактату „О сьмехе". Бэргсон разглядвае ў дадатку значэньне кіно ў разьвіцьці комічнага, прычым Бэргсон сьцьвярджае, што досьлед кіно-актора Бестэра Кітона дае аснову да новай сыстэматызацыі.

*Рэдакцыйная колегія:* **Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ